

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

*Установа адукацыі*
«Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»

***Д.В. Дзятко, С.У. Шахоўская***

# БЕЛАРУСКАЕ МОВАЗНАЎСТВА:
## дысертацыі па беларускай мове, абароненыя ў Рэспубліцы Беларусь (1990 – 2011 гг.)

*Навуковы даведнік*

Мінск 2011

УДК 811.161.3
ББК 81.2 (4Беи)
Д 439

Рэкамендаваны да друку кафедрай беларускага мовазнаўства ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»

Рэцэнзенты:
аддзел гісторыі беларускай мовы дзяржаўнай навуковай ўстановы «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» (загадчык аддзела кандыдат філалагічных навук *Н.В. Паляшчук*);
кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры філасофіі і метадалогіі навукі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта *Д.Р. Дабрародні*;
кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» *П.А. Міхайлаў*;
доктар філалагічных навук, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта *М.Р. Прыгодзіч*;
доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай мовы ўстановы адукацыі «Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.А. Куляшова» *В.І. Рагаўцоў*

**Дзятко, Д.В.**
Д 439 Беларускае мовазнаўства: дысертацыі па беларускай мове, абароненыя ў Рэспубліцы Беларусь (1990 – 2011 гг.) : навуковы даведнік / Д.В. Дзятко, С.У. Шахоўская. – Мінск : БДПУ, 2011. – 400 с.
ISBN 978-985-541-033-2.

У даведніку прыводзяцца звесткі пра дысертацыі па беларускай мове, прадстаўленыя на атрыманне вучонай ступені кандыдата або доктара навук і абароненыя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 27 ліпеня 1990 г. па 2011 г. У кожным з артыкулаў падаецца інфармацыя пра тэму даследавання, вучоную ступень, спецыяльнасць, навуковага кансультанта (кіраўніка), установу, у якой падрыхтавана дысертацыя, дату абароны, савет па абароне, апанентаў, мэту дысертацыйнага даследавання. Падрабязна апісваецца структура работ і ўказваецца навуковае значэнне дысертацый для развіцця беларускага мовазнаўства.

Адрасуецца навуковым супрацоўнікам, выкладчыкам, дактарантам, аспірантам, магістрантам і студэнтам вышэйшых навучальных устаноў.

**УДК 811.161.3**
**ББК 81.2 (4Беи)**

**ISBN 978-985-541-033-2**

*Да 80-годдзя*
*кафедры беларускага мовазнаўства*
*Беларускага дзяржаўнага*
*педагагічнага ўніверсітэта*
*імя Максіма Танка*

# ПРАДМОВА

Ва ўмовах шырокай гуманітарызацыі сучаснай навукі даследаванне гісторыі нацыянальнага мовазнаўства з'яўляецца адной з найважнейшых праблем беларусістыкі. Сістэматызацыя і каталагізацыя існуючых навуковых падыходаў прадугледжваюць крытычны разгляд назапашаных ведаў і ацэнку наяўных дасягненняў праз прызму перспектыў развіцця лінгвістыкі. Асаблівая роля ў апісанні і асэнсаванні асноўных кірункаў і шляхоў станаўлення навукі аб мове належыць спецыялізаваным даведнікам. Заслужаным аўтарытэтам карыстаюцца бібліяграфічныя паказальнікі «Беларускае мовазнаўства» (1967, 1980, 1993, 2004) і «Славянское языкознание» (1963, 1969, 1973, 1981, 1985, 1988), дзе сабраны звесткі пра кнігі, артыкулы з перыядычных выданняў, навуковых зборнікаў, аўтарэфераты доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый па лінгвістыцы. Належнае прызнанне атрымалі грунтоўныя работы «Беларускія слоўнікі і энцыклапедыі» В. Кіпеля і З. Саўкі (2002), «Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе» (2003) і «Belarusian publishing in the West» (2006) В. Кіпеля і З. Кіпель, у якіх апісваюцца беларускія лексікаграфічныя выданні, а таксама кнігі, артыкулы, каталогі, дысертацыі па беларусістыцы, апублікаваныя па-за межамі Беларусі.

Кожная з названых работ вызначаецца сваёй канцэпцыяй, у адпаведнасці з якой аўтары адбіралі і групавалі матэрыял. Таму ў большасці выпадкаў па-за ўвагай вучоных аказаўся значны пласт лінгвістычных даследаванняў, выкананых на правах рукапісаў.

Гэты даведнік павінен часткова запоўніць існуючы прабел у сістэматызацыі інфармацыі па гісторыі беларускай лінгвістыкі. У ім прыводзяцца звесткі пра дысертацыі па спецыяльнасці «беларуская мова», прадстаўленыя на атрыманне вучонай ступені кандыдата або доктара навук і абароненыя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 27 ліпеня 1990 г. (прыняцце Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце) па 2011 г. (па стане на кастрычнік).

У даведнік уключана таксама інфармацыя пра дысертацыі, абароненыя па іншых спецыяльнасцях («славянскія мовы», «руская мова», «тэорыя мовы», «агульнае мовазнаўства, сацыялінгвістыка, псіхалінгвістыка», «параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства», «методыка выкладання беларускай мовы», «тэорыя і методыка навучання і выхавання», «агульная педагогіка», «тэорыя літаратуры, тэксталогія», «гістарыяграфія, крыніцазнаўства і метады гістарычнага даследавання», «журналістыка», «этналогія» і інш.), – у тым выпадку, калі ў даследаваннях у той ці іншай ступені асвятляюцца праблемы структуры, развіцця, функцыянавання і выкладання беларускай мовы.

Аўтары даведніка прытрымліваліся пазіцыі, што любое дысертацыйнае даследаванне, якое прайшло такія важныя этапы ў працэдуры абароны, як разгляд на пасяджэнні кафедры (аддзела, лабараторыі), праблемнага савета, спецыялізаванага савета па абароне дысертацый, уяўляе несумненную цікавасць для гісторыі беларускага мовазнаўства. Па гэтай прычыне ў выданні падаецца інфармацыя не толькі пра дысертацыі, якія паспяхова прайшлі працэдуру абароны і былі зацверджаны Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй, але і пра даследаванні, знятыя з разгляду па заяве аўтара пасля абароны і не зацверджаныя Прэзідыумам ВАК.

Крыніцамі матэрыялу сталі аўтарэфераты і тэксты дысертацыйных работ з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Фундаментальнай бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, а таксама дзяржаўныя бібліяграфічныя паказальнікі «Летапіс друку БССР» (1990 – 1991), «Летапіс друку Беларусі» (1992 – 2011), «Летапіс друку Беларусі. Летапіс аўтарэфератаў дысертацый» (2007 – 2010) і перыядычныя выданні «Бюлетэнь Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» (1994), «Атэстацыя навуковых і навукова-педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі» (1997 – 2011).

Аўтарская праца была размеркавана наступным чынам: ***Дзятко Д.В.*** – «Прадмова», «Структура даведніка», пазіцыі 1 – 147, 164, 172, 196, 210, 221 – 224, 254, 257, 260, 311, «Выкарыстаныя скарачэнні», «Паказальнікі», агульнае рэдагаванне; ***Шахоўская С.У.*** – пазіцыі 148 – 163, 165 – 171, 173 – 195, 197 – 209, 211 – 220, 225 – 253, 255, 256, 258, 259, 261 – 310, 312 – 319.

# СТРУКТУРА ДАВЕДНІКА

Даведнік складаецца з корпуса асноўнай інфармацыі і даведачнага апарату, у які ўваходзяць спіс скарачэнняў і шэраг паказальнікаў (храналагічны паказальнік, паказальнік персаналій (больш за 600 пазіцый), тэматычны паказальнік, паказальнік даследаваных моў, паказальнік моў, на якіх напісаны дысертацыі, паказальнік вучоных ступеней, паказальнік спецыяльнасцей, паказальнік саветаў па абароне, паказальнік устаноў). Беларускамоўныя дысертацыі характарызуюцца па-беларуску, а рускамоўныя – па-руску.

Корпус даведніка – 319 тыпізаваных апісанняў доктарскіх і кандыдацкіх дысертацыйных даследаванняў, якія размешчаны ў алфавітным парадку па прозвішчах саіскальнікаў. З улікам тэматычнай скіраванасці даведніка пры супадзенні прозвішчаў у рэестры (напрыклад, *Станкевіч* і *Станкевич*) перавага аддаецца аўтарам беларускамоўных даследаванняў.

Калі за акрэслены перыяд спецыяліст абараніў і кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, інфармацыя пра іх падаецца па храналагічным прынцыпе.

Структура кожнага артыкула складаецца з наступных кампанентаў: 1) тэма; 2) вучоная ступень, спецыяльнасць; 3) навуковы кансультант (кіраўнік); 4) установа, у якой падрыхтавана дысертацыя; 5) дата абароны, савет па абароне; 6) апаненты; 7) мэта; 8) аб'ём і структура дысертацыі; 9) навуковае значэнне даследавання; 10) крыніца інфармацыі.

***1. Тэма***

Прыводзіцца дакладная фармулёўка тэмы дысертацыйнага даследавання. Для дысертацый, якія пад living рознымі (відазмененымі) назвамі праходзілі працэдуру абароны двойчы, падаецца толькі апошняя назва.

***2. Вучоная ступень, спецыяльнасць***

Указваецца вучоная ступень (*д.філал.н.*, *д.пед.н.*, *к.пед.н.*, *к.філал.н.*, *к.гіст.н.*), а таксама шыфр і назва спецыяльнасці (па стане на момант абароны).

***3. Навуковы кансультант / кіраўнік***

Называецца прозвішча, ініцыялы навуковага кансультанта (для доктарскіх дысертацый) і навуковага кіраўніка (для кандыдацкіх), а таксама іх вучоныя

ступені. У тых выпадках, калі былі прызначаны некалькі кіраўнікоў, звесткі пра іх падаюцца паслядоўна праз кропку з коскай.

Для дысертацый, прадстаўленых на атрыманне вучонай ступені доктара навук, якія выкананы без удзелу навуковага кансультанта, адпаведная пазіцыя ў даведніку адсутнічае.

***4. Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя***

Падаецца ўстанова і структурнае падраздзяленне (кафедра, аддзел, лабараторыя), у якім выконвалася даследаванне. Адпаведныя звесткі ўзятыя са с. 2 аўтарэферата. У тым выпадку, калі ў аўтарэфераце яны адсутнічаюць, структурнае падраздзяленне вызначалася па раздзелах «Сувязь работы з буйнымі навуковымі праграмамі (праектамі), тэмамі», «Апрабацыя вынікаў дысертацыі», а таксама па месцы працы дысертанта і яго навуковага кіраўніка.

***5. Дата абароны, савет па абароне***

Указваецца дата абароны дысертацыі, прыведзеная ў аўтарэфераце. Інфармацыя з аўтарэфератаў удакладнялася па часопісе ВАК Беларусі «Атэстацыя».

Праз кропку з коскай падаецца шыфр савета і ўстанова, дзе адбылася абарона.

***6. Апаненты***

Прозвішчы афіцыйных апанентаў, іх вучоныя званні і апаніруючая арганізацыя прыводзяцца праз кропку з коскай.

***7. Мэта***

Падаецца мэта дысертацыйнага даследавання. Для захавання сістэмнасці і навуковай дакладнасці гэтая інфармацыя прыводзіцца ў аўтарскай рэдакцыі дысертантаў без рэдактарскай праўкі ўкладальнікаў. У тых выпадках, калі азначэнні мэты ў аўтарэфераце і дысертацыі адрозніваюцца, у даведніку выкарыстана фармулёўка з тэксту дысертацыі.

***8. Аб'ём і структура дысертацыі***

Указваецца поўны аб'ём дысертацыйнага даследавання (разам з табліцамі і схемамі, спісам літаратуры, умоўнымі скарачэннямі, дадаткамі і пад.), а таксама колькасць старонак асноўнага тэксту (агульная характарыстыка, уводзіны, асноўная частка, вывады).

Называецца колькасць тэарэтычных крыніц, выкарыстаных для напісання даследавання. Калі ў тэксце дысертацыі публікацыі аўтара падаюцца не ў агульным спісе літаратуры, а асобна – у раздзеле «Спіс публікацый саіскальніка» (як правіла, у работах, абароненых пасля 2007 г.), – у даведніку ўказваецца агульная колькасць тэарэтычных крыніц без далучэння публікацый дысертанта.

Пры падрыхтоўцы даведніка ўкладальнікі сутыкнуліся з фактамі, калі экзэмпляры адной дысертацыі, якія захоўваюцца ў розных фондах, адрозніваюцца паміж сабой па структуры і, адпаведна, па колькасці старонак. Прычына гэтага, відаць, у тым, што аўтары насуперак палажэнню ВАК у некаторай ступені дапрацоўвалі канчатковыя варыянты даследаванняў ужо пасля абмеркаванняў на пасяджэннях адпаведных праблемных саветаў апаніруючых арганізацый і, магчыма, пасля працэдуры абароны ў спецыялізаваных саветах. У такіх выпадках укладальнікі арыентаваліся на экзэмпляры, якія знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Пры апісанні дысертацый на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук пералічваюцца назвы раздзелаў і падраздзелаў. Падраздзелы ў межах кожнага раздзела называюцца пасля двукроп'я і размяжоўваюцца паміж сабой кропкай з коскай. У асобных выпадках, калі назвы падраздзелаў па-за кантэкстам работы не даюць падрабязнай інфармацыі пра структуру і змест даследавання, у дужках акрэсліваюцца асноўныя праблемы, узнятыя ў падраздзелах, напрыклад:

> Лексіка-семантычныя сродкі стварэння моўнай вобразнасці і тропы ў песеннай лірыцы: лексіка-семантычныя сродкі (полісемія, сінонімы, антонімы, устарэлыя словы, аўтарскія наватворы, стылістычна афарбаваная лексіка), тропы (параўнанне, эпітэт, метафара, адухаўленне, метанімія, перыфраза, гіпербала, сімвал).

Для доктарскіх дысертацый у даведніку прыводзяцца назвы ўсіх структурных частак даследавання з адпаведнай іх нумарацыяй.

Калі ў дысертацыях акрамя асноўнага тэксту змяшчаюцца дадаткі, то указваецца іх колькасць, назвы і аб'ём у старонках. Умоўныя скарачэнні, спісы крыніц даследавання і тэарэтычнай літаратуры, акты аб укараненні, якія аўтары даследаванняў часам кваліфікавалі як дадаткі, укладальнікі даведніка ў якасці дадаткаў не разглядалі і не называлі.

Слоўнікі ў дадатках характарызуюцца з пункту гледжання іх мікраструктуры, г. зн. будовы слоўнікавага артыкула. Пры гэтым выкарыстоўваюцца наступныя тэрміны.

**Зона намінацыі** – абавязковы кампанент мікраструктуры лексікаграфічнай працы; слова або словазлучэнне, якое складае адзінку слоўніка, апісваецца ў слоўнікавым артыкуле, выдзяляецца графічнымі сродкамі і размяшчаецца ў адпаведнасці з прынятай у слоўніку макраструктурай.

> **Кнігар** – кніжнік; кнігапрадавец; бібліятэкар (с. 43) [272]

**Зона варыянтаў** – кампанент мікраструктуры, у якім фіксуюцца фармальна суадносныя назвы адной моўнай адзінкі.

> **Сонца** (сонейка, соўнейка, соўнышка), *н.* 1. Нявеста, маладая. *Як табе, маё сонейка, з месяцам разысціся*… [275]

**Зона сінонімаў** – кампанент мікраструктуры, у якім падаюцца моўныя адзінкі, блізкія або тоесныя па значэнні рэестраваму слову.

**Аўсянка** (вярхо́ўка) ‘сям’я Карпавыя’ [ЭПБ, I, 173]; аўсянка [АСХЖБ, 7]; (рус. *верховка*, Leucaspius dilineatus)… [60]

**Зона граматычнай інфармацыі** – кампанент мікраструктуры, у якім апісваюцца парадыгматычныя і аспектуальныя характарыстыкі моўнай адзінкі.

**Нісьцешыцца** *незак.* Вельмі радавацца. *Я ўжэ хлеп спякла і ён нісьцешыўся зь міне.* Мік. [283]

**Зона функцыянальна-стылістычнай інфармацыі** – кампанент мікраструктуры, у якім указваюцца функцыянальныя і экспрэсіўныя асаблівасці рэестравай адзінкі.

**Абабраць** *зак.* *экспр.* Абакрасці, забраўшы шмат чаго. *Ужо гадоў дзесіць ня чутна, каб айдзе апкралі, а раньшы було і пачуіш – то там, то там аббяруць…* [169]

**Зона ідэнтыфікацыі** – кампанент мікраструктуры, які складаецца з ідэнтыфікатара – слова або спалучэння слоў, што ўваходзяць у дэфініцыю і вызначаюць прыналежнасць да пэўнага аб’екта ці групы аб’ектаў.

**Навѣсы**, слоб. (ИЮМ, XXIII, 444, 1641, Орш. пов.). [113]

**Зона семантызацыі** – кампанент мікраструктуры, які ўтрымлівае дакладнае, лагічнае і сціслае тлумачэнне зместу рэестравай адзінкі.

**Павінуцца** *зак.* Развярнуцца, распачаць што-н. рабіць. *Ён ні даў ім там павінуцца.* Пат. [283]

**Зона дэрывацыі** – кампанент мікраструктуры, прызначаны для характарыстыкі сродкаў і спосабаў утварэння моўнай адзінкі.

**Адзінот-н-(ы)** – *суф.*, ад адзінот-(а) [272]

**Зона этымалагічнай інфармацыі** – кампанент мікраструктуры, які змяшчае звесткі пра паходжанне моўнай адзінкі, яе першапачатковую структуру і семантычныя сувязі.

**Кватары** в. Бер. Цэнтр сельскага савета. У XIX ст. вёска і маёнтак (Люстр. Кв.). У аснове назвы апелятыў кватэра ‘ўчастак лесу, на якія дзялілася пушча’. [314]

**Зона ілюстрацыі** – кампанент мікраструктуры, у якім падаюцца прыклады кантэкставага ўжывання моўнай адзінкі.

**Камары́**, *мн*. Дружына маладога, сваты. *Камары гудуць, мядзведзя вядуць*… (в. Крукі Брагінскага р-на; ВП, 4, 137). [275]

**Зона перакладу** – кампанент мікраструктуры, у якім прыводзяцца іншамоўныя адпаведнікі рэестравай адзінкі.

**Акунь** 'сям'я Акунёвыя' [ЭПБ, I, 66; БТН, 173; АСХЖБ, 9]; (рус. окунь, Perca fluviatilis L.) … [60]

**Зона экстралінгвістычнай інфармацыі** – кампанент мікраструктуры, прызначаны для апісання часава-функцыянальных асаблівасцей аб'екта, названага рэестравым словам.

**Сіпурка** *ж.* Рака, пачынаецца на тэрыторыі Польшчы, упадае ў р. Белая каля в. Стаўповіскі Кам. [250]

**Зона пашпартызацыі** – кампанент мікраструктуры, у якім называюцца пісьмовыя і вусныя крыніцы інфармацыі пра моўную адзінку.

**Лён**, *м.* Заручаная дзяўчына. *Да гаворыць лён зялёны пры дарозе стоячы…* (Лепельскі р., ВП, 1, 64 – 65). [275]

### *9. Навуковае значэнне даследавання*

Прадстаўлены асноўныя навуковыя вынікі праведзеных даследаванняў (праз кропку з коскай – для кандыдацкіх і праз кропку – для доктарскіх дысертацый). Пры іх фармуляванні ўкладальнікі абапіраліся на палажэнне, што кожная праца, якая прадстаўлена на атрыманне вучонай ступені, з'яўляецца ў пэўнай ступені завершаным навуковым даследаваннем, і таму, як правіла, кіраваліся задачамі дысертацыі і палажэннямі, што вынесены на абарону.

### *10. Крыніцы інфармацыі*

Падаецца бібліяграфічнае апісанне аўтарэфератаў дысертацый.

Для дысертацый, якія абараняліся паўторна, спасылка зроблена толькі на апошні варыянт аўтарэферата. Пры характарыстыцы работ на атрыманне вучонай ступені доктара навук дадаткова ўказваюцца манаграфіі і асноўныя вучэбныя дапаможнікі па тэме даследавання.

У беларускамоўным тэксце ўкладальнікі выкарыстоўвалі формы назоўнікаў множнага ліку роднага склону, асновы якіх заканчваюцца збегам зычных, з канчаткам *-аў* (*нормаў, гнёздаў* і інш.), а пры апісанні дысертацый, абароненых у 1990 – 1991 гг., аддавалі перавагу назве «Беларусь» (пры гэтым у раздзеле «Крыніцы інфармацыі» захаваны аўтэнтычныя фармулёўкі назвы аўтарэферата, напрыклад: *Урбанонимия Белоруссии*).

***

Аўтары шчыра ўдзячныя члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.А. Лукашанцу, дактарам філалагічных навук М.Р. Прыгодзічу і В.І. Рагаўцову, кандыдату філасофскіх навук Д.Р. Дабрародняму, кандыдатам філалагічных навук П.А. Міхайлаву, Н.В. Паляшчук, а таксама супрацоўнікам аддзела гісторыі беларускай мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за слушныя парады, якія значна паспрыялі паляпшэнню якасці даведніка.

Асобная падзяка за добразычлівыя адносіны і спрыяльныя ўмовы для працы – супрацоўнікам адпаведных аддзелаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Фундаментальнай бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

Заўвагі адносна структуры і зместу даведніка просім накіроўваць на адрас: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 18, кафедра беларускага мовазнаўства ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»; e-mail: *lingby@gmail.com*.

## 1 АБАБУРКА МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ

***Тэма:*** Станаўленне і развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МагДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 04.12.2001; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Гіруцкі А.А., д.філал.н.; Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Сянкевіч В.І., д.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Выяўленне і вывучэнне станаўлення і развіцця беларускай літаратурнай апавядальнай нормы, мовы беларускай мастацкай літаратуры як сінтэзу вусна-гутарковага і кніжна-пісьмовага маўлення беларусаў з боку лінгвастылістыкі і культуры маўлення, лінгвістыкі тэксту і кантэксту.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 218 с., асноўны тэкст займае 200 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 351 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Станаўленне беларускага літаратурна-мастацкага слова. 1.1. Папярэднія заўвагі. 1.2. Беларускае літаратурна-мастацкае маўленне ў помніках XIII – XV стст. 1.3. Беларускае літаратурна-мастацкае маўленне ў помніках XVI – XVII стст. 1.4. Беларускае літаратурна-мастацкае маўленне ў XVIII – першай палове XIX стст. 1.5. Беларускае літаратурна-мастацкае маўленне другой паловы XIX – пачатку XX стст. 2. Развіццё апавядальнай нормы беларускімі савецкімі пісьменнікамі-празаікамі. 2.1. Папярэднія заўвагі. 2.2. Аўтарская мова і яе разнавіднасці. 2.3. Апавядальная мова герояў і аўтарскія рэмаркі. 2.4. Сінкрэтычная мова. 3. Мова беларускай мастацкай літаратуры як сінтэз гутарковага і кніжнага маўлення. 3.1. Папярэднія заўвагі. 3.2. Да размежавання паняццяў *сучасная беларуская літаратурная мова* і *мова сучаснай беларускай мастацкай літаратуры*. 3.3. Беларускае гутарковае маўленне і стылізацыя літаратурна-мастацкіх твораў пад яго. 3.4. Беларускае кніжна-пісьмовае маўленне і стылізацыя літаратурна-мастацкіх твораў пад яго. 3.5. Сінтэзаванне гутарковых і кніжных элементаў у вершаваным маўленні беларускіх савецкіх пісьменнікаў. 3.6. Сінтэзаванне гутарковых і кніжных элементаў у празаічным маўленні беларускіх савецкіх пісьменнікаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны тыпы ўзаемадзеяння вусна-гутарковага маўлення і кніжна-пісьмовай традыцыі як асноўнай характарыстыкі

фарміравання і развіцця мовы беларускай мастацкай літаратуры на працягу ўсёй яе гісторыі. Выяўлены супрацьлеглыя тэндэнцыі ў развіцці старабеларускай і новай беларускай літаратурнай моў. Параўнальна ўстаноўлена індывідуальна-вобразная сістэма сродкаў мовы беларускіх пісьменнікаў. Распрацавана методыка аналізу аўтарскага маўлення і маўлення дзейных асоб (дыферэнцыяцыя розных лексічных сродкаў, розных спосабаў перадачы чужых слоў і пад.).

***Крыніца інфармацыі:*** Абабурка, М.В. Станаўленне і развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / М.В. Абабурка; БДУ. – Мінск, 2001. – 40 с.; Абабурка, М.В. Стылістычна абмежаваныя словы ў мове беларускай мастацкай літаратуры / М.В. Абабурка. – Мінск: Вышэйшая школа, 1981. – 160 с.; Абабурка, М.В. Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры / М.В. Абабурка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – 182 с.; Абабурка, М.В. Станаўленне і развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры / М.В. Абабурка. – Магілёў: Выд-ва МагДУ, 2000. – 204 с.

## 2 АБРАМОВА ЕВГЕНИЯ ИЛЬИНИЧНА

***Тема:*** Параллельные синонимические ряды в русском и белорусском языках.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – русский язык; 10.02.02 – языки народов СССР (белорусский язык).

***Научный руководитель:*** Козырев И.С., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** МГПИ, кафедра общего и русского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 26.10.1990; К 113.16.04, МГПИ.

***Оппоненты:*** Киселев И.А., д.филол.н.; Шевченко Л.А., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Изучение в сопоставительном плане параллельных синонимических рядов русского и белорусского языков, сравнение русских и соответствующих им белорусских синонимических рядов, установление общего и специфичного этих языков в плане вычленения наиболее рельефных связей в их словарных составах.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 203 с., основной текст занимает 180 с. Список использованной литературы – 194 наименования.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. О сопоставительном изучении параллельных синонимических рядов русского и белорусского языков. 2. Субстантивные синонимические ряды в современных русском и белорусском языках. 3. Адъективные синонимические ряды в русском и белорусском языках. 4. Вербальные синонимические ряды в русском и белорусском языках.

***Научное значение исследования:*** Проведено сопоставление значительной части разнообразных параллельных синонимических рядов русского и белорусского языков; определены критерии выделения, объем, конкретное наполнение

синонимических рядов в белорусском языке; исследована семантическая структура белорусских синонимических микросистем; определены структурные типы коррелятивных синонимических рядов на межъязыковом уровне; выявлены основные тенденции дивергентного развития лексико-семантических систем современных литературных русского и белорусского языков.

***Источник информации:*** Абрамова, Е.И. Параллельные синонимические ряды в русском и белорусском языках: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.01; 10.02.02 / Е.И. Абрамова; МГПИ. – Минск, 1990. – 19 с.

## 3 АЗАРКА ВОЛЬГА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма***: Складаныя формы звязнай мовы ў творах Кузьмы Чорнага.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць***: к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік***: Гаўрош Н.В., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя***: БДПУ, кафедра беларускага моваznaўства.

***Дата абароны, савет па абароне***: 15.05.2001; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты***: Наркевіч А.І., д.філал.н.; Валочка Г.М., к.філал.н.; МазДПУ.

***Мэта***: Выявіць спецыфіку структурна-семантычнай арганізацыі складаных формаў звязнай мовы ў творах Кузьмы Чорнага.

***Аб'ём і структура дысертацыі***: Аб'ём дысертацыі – 117 с., асноўны тэкст займае 104 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 206 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Да праблемы вывучэння складаных формаў звязнай мовы: звышфразавае адзінства і тэкставы сегмент як семантыка-сінтаксічныя адзінкі тэксту; абзац як кампазіцыйна-стылістычная тэкставая адзінка. 2. Структурна-семантычныя асаблівасці звышфразавых адзінстваў: аўтасемантыя і сінсемантыя сказаў як крытэрый вылучэння звышфразавых адзінстваў; роля сігналаў сінсемантыі ў арганізацыі звышфразавых адзінстваў. 3. Структурна-семантычная арганізацыя тэкставага сегмента: кампазіцыйна-сэнсавыя часткі тэкставага сегмента; сэнсавыя дамінанты і іх роля ў стварэнні логіка-семантычных адносін у тэкставым сегменце; сродкі стварэння звязнасці і цэласнасці тэкставага сегмента. 4. Абзац у структуры тэксту: колькасныя характарыстыкі абзацаў; пазіцыйныя характарыстыкі абзацаў і сэнсава-функцыянальная абумоўленасць іх выдзялення ў тэксце.

***Значэнне***: Вывучаны складаныя формы звязнай мовы ў сучаснай мастацкай прозе; сфармуляваны крытэрыі вылучэння і прааналізавана структурна-семантычная арганізацыя звышфразавых адзінстваў і тэкставых сегментаў, раскрыта роля моўных тэкставых адзінак, даследавана сэнсава-функцыянальная абумоўленасць выдзялення абзацаў у творах канкрэтнага пісьменніка, акрэслена роля складаных адзінак тэксту ў структуры мастацкага твора і ў фарміраванні індывідуальна-аўтарскага стылю.

***Крыніца інфармацыі***: Азарка, В.У. Складаныя формы звязнай мовы ў творах Кузьмы Чорнага: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.У. Азарка; БДПУ. – Мінск, 2001. – 19 с.

## 4 АКУЛЕНКО ЕЛЕНА АНАТОЛЬЕВНА

***Тема***: Белорусское воздействие на островные русские говоры (на материале наименований одежды, обуви, головных уборов, украшений, материалов для изготовления одежды в русских говорах Жлобинского района Гомельской области).

***Ученая степень, специальность***: к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык.

***Научный руководитель***: Манаенкова А.Ф., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация***: БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите***: 20.11.1998; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты***: Лемтюгова В.П., д.филол.н.; Трайковская В.Ф., к.филол.н.; БГПУ.

***Цель***: Рассмотреть названия одежды (в широком смысле) в переселенческих русских жлобинских говорах в плане их языковой и диалектной принадлежности, подтвердить диалектную основу исследуемых говоров на лексическом материале и установить степень влияния белорусского окружения на язык и материальную культуру старообрядцев данного региона.

***Объем и структура диссертации***: Объем диссертации – 113 с., основной текст занимает 102 с. Список использованной литературы – 64 источника.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Аспекты изучения островных русских говоров: обзор литературы по теме диссертации и выбор направления исследования; материалы, описание экспериментальной части; основные методы исследования. 2. Названия одежды: родовые названия одежды; наименования верхней одежды (мужской и женской); наименования легкой одежды (мужской и женской); наименования детской одежды; наименование одежды на кисти рук; названия погребальной одежды; наименования деталей и отделки одежды; наименования материалов, служащих для изготовления одежды; лексика, связанная с ремонтом одежды. 3. Наименования обуви. 4. Названия головных уборов и украшений: названия головных уборов; наименования украшений.

В диссертации 1 приложение (4 с.) – «Указатель слов».

***Значение***: Тематически изучены названия одежды, головных уборов, обуви, украшений, материалов для изготовления одежды, отмеченные в речи жителей старообрядческих деревень Жлобинского района, определена их языковая и диалектная принадлежность; уточнена этимология и семантика ряда слов, не зафиксированных в известных лексикографических источниках; установлена степень и характер иноязычного воздействия на исследуемые диалекты; на лексическом

материале подтверждена диалектная основа переселенческих жлобинских говоров.

***Источник информации***: Акуленко, Е.А. Белорусское воздействие на островные русские говоры (на материале наименований одежды, обуви, головных уборов, украшений, материалов для изготовления одежды в русских говорах Жлобинского района Гомельской области): автореф. дис… канд. филол. наук: 10.02.02 / Е.А. Акуленко; БГУ. – Минск, 1998. – 17 с.

## 5 АЛЁХНА ТАТЬЯНА ВИКТОРОВНА

***Тема:*** Структура и прагматика вводного текста (предисловие Льва Сапеги к Статуту Великого Княжества Литовского 1588 г.).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – общее языкознание, социолингвистика, психолингвистика.

***Научный руководитель:*** Мечковская Н.Б., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 28.10.1999; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Михневич А.Е., д.филол.н.; Красней В.П., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Характеристика текстовой (композиции и синтаксиса) и лексической (терминологической) структур предисловия Сапеги, их экспрессивно-стилистических средств и коммуникативных стратегий, включая определение общих элементов (обусловленных феноменом «вводности» и риторической традицией) и различительных черт, обусловленных прагматикой предисловий (жанровой спецификой и адресацией).

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 132 с., основной текст занимает 116 с. Список использованной литературы – 150 источников.

Результаты исследования отражены в 6 главах. 1. Историко-филологические проблемы исследования вводных текстов Сапеги: изучение предисловий Сапеги в специальной литературе; основные направления в исследовании Статута ВКЛ 1588 г. и значение предисловий Сапеги для изучения истории кодекса; переиздания Статута 1588 г. (отношение издателей к вводным текстам). 2. Жанр предисловий в риторической культуре ВКЛ XVI в.: книжно-письменная культура ВКЛ (приоритет риторики в литературной практике); система риторических жанров в культуре ВКЛ; *Посвящение* и *Обращение* (жанровая специфика при концептуальной близости. 3. Композиция предисловий Сапеги: категория *цельность текста* в современной лингвистике и ее корреляты в риторической традиции; риторическая речь (*oratio*) как основная композиционная модель; вступления (*exordium*) в предисловиях Сапеги (способы установления контакта с читателем); основная часть предисловий (прагматика персуазивных средств); заключение (*conclusio*)

(способы эмоционального воздействия). 4. Предисловия Сапеги как текстовые структуры (в аспекте связности текста): категория *связность текста* в современной лингвистике и ее корреляты в риторической традиции; средства связности композиционных частей предисловий; сложные синтаксические целые в предисловиях Сапеги (средства и сила связности); особенности синтаксиса предисловий Сапеги. 5. Терминологическая структура предисловий к Статуту ВКЛ 1588 г.: особенности семантики ранних терминов права; концепты *право*, *закон* и термины *право*, *закон* в предисловиях Сапеги и артикулах Статута. 6. Тропы и синтаксические фигуры в предисловиях Сапеги: тропы (главенствующая роль метафоры); средства синтаксической экспрессии в предисловиях Сапеги (влияние поэтики барокко).

В диссертации 1 приложение (4 с.) – перевод предисловия Л. Сапеги на русский язык.

***Научное значение исследования:*** Определена роль предисловий в риторической культуре белорусско-украинско-польского ареала конца XVI в; проанализирована композиция предисловий, т.е. частей текста, обусловленных развитием темы; исследована терминологическая структура предисловий; изучены модели сложного синтаксического целого (ССЦ); выявлены средства и силы связности между композиционными частями и ССЦ, а также в пределах ССЦ; проанализирована сочинительная, подчинительная и бессоюзная связь, типы подчинения, состав и продуктивность моделей простого и сложного предложения; исследованы экспрессивно-стилистические средства предисловий (тропов и синтаксических фигур); определено прагматическое значение единиц текстовой и терминологической структур, экспрессивно-стилистических средств, а также принципы выбора стратегии убеждения в зависимости от адресации и назначения предисловий; исследована социальная значимость предисловий на протяжении конца XVI – XX вв. с учетом переизданий Статута.

***Источник информации:*** Алёхна, Т.В. Структура и прагматика вводного текста (предисловие Льва Сапеги к Статуту Великого Княжества Литовского 1588 г.): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / Т.В. Алёхна; БГУ. – Минск, 1999. – 20 с.

## 6 АЛІСІЕВІЧ СВЯТЛАНА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Перыяд у сучаснай беларускай літаратурнай мове (структурна-сінтаксічная арганізацыя і стылістычная функцыя).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Гаўрош Н.В., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 07.10.2005; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Валочка Г.М., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Вызначыць спецыфіку структурна-сінтаксічнай арганізацыі перыяду як складанай формы звязнай мовы, выявіць асаблівасці яго функцыянальна-стылістычнага выкарыстання ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 114 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 183 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. З гісторыі вывучэння перыяду. 2. Структурна-сінтаксічная арганізацыя перыяду: сінтаксічная арганізацыя перыяду; рытміка-інтанацыйная арганізацыя перыяду; гарманічнасць структуры перыяду; структура перыяду. 3. Стылістычная функцыя перыяду ў мастацкім тэксце: перыяд як стылістычны сродак; перыяд як сродак арганізацыі тэксту; індывідуальна-аўтарскае выкарыстанне перыяду.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучаны перыяд як складаная форма звязнай мовы: вызначаны крытэрыі яго вылучэння; акрэслена месца перыяду ў сінтаксічнай сістэме беларускай літаратурнай мовы, выяўлены і прааналізаваны асаблівасці яго структуры, раскрыта спецыфіка кампазіцыі і інтанацыйнай арганізацыі перыяду, устаноўлена сэнсава-функцыянальная абумоўленасць выкарыстання перыяду ў мастацкім і публіцыстычным тэксце, яго роля ў рэалізацыі тэмы і ідэі твора.

***Крыніца інфармацыі:*** Алісіевіч, С.А. Перыяд у сучаснай беларускай літаратурнай мове (структурна-сінтаксічная арганізацыя і стылістычная функцыя): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.А. Алісіевіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2005. – 19 с.

## 7 АЛІФЕРЧЫК ТАЦЦЯНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Тапанімія Заходняга Палесся ў этналінгвістычным аспекце.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кансультант:*** Антропаў М.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел славістыкі і тэорыі мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.05.2011; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Шур В.В., д.філал.н.; Генкін У.М., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Рэканструкцыя ландшафтнай мадэлі прасторы ў тапаніміі і выяўленне характэрных прасторавых параметраў на падставе даных заходнепалескай тапаніміі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 179 с., асноўны тэкст займае 114 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 316 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Этналінгвістычнае даследаванне тапаніміі: беларуская анамастычная школа; этналінгвістычнае даследаванне тапаніміі ў айчынных і замежных анамастычных працах; рэпрэзентацыя этнакультурнай інфармацыі ў тапонімах; канцэптуальныя асновы вызначэння

прасторы ў тапаніміі. 2. Аб'ектныя прыярытэты ў ландшафтнай мадэлі прасторы ў тапаніміі Заходняга Палесся: лес; балота; вадаём (рака, возера); фальклорная рэматывацыя тапонімаў. 3. Прасторавыя параметры ў тапаніміі Заходняга Палесся: арганізацыя прасторавых адносін у вертыкальным напрамку; лакалізацыя аб'екта ў прасторы; канфігурацыя аб'екта ў прасторы. 4. Рэпрэзентацыя семантычнай апазіцыі *свой – чужы* ў заходнепалескай тапаніміі: катэгорыя асвоенасці прасторы як прыватная рэалізацыя апазіцыі *свой – чужы* ў тапаніміі; адэтнанімічныя айконімы ў кантэксце апазіцыі *свой – чужы*.

У дысертацыі 3 дадаткі (36 с.): «Спіс тапанімічных адзінак» (тапонімы падаюцца па тэматычных групах, у межах груп – па алфавіце), «Заходняе Палессе як аб'ект даследавання», «Этналінгвістыка як навука. Славянскія этналінгвістычныя школы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана спецыфіка выбару на заходнепалескай тэрыторыі аб'ектаў, якія ўстойліва выдзяляюцца ў структуры ландшафту, вызначана іх роля ў тапанімічнай намінацыі; выяўлена адлюстраванне семантычнай апазіцыі *верх – ніз* у тапаніміі і асаблівасці арганізацыі прасторавых адносін па вертыкалі; вызначаны прасторавыя параметры: лакалізацыя і канфігурацыя аб'ектаў у прасторы; прааналізаваны віды рэпрэзентацыі семантычнай апазіцыі *свой – чужы* ў тапаніміі, яе прасторавы і сацыяльны змест.

***Крыніца інфармацыі:*** Аліферчык, Т.М. Тапанімія Заходняга Палесся ў этналінгвістычным аспекце: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.М. Аліферчык; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2011. – 19 с.

## 8 АЛЯХНОВІЧ ЮЛІЯ МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Тэмпаральная лексіка ў беларускіх і англійскіх фразеалагізмах (лінгвакультуралагічны аспект).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.04 – германскія мовы (англійская мова).

***Навуковы кіраўнік:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.01.2007; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Русак В.П., д.філал.н.; Коршук А.У., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Выяўленне культурнай спецыфікі ўспрымання часу, зафіксаванай у семантычным складзе беларускіх і англійскіх тэмпаральных лексем як кампанентаў фразеалагізмаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 148 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 236 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лексічныя і фразеалагічныя адзінкі як крыніца культурнай інфармацыі: лінгвакультуралагічныя аспекты

даследавання лексікі і фразеалогіі; моўны малюнак свету як асноўнае паняццe лінгвакультуралогіі; адлюстраванне моўнага малюнка свету ў лексічнай семантыцы; фразеалагізм як носьбіт культурнай інфармацыі. 2. Метадалогія лінгвакультуралагічнага аналізу семантыкі лексічных адзінак у фразеалагічным кантэксце: лексіка-семантычнае мадэліраванне як аснова для пабудовы моўнага малюнка свету; этапы лінгвакультуралагічнага аналізу семантыкі лексічных адзінак у фразеалагічным кантэксце. 3. Тэмпаральнасць і яе адлюстраванне ў беларускіх і англійскіх фразеалагізмах: тэмпаральныя лексемы беларускай і англійскай моў; ізаморфныя культурныя коды тэмпаральнага поля; семантычны склад тэмпаральных лексем беларускай і англійскай моў.

У дысертацыі 2 дадаткі (20 с.): «Фразеалагізмы беларускай і англійскай моў з тэмпаральнымі кампанентамі», «Паказальнік беларускіх і англійскіх тэмпаральных лексем».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена комплекснае даследаванне тэмпаральнай лексікі з лінгвакультуралагічных пазіцый, вызначаны рэестр тэмпаральных лексем, якія ўжываюцца як кампаненты ў складзе беларускіх і англійскіх фразеалагізмаў, падабраны ізаморфны набор элементарных семантычных прымет тэмпаральнасці для беларускай і англійскай моў; праведзена інтэграцыя метадалагічнай базы для супастаўляльнага вывучэння фрагментаў малюнкаў свету дзвюх моў на аснове лексічнай семантыкі; вызначана частотнасць ужывання тэмпаральнай лексікі розных тэматычных груп у складзе беларускіх і англійскіх фразеалагічных адзінак і яе семантычныя асаблівасці; раскрыты ўніверсальныя і ідэаэтнічныя тэндэнцыі часаўспрымання ў беларускай і англійскай мовах.

***Крыніца інфармацыі:*** Аляхновіч, Ю.М. Тэмпаральная лексіка ў беларускіх і англійскіх фразеалагізмах (лінгвакультуралагічны аспект): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.04 / Ю.М. Аляхновіч; БДУ. – Мінск, 2006. – 22 с.

## 9 АНДАРАЛА ГАЛІНА ФЁДАРАЎНА

***Тэма:*** Устарэлая лексіка ў гістарычных творах Уладзіміра Караткевіча.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МДПІ, кафедра беларускай мовы і методыкі яе выкладання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.05.1993; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Груцо А.П., д.філал.н.; Рабаданава Л.І., к.філал.н.; ВПІ.

***Мэта:*** Выяўленне і апісанне гістарызмаў і архаізмаў у мастацкіх тэкстах У. Караткевіча шляхам аналізу іх структурна-семантычных і функцыянальна-стылістычных асаблівасцей.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 177 с., асноўны тэкст займае 156 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 147 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Устарэлая лексіка ў мастацкіх творах і лінгвістычным вывучэнні: устарэлая лексіка як аб'ект вывучэння ў сучасным мовазнаўстве; лексічная своеасаблівасць мовы гістарычных твораў У. Караткевіча. 2. Гістарызмы: грамадска-палітычная лексіка; бытавая лексіка; ваенная лексіка. 3. Архаізмы, іх стылістычнае выкарыстанне.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана месца ўстарэлай лексікі як сродку стылізацыі мовы пэўнай гістарычнай эпохі ў агульнай моўнай сістэме твораў У. Караткевіча; ахарактарызаваны лексіка-семантычныя групы ўстарэлых слоў; праведзены функцыянальна-стылістычны аналіз гістарызмаў і архаізмаў; прааналізаваны асаблівасці ўвядзення гістарычнай лексікі ў мастацкія тэксты; выяўлена, наколькі выкарыстанне ўстарэлых лексічных адзінак набывае ў творах У. Караткевіча значэнне мастацкага прынцыпу.

***Крыніца інфармацыі:*** Андарало, Г.Ф. Устаревшая лексика в исторических произведениях Владимира Короткевича: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.02 / Г.Ф. Андарало; ИЯ АН Беларуси. – Минск, 1993. – 19 с.

## 10 АНДРЭЕВА АЛЕСЯ УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Катэгорыя трывання дзеяслова ў беларускай мове (граматыка-словаўтваральны аспект).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.06.2005; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Русак В.П., д.філал.н.; Бадзевіч З.І., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Граматыка-словаўтваральная характарыстыка катэгорыі трывання дзеяслова ў беларускай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 185 с., асноўны тэкст займае 173 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 194 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Катэгорыя трывання дзеяслова (спрэчныя пытанні класіфікацыі): праблема вызначэння статуса катэгоры трывання дзеяслова; катэгорыя трывання і тыпалогія дзеясловаў. 2. Словаўтварэнне дзеясловаў незакончанага трывання, дзеясловаў закончанага трывання і двухтрывальных дзеясловаў у беларускай мове: словаўтварэнне дзеясловаў незакончанага трывання; словаўтварэнне дзеясловаў закончанага трывання; словаўтварэнне двухтрывальных дзеясловаў. 3. Суадноснасць лексічнага і трывальнага значэнняў дзеяслоўных словаўтваральных афіксаў: суадноснасць лексічнага і трывальнага значэнняў дзеяслоўных афіксаў у чыстых спосабах словаўтварэння; суадноснасць лексічнага і трывальнага значэнняў дзеяслоўных афіксаў у змешаных спосабах словаўтварэння.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны аспекты ўзаемасувязі катэгорыі трывання і дэрывацыйных працэсаў (словаўтварэнне дзеясловаў таго ці іншага трывання, удзел дзеяслоўных словаўтваральных афіксаў у выражэнні трывальнага значэння); абгрунтаваны класіфікавальны характар катэгорыі трывання дзеяслова ў беларускай мове; апісана словаўтварэнне дзеясловаў пэўнай трывальнай характарыстыкі: дзеясловаў незакончанага трывання, дзеясловаў закончанага трывання і двухтрывальных дзеясловаў; удакладнены словаўтваральныя тыпы дзеясловаў, якія традыцыйна вылучаюцца ў беларускай дэрываталогіі.

***Крыніца інфармацыі:*** Андрэева, А.У. Катэгорыя трывання дзеяслова ў беларускай мове (граматыка-словаўтваральны аспект): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.У. Андрэева; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2005. – 20 с.

## 11 АНІСЬКОВА СВЯТЛАНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Тэрміналогія воднага транспарту ў беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Станкевіч А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.04.2000; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Гуліцкая В.А., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Выявіць асноўныя заканамернасці функцыянавання і развіцця тэрміналогіі воднага транспарту ў беларускай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 184 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 131 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Сістэмныя адносіны ў тэрміналогіі: да пытання сістэмнасці ў тэрміналогіі; гіпанімія; полісемія; антанімія; сінанімія; аманімія. 2. Лексіка-тэматычная класіфікацыя тэрміналогіі воднага транспарту: назвы водных транспартных сродкаў, іх тыпаў і відаў; найменні частак водных транспартных сродкаў; намінацыі асоб, што абслугоўваюць водны транспарт; назвы эксплуатацыйных якасцей водных транспартных сродкаў і адзінак іх вымярэння; найменні водных шляхоў зносін, іх гідралагічных характарыстык і навігацыйнага абсталявання; назвы берагавых збудаванняў і спецыялізаваных прыбярэжных частак акваторыі для абслугоўвання водных транспартных сродкаў; намінацыі са значэннем працэсаў у тэрміналогіі воднага транспарту; іншыя лексіка-тэматычныя групы. 3. Спосабы ўтварэння тэрмінаў воднага транспарту: сінтаксічны спосаб утварэння тэрмінаў; лексіка-семантычны спосаб утварэння тэрмінаў; марфалагічны спосаб утварэння тэрмінаў; спосабы ўтварэння назваў воднага транспарту ў беларускіх гаворках (марфалагічны, лексіка-семантычны, сінтаксічны).

У дысертацыі 1 дадатак (67 с.) – «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік тэрмінаў воднага транспарту» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступ-

ных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны перакладу, зоны этымалагічнай інфармацыі, зоны семантызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны сістэмныя адносіны паміж тэрмінамі воднага транспарту і вызначана спецыфіка такіх адносін у тэрміналогіі ў параўнанні з іх рэалізацыяй у літаратурнай мове; прааналізаваны асноўныя спосабы ўтварэння тэрмінаў воднага транспарту; вызначана месца тэрміналогіі воднага транспарту ў лексічнай сістэме беларускай нацыянальнай мовы; праведзены сістэмны аналіз дыялектнай лексікі воднага транспарту.

***Крыніца інфармацыі:*** Аніськова, С.М. Тэрміналогія воднага транспарту ў беларускай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.М. Аніськова; ГДУ. – Гомель, 2000. – 20 с.

## 12 АНТАНЮК МАРЫНА ГЕОРГІЕЎНА

***Тэма:*** Беларуская і руская тэрміналогія права (супастаўляльны аспект).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Гваздовіч Г.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра сучаснай рускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.09.2008; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Машчэнская Л.Р., д.філал.н.; Мінакова Л.М., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Правесці супастаўляльны аналіз беларускай і рускай тэрмінасістэм права з улікам гістарычных умоў і крыніц фарміравання, лексіка-семантычных, структурна-дэрывацыйных асаблівасцей.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 133 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 284 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Асаблівасці развіцця беларускай тэрміналогіі права ў супастаўленні з рускай: з гісторыі станаўлення беларускай і рускай тэрміналогіі права; рэцэпцыя беларускіх прававых тэрмінаў рускай мовай; рэцэпцыя рускіх прававых тэрмінаў беларускай мовай. 2. Крыніцы фарміравання беларускай і рускай тэрміналогіі права: паняційна-катэгарыяльны падыход пры супастаўляльным даследаванні беларускай і рускай тэрміналогіі права; спрадвечная і запазычаная лексіка ў тэрмінасістэмах права беларускай і рускай моў; агульная і ўласная лексіка ў прававых тэрмінасістэмах беларускай і рускай моў; тэрміналагізацыя лексічных адзінак у беларускай і рускай мовах. 3. Марфалагічны спосаб утварэння прававых тэрмінаў у беларускай і рускай мовах: роля марфалагічнага спосабу ўтварэння прававых тэрмінаў у сучасных беларускай і рускай мовах; суфіксальнае ўтварэнне прававых тэрмінаў у беларускай і рускай мовах; нульсуфіксальнае ўтварэнне беларускіх і рускіх прававых тэр-

мінаў; прэфіксальнае ўтварэнне прававых тэрмінаў у беларускай і рускай мовах; утварэнне беларускіх і рускіх прававых тэрмінаў спосабам аснова- і словаскладання. 4. Сінтаксічны спосаб утварэння прававых тэрмінаў у беларускай і рускай мовах: фарміраванне прававых тэрмінаў-словазлучэнняў у сучасных беларускай і рускай мовах; кампанентны склад беларускіх і рускіх прававых тэрмінаў-словазлучэнняў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены асаблівасці развіцця і крыніцы фарміравання беларускай і рускай тэрміналогіі права, прааналізаваны фактары іх узаемаўплыву; высветлена паходжанне аднаслоўных прававых тэрмінаў і кампанентаў тэрміналагічных словазлучэнняў; даследаваны сродкі выражэння паняційных катэгорый «з'ява, прадмет», «працэс, дзеянне», «якасць, уласцівасць»; ахарактарызаваны асноўныя тэндэнцыі, заканамернасці і спецыфіка спосабаў утварэння беларускіх і рускіх тэрмінаў права; вызначаны структурна-семантычныя асаблівасці, матывацыйная база і словаўтваральныя афіксы адзінак некаторых словаўтваральных тыпаў, а таксама ступень прадуктыўнасці гэтых тыпаў у абедзвюх тэрмінасістэмах.

***Крыніца інфармацыі:*** Антанюк, М.Г. Беларуская і руская тэрміналогія права (супастаўляльны аспект): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / М.Г. Антанюк; БДУ. – Мінск, 2008. – 24 с.

## 13 АНТОНЮК ЛЮБОВЬ АДАМОВНА

***Тема:*** Белорусская терминология (становление, развитие, структура).

***Ученая степень, специальность:*** д.филол.н.: 10.02.02 – белорусский язык.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра современного белорусского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 25.06.1992; Д 056.03.06, БГУ.

***Оппоненты:*** Аниченко В.В., д.филол.н.; Баханьков А.Е., д.филол.н.; Гриценко П.Е., д.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Определение особенностей структурно-семантической организации, тенденций и закономерностей развития, упорядочения и функционирования современной белорусской терминологии.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 341 с., основной текст занимает 315 с. Список использованной литературы – 269 источников.

Результаты исследования отражены в 2 главах. 1. Становление и развитие белорусской терминологии. 1.1. Становление белорусской терминологии. 1.2. Лингвистическое упорядочение современной белорусской терминологии. 1.3. Проблемы функционирования белорусской терминологии. 2. Структурно-семантическая характеристика современной белорусской научной терминологии. 2.1. Особенности системной организации белорусской терминологии. 2.2. Лексико-генетическая характеристика. 2.3. Лексико-грамматическая характеристика. 2.4. Лексико-

семантическая характеристика. 2.5. Особенности системы терминообразования в сопоставлении с системой словообразования общеупотребительной лексики.

***Научное значение исследования:*** Определены важнейшие направления и закономерности развития и упорядочения белорусской терминологии с учетом исторических условий и источников ее формирования. Выявлены тенденции интернационализации и международной унификации терминологии в условиях активного международного сотрудничества и обмена научной информацией. На основе анализа функционирования белорусской терминологии в условиях белорусско-русского двуязычия установлены экстралингвистические факторы, обусловившие особенности такого функционирования. Предложена структурно-семантическая характеристика современной белорусской терминологии по пяти основным направлениям: специфика системной организации, лексико-генетические, лексико-грамматические, лексико-семантические особенности, терминообразование. Раскрыты разнообразные средства образования терминов и их продуктивность в современном белорусском языке.

***Источник информации:*** Антонюк, Л.А. Белорусская терминология (становление, развитие, структура): автореф. дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.02 / Л.А. Антонюк; БГУ. – Минск, 1992. – 46 с.; Антанюк, Л.А. Беларуская навуковая тэрміналогія: фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне / Л.А. Антанюк. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – 240 с.

## 14 АСАБІНА СНЯЖАНА ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў у творах Міхася Лынькова.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лепешаў І.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.06.2010; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Ляшчынская В.А., д.філал.н.; Берднік С.К., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Вызначыць у творах Міхася Лынькова асаблівасці выкарыстання фразеалагізмаў у іх функцыянальна-стылістычным аспекце і ў плане культуры маўлення.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 185 с., асноўны тэкст займае 116 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 208 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Стылістычныя функцыі фразеалагізмаў у творах М. Лынькова: функцыі ўзуальнага характару; функцыі аказіянальнага характару; з тэксталагічных назіранняў за ўжываннем фразеалагізмаў; пра частотнасць фразеалагізмаў у творах М. Лынькова. 2. Варыянтнасць фразеалагізмаў у творах М. Лынькова: лексічныя варыянты фразеалагізмаў;

фармальныя варыянты фразеалагізмаў; канструкцыйна-колькасныя варыянты фразеалагізмаў; камбінаваныя варыянты фразеалагізмаў. 3. Стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў у творах М. Лынькова: структурна-семантычныя змяненні фразеалагізмаў; семантычныя змяненні фразеалагізмаў. 4. Пра нематываваныя адхіленні ад фразеалагічнай нормы: адхіленні ад фразеалагічна-семантычных нормаў; ненарматыўная спалучальнасць фразеалагізма; парушэнне формы фразеалагізма; фразеалагічныя русізмы ў творах М.Лынькова; арфаграфічныя памылкі.

У дысертацыі 4 дадаткі (47 с.): «Пералік фразеалагізмаў, ужытых у творах М. Лынькова, напісаных па-беларуску», «Пералік фразеалагізмаў, выкарыстаных М. Лыньковым з іх абыгрываннем markрознымі прыёмамі структурна-семантычных змяненняў фразеалагічнай адзінкі», «Пералік фразеалагізмаў, для якіх характэрна варыянтнасць розных тыпаў і якія ў творах М. Лынькова выкарыстаны або з магчымымі варыянтамі, не засведчанымі ў фразеалагічных слоўніках, або з індывідуальна-аўтарскай варыянтнасцю – патэнцыяльнымі варыянтамі», «Пералік фразеалагізмаў, ужытых у творах, напісаных па-руску».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны асаблівасці выкарыстання ў творах Міхася Лынькова фразеалагізмаў у іх функцыянальна-стылістычным аспекце і ў плане культуры маўлення; раскласіфікаваны і апісаны ўсе стылістычныя функцыі, з якімі выступаюць фразеалагізмы ў творах пісьменніка; асветлена праблема фразеалагічнай варыянтнасці і адмежаваны агульнамоўныя варыянты ад індывідуальна-аўтарскіх; сістэматызаваны і апісаны ўсе стылістычныя прыёмы эфектыўнага выкарыстання фразеалагічных адзінак, выяўлены выразы, абноўленыя пісьменнікам або створаныя ім; ахарактарызаваны стылістычна не апраўданыя адхіленні ад фразеалагічнай нормы і вытлумачаны іх прычыны.

***Крыніца інфармацыі:*** Асабіна, С.В. Функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў у творах Міхася Лынькова: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.В. Асабіна; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2010. – 23 с.

## 15 АСТАПЧУК АЛЕНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Структурна-стылістычная арганізацыя мініяцюр Янкі Брыля і яе адлюстраванне ў рускіх перакладах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Выгонная Л.Ц., д.філал.н.; Русак В.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 31.05.2002; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Сянкевіч В.І., д.філал.н.; Мельнікава Л.А., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Выявіць спецыфіку структурнай арганізацыі мовы мініяцюр Янкі Брыля і прасачыць за яе адлюстраваннем у рускіх перакладах.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 110 с., асноўны тэкст займае 86 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 171 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Сінтаксічная структура мініяцюр Янкі Брыля і яе адлюстраванне ў рускіх перакладах: асаблівасці сінтаксічнай пабудовы мініяцюр Янкі Брыля; адлюстраванне асаблівасцей сінтаксічнай структуры мініяцюр Янкі Брыля ў перакладах на рускую мову; рытміка-меладычная структура мініяцюр Янкі Брыля і яе адлюстраванне ў рускіх перакладах; пунктуацыя ў мініяцюрах Янкі Брыля і яе перадача ў рускіх тэкстах. 2. Лексіка-семантычная структура мініяцюр Янкі Брыля і асаблівасці яе адлюстравання ў рускіх перакладах: лексічны склад арыгінальных тэкстаў; асаблівасці перадачы арыгінальных лексічных адзінак у рускіх перакладах мініяцюр Янкі Брыля.

У дысертацыі 2 дадаткі (14 с.): «Колькасная характарыстыка мініяцюр», «Размеркаванне мініяцюр па колькасці сказаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны стылістычныя функцыі сінтаксічных адзінак, тыповых для мініяцюр Янкі Брыля; вызначаны заканамернасці рытміка-меладычнай пабудовы мініяцюр; прааналізаваны аўтарскі выбар лексічных сродкаў у мініяцюрах; даследавана спецыфіка моўнай арганізацыі перакладных мініяцюр; выяўлены спосабы перадачы сінтаксічных і лексічных адзінак у рускіх перакладах мініяцюр Янкі Брыля.

***Крыніца інфармацыі:*** Астапчук, А.М. Структурна-стылістычная арганізацыя мініяцюр Янкі Брыля і яе адлюстраванне ў рускіх перакладах: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Астапчук; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2002. – 18 с.

## 16 АСТРАУХ НОНА ЭДМУНДАЎНА

***Тэма:*** Прафесійная накіраванасць практычных заняткаў па роднай мове ў сістэме падрыхтоўкі настаўніка пачатковых класаў у ВНУ.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання (беларуская мова).

***Навуковы кіраўнік:*** Протчанка В.У., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя выкладання моў.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.09.1998; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Шуба П.П., д.філал.н.; Худзенка Л.А., к.пед.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Вызначыць умовы, неабходныя для паспяховага фарміравання прафесійных моўных, камунікатыўна-маўленчых і дыдактыка-метадычных уменняў у студэнтаў факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання; навукова абгрунтаваць і ўдасканаліць методыку арганізацыі практычных заняткаў па мове; прапанаваць шляхі прафесійна накіраванага выкладання роднай мовы.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 161 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 307 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Праблема педагагічнай накіраванасці ў тэорыі і практыцы моўнай падрыхтоўкі настаўніка пачатковых

класаў у ВНУ: родная мова як лінгвістычная і псіхолага-педагагічная дысцыпліна, яе месца і роля ў сістэме падрыхтоўкі настаўніка пачатковых класаў; паняцце *прафесійная накіраванасць* у аспекце праблемы даследавання; практычныя заняткі як адна з формаў навучання роднай мове. 2. Вызначэнне ўзроўню прафесійнай накіраванасці выкладання роднай мовы. Канцэптуальныя падыходы да вырашэння праблемы даследавання: аналіз праграмы, дапаможнікаў па беларускай мове і даследаванне стану моўнай падрыхтоўкі ў ВНУ ў аспекце праблемы даследавання; асэнсаванне вынікаў канстатуючага педагагічнага эксперыменту; дыдактыка-метадычныя прынцыпы і падыходы да арганізацыі практычных заняткаў па мове; матывацыйна-мэтавы падыход – псіхолага-педагагічная аснова эксперыментальна-вопытнай методыкі. 3. Эксперыментальная методыка ўкаранення прынцыпу прафесійнай накіраванасці ў практыку выкладання роднай мовы: лінгвадыдактычная аснова эксперыментальнай методыкі выкладання сінтаксісу; арганізацыя, зыходныя палажэнні і праграма эксперыментальна-вопытнага навучання; сутнасць эксперыментальнай методыкі, яе прафесійная накіраванасць; праверка эфектыўнасці эксперыментальна-вопытнай методыкі.

У працы 7 дадаткаў (30 с.): анкеты (для настаўнікаў пачатковых класаў, для студэнтаў факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання, для выкладчыкаў ВНУ), «Кантрольная праца», «Модульная праграма вывучэння раздзела *Сінтаксіс*», «Дадатковы практычны матэрыял па раздзеле *Сінтаксіс*».

***Навуковае значэнне даследавання:*** На аснове тэарэтычнага і эксперыментальнага даследавання ўдасканалена методыка правядзення заняткаў па роднай мове на факультэце педагогікі і методыкі пачатковага навучання: удакладнены сутнасць і змест прафесійнай скіраванасці выкладання беларускай мовы пры падрыхтоўцы настаўніка пачатковых класаў, канкрэтызаваны мэты і задачы курса; вызначаны і навукова абгрунтаваны матывацыйна-мэтавы падыход і дыдактыка-метадычныя прынцыпы арганізацыі практычных заняткаў па мове; распрацаваны тэарэтычныя палажэнні і метадычныя рэкамендацыі, арыентаваныя на ўдасканаленне моўнай прафесійна накіраванай падрыхтоўкі студэнтаў; распрацавана і эксперыментальна праверана сістэма прафесійна-матываваных практыкаванняў па сінтаксісе.

***Крыніца інфармацыі:*** Астраух, Н.Э. Прафесійная накіраванасць практычных заняткаў па роднай мове ў сістэме падрыхтоўкі настаўніка пачатковых класаў у ВНУ: аўтарэф. дыс. … канд. пед. навук: 13.00.02 / Н.Э. Астраух; БДУ. – Мінск, 1998. – 21 с.

## 17 АСТРЭЙКА ВЕРА ДЗМІТРЫЕЎНА

***Тэма:*** Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях з'яў жывой прыроды (лінгвагеаграфія і паходжанне).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Крывіцкі А.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.12.1997; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Цыхун Г.А., д.філал.н.; Блінава Э.Д., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Вызначыць пашырэнне і паходжанне выяўленай паўночна-заходняй занальнай лексікі ў найменнях з'яў жывой прыроды, устанавіць фактары, якія абумоўліваюць яе наяўнасць у слоўнікавай сістэме адпаведных гаворак.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 128 с., асноўны тэкст займае 96 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 251 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях з'яў жывёльнага свету: назвы свойскіх і дзікіх жывёл і звязаная з імі тэрміналогія; назвы свойскіх і дзікіх птушак і звязаная з імі тэрміналогія; тэрміналогія пчалярства і назвы насякомых і ніжэйшых істот; назвы рыбы і тэрміналогія рыбалоўства; агульная характарыстыка паўночна-заходніх занальных найменняў з'яў жывёльнага свету. 2. Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях з'яў расліннага свету: лясная наменклатура і іншыя звязаныя з лесам назвы; назвы кветак і траў; агульная характарыстыка паўночна-заходніх занальных найменняў з'яў расліннага свету.

У працы змяшчаецца 7 дадаткаў (17 с.): «Індэкс», карты (12).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Устаноўлены межы пашырэння паўночна-заходніх занальных лексічных рэгіяналізмаў, вызначаны асаблівасці іх распаўсюджання і характар лакалізацыі на тэрыторыі паўночна-заходняй дыялектнай зоны; выяўлены асаблівасці фанетычнага, акцэнталагічнага, словаўтваральнага, марфалагічнага і семантычнага вар'іравання адзначаных лексічных рэгіяналізмаў у гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны; вызначана месца паўночна-заходніх занальных лексічных рэгіяналізмаў у складзе слоўніка беларускай літаратурнай мовы; высветлена паходжанне адзначанай паўночна-заходняй занальнай лексікі, выяўлены яе сувязі з намінатыўнымі адзінкамі іншых славянскіх і неславянскіх моў.

***Крыніца інфармацыі:*** Астрэйка, В.Д. Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях з'яў жывой прыроды (лінгвагеаграфія і паходжанне): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.Д. Астрэйка; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 1997. – 19 с.

## 18 БАБІЧ ЮРЫЙ МІХАЙЛАВІЧ

***Тэма:*** Семантычныя палі *колер* і *святло* ў мове твораў Якуба Коласа.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сямешка, Л.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.03.1999; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Даць поўнае апісанне семантычных палёў *колер* і *святло* ў творах Якуба Коласа, вызначыць асаблівасці выкарыстання аўтарам колеравай і светлавой лексікі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 113 с., асноўны тэкст займае 98 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 147 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Семантычная структура каларонІма: праблемы ўнармавання беларускай каларыстычнай тэрміналогіі; статыстычны аналіз выкарыстання каларонімаў і люксонімаў; кантэнсіянальнае і экстэнсіянальнае значэнне калароніма і люксоніма; семантычная структура колеравых і светлавых кампазітаў. 2. Колерапіс як сродак стварэння мастацкай вобразнасці ў творах Якуба Коласа: колеравы і светлавы кантраст; колеравая гармонія і дысгармонія; светлавая эстэтыка; эстэтыка ізаляванага колеру; няўласныя якасці колеру; троп як элемент колерапісу (эпітэт, параўнанне, метафара).

У дысертацыі 1 дадатак (7 с.) – «Індэкс каларонімаў і люксонімаў».

***Значэнне:*** Выяўлена частотнасць ужывання Якубам Коласам розных лексем са значэннем колеру і святла; вызначаны асаблівасці вар'іравання колеравага тону і светлавой насычанасці каларонімаў і люксонімаў; прааналізавана семантычная структура коласаўскіх каларонімаў; дадзена апісанне асаблівасцяў будовы колеравай гармоніі і дысгармоніі, колеравага і светлавога кантрасту; ахарактарызаваны спалучальнасныя магчымасці лексем са значэннем колеру і святла; паказаны найбольш прадуктыўныя віды стылістычных фігур, дзе адным з кампанентаў выступае каларонім або люксонім; вызначаны характар коласаўскага колерапісу як аднаго з асноўных элементаў стварэння вобразнасці і выразнасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Бабіч, Ю.М. Семантычныя палі *колер* і *святло* ў мове твораў Якуба Коласа: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю.М. Бабіч; БДУ. – Мінск, 1999. – 17 с.

## 19 БАБИЧ ИРИНА СЕРГЕЕВНА

***Тема:*** Суффиксальные образования наречий в русском языке и их аналоги в белорусском.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Фомина А.П., к.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГПУ, кафедра современного русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 18.06.2004; К 02.21.01, БГПУ.

***Оппоненты:*** Груцо А.П., д.филол.н.; Кунцевич Л.П., к.филол.н.; ВГУ.

***Цель:*** Проанализировать и описать суффиксальные образования наречий в русском языке и их эквиваленты в белорусском языке.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 124 с., основной текст занимает 96 с. Список использованной литературы – 178 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Словообразование наречий: историографический аспект. 2. Суффиксальные наречия на *-о* (*-е*), *-и*, мотивированные именами прилагательными разной структуры, в русском языке и эквивалентные им формы в белорусском языке: наречия на *-о* (*-е*), мотивированные производными прилагательными суффиксального образования; наречия на *-о* (*-е*), мотивированные производными прилагательными префиксально-суффиксального образованиями; наречия на *-о* (*-е*), мотивированные производными прилагательными сложной структуры; наречия на *-о* (*-е*), мотивированные производными прилагательными префиксального образования; наречия на *-о* (*-е*), мотивированные непроизводными основами прилагательных; наречия на *-и*, мотивированные производными прилагательными суффиксального образования. 3. Суффиксальные наречия, мотивированные различными частями речи в русском языке и эквивалентные им формы в белорусском языке: наречия на *-ом* (*-ем*) *-ой* (*-ей*), *-ами* (*-ями*), *-ю, -а*, мотивированные существительными; наречия, мотивированные наречиями (внутринаречное образование); наречия на *-мя, -ком, -ом, -а* (*-я*), *-учи* (*-ючи*), *-е, -уном*, мотивированные глаголами; наречия на *-жды, -ю*, мотивированные числительными; наречия на *-иком, -ком, -ом* (*-ем*), *-ишом, -остью, -ю*, мотивированные непроизводными прилагательными; явления неединственной (двойной) мотивации при образовании наречий.

В диссертации 2 приложения (14 с.): «Количественный показатель продуктивности структурных моделей суффиксальных наречий и их производящих основ в русском языке», «Показатель структурного соотношения моделей наречий с разными суффиксами и их производящих основ в русском и белорусском языках».

***Научное значение исследования:*** Изучена степень продуктивности структурных моделей адъективов, производящих наречия на *-о* (*-е*), *-и*, а также структурные модели наречий не на *-о* (*-е*), *-и*, мотивированные именами существительными, числительными, прилагательными, наречиями, глаголами; установлены эквиваленты структурных моделей производящих адъективов, а также структурных моделей собственно наречий в системе словообразования белорусского языка; описана система единиц белорусского языка, выступающих в качестве эквивалентов-синонимов по отношению к русскому наречному деривату в конкретном значении.

***Источник информации:*** Бабич, И.С. Суффиксальные образования наречий в русском языке и их аналоги в белорусском: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / И.С. Бабич; БГПУ. – Минск, 2004. – 20 с.

## 20 БАГАМОЛАВА АЛЕНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі і стылістычнай мадыфікацыі ў беларускіх народных песнях.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Гаўрош Н.В., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.06.1995; К 113.16.04, БДПУ.

***Апаненты:*** Шакун Л.М., д.філал.н.; Русак В.П., к.філал.н.; БрДПІ.

***Мэта:*** Выявіць спецыфіку экспрэсіўнай дэрывацыі прыметнікаў у мове песеннага фальклору, вызначыць агульныя заканамернасці, уласцівыя мове песень і беларускай літаратурнай мове; высветліць функцыю эмацыянальна-ацэначных прыметнікаў у кантэксце народна-паэтычных твораў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 143 с., асноўны тэкст займае 127 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 244 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Утварэнне прыметнікаў з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: прыметнікі з суфіксам *-еньк-* (*-эньк-, -аньк-*); прыметнікі з суфіксам *-усеньк-* (*-юсеньк-*); прыметнікі з суфіксам *-энечк-* (*-енечк-*); прыметнікі з суфіксамі *-оханьк-* (*-ёханьк-* / *-ошаньк-* / *-ёшаньк-*); прыметнікі з суфіксам *-ічк-*; прыметнікі з суфіксамі *-ілечк-, -ятк-, -уленьк-, -уханьк-, -юстаньк-, -юхн-*; прыметнікі з суфіксамі *-ушч-* (*-юшч-*)*, -ізн-*. 2. Функцыянальнае выкарыстанне прыметнікаў з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: ужыванне прыметнікаў са станоўчай і з негатыўнай канатацыяй; прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі ў сістэме вобразных сродкаў мовы.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана лексіка-семантычная структура эмацыянальна-ацэначных прыметнікаў песеннага фальклору і паказаны ўплыў фармантаў на іх дэнатацыйнае і канатацыйнае значэнне; выяўлены адметнасці ўтварэння прыметнікаў з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі ў мове беларускіх народных песень, асветлена функцыя ўтваральтных фармантаў; вызначана роля кантэксту ў фарміраванні канатацыйных і дэнатацыйных значэнняў экспрэсіўных прыметнікаў, паказаны ўплыў мікра- і макракантэксту на ступень эмацыянальнай выразнасці прыметнікаў; даказана, што эмацыянальная насычанасць, экспрэсіўнасць песеннага кантэксту залежыць ад жанравай спецыфікі твора, ад яго ідэйна-тэматычнай скіраванасці, а характар экспрэсіі прыметнікаў з суб'ектыўна-ацэначнымі фармантамі мадыфікуецца ў адпаведнасці з жанрам і зместам песні; раскрыты асаблівасці функцыянавання экспрэсіўных прыметнікаў у фальклорных песенных тэкстах, акрэслена месца і роля гэтых прыметнікаў у сістэме вобразных сродкаў мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Багамолава, А.М. Прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі і стылістычнай мадыфікацыі ў беларускіх народных песнях: аўтарэф. дыс … канд. філал. навук: 10.02.02 / А.М. Багамолава; БДПУ. – Мінск, 1995. – 21 с.

## 21 БАГАМОЛЬНІКАВА НАТАЛЛЯ АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Гідранімія басейна ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 29.04.1997; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Злобін Л.І., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Аналіз гідронімаў і мікрагідронімаў басейна ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны на лексіка-семантычным і структурна-граматычным узроўнях з улікам (у выпадку неабходнасці) этымалагічных звестак да асобных намінацый.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 150 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 82 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Лексіка-семантычныя тыпы гідронімаў і іх матывацыя: гелонімы; лімнонімы; патамонімы; мікрагідронімы. 2. Структурна-граматычная характарыстыка гідронімаў: першасныя ўтварэнні (субстантыўныя гідронімы, ад'ектыўныя гідронімы); другасныя ўтварэнні (вытворныя аднаслоўныя гідронімы, складаныя гідронімы, шматслоўныя назвы).

У дысертацыі 2 дадаткі (38 с.): «Слоўнік гідронімаў басейна ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны» (уключае 3 блокі – «Гелонімы», «Лімнонімы», «Мікрагідронімы»; першыя блокі складаюцца з 2 частак – «Адапелятыўныя ўтварэнні» і «Аданамастычныя ўтварэнні», трэці блок – 3 часткі «Аданамастычныя ўтварэнні»; унутры частак інфармацыя падаецца па тэматычных групах), «Спіс найбольш прадуктыўных назваў гідронімаў басейна ракі Прыпяць».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны характар залежнасці назваў ад апелятыўнага слоўніка мясцовай геаграфіі і ўзроўню семантычных асацыяцый уласных імён і праведзена параўнанне асаблівасцей апелятыўнага ландшафту ў адносінах да іншых дыялектных масіваў Беларусі; устаноўлены спосабы і мадэлі словаўтварэння гідронімаў і іх сістэмы.

***Крыніца інфармацыі:*** Багамольнікава, Н.А. Гідранімія басейна ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.А. Багамольнікава; ГДУ. – Мінск, 1997. – 17 с.

## 22 БАГДЗЕВІЧ АНАТОЛЬ ІОСІФАВІЧ

***Тэма:*** Словаўтваральная структура аддзеяслоўных тэрмінаадзінак-ад'ектываў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: праблемы нормы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 12.03.1999; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Плотнікаў Б.А., д.філал.н.; Паўлавец Д.Д., к.філал.н.; МазДПІ.

***Мэта:*** Вызначыць натуральную словаўтваральную структуру аддзеяслоўных тэрмінаадзінак-ад'ектываў, якая адпавядае словаўтваральнай сістэме беларускай мовы і прапанаваць такія тэрміны ў якасці літаратурнай нормы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 170 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Натуральныя ад'ектыўныя тэрмінаадзінкі і іх штучныя варыянты з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ач-, -яч-*: тэрмінаадзінкі са значэннем уласцівасці аб'екта наймення; тэрмінаадзінкі са значэннем функцыі аб'екта наймення; тэрмінаадзінкі са значэннем знаходжання аб'екта наймення ў працэсе аперацыі. 2. Натуральныя ад'ектыўныя тэрмінаадзінкі і іх штучныя варыянты з суфіксамі *-ем-, -ім-, -ом-*: тэрмінаадзінкі са значэннем уласцівасці аб'екта наймення; тэрмінаадзінкі са значэннем знаходжання аб'екта ў працэсе аперацыі. 3. Тэрмінаадзінкі з суфіксамі *-ўш-, -ш-* і іх адэкваты: тэрмінаадзінкі са структурай незваротных дзеепрыметнікаў; тэрмінаадзінкі са структурай зваротных дзеепрыметнікаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Прааналізавана семантыка аддзеяслоўных тэрмінаадзінак-ад'ектываў і вылучаны семантычныя групы такіх тэрмінаў; у межах кожнай семантычнай групы выяўлены словаўтваральныя сродкі, здольныя ўтвараць тэрміны з адпаведнай семантыкай; разгледжаны магчымасці спалучэння словаўтваральных афіксаў з рознымі дзеяслоўнымі асновамі; высветлены тэрміналагічныя праблемы, якія ўзнікаюць пры выкарыстанні таго ці іншага афікса, а таксама сродкі, што дазваляюць пазбегнуць такіх праблем; вызначаны прычыны варыянтнасці тэрмінаў і шляхі яе ліквідацыі.

***Крыніца інфармацыі:*** Багдзевіч, А.І. Словаўтваральная структура аддзеяслоўных тэрмінаадзінак-ад'ектываў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: праблемы нормы: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / А.І. Багдзевіч; ГДУ. – Гомель, 1999. – 19 с.

## 23 БАНДАРОВІЧ ВЕРАНІКА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Музычная лексіка ў старабеларускай мове: структурна-семантычны, этымалагічны і дэрывацыйны аспекты.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Ціванова Г.К., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 10.12.2004; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Рабаданава Л.І., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Максімальна поўная характарыстыка музычнай лексікі старабеларускай мовы, вызначэнне яе семантычных, этымалагічных, дэрывацыйных асаблівасцей, ступені тэрміналагізацыі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 140 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 151 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Назвы музычных інструментаў і іх частак: аб сістэматызацыі старажытных музычных інструментаў і іх назваў; лексемы для абазначэння агульнага паняцця *музычны інструмент*; назвы музычных інструментаў па крыніцы гуку. 2. Назвы дзеянняў, звязаных з успрыманнем і выкананнем музыкі: словы для абазначэння паняцця *ўтвараць музычны гук*; словы для абазначэння паняцця *выконваць музычны твор*. 3. Назвы асоб у адносінах да старажытнага музычнага мастацтва. 4. Назвы музычных твораў і жанраў. 5. Аб упарадкаванасці музычнай лексікі ў старабеларускай мове: музычная лексіка старабеларускай мовы як сістэма тэрмінаў на этапе фарміравання; упарадкаванасць музычнай лексікі на ўзроўні семантыкі; упарадкаванасць музычнай лексікі на ўзроўні словаўтварэння.

У дысертацыі 2 дадаткі (19 с.): «Алфавітны паказчык даследаваных слоў», «Музычны слоўнік старабеларускай мовы» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных зон інфармацыі: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны семантызацыі, зоны фразеалагічнай інфармацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана паходжанне лексічных адзінак, якія ў старажытнасці на беларускіх землях суадносіліся з музычным мастацтвам; вывучаны спосабы ўтварэння матываваных лексічных адзінак і дэрывацыйныя магчымасці слоў з музычнай семантыкай; вызначаны сувязі і адносіны паміж словамі (сінанімічныя, гіпера-гіпанімічныя і інш.); прасочаны лёс найменняў у гісторыі беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Бандаровіч, В.У. Музычная лексіка ў старабеларускай мове: структурна-семантычны, этымалагічны і дэрывацыйны аспекты: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.У. Бандаровіч; БДУ. – Мінск, 2004. – 21 с.

## 24 БАРКОВІЧ АЛЯКСАНДР АРКАДЗЕВІЧ

***Тэма:*** Лексічны патэнцыял беларускай мовы ў кантэксце корпуснай лінгвістыкі (на матэрыяле новай дзеяслоўнай лексікі).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Рудэнка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.05.2008; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Рычкова Л.В., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Устанавіць магчымасці корпуснага падыходу пры даследаванні шляхоў папаўнення лексікону беларускай мовы і вызначыць характарыстыкі новых беларускіх дзеясловаў сродкамі корпуснай лінгвістыкі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 163 с., асноўны тэкст займае 98 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 179 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Корпус тэкстаў як перадумова аб'ектыўнага лінгвістычнага даследавання: корпус тэкстаў, яго ўласцівасці; віды корпусаў тэкстаў; найважнейшыя камп'ютарныя корпусы тэкстаў і магчымасці іх выкарыстання; корпусная лінгвістыка, яе значэнне, кароткая гісторыя; асноўныя паняцці і прынцыпы корпуснай лінгвістыкі. 2. Развіццё лексікону беларускай мовы з пункту гледжання корпуснай лінгвістыкі: магчымасці корпуснай лінгвістыкі ў даследаванні развіцця лексікону; месца словаўтварэння ў абнаўленні лексічнага складу беларускай мовы; метады даследавання новых слоў; некаторыя вынікі аналізу корпусных дадзеных па новай беларускай лексіцы. 3. Новыя беларускія дзеясловы ў кантэксце корпуснай лінгвістыкі: наватворы як увасабленні патэнцыяльных членаў дзеяслоўных парадыгмаў; «уласна новыя» беларускія дзеясловы.

У дысертацыі 4 дадаткі (49 с.): «Асноўныя паняцці корпуснай лінгвістыкі», «Выкарыстаныя ў дысертацыі фрагменты адваротнага слоўніка лексем, не зафіксаваных у *Тлумачальным слоўніку беларускай мовы*», «Незваротныя дзеясловы, не зафіксаваныя ў *Тлумачальным слоўніку беларускай мовы*», «Індэкс лексем, не зафіксаваных у тлумачальных слоўніках беларускай мовы, якія прыводзяцца ў дысертацыі».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены характар і тэндэнцыі ўтварэння дзеясловаў у сучаснай беларускай мове, асаблівасці дзеяслоўнай намінацыі на сучасным этапе развіцця беларускай мовы, найбольш прадуктыўныя спосабы фарміравання дзеяслоўнай лексікі.

***Крыніца інфармацыі:*** Барковіч, А.А. Лексічны патэнцыял беларускай мовы ў кантэксце корпуснай лінгвістыкі (на матэрыяле новай дзеяслоўнай лексікі): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.А. Барковіч; БДУ. – Мінск, 2008. – 24 с.

## 25 БАРОЎСКАЯ ІРЫНА АНАТОЛЬЕЎНА

***Тэма:*** Вобразна-выяўленчыя моўныя сродкі ў беларускай песеннай лірыцы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.; Ляшчынская В.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.07.2002; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Жэлуновіч А.А., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Вызначыць вобразна-выяўленчыя моўныя сродкі і спецыфіку іх ужывання, спалучальнасці ў залежнасці ад тэматыкі, структуры, паэтыкі песенных тэкстаў беларускіх паэтаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 197 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Генезіс і станаўленне беларускай песеннай лірыкі. 2. Гукавая арганізацыя беларускай песеннай лірыкі: эўфанія, гукапіс. 3. Лексіка-семантычныя сродкі стварэння моўнай вобразнасці і тропы ў песеннай лірыцы: лексіка-семантычныя сродкі (полісемія, сінонімы, антонімы, устарэлыя словы, аўтарскія нахатворы, стылістычна афарбаваная лексіка), тропы (параўнанне, эпітэт, метафара, адухаўленне, метанімія, перыфраза, гіпербала, сімвал). 4. Паэтычны сінтаксіс: стылістычныя фігуры (ампліфікацыя, разнавіднасці паўтораў, антытэза, інверсія, эліпсіс); рытарычныя фігуры: рытарычнае пытанне, рытарычны зварот, рытарычны вокліч).

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле ўзораў беларускай песні XIX – XX стст. прааналізавана гісторыя развіцця і станаўлення беларускай песеннай лірыкі; вызначаны асноўныя кірункі эвалюцыі і станаўлення жанрава-стылёвай разнастайнасці беларускай песеннай лірыкі; выяўлены і прааналізаваны гукавыя моўныя сродкі, іх месца, роля ў арганізацыі беларускай песеннай лірыкі; вызначаны лексічныя сродкі стварэння вобразнасці ў мове песенных твораў і адметнасці іх выкарыстання; акрэслены тропы як моўныя стылістычныя сродкі ў песенных тэкстах; вызначаны сродкі паэтычнага сінтаксісу і адметнасці сінтаксічнай арганізацыі песенных тэкстаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Бароўская, І.А. Вобразна-выяўленчыя моўныя сродкі ў беларускай песеннай лірыцы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / І.А. Бароўская; ГДУ. – Гомель, 2002. – 21 с.

## 26 БАРЫСЕВІЧ КАЦЯРЫНА АНТОНАЎНА

***Тэма:*** Прозвішчы ў беларускай і англійскай мовах: структура, дэрывацыя, семантыка ўтваральных асноў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.20 – параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.05.2010; К 02.14.04, ГрДУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Таболіч А.У., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Вызначыць агульныя і нацыянальна-спецыфічныя рысы ў структуры беларускіх і англійскіх прозвішчаў, іх дэрывацыі і семантыцы ўтваральных асноў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 138 с., асноўны тэкст займае 97 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 460 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Структура антрапоніма (прозвішча) у беларускай і англійскай мовах, яго аспекты і задачы даследавання: антрапонімы як аб’ект лінгвістычных даследаванняў; антрапонімы і норма; афіцыйныя формулы іменавання асобы ў беларускай і англійскай мовах. 2. Семантыка прозвішчаўтваральных асноў у беларускай і англійскай мовах: прозвішчы, суадносныя з імёнамі (адымёнавыя прозвішчы); прозвішчы, матываваныя адапелятыўнымі мянушкамі (адапелятыўныя прозвішчы); прозвішчы з тапонімамі ў аснове (адтапанімічныя прозвішчы). 3. Дэрывацыя прозвішчаў у беларускай і англійскай мовах: прозвішчы, утвораныя марфемным спосабам (марфемныя дэрываты); прозвішчы, утвораныя семантычным спосабам (семантычныя дэрываты).

У дысертацыі 3 дадаткі (3 с.): «Узор афармлення пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь», «Перадача беларускіх антрапонімаў сродкамі англійскага і нацыянальнага варыянтаў лацінскага алфавіта (на прыкладзе прозвішчаў, матываваных лексемай *каваль*)», «Перадача англійскіх прозвішчаў па-беларуску».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Разгледжана структура беларускіх і англійскіх антрапонімаў: паказаны нарматыўныя антрапалексемы ў складзе афіцыйнай формулы іменавання асобы ў беларускай і англійскай мовах, асаблівасці рэалізацыі катэгорыі ліку і рода-полавай дыферэнцыяцыі беларускіх і англійскіх прозвішчаў; вызначаны ўніверсальныя і адметныя рысы семантычнай арганізацыі ўтваральных асноў беларускіх і англійскіх прозвішчаў; выяўлены структурна-дэрывацыйныя адпаведнасці і спецыфіка беларускіх і англійскіх прозвішчаў, заканамернасці і адметнасці выражэння пэўных значэнняў і адносін у працэсе прозвішчаўтварэння ў беларускай і англійскай мовах, ступень прадуктыўнасці антрапафармантаў у кожнай з моў; устаноўлены фактары, якія паўплывалі на характар прозвішчаўтваральных асноў і антрапафармантаў, а таксама на частотнасць асобных тыпаў прозвішчаў у беларускім і англійскім антрапаніміконах і акрэслена іх роля пры міжмоўнай перадачы антрапонімаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Барысевіч, К.А. Прозвішчы ў беларускай і англійскай мовах: структура, дэрывацыя, семантыка ўтваральных асноў: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.20 / К.А. Барысевіч; ГрДУ. – Гродна, 2010. – 19 с.

## 27 БАРЫСЕНКА ВОЛЬГА ЯЎГЕНЬЕЎНА

***Тэма:*** Моўна-выяўленчыя сродкі ў паэзіі Васіля Віткі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПІ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 18.01.2002; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Дзянісаў У.С., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Даць максімальна поўнае апісанне моўна-выяўленчых сродкаў у паэтычных творах Васіля Віткі, вызначыць асаблівасці выкарыстання аўтарам эпітэтаў, параўнанняў, метафар і іншых тропаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 275 с., асноўны тэкст займае 102 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 185 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Эпітэт як сродак мастацкага абазначэння ў паэтычных творах Васіля Віткі: тэрмін *эпітэт*; класіфікацыя эпітэтаў; агульнамоўныя эпітэты (звыклыя); індывідуальна-аўтарскія эпітэты (рэдкасныя, аказіянальныя); метафарычныя эпітэты; злітныя (двайныя) эпітэты; аксюмаран; народна-паэтычныя эпітэты (сталыя, традыцыйныя); марфалагічнае выражэнне эпітэтаў; эпітэты, выражаныя прыметнікамі; адносныя прыметнікі ў якасці эпітэтаў; колеравыя эпітэты; эпітэты, выражаныя дзеепрыметнікамі; эпітэты, выражаныя назоўнікамі (эпітэты-прыдаткі), эпітэты выражаныя прыслоўямі, функцыі эпітэтаў у паэзіі Васіля Віткі. 2. Параўнанне ў паэтычнай мове Васіля Віткі: тыпы параўнанняў; спосабы выражэння параўнанняў; марфалагічнае выражэнне параўнанняў; дзеяслоўныя параўнанні; бяззлучнікавыя дзеяслоўныя параўнанні; злучнікавыя дзеяслоўныя параўнанні; назоўнікавыя параўнанні; прыметнікавыя параўнанні; прыслоўныя параўнанні; творны параўнання; фразеалагічныя параўнанні; лексіка-семантычныя групы параўнанняў. 3. Роля метафары ў стварэнні Васілём Віткам паэтычных твораў: метафара і кантэкст; класіфікацыя метафар; марфалагічнае выражэнне метафар; лексіка-семантычныя групы слоў, якія падпадаюць пад метафарызацыю; іншыя моўна-выяўленчыя сродкі ў паэтычных творах Васіля Віткі (алегорыя, сімвал, метанімія, сінекдаха, адухаўленне, увасабленне, літота, гіпербала, іронія).

У дысертацыі 3 дадаткі (159 с.): «Эпітэт: ужыванне лексем» (эпітэты, выражаныя прыметнікамі, дзеепрыметнікамі, назоўнікамі, прыслоўямі), «Параўнанне: ужыванне лексем», «Метафара: ужыванне лексем».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены і сістэматызаваны моўна-выяўленчыя сродкі мовы твораў паэзіі Васіля Віткі, створана іх класіфікацыя з улікам марфалагічнага, структурнага, лексічнага выражэння; акрэслены эпітэты, параўнанні, метафары і іншыя тропы як асобныя сродкі стварэння мастацкай выразнасці і вобразнасці; прапанавана сінхронна-аналітычнае апісанне асаблівасцей выкарыстання тропаў у моўнай сістэме аўтара.

***Крыніца інфармацыі:*** Барысенка, В.Я. Моўна-выяўленчыя сродкі ў паэзіі Васіля Віткі: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / В.Я. Барысенка; ГДУ. – Гомель, 2002. – 20 с.

## 28 БАРЫСЕНКА НАТАЛЛЯ АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Устарэлая лексіка ў сучаснай беларускай гістарычнай прозе.
***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.02.2004; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Шаблоўскі А.І., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Выяўленне і лексіка-семантычны аналіз устарэлай лексікі ў беларускай гістарычнай прозе 80 – 90-х гадоў XX ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 150 с., асноўны тэкст займае 111 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 146 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Устарэлая грамадска-палітычная лексіка: лексіка, якая характарызуе класавую структуру грамадства; лексіка, якая характарызуе структуру дзяржаўнага кіравання; назвы прадстаўнікоў адміністрацыйна-кіруючага апарату. 2. Устарэлая сацыяльна-эканамічная лексіка: назвы павіннасцей, падаткаў, гандлёвых пошлін, адміністрацыйна-судовых плацяжоў; назвы матэрыяльных уладанняў, маёмасных правоў і адносін, спадчынных правоў; назвы асоб паводле выканання службовых функцый. 3. Устарэлая ваенная лексіка: словы, якія характарызуюць зброю і амуніцыю; назвы асоб, звязаных з вайсковай справай; назвы, якія характарызуюць структуру воінскіх фарміраванняў. 4. Устарэлая бытавая лексіка: назвы адзінак вымярэння даўжыні, плошчы, вагі; назвы грашовых адзінак; назвы адзення, абутку, галаўных убораў, а таксама будынкаў, памяшканняў, прадметаў бытавога прызначэння.

У дысертацыі 1 дадатак (29 с.) – слоўнік устарэлай лексікі (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый і зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны лексічныя сродкі стварэння каларыту даўніны ў мастацкіх творах гістарычнага жанру апошніх дзесяцігоддзяў XX ст.; вызначана паходжанне гістарызмаў і архаізмаў, іх семантыка, функцыянаванне ў творах старажытнай пісьменнасці і сучаснай лексічнай сістэме; раскрыты дэрывацыйныя, сінанімічныя магчымасці асобных намінацый; выяўлена мэтазгоднасць увядзення ў змест апавядання той або іншай лексемы ў дачыненні да пэўнага гістарычнага перыяду.

***Крыніца інфармацыі:*** Барысенка, Н.А. Устарэлая лексіка ў сучаснай беларускай гістарычнай прозе: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.А. Барысенка; ГДУ. – Гомель, 2004. – 19 с.

## 29 БАСЬКО ВОЛЬГА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Моўны сінкрэтызм старабеларускага рэлігійнага пісьменства (дыяхранічны аспект).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Ціванова Г.К., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 06.12.2005; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Машчэнская Л.Р., д.філал.н.; Фацеева С.І., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Выявіць тэндэнцыі і дынаміку развіцця сінкрэтычнай мовы старабеларускага рэлігійнага пісьменства на графіка-арфаграфічным, марфалагічным і лексічным узроўнях на матэрыяле тоесных біблейскіх тэкстаў, створаных на працягу XVI – XVII стст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 99 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 155 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Графіка і арфаграфія: графічная сістэма; арфаграфічная сістэма. 2. Марфалогія: назоўнік; прыметнік; займеннік; дзеяслоў. 3. Лексіка: лексемы ў беларускім фанетычным афармленні; лексемы з беларускімі словаўтваральнымі кампанентамі; лексемы з беларускімі каранёвымі кампанентамі.

У дысертацыі 1 дадатак (10 с.) – фотакопіі некаторых старонак даследаваных тэкстаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Прааналізаваны графіка-арфаграфічныя асаблівасці помнікаў (апісана графічная сістэма тэкстаў, прасочана ступень рэалізацыі ў помніках фанетычных асаблівасцей жывога маўлення, ахарактарызаваны ўзаемаадносіны паміж фанетычным і этымалагічна-марфалагічным прынцыпамі напісання); даследаваны марфалагічныя асаблівасці помнікаў (вывучана сістэма іменнага і займеннага скланення, сістэма спражэння, выяўлена ступень адлюстравання ў сістэме часцін мовы рыс жывой народнай мовы, вызначана ступень уздзеяння марфалагічных рыс царкоўнаславянскай і польскай моў на граматычны лад помнікаў); апісана лексічная сістэма помнікаў (разгледжаны ўзаемаадносіны ўжытых у тэкстах старабеларускіх і царкоўнаславянскіх слоў, якія адрозніваліся толькі па сваім фанетычным афармленні, прааналізавана выкарыстанне семантычна тоесных моўных адзінак, утвораных з дапамогай суадносных афіксаў царкоўнаславянскага і беларускага паходжання, выяўлены лексемы ўласна беларускага, царкоўнаславянскага і польскага паходжання і іх колькасныя суадносіны).

***Крыніца інфармацыі:*** Басько, В.У. Моўны сінкрэтызм старабеларускага рэлігійнага пісьменства: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.У. Басько; БДУ. – Мінск, 2005. – 20 с.

## 30 БЕЛАКУРСКАЯ ЖАННА ЯЎГЕНАЎНА

***Тэма:*** Лінгвістычная спадчына Якуба Коласа ў кантэксце станаўлення нацыянальнай беларускай мовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шакун Л.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 09.06.2000; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Жураўскі А.І., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Абагульніць і сістэматызаваць лінгвістычную спадчыну Якуба Коласа, асэнсаваць змест яго лінгвістычнай дзейнасці, вызначыць месца «Другога чытання для дзяцей беларусаў» у кантэксце станаўлення графіка-арфаграфічных нормаў беларускай літаратурнай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 118 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 158 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лінгвістычныя погляды і лінгвадыдактычная канцэпцыя Якуба Коласа: творчая спадчына Якуба Коласа ў лінгвістычных даследаваннях; асвятленне тэарэтычных праблем мовазнаўства ў спадчыне Якуба Коласа; «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (лінгвадыдактычны аспект). 2. Графічныя асаблівасці рукапіснага і друкаванага варыянтаў «Другога чытання для дзяцей беларусаў»: кірыліца і лацінка ў практыцы беларускага кнігадрукавання пачатку XX ст.; суадносіны паміж фанемамі і графемамі ў рукапісе і друкаваным зборніку Якуба Коласа; нялітарныя графічныя сродкі (пазіцыйна-функцыянальная характарыстыка). 3. «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» у кантэксце станаўлення арфаграфічных нормаў беларускай літаратурнай мовы: праблема станаўлення правапіснай сістэмы новай беларускай літаратурнай мовы і арфаграфічныя погляды Якуба Коласа; правапіс галосных; правапіс зычных; правапіс слоў асобна, разам, праз злучок; ужыванне вялікай літары; правілы пераносу слоў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Раскрыта спецыфіка тэарэтычных поглядаў Якуба Коласа на мову, у тым ліку на яе ролю ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці беларусаў; вызначана сутнасць лінгвадыдактычнай канцэпцыі пісьменніка, яе адлюстраванне ў розных аспектах дзейнасці; ахарактарызавана хрэстаматыя «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» з пункту гледжання адлюстравання ў ёй лінгвадыдактычных праблем; параўнаны графічныя асаблівасці рукапісу хрэстаматыі «Другога чытання для дзяцей беларусаў» і яе друкаванага варыянта; размежавана аўтарская арфаграфія і рэдакцыйныя праўкі, акрэслена роля «Другога чытання для дзяцей беларусаў» у агульным працэсе графіка-арфаграфічнай нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы; супастаўлены правапісныя асаблівасці рукапісу і першага выдання «Другога чытання для дзяцей беларусаў» з практыкай кнігадрукавання пачатку XX ст. і нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы; вызначана месца і значэнне лінгвістычнай спадчыны Якуба Коласа ў гісторыі нацыянальнага мовазнаўства.

***Крыніца інфармацыі:*** Белакурская, Ж.Я. Лінгвістычная спадчына Якуба Коласа ў кантэксце станаўлення нацыянальнай беларускай мовы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ж.Я. Белакурская; БДУ. – Мінск, 2000. – 22 с.

## 31 БЕТЕНЯ ЕЛЕНА ПЕТРОВНА

***Тема:*** Средства выражения длительности и предшествования в английском и белорусском языках (на материале предикативных форм глагола).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.20 – сравнительно-историческое, типологическое и сопоставительное языкознание.

***Научный руководитель:*** Михневич А.Е., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** МГЛУ, кафедра лексикологии английского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 25.10.2005; Д 02.22.01, МГЛУ.

***Оппоненты:*** Поплавская Т.В., д.филол.н.; Николаева О.М., к.филол.н.; БГПУ.

***Цель:*** Выявление механизма компенсационных возможностей при передаче идентичного содержания в двух сопоставляемых языках.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 115 с., основной текст занимает 98 с. Список использованной литературы – 190 источников.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Сопоставление систем видовременных форм английского и белорусского языков: типизированная схема языка как основа сопоставления; сопоставление подсистем языка (видовременная подсистема языка); идиоэтничные грамматические формы английского языка; роль понятийных категорий в сопоставительном исследовании. 2. Способы передачи понятийной категории длительности в английском и белорусском языках: категория длительности и категория повторяемости; способы выражения понятийной категории повторяемости; способы выражения понятийной категории длительности. 3. Способы выражения понятийной категории предшествования в английском и белорусском языках: форма перфекта английского языка и категория вида белорусского языка в сопоставлении; способы выражения понятийной категории предшествования; категория предшествования и категория повторяемости; категория предшествования и категория длительности.

В диссертации 3 приложения (4 с.): «Типологический паспорт английского языка», «Контекстные средства выражения итеративности», «Контекстные средства выражения предшествования».

***Научное значение исследования:*** Сопоставлен состав видовременных грамматических категорий в английском и белорусском языках, проанализированы значения, выражаемые данными категориями, выделены понятийные категории, которые по-разному репрезентируются в исследуемых языках; выявлены средства, с помощью которых понятийные категории повторяемости, длительности и предшествования анализируются в двух сопоставляемых языках; определены схемы взаимодействия разноуровневых средств выражения семантики длитель-

ности и предшествования внутри каждого из сопоставляемых языков; определены схемы взаимодействия языковых средств выражения семантики длительности и предшествования в межъязыковом аспекте; выявлены скрытые категории итеративности, длительности и перфектности, а также прослежены тенденции семантико-синтаксического конструирования при выражении данных значений в двух сопоставляемых языках.

***Источник информации:*** Бетеня, Е.П. Средства выражения длительности и предшествования в английском и белорусском языках (на материале предикативных форм): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / Е.П. Бетеня; МГЛУ. – Минск, 2005. – 20 с.

## 32 БОБРЫК УЛАДЗІМІР АНДРЭЕВІЧ

***Тэма:*** Наватворы ў мове Янкі Купалы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – мовы народаў СССР (беларуская мова).

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.11.1992; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Шакун Л.М., д.філал.н.; Тамашэвіч Т.І., к.філал.н.; МагДПІ.

***Мэта:*** Вывучыць удзельную вагу купалаўскіх наватвораў на фоне лексіка-граматычных сістэм сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 205 с., асноўны тэкст займае 162 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 110 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лексічныя наватворы: наватворы ад нарматыўных лексем; наватворы ад народна-гутарковых лексем; наватворы ад запазычаных лексем. 2. Семантычныя наватворы. 3. Стылістычныя функцыі наватвораў.

У дысертацыі 1 дадатак (21 с.) – «Індэкс наватвораў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны наватворы ў мове Янкі Купалы; прапанаваны поўны пералік наватвораў, выяўленых у «Зборы твораў» Янкі Купалы (у 7 т.); устаноўлены спосабы ўтварэння новых слоў, іх семантычны аб'ём і частотнасць выкарыстання; прааналізаваны семантычныя наватворы, іх стылістычныя функцыі, выяўлены заканамернасці ўзбагачэння і папаўнення выяўленчых сродкаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы шляхам індывідуальнай словатворчасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Бобрик, В.А. Новообразования в языке Янки Купалы: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / В.А. Бобрик; ИЯ АН Беларуси. – Мінск, 1992. – 28 с.

## 33 БОГОЕДОВА ТАТЬЯНА НИКОЛАЕВНА

***Тема:*** Гидронимия бассейна Сожа (праславянский фонд).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.03 – славянские языки.

***Научный руководитель:*** Козлова Р.М., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГГУ, кафедра русского, общего и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 04.07.1997; К 02.12.03, ГГУ.

***Оппоненты:*** Мартынов В.В., д.филол.н.; Павловец Д.Д., к.филол.н.; БГУ.

***Цель:*** Выявление праславянского пласта наименований в гидронимии Посожья.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 141 с., основной текст занимает 122 с. Список использованной литературы – 282 источника.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Гидронимия бассейна Сожа как объект научных исследований. 2. Общая методика и основные методы исследования материала. 3. Названия, отражающие характерную физическую особенность водного объекта. 4. Названия, отражающие природные особенности региона. 5. Названия, связанные с хозяйственной и социальной жизнью человека.

***Научное значение исследования:*** Изучены гидронимы Посожья на фоне гидронимии остальных славянских регионов; установлена ареальная характеристика названий; выявлены инославянские соответствия для сожских наименований и на их основе реконструированы исходные праславянские формы; установлены генетические связи названий; определены структурные характеристики названий, а также типы их номинативных моделей.

***Источник информации:*** Богоедова, Т.Н. Гидронимия бассейна Сожа (праславянский фонд): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.03 / Т.Н. Богоедова; ГГУ. – Гомель, 1997. – 23 с.

## 34 БОНДАЛ ІРЫНА ВАСІЛЕЎНА

***Тэма:*** Канструкцыі з атрыбутыўнымі адносінамі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове (структурна-семантычная характарыстыка).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Яўневіч М.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.09.1995; К 113.16.04, БДПУ.

***Апаненты:*** Наркевіч А.І., д.філал.н.; Бандарэнка Т.П., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Даць найбольш поўнае структурна-семантычнае апісанне сістэмы атрыбутыўных словазлучэнняў, якая рэалізуецца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове праз субстантыўныя і ўласна атрыбутыўныя, прыназоўнікавыя і беспрыназоўнікавыя канструкцыі ў простым і складаным сказе.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 110 с., асноўны тэкст займае 102 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 117 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Характарыстыка атрыбутыўных адносін: структурна-семантычная арганізацыя словазлучэння; граматычныя асаблівасці атрыбутыўных канструкцый. 2. Сродкі выражэння атрыбутыўных адносін: структурна-семантычныя групы атрыбутыўных канструкцый; атрыбутыўныя канструкцыі мадэлі «назоўнік$^1$ + назоўнік$^2$ без прыназоўніка»; атрыбутыўныя канструкцыі мадэлі «назоўнік$^1$ + прыназоўнік + назоўнік$^2$»; атрыбутыўныя канструкцыі ў межах складанага сказа. 3. Атрыбутыўныя канструкцыі як спецыфічны сродак дыферэнцыяцыі функцыянальных стыляў мовы.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны найбольш характэрныя граматычныя і лексіка-семантычныя крытэрыі атрыбутыўнасці; прааналізаваны структурныя кампаненты атрыбутыўных канструкцый; прапанавана апісанне структурна-семантычных груп атрыбутыўных канструкцый, выяўлены іх семантычныя адценні; паказаны сінанімічныя сродкі выражэння атрыбутыўнасці і раскрыта іх роля ў тэкстах; прасочана функцыянаванне атрыбутыўных канструкцый у тэкстах розных стыляў; вызначаны канструкцыі, у якіх найбольш поўна выяўлена нацыянальная спецыфіка беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Бондал, І.В. Канструкцыі з атрыбутыўнымі адносінамі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове (структурна-семантычная характарыстыка): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.02 / І.В. Бондал; БДПУ. – Мінск, 1995. – 19 с.

## 35 БОСАК АЛЕНА АНАТОЛЬЕЎНА

***Тэма:*** Дыферэнцыяцыя і арэальныя сувязі гаворак Верхняга Над'ясельдзя.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Клімчук Ф.Д., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.03.2006; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Русак В.П., д.філал.н.; Міхайлаў П.А., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** На падставе лінгвагеаграфічнага аналізу фанетычных, марфалагічных і лексічных асаблівасцей атрымаць канкрэтнае ўяўленне аб дыялектным ландшафце гаворак Верхняга Над'ясельдзя (пучкі ізаглос, групы, падгрупы).

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 257 с., асноўны тэкст займае 111 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 157 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Гісторыя вывучэння гаворак Верхняга Над'ясельдзя. 2. Аб'екты і метады правядзення даследавання:

матэрыялы і праграма даследавання; Верхняе Над'ясельдзе ў гістарычным аспекце. 3. Асноўныя дыялектныя асаблівасці гаворак Верхняга Над'ясельдзя: фанетыка; марфалогія; лексіка. 4. Пучкі ізаглос і групоўка гаворак Верхняга Над'ясельдзя: характарыстыка пучкоў ізаглос; групоўка гаворак і іх арэальныя сувязі; канфігурацыя арэалаў інавацыйных з'яў і праблема іх адноснай хcraналогіі.

У дысертацыі 7 дадаткаў (136 с.): «Транскрыпцыя», «Спіс абследаваных населеных пунктаў», «Алфавітны паказальнік абследаваных населеных пунктаў», «Праграма даследавання дыферэнцыяцыі і арэальных сувязей гаворак Верхняга Над'ясельдзя», «Адказы на апытальнік праграмы даследавання дыферэнцыяцыі і арэальных сувязей гаворак Верхняга Над'ясельдзя», «Спіс інфарматараў з населеных пунктаў Верхняга Над'ясельдзя», «Карты» (198).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны асноўныя фанетычныя, марфалагічныя і лексічныя асаблівасці гаворак Верхняга Над'ясельдзя; вызначаны асобныя ізаглосы і пучкі ізаглос; на аснове пучкоў ізаглос удакладнена групоўка гаворак Верхняга Над'ясельдзя (устаноўлена правамернасць вылучэння груп, выдзелены падгрупы ўнутры асобных груп); удакладнены межы паміж асобнымі групамі гаворак; вызначаны ў межах рэгіёна характар пераходнасці паміж гродзенска-баранавіцкімі гаворкамі і ўласна брэска-пінскімі гаворкамі; устаноўлены інавацыйныя цэнтры некаторых фанетычных з'яў.

***Крыніца інфармацыі:*** Босак, А.А. Дыферэнцыяцыя і арэальныя сувязі гаворак Верхняга Над'ясельдзя: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.А. Босак; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – 19 с.

## 36 БУГАЙ ТАТЬЯНА ПЕТРОВНА

***Тема:*** Экспликация семантических свойств имен персонажей в художественных текстах.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – общее языкознание, социолингвистика, психолингвистика.

***Научный руководитель:*** Плотников Б.А., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 20.11.1998; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Гируцкий А.А., д.филол.н.; Трайковская В.Ф., к.филол.н.; МГЛУ.

***Цель:*** На материале художественных текстов исследовать предикативные конструкции с именами собственными.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 91 с., основной текст занимает 80 с. Список использованной литературы – 137 источников.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Обзор литературы по теме исследования: имя собственное в языке и художественном тексте; учение о словосочетаниях и место предикативных конструкций среди них. 2. Семантические

особенности глагольной лексики: о классификации глаголов в науке и языке; тематические группы глаголов, выражающие в сочетании с именами персонажей обобщенные семантические признаки. 3. Квантитативная характеристика сочетаемости имен в художественном тексте: результаты количественного анализа тематических групп глаголов, эксплицирующих семантические свойства имен в художественных текстах; коррелятивная связь семантики имен по данным их сочетаемости с глаголами в романе Ф.М. Достоевского «Братья Карамазовы»; коррелятивная связь семантики имен по данным их сочетаемости с глаголами в романе В. Короткевича «Колосья под серпом твоим»; коррелятивная связь семантики имен по данным их сочетаемости с глаголами в романе Г. Сенкевича «Крестоносцы». 4. Описание значений имен через их сочетаемость с глаголами в художественных текстах: семантические свойства, проявляемые именами в сочетаемости с глаголами речи, мысли, чувства; манифестация лексических значений имен в глаголах движения, контактирования, состояния и изменения состояния; глаголы, обозначающие биологические процессы, разрушение и созидание в сочетании с именами персонажей.

***Научное значение исследования:*** Описана индивидуальная семантика некоторых белорусских, русских и польских личных имен на основании учета их лексической сочетаемости, установлена степень коррелятивной связи между характерными свойствами личных имен в рассмотренных произведениях.

***Источник информации:*** Бугай, Т.П. Экспликация семантических свойств имен персонажей в художественных текстах: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / Т.П. Бугай; БГУ. – Минск, 1998. – 18 с.

## 37 БУГЛАК ЖАННА МАР'ЯНАЎНА

***Тэма:*** Найменні стравы і пітва ў гаворках Гродзеншчыны: фармальная і семантычная структура, паходжанне.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.03.2003; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Антанюк Л.А., д.філал.н.; Парукаў А.А., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Аналіз сістэмы найменняў стравы і пітва ў гаворках Гродзеншчыны.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 122 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 147 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Агульныя найменні стравы: назвы стравы паводле часу ці пэўнай нагоды спажывання; экспрэсіўныя назвы стравы з абагульненым значэннем. 2. Найменні стравы расліннага паходжання: назвы рэдкіх страў; назвы мучных і крупяных страў; назвы печыва; назвы

страў з агародніны; назвы страў з бульбы. 3. Найменні стравы жывёльнага паходжання: назвы малочных страў; назвы страў з яек; назвы вырабаў з мяса. 4. Найменні пітва: назвы неспіртных напіткаў; назвы спіртных напіткаў.

У дысертацыі 1 дадатак (9 с.) – індэкс выкарыстаных найменняў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Прааналізавана сістэма найменняў стравы і пітва ў гаворках Гродзеншчыны; ахарактарызавана семантычная арганізацыя найменняў стравы і пітва, вызначаны рода-відавыя і сінанімічныя адносіны паміж імі; даследавана словаўтваральная арганізацыя субстантываў са значэннем ежы, асноўныя спосабы ўтварэння і дэрывацыйныя тыпы; высветлена ступень фіксацыі найменняў у сучаснай літаратурнай мове і іх дачыненні да лексічнай сістэмы беларускіх гаворак; вызначаны прынцыпы намінацыі слоў, часткова разгледжана паходжанне назоўнікаў так званай непразрыстай структуры; прапанавана інтэрпрэтацыя семантыкі і сімволікі лексем, якія абазначаюць абрадавыя стравы.

***Крыніца інфармацыі:*** Буглак, Ж.М. Найменні стравы і пітва ў гаворках Гродзеншчыны: фармальная і семантычная структура, паходжанне: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ж.М. Буглак; ГДУ. – Гомель, 2003. – 19 с.

## 38 БУДЗЬКО ІРЫНА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Рэлігійная лексіка старабеларускай мовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.06.1999; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Яновіч А.І., д.філал.н.; Мордас Н.Р., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Максімальна поўная характарыстыка рэлігійнай лексікі старабеларускай мовы, аналіз яе спецыфікі і асаблівасцей.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 405 с., асноўны тэкст займае 109 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 193 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Назвы асоб у адносінах да рэлігіі: агульныя заўвагі; назвы чыноў нябеснай іерархіі; назвы прадстаўнікоў царкоўнага кіраўніцтва, align рознага роду святароў, прыслужнікаў; назвы манахаў, членаў манаскіх ордэнаў; назвы прарокаў, праведнікаў, шматпакутнікаў, знаўцаў Свяшчэннага пісання; назвы асоб у залежнасці ад прыналежнасці да розных плыней веравызнання; назвы ерэтыкоў, грэшнікаў, богаадступнікаў, сектантаў, варажбітоў, чарадзеяў. 2. Назвы рэлігійных кніг і культавых збудаванняў, царкоўнага адзення і прадметаў набажэнства, рэлігійных пасад і відаў царкоўных службаў, малітваў і статутаў, царкоўных падаткаў і аб'яднанняў, рэлігійных свят і перыядаў посту: аб сістэмнасці рэлігійнай лексікі; назвы рэлігійных кніг і іх частак; назвы культавых збудаванняў і іх частак; назвы царкоўнага адзення і галаўных убораў;

назвы выяў хрысціянскіх і язычаскіх багоў, ідалаў, ікон, абразоў, а таксама прыстасаванняў для іх захавання і прадстаўлення; назвы царкоўных прылад, прыбораў, прадметаў набажэнства, культавага рэквізіту; назвы царкоўных пасад і тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак; назвы відаў царкоўных служб; назвы запаведзей, малітваў, пропаведзяў, казанняў і іх частак; назвы царкоўных статутаў, правіл, дакументаў; назвы аб'яднанняў служыцелей рэлігійнага культу, царкоўных з'ездаў і судоў; назвы царкоўных падаткаў, ганарараў і відаў грашовых збораў; назвы рэлігійных свят; назвы перыядаў посту. 3. Абстрактная рэлігійная лексіка: семантычная і граматычная характарыстыка рэлігійных абстрэм; назвы рэлігійных паняццяў; абрадавая рэлігійная лексіка; лексіка, якая адлюстроўвае сферу адступніцтва, ерэтыцтва, варажбы, чараўніцтва; назвы напрамкаў веравызнання; абазначэнне прасторавых паняццяў у сувязі з рэлігійнымі ўяўленнямі.

У дысертацыі 2 дадаткі (277 с.): «Рэлігійны слоўнік старабеларускай мовы» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны этымалагічнай інфармацыі, зоны пашпартызацыі), «Тэкставыя ілюстрацыі» (да асобных лексем, якія не ўвайшлі ў асноўны тэкст).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Тэматычна вывучаны рэлігійны пласт лексікі старабеларускай мовы; змешчаны найбольш поўны пералік лексем, фразеалагічных зваротаў і ўстойлівых словазлучэнняў з рэлігійнай семантыкай; удакладнена семантыка і этымалогія некаторых лексем; даследавана ступень тэрміналагізацыі слоў, працэсы лексікалізацыі шэрагу граматычных формаў; прааналізаваны агульнаўжывальныя лексемы, другаснае значэнне якіх належыць да канфесійнай сферы.

***Крыніца інфармацыі:*** Будзько, І.У. Рэлігійная лексіка старабеларускай мовы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / І.У. Будзько; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 1999. – 20 с.

## 39 БУНЦЕВИЧ ЛЮДМИЛА МИХАЙЛОВНА

***Тема:*** Образования с праславянским префиксом **bez*- в русском и белорусском языках.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Груцо А.П., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГПУ, кафедра теории и истории языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 02.11.2001; К 02.21.01, БГПУ.

***Оппоненты:*** Пригодич Н.Г., д.филол.н.; Гвоздович Г.А., к.филол.н.; МозГПИ.

***Цель:*** Синхронно-диахроническое описание и анализ слов с *без*- с точки зрения их семантики, словообразовательной структуры и происхождения.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 131 с., основной текст занимает 100 с. Список использованной литературы – 176 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Имена прилагательные с префиксом *без-*: префиксально-суффиксальные имена прилагательные; префиксальные имена прилагательные; полимотивированные имена прилагательные; суффиксальные имена прилагательные. 2. Имена существительные с префиксом *без-*: полимотивированные имена существительные; суффиксальные имена существительные; имена существительные с *без-...-н(о), без-...-ниц(и), без-...-ест-, без-...-от(а), без-...-ын(и), без-...-ин(я), без-...-л(о), без-...-юх(а), без-...-j(ь), без-...-ц-*. 3. Наречия с префиксом *без-*: префиксально-суффиксальные наречия; суффиксальные наречия; префиксальные наречия с начальным *без-*; наречия-сращения с *без-...-а, без-...-у (без-...-и)*. 4. Глаголы с префиксом *без-*: префиксально-суффиксальные глаголы, мотивированные именами существительными; суффиксальные глаголы; префиксальные глаголы; префиксально-постфиксальные глаголы; префиксально-суффиксально-постфиксальные глаголы.

***Научное значение исследования:*** Исследованы структурно-семантические особенности и степень продуктивности дериватов с общим формальным компонентом *без-* в истории близкородственных языков; выявлена мотивационная база исследуемых словообразовательных типов, проведен сопоставительный анализ и обозначена направленность их развития в русском и белорусском языках; установлено, что эволюция деривационных типов с компонентом *без-* идет по пути сокращения их числа.

***Источник информации:*** Бунцевич, Л.М. Образования с праславянским префиксом **bez-* в русском и белорусском языках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Л.М. Бунцевич; БГПУ. – Минск, 2001. – 20 с.

## 40 БУНЬКО НАТАЛЛЯ МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Лінгвагеаграфічная дыферэнцыяцыя і паходжанне энтамалагічных назваў у беларускіх народных гаворках.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Кунцэвіч Л.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.02.2005; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Даніловіч М.А., д.філал.н.; Антропаў М.П., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Даследаванне энтамалагічных найменняў у гаворках беларускай мовы з пункту гледжання іх пашырэння і паходжання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 150 с., асноўны тэкст займае 105 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 215 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 10 раздзелах. 1. Жукі, ці цвёрдакрылыя: жук, божая кароўка, гнаявік, жук-алень, каларадскі жук, караед, плывунец, святляк, хрушч. 2. Перапончатакрылыя: аса, мурашка, пчала, чмель, шэршань. 3. Двухкрылыя: авадзень, здрок, камар, мошка, муха, сляпень. 4. Прастакрылыя: конік, мядзведка, саранча, цвыркун. 5. Стракозы. 6. Клапы, ці паўцвёрдакрылыя: клоп, лясны клоп. 7. Матылі, ці лускакрылыя: матыль, моль. 8. Тараканы, ці тараканавыя: таракан, прусак. 9. Вошы. 10. Блохі.

У дысертацыі 2 дадаткі (32 с.): індэкс адзінак, прааналізаваных у асноўным тэксце, карты (21), на якіх паказана тэрыторыя пашырэння назваў насякомых, не ўключаных у матэрыялы першага тома «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена лінгвагеаграфічнае апісанне дыялектных найменняў насякомых, адзначаны асаблівасці іх пашырэння ў гаворках беларускай мовы; пададзены лексічныя карты, на якіх паказаны асаблівасці пашырэння тых энтамалагічных намінацый, што не ўключаны ў матэрыялы першага тома «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак»; з улікам дадзеных лінгвістычных даведнікаў даследавана паходжанне лексем-энтамонаў, якія сустракаюцца ў гаворках беларускай мовы, прыведзены семантычна тоесныя іншамоўныя энтамалагічныя назвы, а таксама канстатавана наяўнасць адпаведных найменняў у іншых славянскіх і неславянскіх (у першую чаргу суседніх) мовах і іх гаворках.

***Крыніца інфармацыі:*** Бунько, Н.М. Лінгвагеаграфічная дыферэнцыяцыя і паходжанне энтамалагічных назваў у беларускіх народных гаворках: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.М. Бунько; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2005. – 20 с.

## 41 БУРАКОВА МАРЫНА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Юрыдычная тэрміналогія ў беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Станкевіч А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.02.2004; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Антанюк Л.А., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Аналіз лексіка-семантычнай і словаўтваральнай структуры юрыдычнай тэрмінасістэмы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 163 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 146 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Лексіка-семантычная характарыстыка юрыдычных тэрмінаў у беларускай мове: да паняццяў *тэрмін*, *тэрміналогія*; віды юрыдычных тэрмінаў; сістэмнасць юрыдычнай тэрміналогіі; рода-відавыя адносіны паміж юрыдычнымі тэрмінамі; полісемія юрыдычных

тэрмінаў; сінанімія юрыдычных тэрмінаў. 2. Словаўтваральная структура беларускіх юрыдычных тэрмінаў: сінтаксічны спосаб утварэння юрыдычных тэрмінаў; семантычны спосаб утварэння юрыдычных тэрмінаў; марфалагічны спосаб утварэння юрыдычных тэрмінаў; марфолага-сінтаксічны спосаб утварэння юрыдычных тэрмінаў; абрэвіяцыя як спосаб утварэння юрыдычных тэрмінаў.

У дысертацыі 1 дадатак (43 с.) – «Слоўнік юрыдычных тэрмінаў» (слоўнікавы артыкул складаецца толькі з рэестравага слова).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна вывучана і апісана беларуская юрыдычная тэрмінасістэма з улікам яе структуры і семантыкі; ахарактарызаваны лексічны склад, выяўлены семантычныя сувязі ўнутры розных тэматычных груп, даследаваны спосабы словаўтварэння юрыдычных тэрмінаў; выяўлены асноўныя спосабы намінацыі, характэрныя для юрыдычных паняццяў і працэсаў, прааналізавана асваенне беларускай мовай іншамоўных юрыдычных тэрмінаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Буракова, М.У. Юрыдычная тэрміналогія ў беларускай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / М.У. Буракова; ГДУ. – Гомель, 2004. – 20 с.

## 42 БУТ-ГУСАІМ СВЯТЛАНА ФЕАДОСЬЕЎНА

***Тэма:*** Варыятыўнасць і прагматычная значнасць слова ў беларускай мове (на матэрыяле субстантыўнай лексікі).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сянкевіч В.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БрДУ, кафедра беларускай і рускай моў з методыкай выкладання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.02.2003; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Шаблоўскі А.І., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Вызначэнне прыроды і заканамернасцей лексічнага вар'іравання субстантыўнай лексікі сучаснай беларускай мовы ў сувязі з прагматыкай маўлення.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 115 с., асноўны тэкст займае 99 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 228 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Функцыя іменавання (прагматычная значнасць і варыятыўнасць субстантыўнай лексікі беларускай мовы): перадумовы даследавання; асабістая значнасць і варыятыўнасць сродкаў рэферэнцыі; сацыяльная значнасць і варыятыўнасць дэнататыўных сродкаў. 2. Функцыя характарыстыкі (катэгорыя ацэнкі і варыятыўнасць субстантыўнай лексікі ў беларускай мове): перадумовы даследавання; прынцып падабенства (экспрэсіўнасць і варыятыўнасць характарыстычных адзінак); прынцып адпаведнасці і варыятыўнасць субстантыўных адзінак.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана лексічная варыятыўнасць у сувязі з прагматыкай маўлення; сістэматызаваны і апісаны факты вар'іравання

плана выражэння і плана зместу субстантыўнай лексікі ў сучаснай беларускай мове; прааналізаваны механізмы вар'іравання субстантыўнай лексікі, ужытай у функцыі іменавання, у суаднесенасці з граматычнай катэгорыяй значнасці; вызначаны заканамернасці вар'іравання субстантыўнай лексікі, ужытай у функцыі характарыстыкі, у адносінах да прагматычнай катэгорыі ацэнкі (эмацыянальнай і рацыянальна-нарматыўнай); апісаны звязаныя з лексіка-прагматычнай варыятыўнасцю субстантыўнай лексікі працэсы суб'ектна-прэдыкатнай транспазіцыі.

***Крыніца інфармацыі:*** Бут-Гусаім, С.Ф. Варыятыўнасць і прагматычная значнасць слова ў беларускай мове (на матэрыяле субстантыўнай лексікі): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.Ф. Бут-Гусаім; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 21 с.

## 43 БУШЛЯКОЎ ЮРЫЙ СЯМЁНАВІЧ

***Тэма:*** Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шкраба І.Р., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.03.2003; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Антанюк Л.А., д.філал.н.; Круталевіч М.М., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Раскрыць сутнасць моватворчай канцэпцыі Янкі Станкевіча і прааналізаваць прыдатнасць Станкевічавых моўных устанаўленняў у працэсе далейшай стабілізацыі беларускай літаратурнай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 127 с., асноўны тэкст займае 109 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 279 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Практыка моўнага пурызму. Беларускі кантэкст: пурыстычныя тэндэнцыі ў моватворчасці; нармалізацыя беларускай літаратурнай мовы новага часу (прадпісальныя практыкі). 2. Янка Станкевіч як прадстаўнік беларускага моўнага пурызму: Янка Станкевіч (аспекты дзейнасці); мова Янкі Станкевіча (фіксацыя асаблівасцей); варыянт беларускай літаратурнай мовы (фактары ўзнікнення); Янка Станкевіч і яго моватворчасць у ацэнках сучаснікаў і наступнікаў. 3. Беларуская літаратурная мова (патэнцыял нармалізацыі): фанетыка, арфаэпія, правапіс; словаўтварэнне; формаўтварэнне.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны асноўныя параметры пурыстычнага падыходу ў працэсе нармалізацыі мовы; прааналізаваны так званыя прадпісальныя практыкі ў прасторы беларускай літаратурнай мовы новага часу; вызначана месца спадчыны Янкі Станкевіча ў гісторыі айчыннага мовазнаўства, раскрыта сутнасць яго мовазнаўчай канцэпцыі; сістэматызаваны актуалізаваныя вучоным элементы беларускай моўнай прасторы; выяўлены і прааналізаваны

праблемныя правапісныя, слова- і формаўтваральныя факты сучаснай беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Бушлякоў, Ю.С. Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю.С. Бушлякоў; БДУ. – Мінск, 2003. – 20 с.

## 44 ВАЖНІК СЯРГЕЙ АЛЯКСАНДРАВІЧ

***Тэма:*** Дыстрыбуцыйныя ўласцівасці дзеяслоўнага прэдыката ў беларускай і польскай мовах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.03 – славянскія мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Кіклевіч А.К., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 22.11.2002; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Канюшкевіч М.І., д.філал.н.; Гюлумянц К.М., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Выявіць спецыфіку ў сінтаксічным акружэнні частотных беларускіх і польскіх дзеяслоўных прэдыкатаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 198 с., асноўны тэкст займае 109 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 505 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Тэарэтыка-метадалагічныя перадумовы даследавання: тэарэтыка-метадалагічныя прынцыпы супастаўлення сінтаксічных сістэм беларускай і польскай моў (да пытання методыкі правядзення кантрастыўнага аналізу сінтаксічных адзінак); беларуская і польская сінтаксічныя навукі (традыцыі і актуальны стан); дзеяслоўны прэдыкат у сучаснай лінгвістыцы (шляхі вывучэння і прынцыпы аналізу). 2. Дыстрыбуцыйныя ўласцівасці дзеяслоўнага прэдыката: спецыфіка апісання дыстрыбуцыі дзеяслоўнага прэдыката; дзеяслоўная дыстрыбуцыйная мадэль (агульная характарыстыка). 3. Спецыфіка дыстрыбуцыйных уласцівасцей беларускіх і польскіх дзеяслоўных прэдыкатаў: тыпалогія сінтаксічных адрозненняў на ўзроўні дзеяслоўных дыстрыбуцыйных мадэлей (кантрастыўная тыпалогія дзеяслоўных дыстрыбуцыйных мадэлей); дыстрыбуцыйныя ўласцівасці беларускіх і польскіх прэдыкатаў у аблігаторных пазіцыях; дыстрыбуцыйныя ўласцівасці беларускіх і польскіх прэдыкатаў у факультатыўных пазіцыях; дыстрыбуцыйныя ўласцівасці беларускіх і польскіх транзітыўных дзеясловаў; сінтактыка-тыпалагічныя рысы польскай і беларускай моў.

У дысертацыі 3 дадаткі (56 с.): «Паняцце субкатэгарызацыі спалучальнасных абмежаванняў дзеясловаў. Субкатэгарыяльныя дыстрыбуцыйныя абмежаванні дзеяслоўных прэдыкатаў», «Дыстрыбуцыйныя ўласцівасці беларускіх і польскіх

прэдыкатаў у аблігаторных пазіцыях», «Дыстрыбуцыйныя ўласцівасці беларускіх і польскіх прэдыкатаў у факультатыўных пазіцыях».

***Навуковае значэнне даследавання:*** У супастаўляльным плане даследаваны фрагмент сінтаксічных сістэм сучасных беларускай і польскай моў, у прыватнасці, – дыстрыбуцыйных уласцівасцей беларускіх і польскіх дзеяслоўных прэдыкатаў; на аснове ўліку дыстрыбуцыйных уласцівасцей дзеяслоўных прэдыкатаў вызначаны істотныя сінтактыка-тыпалагічныя рысы беларускай і польскай моў; распрацаваны тэарэтыка-метадалагічныя асновы тэарэтычнай мадэлі супастаўлення (дзеяслоўнай дыстрыбуцыйнай мадэлі), рэлевантнай для правядзення кантрастыўнага аналізу дыстрыбуцыйных уласцівасцей дзеяслоўных прэдыкатаў; распрацавана і рэалізавана на практыцы комплексная сінтагматычная класіфікацыя дзеясловаў; вызначаны параметры сінтаксічнай эквівалентнасці на ўзроўні дзеяслоўных мадэлей; пабудавана кантрастыўная тыпалогія дзеяслоўных мадэлей, вызначаны асноўныя кантрастыўныя дыстрыбуцыйныя тыпы беларускіх і польскіх дзеясловаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Важнік, С.А. Дыстрыбуцыйныя ўласцівасці дзеяслоўнага прэдыката ў беларускай і польскай мовах: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.03 / С.А. Важнік; БДУ. – Мінск, 2002. – 23 с.

## 45 ВАЛАСЕНКА АЛЕНА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Вытворча-прамысловыя тапанімічныя назвы Беларусі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шур В.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.12.2003; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Капылоў І.Л., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Правесці комплексны аналіз вытворча-прамысловых тапонімаў Беларусі на лексіка-семантычным і структурна-словаўтваральным узроўнях, паказаць узаемасувязь і ўзаемаўплыў грамадска-гістарычных, сацыяльна-лінгвістычных фактараў на фарміраванне і станаўленне названых тапонімаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 121 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 165 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лексіка-семантычная характарыстыка вытворча-прамысловых тапонімаў: тапонімы, суадносныя з назвамі месцаў металаапрацоўкі і асоб, якія займаліся металаапрацоўкай; тапонімы, суадносныя з назвамі месцаў лесахімічных промыслаў і назвамі асоб, якія займаліся гэтымі промысламі; тапонімы, суадносныя з назвамі месцаў дрэваапрацоўкі і назвамі асоб, якія займаліся дрэваапрацоўкай; тапонімы, суадносныя з назвамі месцаў мінералагічнага рамяства і назвамі асоб, якія займаліся гэтым рамяством;

тапонімы, суадносныя з назвамі асоб, якія займаліся апрацоўкай скуры; тапонімы, суадносныя з назвамі месцаў спажывецкага промыслу і назвамі асоб, якія займаліся гэтым промыслам; тапонімы, суадносныя з назвамі месцаў бортнага промыслу і назвамі асоб, якія займаліся гэтым промыслам. 2. Структурна-словаўтваральная характарыстыка вытворча-прамысловых тапонімаў: простыя тапонімы; складаныя тапонімы; састаўныя тапонімы; генітыўныя тапонімы; прыназоўнікава-іменныя канструкцыі. 3. Вытворча-прамысловыя тапонімы савецкага перыяду: перайменаванні вытворча-прамысловых тапонімаў савецкага перыяду і знікненне асобных назваў населеных пунктаў; новыя вытворча-прамысловыя тапанімічныя найменні.

У дысертацыі 1 дадатак (8 с.) – «Вытворча-прамысловыя тапонімы Беларусі (якія былі перайменаваны ў савецкі час ці зніклі)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучаны лексіка-семантычныя і структурна-граматычныя тыпы ўтваральных асноў з улікам іх прадуктыўнасці і лакалізацыі; выяўлены фактары, якія абумовілі з’яўленне і функцыянаванне вытворча-прамысловых тапонімаў; даследавана сутнасць і спецыфіка перайменаванняў і ўтварэння новых вытворча-прамысловых тапонімаў у савецкі перыяд.

***Крыніца інфармацыі:*** Валасенка, А.А. Вытворча-прамысловыя тапанімічныя назвы Беларусі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.А. Валасенка; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 19 с.

## 46 ВАЛАТОЎСКАЯ НІНА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Прадметная лексіка блізкароднасных моў: семантычная арганізацыя (на матэрыяле назваў страў у беларускіх і ўкраінскіх дыялектах).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.03 – славянскія мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Рудэнка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.12.2009; Д 02.01.24, БДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Супрун-Бялевіч Л.Р., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Выявіць заканамернасці семантычнай арганізацыі дыялектных назваў страў беларускай і ўкраінскай моў.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 360 с., асноўны тэкст займае 140 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 269 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Асноўныя праблемы вывучэння дыялектнай прадметнай лексікі: дыялектныя асаблівасці беларускай і ўкраінскай моў; асноўныя паняцці этналінгвістыкі; дыялектныя назвы страў беларускай і ўкраінскай моў у этналінгвістычным аспекце; методыка даследавання дыялектных назваў страў беларускай і ўкраінскай моў; праблемы тыпалогіі дыя-

лектных назваў страў. 2. Назвы страў у беларускіх і ўкраінскіх дыялектах: агульныя назвы страў; назвы густых страў; назвы рэдкіх (негустых) страў.

У дысертацыі 4 дадаткі, якія аформлены асобнай кнігай (199 с.): «Групы дыялектных назваў страў беларускай мовы», «Групы дыялектных назваў страў украінскай мовы», «Дыялектныя назвы страў беларускай мовы», «Дыялектныя назвы страў украінскай мовы» (два апошнія – у форме слоўніка; поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі, зоны функцыянальна-стылістычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны этымалагічнай інфармацыі, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Распрацавана комплексная класіфікацыя дыялектных назваў страў беларускай і ўкраінскай моў; выяўлены выпадкі міжмоўных супадзенняў і міжмоўнай (беларуска-ўкраінскай) полісеміі і аманіміі; вызначаны тыповыя мадэлі семантычнай арганізацыі полісемантаў, якія называюць стравы, у беларускіх і ўкраінскіх дыялектах; вызначаны тыповыя спосабы матывацыі найменняў страў у дыялектах беларускай і ўкраінскай моў; выяўлены суадносіны дыялектных назваў страў, якія выкарыстоўваюцца ў сямейнай і каляндарнай абраднасці беларусаў і ўкраінцаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Валатоўская, Н.А. Прадметная лексіка блізкароднасных моў: семантычная арганізацыя (на матэрыяле назваў страў у беларускіх і ўкраінскіх дыялектах): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.03 / Н.А. Валатоўская; БДУ. – Мінск, 2009. – 23 с.

## 47 ВАЛОЧКА ГАННА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Лінгваметадычная сістэма развіцця звязнага маўлення школьнікаў пры навучанні беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Навуковы кансультант:*** Мурына Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя моўнай адукацыі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.05.2008; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Нікалаенка Г.І., д.пед.н.; Шур В.В., д.філал.н.; Казімірская І.І., д.пед.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Тэарэтычнае абгрунтаванне і распрацоўка лінгваметадычнай сістэмы развіцця звязнага маўлення школьнікаў пры навучанні беларускай мове (5 – 10 класы) на аснове інтэграцыі трох кампанентаў «мова – маўленне – тэкст», практычная рэалізацыя прапанаванай сістэмы ў школах з беларускай мовай навучання.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 254 с., асноўны тэкст займае 205 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 308 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Тэарэтычныя асновы развіцця звязнага маўлення. 1.1. Развіццё звязнага маўлення з пазіцый тэорыі маўленчай дзейнасці. 1.2. Асноўныя лінгвістычныя і маўленчыя паняцці як тэарэтычная аснова развіцця звязнага маўлення. 1.2.1. Тэкст як прадукт маўленчай дзейнасці. 1.2.2. Функцыянальна-сэнсавыя тыпы маўлення. 1.2.3. Функцыянальныя стылі маўлення. 1.2.4. Жанры маўлення. 1.3. Прынцыпы маўленчага развіцця. 2. Метадычныя аспекты развіцця звязнага маўлення. 2.1. Асноўныя кампаненты метадычнай сістэмы развіцця звязнага маўлення вучняў. 2.2. Сучасныя падыходы да навучання мове і развіцця маўлення. 2.3. Прынцыпы адбору моўнага і маўленчага зместу. 2.4. Змест навучання звязнаму маўленню. 2.5. Тыпалогія практыкаванняў. 3. Зыходны ўзровень падрыхтаванасці вучняў 5 – 9 класаў да стварэння ўласных тэкстаў. 3.1. Узровень засваення маўленчых паняццяў. 3.2. Узровень сфарміраванасці ўменняў пераказваць тэксты. 3.3. Узровень сфарміраванасці ўменняў перакладаць тэксты з рускай мовы на беларускую. 3.4. Узровень сфарміраванасці ўменняў ствараць тэксты розных тыпаў, стыляў і жанраў. 4. Развіццё звязнага маўлення вучняў на ўроках беларускай мовы (5 – 10 класы): навучальны эксперымент. 4.1. Методыка навучання пераказу. 4.2. Методыка навучання перакладу. 4.3. Комплексная методыка навучання сачыненням. 4.4. Вынікі эксперыментальнага навучання.

У дысертацыі 9 дадаткаў (8 с.): «Стылі маўлення», «Метадычная сістэма развіцця звязнага маўлення школьнікаў», «Тэкст для падрабязнага пераказу (7 клас)», «Прыклады тыповых недахопаў пры пераказе тэксту», «Тэкст публіцыстычнага стылю (з элементамі апісання) для перакладу з рускай мовы на беларускую (9 клас)», «Прыклады тыповых недахопаў пры перакладзе тэксту», «Прыклады тыповых недахопаў пры напісанні сачынення-апісання», «Прыклады тыповых недахопаў пры напісанні сачынення-разважання», «Тэкст для падрабязнага, выбарачнага і сціслага пераказу (8 клас)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Тэарэтычна абгрунтавана і распрацавана канцэпцыя маўленчага развіцця школьнікаў пры навучанні беларускай мове, заснаваная на інтэграцыі ў навучанні трох кампанентаў «мова – маўленне – тэкст». Тэарэтычна абгрунтавана неабходнасць увядзення ў практыку навучання беларускай мове моўнай, маўленчай, камунікатыўнай, лінгвакультуралагічнай кампетэнцый, якія выяўлены на падставе сістэмна-функцыянальнага, камунікатыўна-дзейнаснага і лінгвакультуралагічнага падыходаў, што знайшло адлюстраванне ў адукацыйных стандартах, вучэбных праграмах па беларускай мове. Распрацавана, эксперыментальна праверана і рэалізавана ў практыку навучання беларускай мове лінгваметадычная сістэма развіцця звязнага маўлення вучняў. Створана методыка навучання вучняў звязнаму маўленню, якая заснавана на функцыянальных моўных рэзервах і вядучых маўленчых паняццях, рэалізуе ўзаемазвязанае навучанне пераказам, перакладам, сачыненням і ўключае паэтапную працу па развіцці звязнага маўлення: а) назіранне над функцыянаваннем моўных сродкаў

у тэкстах рознай жанрава-стылістычнай прыналежнасці, б) практычнае авалоданне маўленчымі паняццямі ў працэсе аналізу і стварэння тэкстаў; в) фарміраванне ўменняў ствараць уласныя тэксты з улікам тыпу, стылю і жанру маўлення на аснове вучэбнай дзейнасці аналітычнага, аналітыка-сінтэтычнага, рэпрадуктыўнага і прадуктыўнага характару.

***Крыніца інфармацыі:*** Валочка, Г.М. Лінгваметадычная сістэма развіцця звязнага маўлення школьнікаў пры навучанні беларускай мове: аўтарэф. дыс. … д-ра пед. навук: 13.00.02 / Г.М. Валочка; БДУ. – Мінск, 2008. – 48 с.; Валочка, Г.М. Тэарэтыка-метадычныя асновы развіцця звязнага маўлення вучняў на ўроках беларускай мовы: 5 – 10 класы / Г.М. Валочка. – Мінск: НІА, 2005. – 205 с.

## 48 ВАРАНОВІЧ ВАЛЕРЫЙ ЛЕАНІДАВІЧ

***Тэма:*** Асабовыя назоўнікі-наватворы ў беларускай мове (словаўтваральная структура і дачыненні да сістэмы літаратурнай мовы).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.12.2000; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Антанюк Л.А., д.філал.н.; Блінава Э.Д., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Аналіз новаўтворанай асабовай субстантыўнай лексікі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 113 с., асноўны тэкст займае 105 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 131 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Словаўтварэнне асабовых назоўнікаў як прадмет даследавання: распрацоўка пытанняў словаўтварэння асабовых назоўнікаў у беларускім мовазнаўстве; крыніцы і метады даследавання новаўтворанай агентыўнай лексікі. 2. Словаўтварэнне назваў асобы мужчынскага полу: аддзеяслоўныя маскулінатывы; адсубстантыўныя маскулінатывы; адпрыметнікавыя і аддзеепрыметнікавыя маскулінатывы; дачыненні паміж наватворамі і іх семантычнымі адпаведнікамі, утворанымі з дапамогаю інакшых суфіксаў. 3. Словаўтварэнне назваў асобы жаночага полу: праблема словаўтваральнай структуры назваў асобы жаночага полу; характарыстыка фемінінатываў-наватвораў паводле ўтваральнай асновы; спалучальнасць утваральных асноў і фармантаў фемінінатываў-наватвораў. 4. Рэалізацыя родавай карэляцыі асабовых назоўнікаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены сістэмны аналіз новаўтворанай агентыўнай лексікі на прадмет дастасаванасці яе да дэрывацыйнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы; вызначана дыстрыбуцыя інтэрфіксавых і безынтэрфіксавых фармантаў на базе суфікса *-нік-* у дачыненні да дзеяслоўных асноў розных марфалагічных класаў; прапанавана арыгінальная інтэрпрэтацыя словаўтваральнай структуры вялікай групы фемінінатываў.

***Крыніца інфармацыі:*** Варановіч, В.Л. Асабовыя назоўнікі-наватворы ў беларускай мове (словаўтваральная структура і дачыненні да сістэмы літаратурнай мовы): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.Л. Варановіч; ГрДУ. – Мінск, 2000. – 20 с.

## 49 ВАСІЛЕЎСКАЯ АЛЕНА СТАНІСЛАВАЎНА

***Тэма:*** Функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне лексічных вобразных сродкаў у мастацкай прозе.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Гаўрош Н.В., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.12.2000; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Выгонная Л.Ц., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Выявіць і прааналізаваць функцыі індывідуальна-аўтарскіх лексічных вобразных сродкаў у кантэксце.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 125 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 207 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Вобразнае слова як элемент моўнай сістэмы мастацкага твора. 2. Функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне метафар: метафары ў мікракантэксце; метафары ў макракантэксце. 3. Функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне эпітэтаў: агульнамоўныя эпітэты; ідывідуальна-аўтарскія эпітэты.

У дысертацыі 2 дадаткі (9 с.): «Індэкс метафар», «Індэкс эпітэтаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены і прааналізаваны функцыі вобразных сродкаў – метафар і эпітэтаў – у мікра- і макракантэксце; даследавана ўжыванне прыслоўных метафар у мастацкай прозе; зроблена спроба прасачыць праяўленне эстэтычнай функцыі мовы мастацкага твора праз індывідуальна-аўтарскае ўжыванне лексічных вобразных сродкаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Васілеўская, А.С. Функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне лексічных вобразных сродкаў у мастацкай прозе: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.С. Васілеўская; БДПУ. – Мінск, 2000. – 19 с.

## 50 ВАСЮКОВІЧ ЛЮДМІЛА СЯРГЕЕЎНА

***Тэма:*** Лінгваметадычная сістэма вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове: фарміраванне моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Навуковы кансультант:*** Протчанка В.У., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя гуманітарнай адукацыі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.03.2011; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Нікалаенка Г.І., д.пед.н.; Ляшчынская В.А., д.філал.н.; Казімірская І.І., д.пед.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Тэарэтычнае абгрунтаванне, эксперыментальная апрабацыя і практычная рэалізацыя лінгваметадычнай сістэмы вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове для X – XI класаў у кантэксце фарміравання моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 247 с., асноўны тэкст займае 207 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 410 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Эвалюцыя поглядаў на вучэбны тэкст школьнага падручніка па беларускай мове як лінгваметадычную адзінку. 1.1. Вучэбны тэкст падручнікаў 20-х гадоў XX ст. як кампанент комплекснай сістэмы навучання. 1.2. Вучэбны тэкст як матэрыял для назіранняў у рабочых кнігах па беларускай мове (30-я гады XX ст.). 1.3. Тэксты ў стабільных падручніках па мове (50-я гады XX ст.). 1.4. Тэксты вучэбных кніг на этапе пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі (60 – 80-я гады XX ст.). 1.5. Вучэбны тэкст сучасных падручнікаў як структурна-функцыянальнае адзінства. 2. Сістэмная арганізацыя вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове. 2.1. Тэкст у сферы вучэбнай камунікацыі. 2.2. Лінгваметадычны статус вучэбнага школьнага падручніка па беларускай мове. 2.3. Субтэксты (падтыпы) вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове. 2.3.1. Метатэкст у структуры школьнага падручніка па мове. 2.3.2. Інструментальна-практычныя вучэбныя тэксты. 2.3.3. Вучэбныя тэксты з паралінгвістычнымі кампанентамі. 3. Лінгваметадычная сістэма вучэбных тэкстаў падручнікаў па беларускай мове: змест, структура, функцыянальнае прызначэнне. 3.1. Змест і структура вучэбных тэкстаў у сучасных падручніках па беларускай мове для старшых класаў. 3.2. Сістэма тэкстаў падручнікаў як аснова фарміравання моўнай кампетэнцыі вучняў. 3.3. Сістэма тэкстаў падручнікаў як аснова фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў. 3.4 Узровень ведаў, сфарміраванасць вучэбна-моўных і тэкставых уменняў вучняў старшых класаў: вынікі канстатуючага эксперымента. 4. Метадычная сістэма фарміравання моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў X – XI (XII) класаў на аснове тэкстаў падручнікаў па беларускай мове. 4.1. Прынцыпы, змест і этапы эксперыментальнага навучання. 4.2. Навучанне лінгвістычнай тэрміналогіі як кампаненту моўнай кампетэнцыі. 4.3. Методыка навучання комплекснаму аналізу вучэбнага тэксту. 4.4. Навучанне стварэнню тэкстаў на базе вучэбных як кампаненту камунікатыўнай кампетэнцыі. 4.5. Вынікі вопытна-эксперыментальнай працы.

У дысертацыі 1 дадатак (5 с.).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены вядучыя тэндэнцыі і фактары ў працэсе эвалюцыі вучэбнага тэксту як лінгваметадычнай адзінкі ў кантэксце вывучэння беларускай мовы на розных этапах развіцця айчыннай школы (20-я, 30-я, 50-я, 60 – 80-я гады XX ст., сучасны перыяд). Тэарэтычна абгрунтавана спецыфіка вучэбнага тэксту як рэпрэзентанта лінгваметадычнай сістэмы школьных падручнікаў па беларускай мове. Распрацавана класіфікацыя вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове для X – XI класаў з улікам функцыянальна-структурных параметраў. Вызначаны і аргументаваны лінгваметадычныя перадумовы, напрамкі фарміравання моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў на аснове аналізу сістэмы тэкстаў падручнікаў і вынікаў канстатуючага эксперымента. Канкрэтызаваны структурныя кампаненты і лінгваметадычныя сродкі фарміравання моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый на аснове сістэмы вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове. Выяўлена эфектыўнасць методыкі фарміравання моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў X – XI (XII) класаў на аснове сістэмы тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове.

***Крыніца інфармацыі:*** Васюковіч, Л.С. Лінгваметадычная сістэма вучэбных тэкстаў школьных падручнікаў па беларускай мове: фарміраванне моўнай і камунікатыўнай кампетэнцый вучняў: аўтарэф. дыс. … д-ра пед. навук: 13.00.02 / Л.С. Васюковіч; БДУ. – Мінск, 2011. – 45 с.; Васюковіч, Л.С. Выкладанне беларускай мовы ў школе / Л.С. Васюковіч [і інш.]. – Мінск: Народная асвета, 1994. – 239 с.; Васюковіч, Л.С. Вучэбны тэкст у школьным падручніку па беларускай мове / Л.С. Васюковіч. – Мінск: НІА, 2004. – 268 с.; Васюковіч, Л.С. Методыка выкладання беларускай мовы: вучэб. дапам. / Л.С. Васюковіч [і інш.]. – Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2007. – 447 с.

## 51 ВЫГОННАЯ ЛІЛІЯ ЦІХАНАЎНА

***Тэма:*** Беларуская суперсегментная фанетыка.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ АН Беларусі, аддзел эксперыментальнай фанетыкі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 22.12.1992; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Багмут А.І., д.філал.н.; Касаткіна Р.Ф., д.філал.н.; [апаніруючая арганізацыя ў аўтарэфераце не ўказана].

***Мэта:*** Атрымаць дадзеныя, якія характарызуюць беларускую суперсегментную фанетыку ў цэлым.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 215 с., асноўны тэкст займае 214 с.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Інтанацыя. 1.1. Стан даследавання беларускай прасодыі. 1.2. Прасодыя і інтанацыя. 1.3. Функцыі інтанацыі.

1.4. Інтанацыя і граматычныя сродкі перадачы сэнсу выказвання. 1.5. Пытанні прасадычнай транскрыпцыі. 1.6. Асноўныя кампаненты інтанацыі (мелодыка, інтэнсіўнасць, працягласць – часавая структура, паўзы, тэмбральныя характарыстыкі, характар узаемасувязі прасадычных параметраў). 2. Націск. Адзінкі вуснага маўлення. 2.1. Фанетычнае слова (рытмічная структура). 2.2. Фанетычная характарыстыка слоўнага націску. 2.3. Тыпы фанетычнага слова ў беларускай мове. 2.4. Сінтагма. 2.5. Функцыі сінтагменнага члянення фразы. 2.6. Фанетычнае афармленне сінтагм, інтанацыйныя канструкцыі. 3. Арфаэпія. 3.1. Арфаэпія і інтанацыя. 3.2. Вымаўленне галосных гукаў. 3.3. Вымаўленне зычных гукаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна прадстаўлены з'явы беларускай суперсегментнай фанетыкі ў іх узаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці. Устаноўлена роля меладычнага, тэмпаральнага і дынамічнага інтанацыйнага параметраў у фарміраванні арыгінальнасці рытміка-меладычнай арганізацыі беларускага маўлення. Вызначаны мадэлі акцэнтна-рытмічнай і гукавой структуры фанетычнага слова, існуючыя ў літаратурнай мове, і тыя тэндэнцыі, якія пераважаюць пры арганізацыі слова. Вывучана прадуктыўнасць асноўных тыпаў спалучэнняў гукаў у межах фанетычнага слова. Вызначаны функцыі слоўнага націску і сегментнага члянення ў беларускай літаратурнай мове. Высветлены асаблівасці функцыянавання слоўнага націску ў фразе. Выяўлены асноўныя тыпы інтанацыйных канструкцый, якія выкарыстоўваюцца ў беларускім маўленні для перадачы тоесных у лексіка-граматычных адносінах сінтагмаў інфармацыі, не сумяшчальнай у адным маўленчым кантэксце. Вызначана роля інтанацыйных якасцей маўлення пры фарміраванні сучаснай беларускай арфаэпіі.

***Крыніцы інфармацыі:*** Выгонная, Л.Т. Белорусская суперсегментная фонетика: автореф. дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.02 / Л.Т. Выгонная; ИЯ АН Беларуси. – Минск, 1992. – 48 с.; Выгонная, Л.Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія / Л.Ц. Выгонная. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 215 с.

## 52 ГАДУЙКА ЛЮДМІЛА АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Словаўтваральныя гнёзды складанасуфіксальных назоўнікаў з дзеяслоўным кампанентам у беларускай і рускай мовах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лукашанец А.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ АН Беларусі, аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.12.1996; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Наркевіч А.І., д.філал.н.; Бяляеўская В.М., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Вывучэнне словаўтваральных гнёздаў складанасуфіксальных назоўнікаў з дзеяслоўным кампанентам у беларускай і рускай мовах.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 163 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 217 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Словаўтваральныя гнёзды складаных слоў як аб’ект супастаўляльнага апісання: агляд літаратуры; азначэнне паняцця *складанае слова* (спецыфіка складанага слова як выніку працэсу дэрывацыі); спецыфіка словаўтваральных гнёздаў складаных слоў. 2. Словаўтваральныя гнёзды складанасуфіксальных назоўнікаў з дзеяслоўным кампанентам у беларускай і рускай мовах: складанасуфіксальныя назоўнікі з дзеяслоўным кампанентам у беларускай (рускай) мове і іх адпаведнікі ў другой блізкароднаснай мове; структурна-семантычная характарыстыка складанасуфіксальных назоўнікаў з дзеяслоўным кампанентам у беларускай і рускай мовах; прагматычныя адносіны ў словаўтваральных гнёздах складаных назоўнікаў. 3. Структурна-тыпалагічная характарыстыка словаўтваральных гнёздаў з зыходнымі кампазітамі ў беларускай і рускай мовах: уводзіны; словаўтваральныя гнёзды з зыходнымі кампазітамі – найменнямі дзеяча; словаўтваральныя гнёзды з зыходнымі кампазітамі – найменнямі дзеяння (вынікаў дзеяння); словаўтваральныя гнёзды з зыходнымі кампазітамі – найменнямі месца; словаўтваральныя гнёзды з зыходнымі кампазітамі – найменнямі часу; заключэнне (спецыфіка падабенстваў і адрозненняў словаўтваральных гнёздаў з зыходнымі кампазітамі ў беларускай і рускай мовах).

У дысертацыі 2 дадаткі (33 с.): «Спіс словаўтваральных гнёздаў з зыходнымі складанасуфіксальнымі назоўнікамі з дзеяслоўным кампанентам у беларускай і рускай мовах», «Словаўтваральныя гнёзды з зыходнымі складанасуфіксальнымі назоўнікамі з дзеяслоўным кампанентам у беларускай мове».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Апісаны семантычныя групы і структурныя тыпы складанасуфіксальных назоўнікаў у беларускай і рускай мовах, праведзены супастаўляльны аналіз фармантаў; даследаваны парадыгматычныя адносіны ў словаўтваральных групах складанняў, вызначаны фактары, якія ўплываюць на ўзнікненне сінаніміі, антаніміі, аманіміі, полісеміі ў словаўтваральных групах; акрэслены склад словаўтваральных груп, якія ўзначальваюцца складанасуфіксальнымі назоўнікамі, у беларускай і рускай мовах; устаноўлена структура гнёздаў кампазітаў розных семантычных груп і яе характэрныя асаблівасці; апісаны матываваныя адзінкі ў словаўтваральных групах па параметрах: ступень дэрывацыі, словаўтваральная зона, матывавальная база, словаўтваральнае значэнне, словаўтваральны фармант; праведзены супастаўляльны аналіз словаўтваральных фармантаў і ўстаноўлены адпаведнасці паміж рознымі катэгорыямі дэрыватаў у беларускай і рускай мовах; выяўлены фактары, якія абумоўліваюць структурна-семантычную будову словаўтваральных гнёздаў; прапанавана супастаўляльная характарыстыка структурнай арганізацыі словаўтваральных гнёздаў і семантычных адносін паміж матываванымі словамі словаўтваральных гнёздаў кампазітаў у беларускай і рускай мовах.

***Крыніца інфармацыі:*** Гадуйка, Л.А. Словаўтваральныя гнёзды складана-суфіксальных назоўнікаў з дзеяслоўным кампанентам у беларускай і рускай мовах: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / Л.А. Гадуйка; ІМ АН Беларусі. – Мінск, 1996. – 19 с.

## 53 ГАЛУБЕНКА ІРЫНА ВЯЧАСЛАВАЎНА

***Тэма:*** Лексіка-стылістычная эквівалентнасць беларускіх перакладаў рускай прозы (на матэрыяле рускага савецкага апавядання).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Ляшук В.М., к.філал.н.; ***навуковы кансультант:*** Роўда І.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 12.03.2002; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Гіруцкі А.А., д.філал.н.; Махонь С.У., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Выявіць сутнасць, асаблівасці і асноўныя заканамернасці пры перакладзе літаратурна-мастацкіх тэкстаў малой формы з рускай мовы на беларускую з улікам зыходнай суаднесенасці моўных сродкаў арыгінала з тыпамі і тэматыкай рэпрэзентаванай мастацкай інфармацыі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 146 с., асноўны тэкст займае 99 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 212 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Фактары і пасылкі лексіка-стылістычнай эквівалентнасці пры перакладзе з рускай мовы на беларускую: літаратурна-мастацкі тэкст (зыходныя аспекты лексіка-стылістычнай эквівалентнасці); лексіка-стылістычная эквівалентнасць як лінгвістычная праблема; дынаміка беларуска-рускіх моўных кантактаў. 2. Спецыфіка і рэалізацыя лексіка-стылістычнай эквівалентнасці ў беларускіх перакладах рускіх апавяданняў: лексіка-стылістычныя асаблівасці літаратурна-мастацкага тэксту (руска-беларускія паралелі); стылістычны перанос і трансфармацыі ў дачыненні да лексіка-стылістычнай эквівалентнасці.

У дысертацыі 1 дадатак (27 с.) – табліцы з колькаснымі паказчыкамі трансфармацый (25 – па персаналіях, 2 – мадыфікацыі сумарнай табліцы).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана і апісана лексіка-стылістычная эквівалентнасць як кампанент перакладчыцкай эквівалентнасці, вызначаны ўмовы, найбольш прадуктыўныя шляхі (спосабы) яе дасягнення і напрамкі рэалізацыі; вылучаны і апісаны віды эквівалентаў у дачыненні да перакладаў літаратурна-мастацкіх тэкстаў з рускай мовы на беларускую; прааналізаваны сутнасныя заканамернасці зрухаў пры перакладзе з рускай мовы на беларускую як падставы

для вывучэння лексіка-стылістычнай эквівалентнасці; вызначана роля стылістычна маркіраваных лексем у аўтарскіх літаратурна-мастацкіх тэкстах з пункту погляду іх сувязі з рознымі аспектамі культурнага кампанента і асаблівасцямі аўтарскага стылю; вылучаны тыпы і падтыпы перакладчыцкіх трансфармацый як маркёраў індывідуальнага перакладчыцкага стылю ў дачыненні да стылістычна маркіраванай лексікі і яе суаднесенасці з нейтральнай.

***Крыніца інфармацыі:*** Галубенка, І.В. Лексіка-стылістычная эквівалентнасць беларускіх перакладаў рускай прозы (на матэрыяле рускага савецкага апавядання): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / І.В. Галубенка; БДУ. – Мінск, 2002. – 21 с.

## 54 ГАМЕЗА ЛАРЫСА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Методыка вывучэння беларускай лексікі і ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў V – VI класаў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – методыка выкладання беларускай мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Мурына Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра методыкі выкладання беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 31.03.1992; К 113.16.04, МДПІ.

***Апаненты:*** Бірыла М.В., д.філал.н.; Валошанка Г.А., к.пед.н.; ГДУ.

***Мэта:*** На аснове аналізу лінгвістычнай, метадычнай, псіхолага-педагагічнай літаратуры, а таксама даных канстатуючага эксперыменту вызначыць навукова абгрунтаваную методыку вывучэння лексікі, якая прадугледжвае глыбокае асэнсаванне лінгвістычных паняццяў, узбагачэнне слоўнікавага запасу школьнікаў, навучанне правільнаму ўжыванню слова ў вуснай і пісьмовай форме ва ўласных выказваннях.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 217 с., асноўны тэкст займае 202 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 184 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Тэарэтычныя асновы лексікі для ўзбагачэння слоўніка вучняў V – VI класаў на ўроках беларускай мовы: лінгвістычныя асновы лексікі для ўзбагачэння слоўніка вучняў; метадычныя асновы авалодання лексікай для ўзбагачэння слоўніка. 2. Узровень валодання лексікай беларускай мовы вучнямі V – VI класаў. Тыпалогія практыкаванняў па ўзбагачэнні слоўнікавага запасу: тыповыя памылкі вучняў V – VI класаў на лексічным узроўні; сістэма практыкаванняў па ўзбагачэнню слоўнікавага запасу вучняў V – VI класаў. 3. Узбагачэнне слоўніка вучняў V – VI класаў пры вывучэнні лексікі: задачы навучальнага эксперыменту; методыка вывучэння беларускай лексікі ў V класе і ўзбагачэнне слоўніка вучняў; методыка вывучэння беларускай лексікі ў VI класе і ўзбагачэнне слоўніка вучняў; вынікі кантрольнага эксперыменту.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны лінгвістычныя асновы вывучэння лексікі з мэтай узбагачэння слоўнікавага запасу вучняў V – VI класаў; распрацавана методыка вывучэння лексікі, якая ўключае: фарміраванне навыкаў правільнага ўжывання лексіка-граматычных, лексіка-стылістычных адзінак мовы, правільнага вымаўлення і напісання слоў, развіццё складнага вуснага і пісьмовага маўлення, якаснае і колькаснае ўзбагачэнне слоўнікавага запасу вучняў.

***Крыніца інфармацыі:*** Гамезо, Л.Н. Методика изучения белорусской лексики и обогащения словарного запаса школьников V – VI классов: автореф. дис. … канд. пед. наук: 13.00.02 / Л.Н. Гамезо; МГПИ. – Минск, 1992. – 18 с.

## 55 ГАМЕЗА ЛАРЫСА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Комплексная метадычная сістэма ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў у працэсе навучання беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Навуковы кансультант:*** Мурына Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра рыторыкі і методыкі выкладання мовы і літаратуры.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 02.06.2009; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.; Паўлоўскі І.І., д.пед.н.; Чэчат В.У., д.пед.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Тэарэтычнае абгрунтаванне і распрацоўка комплекснай метадычнай сістэмы ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў V – VIII класаў у працэсе навучання беларускай мове з улікам унутрыпрадметных сувязей паміж моўнымі ўзроўнямі; практычная рэалізацыя прапанаванай комплекснай метадычнай сістэмы ў агульнаадукацыйных установах Рэспублікі Беларусь.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 264 с., асноўны тэкст займае 216 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 301 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Тэарэтычныя асновы ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў у працэсе навучання беларускай мове з улікам унутрыпрадметных сувязей паміж узроўнямі моўнай сістэмы. 1.1. Узбагачэнне слоўнікавага запасу – адзін з галоўных напрамкаў развіцця маўлення школьнікаў. 1.2. Псіхалагічныя фактары ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў. 1.3. Лінгвістычныя асновы ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў з улікам унутрыпрадметных сувязей паміж узроўнямі сістэмы беларускай мовы. 1.3.1. Фанетыка-арфаэпічны ўзровень моўнай сістэмы. 1.3.2. Лексіка-фразеалагічны ўзровень моўнай сістэмы. 1.3.3. Марфемна-словаўтваральны ўзровень моўнай сістэмы. 1.3.4. Марфалагічны ўзровень моўнай сістэмы. 2. Дыягностыка ўзроўню засваення школьнікамі V – VIII класаў моўных, маўленча-камунікатыўных паняццяў і сфарміраванасці ўменняў выкарыстання вобразна-выяўленчых сродкаў у тэкстах.

2.1. Задачы канстатуючага эксперыменту. 2.2. Узровень засваення школьнікамі V класаў лексіка-фразеалагічных паняццяў і сфарміраванасці ўменняў выкарыстання вобразна-выяўленчых сродкаў у тэкстах. 2.3. Узровень засваення школьнікамі VIII класаў марфемна-словаўтваральных, марфалагічных, маўленча-камунікатыўных паняццяў і сфарміраванасці ўменняў выкарыстання вобразна-выяўленчых сродкаў у тэкстах. 3. Комплексныя метадычныя сродкі ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў V – VIII класаў у працэсе навучання беларускай мове. 3.1. Моўныя, маўленча-камунікатыўныя паняцці – комплексны змест узбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў. 3.2. Метадычная сістэма ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў у падручніках па беларускай мове для V – VIII класаў. 3.3. Тыпалогія слоўнікавых практыкаванняў: вербальна-семантычных, тэзаўрусных, прагматычных. 4. Комплексная методыка ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў V – VIII класаў у працэсе навучання беларускай мове з улікам унутрыпрадметных сувязей паміж узроўнямі моўнай сістэмы. 4.1. Задачы навучальнага эксперыменту. 4.2. Узбагачэнне слоўнікавага запасу школьнікаў маўленча-камунікатыўнымі паняццямі беларускай мовы. 4.3. Слоўнікава-арфаэпічная работа пры навучанні беларускай мове. 4.4. Узбагачэнне слоўнікавага запасу школьнікаў на лексіка-фразеалагічным узроўні беларускай мовы 4.5. Слоўнікавая работа пры навучанні складу слова і словаўтварэнню ў беларускай мове. 4.6. Слоўнікавая работа пры навучанні марфалогіі беларускай мовы. 4.7. Вынікі кантрольнага эксперыменту.

У дысертацыі 2 дадаткі (20 с.): «Слоўнік моўных тэрмінаў» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый), «Слоўнік маўленча-камунікатыўных тэрмінаў» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з зоны намінацыі і зоны семантызацыі; спарадычна ўключаецца зона ілюстрацый).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Тэарэтычна абгрунтавана і распрацавана канцэпцыя комплекснай метадычнай сістэмы ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў V – VIII класаў у працэсе навучання беларускай мове, згодна з якой працэс узбагачэння слоўнікавага запасу ажыццяўляецца пры навучанні ўсім раздзелам курса беларускай мовы; моўныя, маўленча-камунікатыўныя паняцці і вобразна-выяўленчыя сродкі ў працэсе навучання выступаюць адначасова як самастойныя катэгорыі і як узаемазвязаныя і ўзаемаабумоўленыя тэарэтычныя элементы метадычнай сістэмы. Вызначаны тэарэтычныя асновы ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў (напрамкаў: моўнага, маўленча-камунікатыўнага; падыходаў: сістэмна-функцыянальнага, камунікатыўна-дзейнаснага; прынцыпаў: спасціжэння семантыкі і граматычнай афармленасці слоў, усведамлення сістэмных сувязей лексіка-семантычнага, лексіка-граматычнага ўзроўняў і інш.), лінгвістычнага зместу (моўных, маўленча-камунікатыўных паняццяў, лексічных, лексіка-граматычных, лексіка-стылістычных сродкаў, выяўленых на аснове ўнутрыпрад-

метных сувязей паміж раздзеламі школьнага курса беларускай мовы) для рэалізацыі дзвюх узаемазвязаных мэт навучання – засваенне сістэмы мовы і развіццё маўлення. Распрацавана тыпалогія практыкаванняў для рэалізацыі новага зместу ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў (вербальна-семантычныя: авалоданне паняццямі, тэзаўрусныя: практычнае выкарыстанне паняццяў, прагматычныя: аналіз лексічных сродкаў у тэкстах, стварэнне выказвання). Прапанавана класіфікацыя тыповых маўленчых недахопаў школьнікаў на лексіка-фразеалагічным, марфемна-словаўтваральным і марфалагічным узроўнях на аснове вынікаў канстатуючага эксперыменту; выяўлены прычыны ўзнікнення маўленчых недахопаў. Распрацавана навукова-метадычнае забеспячэнне працэсу ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў: слоўнікаў моўных, маўленча-камунікатыўных тэрмінаў, комплекснага лексічнага слоўніка беларускай мовы. Створана новая комплексная методыка ўзбагачэння слоўнікавага запасу вучняў V – VIII класаў у працэсе вывучэння ўсіх раздзелаў школьнага курса беларускай мовы з улікам унутрыпрадметных сувязей, якая забяспечвае авалоданне дастатковай колькасцю моўных і маўленча-камунікатыўных паняццяў, тэматычна абумоўленных слоў ці іх спалучэнняў, сінанімічнымі і антанімічнымі паралелямі, вобразна-выяўленчымі моўнымі сродкамі для фарміравання моўнай і маўленча-камунікатыўнай кампетенцыі.

***Крыніца інфармацыі:*** Гамеза, Л.М. Комплексная метадычная сістэма ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў у працэсе навучання беларускай мове: аўтарэф. дыс. … д-ра пед. навук: 13.00.02 / Л.М. Гамеза; БДУ. – Мінск, 2009. – 44 с.; Гамеза, Л.М. Лінгваметадычная сістэма ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў V – VII класаў / Л.М. Гамеза. – Мінск: Выд-ва БДУ, 2002. – 134 с.

## 56 ГАПОНЕНКА ІРЫНА АЛЕГАЎНА

***Тэма:*** Арфаграфія беларускіх выданняў пачатку XX ст.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шакун Л.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.12.1993; Д 056.03.06, БДУ.

***Апаненты:*** Жураўскі А.І., д.філал.н.; Блінава Э.Д., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Выявіць, якія асноўныя арфаграфічныя прынцыпы выкарыстоўваліся ў выданнях канца XIX – пачатку XX ст. пры перадачы беларускай мовы на пісьме, як тыя ці іншыя арфаграмы набывалі стабільнае ўжыванне і ў якой меры яны вар'іраваліся; вызначыць на аснове аналізу тагачаснай пісьмовай практыкі тэндэнцыі стварэння адзіных графіка-арфаграфічных нормаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 174 с., асноўны тэкст займае 157 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 129 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Правапіс галосных: графічныя асаблівасці напісання галосных; правапіс націскных галосных; правапіс ненаціскных галосных; правапіс некаторых спалучэнняў галосных; прыватныя выпадкі напісання галосных. 2. Правапіс зычных: графічныя асаблівасці напісання зычных; перадача на пісьме найважнейшых рыс беларускага кансанантызму; адлюстраванне на пісьме асіміляцыйных працэсаў; правапіс некаторых спалучэнняў зычных; абазначэнне на пісьме раздзельнага вымаўлення зычнага з наступным галосным; правапіс зычных у запазычаных словах. 3. Нялітарныя арфаграмы: сімвалічныя арфаграмы (ужыванне вялікай літары); лінейныя арфаграмы (правапіс слоў асобна, злітна і праз злучок); міжрадковыя арфаграмы (правілы пераносу слоў).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Разгледжаны асаблівасці перадачы фанетычных рыс беларускай мовы ў сістэме вакалізму і кансанантызму ў розных тыпах выданняў; апісаны спосабы перадачы нялітарных арфаграм; параўнаны арфаграфічныя прыёмы і правілы, прынятыя ў розных выдавецкіх цэнтрах і асобных выдавецтвах; супастаўлены асаблівасці адлюстравання жывога маўлення на пісьме пры ўжыванні розных графічных сістэм; прааналізаваны ў храналагічнай паслядоўнасці характар арфаграфічных змен і ўстаноўлены этапы ў працэсе фарміравання арфаграфічных нормаў; вывучаны ўплыў рознадыялектных сістэм на працэсы станаўлення арфаграфічных нормаў сучаснай беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Гапоненко, И.О. Орфография белорусских изданий начала XX в.: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / И.О. Гапоненко; БГУ. – Минск, 1993. – 18 с.

## 57 ГАРАВАЯ АЛЕСЯ АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Развіццё сістэмы вышэйшай філалагічнай адукацыі ў Беларусі (1944 – 1961 гг.).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.гіст.н.: 07.00.02 – айчынная гісторыя.

***Навуковы кіраўнік:*** Яноўскі А.А., к.гіст.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.01.2011; Д 02.01.05, БДУ.

***Апаненты:*** Гужалоўскі А.А., д.гіст.н.; Самусік А.Ф., к.гіст.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Вызначыць і ахарактарызаваць змест дзяржаўнай палітыкі 1944 – 1961 гг. у галіне вышэйшай школы БССР па стварэнні сістэмы філалагічнай адукацыі, накіраванай на падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў-філолагаў для забеспячэння патрэб усёй сістэмы адукацыі і навукі Беларусі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 173 с., асноўны тэкст займае 115 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 351 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Гістарыяграфія і крыніцы. Метадалогія і метады даследавання: гістарыяграфія даследавання; крыніцы; мета-

далогія і метады даследавання. 2. Прафесійная падрыхтоўка спецыялістаў-філолагаў (1944 – 1961 гг.): аднаўленне сістэмы вышэйшай філалагічнай адукацыі і тэндэнцыі яе развіцця ў 1944 – 1955 гг.; структура і формы прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў-філолагаў (другая палова 1940-х – першая палова 1950-х гг.); рэфармаванне вышэйшай філалагічнай адукацыі і змены ў змесце прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў-філолагаў у 1956 – 1961 гг.; замежная мова ў сістэме вышэйшай філалагічнай адукацыі Беларусі 1944 – 1961 гг. 3. Прафесарска-выкладчыцкія кадры сістэмы вышэйшай філалагічнай адукацыі: формы падрыхтоўкі выкладчыцкіх кадраў; арганізацыя, асноўныя накірункі педагагічнай і навуковай дзейнасці выкладчыцкага саставу; даследчыцкая дзейнасць супрацоўнікаў навуковых устаноў і яе ўплыў на вучэбны працэс ВНУ.

У дысертацыі 10 дадаткаў (29 с.) – табліцы з колькаснымі дадзенымі.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны ўплыў сацыяльных і палітычных умоў на развіццё вышэйшай філалагічнай адукацыі Беларусі ў другой палове 1940-х – пачатку 1960-х гадоў, а таксама сутнасць дзяржаўнай палітыкі ў галіне падрыхтоўкі спецыялістаў-філолагаў; акрэслены і прааналізаваны асноўныя кірункі і формы прафесійнай падрыхтоўкі лінгвістаў ва ўмовах рэформаў у сістэме філалагічнай адукацыі; паказаны асноўныя формы падрыхтоўкі выкладчыцкіх і навуковых кадраў філалагічнага профілю ў беларускіх ВНУ; суаднесена навуковая дзейнасць філолагаў ВНУ з партыйнымі і дзяржаўнымі ўстаноўкамі; вызначаны ўзаемасувязі паміж развіццём мовазнаўства і літаратуразнаўства ў АН БССР і ВНУ і практыкай падрыхтоўкі спецыялістаў-філолагаў; абгрунтаваны асаблівасці развіцця беларускай філалогіі (у параўнанні з рускай і замежнай) у педагагічнай і даследчай дзейнасці ВНУ і АН БССР.

***Крыніца інфармацыі:*** Гаравая, А.А. Развіццё сістэмы вышэйшай філалагічнай адукацыі ў Беларусі (1944 – 1961 гг.): аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук: 07.00.02 / А.А. Гаравая; БДУ. – Мінск, 2010. – 24 с.

## 58 ГАРБАЧЫК МІКАЛАЙ РЫГОРАВІЧ

***Тэма:*** Назвы асоб па рамяству і прафесіі ў беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ АН Беларусі, аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.02.1993; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Наркевіч А.І., д.філал.н.; Бандарэнка Т.П., к.філал.н.; МДПІ.

***Мэта:*** Лексіка-семантычны і словаўтваральны аналіз назваў асоб паводле рамяства і прафесіі ў беларускай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 240 с., асноўны тэкст займае 211 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 135 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Семантычнае макраполе *назвы асоб, звязаных з апрацоўкай дрэва* ў старабеларускай мове: назвы асоб, звязаных з апрацоўкай дрэва, у старабеларускай мове; назвы асоб, звязаных з апрацоўкай дрэва, у сучаснай беларускай мове. 2. Семантычнае макраполе *назвы асоб, звязаных з апрацоўкай скур* у старабеларускай мове: назвы асоб, звязаных з апрацоўкай скур у старабеларускай мове; назвы асоб, звязаных з апрацоўкай скур у сучаснай беларускай мове. 3. Семантычнае макраполе *назвы асоб, звязаных з апрацоўкай металаў* у старабеларускай мове: назвы асоб, звязаных з апрацоўкай металаў у старабеларускай мове; назвы асоб, звязаных з апрацоўкай металаў у сучаснай беларускай мове. 4. Словаўтварэнне назваў асоб у беларускай мове: назвы асоб, утвораныя марфалагічным тыпам; жаночыя асабовыя намінацыі; словаўтваральныя варыянты *Nomina agentis* у беларускай мове; назвы асоб, утвораныя складаннем; іншыя спосабы ўтварэння назваў асоб (сінтаксічны, семантыка-сінтаксічны).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызавана семантычная структура агентыўнай лексікі; высветлены сэнсавыя сувязі элементаў унутры аднаго семантычнага поля і розных семантычных палёў; вызначаны асноўныя шляхі фарміравання і развіцця *Nomina agentis* у беларускай мове; апісаны спецыфічныя асаблівасці *Nomina agentis* народных рамёстваў і промыслаў і *Nomina agentis* сучасных прамысловых вытворчасцей; выяўлена агульнае і адрознае ў агентывах старабеларускай і сучаснай беларускай моў; выяўлены асноўныя спосабы ўтварэння агентыўнай лексікі ў беларускай мове; вызначаны спецыфічныя асаблівасці дэрывацыі *Nomina agentis* у старабеларускай і сучаснай беларускай мовах.

***Крыніца інфармацыі:*** Горбачик, Н.Г. Названия лиц по ремеслу и професии в белорусском языке: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Н.Г. Горбачик; ИЯ АН Беларуси. – Минск, 1992. – 27 с.

## 59 ГЕНКИН ВЛАДИМИР МАКСИМОВИЧ

***Тема:*** Оттопонимные дериваты Витебщины.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – белорусский язык; 10.02.02 – русский язык.

***Научный руководитель:*** Мезенко А.М., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ВГУ, кафедра общего и русского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 13.04.1999; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Станкевич А.А., д.филол.н.; Ратникова И.Э., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Всестороннее исследование оттопонимных дериватов Витебщины.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 317 с., основной текст занимает 100 с. Список использованной литературы – 169 наименований.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Словообразование и стилистические особенности оттопонимных прилагательных: история изучения оттопонимной лексики; словообразовательные модели и производящая база адъектонимов; адъектонимы, мотивированные топонимами в форме мужского рода; адъектонимы, мотивированные топонимами в форме женского рода; адъектонимы, мотивированные топонимами в форме среднего рода; адъектонимы, мотивированные топонимами в форме субстантивированного прилагательного; адъектонимы, мотивированные топонимами в форме множественного числа; адъектонимы, мотивированные составными топонимами; стилистические особенности адъектонимов; диалектно-региональные особенности адъектонимов Витебщины. 2. Словообразование и особенности функционирования в речи катойконимов мужского рода: способы катойконимической номинации; социокультурные факторы катойконимической номинации; производящая база и словообразовательные типы катойконимов; словообразовательный тип с суффиксом *-ц-ы* (*-ец*); словообразовательный тип с суффиксами *-оўц-ы* / *-аўц-ы, -еўц-ы*; словообразовательный тип с суффиксами *-анц-ы* / *-янц-ы, -інц-ы, -енц-ы*; словообразовательный тип с суффиксом *-ан-е* (*-анін*); словообразовательный тип с суффиксом *-чан-е* (*-чанін*)*, -аўчан-е* (*-аўчанін*); единичные в словообразовательном отношении формы номинации; диалектно-региональные особенности катойконимов Витебщины. 3. Словообразование и особенности функционирования в речи женских катойконимических номинаций: специфика женских катойконимических номинаций; система словообразовательных типов женских катойконимических номинаций. 4. Функционирование оттопонимической лексики в условиях билингвизма: топонимические русизмы и оттопонимная лексика; дериваты от топонимов, образованных на базе русских фамилий; оттопонимная лексика, мотивированная русифицированными топонимами; оттопонимная лексика, мотивированная названиями *Лёзна*, *Мёры* (*Міёры*). 5. Проблемы лексикографического описания оттопонимной лексики: история проблемы лексикографического описания оттопонимной лексики; причины невключения оттопонимной лексики в словари; вариант решения проблемы лексикографического описания оттопонимной лексики.

В диссертации 1 приложение (207 с.) – «Словарь оттопонимных дериватов Витебщины» (словарная статья содержит следующие зоны информации: зону номинации, зону локализации, зону грамматической информации, зону стилистической информации, зону деривации).

***Научное значение исследования:*** Изучены оттопонимные дериваты Витебщины: определены способы словообразования адъектонимов и катойконимов, установлены мотивирующие основы их образования, определены словообразовательные типы и модели для каждой группы оттопонимных дериватов; имеющийся материал сопоставлен с данными по другим диалектным зонам и определена специфика оттопонимных дериватов, функционирующих на территории Витебщины; установлены основные пути перехода адъектонимов и катойконимов

из диалектов в общелитературный язык; определены способы номинации жителей по местности, а также выявлены особенности стилистической окраски каждого способа номинации; установлены внутриязыковые и экстралингвистические факторы, влияющие на выбор способа и типа номинации.

***Источник информации:*** Генкин, В.М. Оттопонимные дериваты Витебщины: автореф. дис… канд. филол. наук: 10.02.01; 10.02.02 / В.М. Генкин; БГУ. – Минск, 1999. – 20 с.

## 60 ГЕРАСИМОВИЧ ОЛЬГА ВИКТОРОВНА

***Тема:*** Семантическая история аксиологических номинаций *вера, надежда, любовь* в русском языке (на восточнославянском фоне).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.03 – славянские языки.

***Научный руководитель:*** Антропов М.П., к.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ИЯЛ НАН Беларуси, отдел славистики и теории языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 15.10.2010; Д 01.43.01, ИЯЛ НАН Беларуси.

***Оппоненты:*** Кожинова А.А., д.филол.н.; Холявко Е.И., к.филол.н.; ВГУ.

***Цель:*** Установление семантических особенностей представления номинаций *вера, надежда, любовь* в лексикографических источниках русского языка на фоне других восточнославянских языков, в выявлении их этимологии, а также в обосновании правомерности рассмотрения триады *вера, надежда, любовь* как формулы, характеризующейся иконичностью языковой структуры.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 213 с., основной текст занимает 115 с. Список использованной литературы – 309 источников.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Основные проблемы исследования аксиологических номинаций: изучение аксиологических номинаций (теория и история вопроса); лексикографические источники как объект лингвистического исследования; сравнение близкородственных языков (проблемы и перспективы). 2. Взаимосвязанность компонентов аксиологической триады *вера, надежда, любовь*: духовные ценности *вера*, *надежда*, *любовь* (проблема идентификации); культурно-семантическое единство компонентов триады; значимость триады *вера, надежда, любовь* в языковом сознании русского и других восточнославянских народов; лексемы *вера, надежда, любовь* по данным частотных словарей восточнославянских языков; *вера, надежда, любовь* как формула; символизм компонентов триады; лингвистические определения иконического знака и принципа иконичности; семантическая и этимологическая связь компонентов формулы *вера, надежда, любовь*; аспекты исследования сочинительной конструкции. 3. Семантическая история аксиологической номинации *вера*: понятие *вера* в философской и религиозной мысли; изучение номинации и понятия *вера*

в лингвистике; интерпретация лексемы *вера* словарями восточнославянских языков; этимология лексемы *вера*. 4. Семантическая история аксиологического понятия *надежда*: *надежда* как аксиологическое наименование и объект лингвистического описания; античное понимание *надежды*; этимолого-мотивационное обоснование связи понятий *надежда* и *якорь*; интерпретация понятия *надежда* словарями восточнославянских языков; истоки абстрактной семантики праславянских лексем **nadeja* и **nadedja*. 5. Лексикографическая интерпретация абстремы *любовь*: языковой знак *любовь* как объект лингвистического исследования; интерпретация понятия *любовь* словарями восточнославянских языков; этимология лексемы *любовь*.

В диссертации 3 приложения (42 с.): «Представленность триады *вера, надежда, любовь* в наименованиях русских, белорусских и украинских культурно значимых объектов (по данным интернет-источников)», «Восточнославянские религиозные объекты, в названии которых закреплена триада *вера, надежда, любовь* (по данным интернет-источников)», «Представленность лексем *вера, надежда, любовь* словарями русского, белорусского и украинского языков».

***Научное значение исследования:*** Доказана структурная и семантическая слитность триединого комплекса *вера*, *надежда*, *любовь* в синхронии и диахронии, а также его значимость для русского языкового сознания и в языковой картине мира русского этноса на соответствующем восточнославянском этноязыковом фоне; раскрыта специфика семантико-синтаксической сочетаемости группы *вера, надежда, любовь*, иконичность и формульность ее языковой структуры; определен и сравнен смысловой объем репрезентантов понятий *вера*, *надежда*, *любовь* в толковых, исторических и диалектных словарях восточнославянских языков, выявлены диахронические изменения в их семантике; выделено общее и особенное в представлении носителей русского, белорусского и украинского языков о высших нравственных идеалах; проведен этимологический анализ лексем вера, надежда, любовь с целью выявления исходных мотивирующих признаков.

***Источник информации:*** Герасимович, О.В. Семантическая история аксиологических номинаций *вера, надежда, любовь* в русском языке (на восточнославянском фоне): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.03 / О.В. Герасимович; ИЯЛ НАН Беларуси. – Минск, 2010. – 24 с.

## 61 ГЕРАСІМЧЫК ІРЫНА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Фразеалагічныя паронімы сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Даніловіч М.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.03.2003; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Нікалаева В.М., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Даць сістэмнае апісанне фразеалагічных паронімаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 112 с., асноўны тэкст займае 99 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 111 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Фразеалагічная паранімія як аб'ект даследавання. 2. Прыметы фразеалагічных паронімаў. 3. Структурна-граматычная характарыстыка фразеалагічных паронімаў: аднамадэльныя фразеалагічныя паронімы з фармальнымі адрозненнямі; аднамадэльныя фразеалагічныя паронімы з лексічнымі адрозненнямі; рознамадэльныя фразеалагічныя паронімы з колькаснымі адрозненнямі. 4. Фразеалагічныя паронімы і сумежныя элементы семантычнай парадыгмы: фразеалагічныя паронімы і варыянты фразеалагізмаў; фразеалагічныя паронімы і фразеалагічныя сінонімы; фразеалагічныя паронімы і фразеалагічныя антонімы.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана сутнасць, асноўныя прыметы фразеалагічных паронімаў, тыпы адрозненняў у іх кампанентным складзе; ахарактарызаваны фразеалагічныя паронімы з боку іх структуры, граматычных асаблівасцей, семантычнай дыферэнцыяцыі; апісаны агульныя і адрознівальныя рысы фразеалагічных паронімаў і сумежных элементаў семантычнай парадыгмы.

***Крыніца інфармацыі:*** Герасімчык, І.А. Фразеалагічныя паронімы сучаснай беларускай літаратурнай мовы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / І.А. Герасімчык; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 20 с.

## 62 ГИРУЦКИЙ АНАТОЛИЙ АНТОНОВИЧ

***Тема:*** Белорусско-русское двуязычие в художественной литературе: типология, история, языковые процессы.

***Ученая степень, специальность:*** д.филол.н.: 10.02.01 – русский язык; 10.02.02 – языки народов СССР (белорусский язык).

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** Белорусский политехнический институт, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 30.11.1990; Д 056.03.06, БГУ.

***Оппоненты:*** Михайловская Н.Г., д.филол.н.; Лемтюгова В.П., д.филол.н.; Плотников Б.А., д.филол.н.; ГГУ.

***Цель:*** Установление общих и частных закономерностей проявления двуязычия в художественном творчестве, исследование истории развития белорусско-русского художественного билингвизма, а также специфики языковых процессов в нем в настоящее время.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 341 с., основной текст занимает 308 с. Список использованной литературы – 269 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Художественный билингвизм: типология и история. 1.1. Исходные понятия и предпосылки. 1.2. Формы художественного билингвизма (социолингвистический аспект художественного билингвизма). 1.3. Виды и разновидности художественного билингвизма (психолингвистический аспект художественного билингвизма). 1.4. Типы художественного билингвизма (лингвистический и лингвоэстетический аспекты художественного билингвизма). 2. Белорусско-русское двуязычие: социолингвистический и культурно-исторический аспект. 2.1. Предварительные замечания. 2.2. Диалектное взаимодействие белорусского и русского языков. 2.3. Взаимодействие белорусского и русского языков и культур на территории Русского государства. 2.4. Взаимодействие белорусского и русского языков на территории Беларуси. 2.5. Развитие белорусско-русского двуязычия в советский период. 3. Белорусское слово в русском художественном тексте: специфика функционирования. 3.1. Интерференция в художественном тексте. 3.2. Белорусизмы в поэтическом переводе на русский язык (профессиональный перевод). 3.2.1. Вероятностный характер появления белорусизмов в поэтических переводах на русский язык. 3.3. Русскоязычные произведения Максима Богдановича и Якуба Коласа. 3.4. Белорусизмы в оригинальных русскоязычных поэтических произведениях (творчество на неродном языке). 3.5. Белорусизмы в прозаическом переводе на русский язык (профессиональный перевод). 3.5.1. Белорусские фразеологические единицы в прозаическом переводе. 3.5.2. Единицы белорусского речевого этикета в прозаическом переводе. 3.5.3. Белорусские песни в прозаическом переводе. 3.5.4. Белорусская ономастическая лексика в прозаическом переводе. 3.6. Белорусизмы в оригинальных русскоязычных произведениях (творчество на двух языках). 3.7. Русизмы в оригинальных белорусскоязычных прозаических произведениях (творчество на родном языке с использованием элементов другого языка). 4. Белорусская лексика в системе русского языка: ее определения, принципы классификации. 4.1. Предварительные замечания. 4.2. Определение понятия *интерферема*. 4.3. Типы лексической интерференции. 4.4. Белорусская лексика в ее отношении к различным типам заимствований в русском языке.

***Научное значение исследования:*** Разработаны критерии для выявления общих и частных закономерностей двуязычия в области литературного творчества и на их основе создана типологическая модель художественного билингвизма. В социолингвистическом и культурно-историческом аспектах исследована история развития белорусско-русского двуязычия. Охарактеризована специфика интерференции в художественном тексте. Рассмотрены особенности функционирования белорусского слова в русском художественном тексте с учетом разновидностей литературного двуязычия. Выявлены типы художественного билингвизма, свойственные писателям-билингвам и переводчикам. Определено место белорусской лексики, функционирующей в русскоязычных произведениях, в системе русского языка.

***Источник информации:*** Десюкевич, О.И. Концепт *профессор* в русской и белорусской литературе XX в.: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / О.И. Десюкевич; БГУ. – Минск, 2002. – 19 с.

## 77 ДЗЕРГАЧОВА ТАЦЦЯНА ЛЕАНІДАЎНА

***Тэма:*** Фонастылістыка сучаснай беларускай мовы: парадыгматыка і сінтагматыка.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.12.2003; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Гапоненка І.А., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Аналіз і апісанне фонастылістычных адзінак у розных тыпах камунікацыі, а таксама вылучэнне фонастыляў і іх падстыляў у вусным маўленні сучаснай беларускай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 137 с., асноўны тэкст займае 92 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 164 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Фонастылістыка як раздзел мовазнаўства: месца фонастылістыкі сярод лінгвістычных дысцыплін; беларуская фонастылістыка (мэты і задачы); класіфікацыя фонастыляў у навуковай традыцыі; метадалогія і метады фонастылістычных даследаванняў. 2. Фонастылістычныя адзінкі сучаснай беларускай мовы (парадыгматычны аспект): адзінкі фонастылістыкі, іх структурныя тыпы; фонастылістычныя варыянты на ўзроўні фанетычнага слова; фонастылістычныя варыянты на ўзроўні сінтагмы. 3. Заканамернасці функцыянавання фонастыле́м у сучасным беларускім маўленні (сінтагматычны аспект): сацыяльна-камунікатыўныя жанры вуснага маўлення ў спекце фонастылістыкі; фонастылістычны аналіз вуснага маўлення (на матэрыяле аўдыязапісаў сучасных электронных сродкаў масавай камунікацыі), сістэма фонастыляў і падстыляў беларускай літаратурнай мовы.

У дысертацыі 1 дадатак (34 с.) – табліцы, тэрміналогія дысертацыі і фрагменты прааналізаваных вусных тэкстаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны фонастылістычныя адзінкі ў розных тыпах камунікацыі: апісаны адзінкі фонастылістыкі (фонастылемы), вылучаны тыпы і варыянты фонастыле́м, паказана іх узаемасувязь і ўзаемаабумоўленасць; прааналізавана мова сучасных электронных сродкаў масавай камунікацыі ў аспекце фонастылістыкі; вызначаны асаблівасці розных фонастыляў і іх падстыляў, крыніцы і прычыны адхіленняў ад літаратурнага вымаўлення.

***Крыніца інфармацыі:*** Дзергачова, Т.Л. Фонастылістыка сучаснай беларускай мовы: парадыгматыка і сінтагматыка: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.Л. Дзергачова; БДУ. – Мінск, 2003. – 21 с.

## 78 ДЗЯДОВА АЛЕНА СЯРГЕЕЎНА

***Тэма:*** Лексіка «Александрыі» (на матэрыяле старабеларускага перакладу пачатку XVII ст.).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 29.06.2001; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Груца А.П., д.філал.н.; Свістунова М.І., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Лексіка-семантычны аналіз слоўнікавага саставу старабеларускага перакладу «Александрыі» пачатку XVII ст., вызначэнне ролі і месца помніка ў старабеларускай пісьмовай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 351 с., асноўны тэкст займае 130 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 171 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Ваенная лексіка: назвы зброі, засцерагальных прыстасаванняў і вайсковай амуніцыі; назвы асоб, звязаных з вайсковай справай; назвы, якія характарызуюць вайсковую структуру, ваенную стратэгію і тактыку, іншыя ваенныя паняцці. 2. Лексіка, якая ўжывалася ў бытавой, сацыяльнай і рэлігійнай сферах: бытавая лексіка; лексіка сацыяльнай сферы; лексіка са сферы рэлігійнага жыцця. 3. Лексіка, звязаная з характарыстыкай чалавека ў фізічных і псіхічных адносінах: лексіка, якая характарызуе чалавека ў фізічных адносінах; лексіка, якая характарызуе чалавека ў псіхічных адносінах. 4. Лексіка, звязаная з характарыстыкай прыроды, расліннага і жывёльнага свету: назвы геаграфічнага асяроддзя, з'яў прыроды і часавых паняццяў; мінералагічныя назвы; назвы расліннага і жывёльнага свету.

У дысертацыі 2 дадаткі (211 с.): «Слоўнік мовы *Александрыі* пачатку XVII ст.» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі), «Слоўнік анамастычных назваў» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны семантызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** У межах лексіка-семантычных груп праведзены семантычны аналіз намінацый, які ўключае высвятленне іх семантычнага аб'ёму і характарыстыку семнай структуры семем; выяўлены і даследаваны структурна-семантычныя адносіны паміж кампанентамі лексіка-семантычных груп (гіпера-гіпанімічныя, адносіны сінаніміі, антаніміі і інш.); вызначаны гене-

тычныя вытокі і храналогія родавых і найбольш актыўных паводле ўжывання відавых лексем, паказана іх месца ў агульнай сістэме функцыянавання старабеларускай мовы, прасочаны асаблівасці сінтагматычных сувязей даследаваных намінацый; вызначаны структурна-словаўтваральныя асаблівасці лексічных адзінак.

***Крыніца інфармацыі:*** Дзядова, А.С. Лексіка «Александрыі» (на матэрыяле старабеларускага перакладу пачатку XVII ст.): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.С. Дзядова; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2001. – 20 с.

## 79 ДЗЯЛЕНДЗІК ТАЦЦЯНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Кампазіцыя і сінтаксіс пахавальных казанняў (на матэрыяле казанняў П. Скаргі, М. Сматрыцкага, І. Галятоўскага).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.19 – агульнае мовазнаўства, сацыялінгвістыка, псіхалінгвістыка.

***Навуковы кіраўнік:*** Мячкоўская Н.Б., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.06.1996; Д 02.01.11, БГУ.

***Апаненты:*** Жураўскі А.І., д.філал.н.; Шчэрбін В.К., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Характарыстыка на паняційна-тэрміналагічнай падставе лінгвістыкі тэксту кампазіцыйна-сінтаксічнай структуры пахавальных казанняў П. Скаргі, М. Сматрыцкага і І. Галятоўскага.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 156 с., асноўны тэкст займае 136 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 116 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Гамілетычныя творы ў польскай, беларускай і ўкраінскай культурах XVI – XVII ст.: рыторыка ў пісьмовай культуры Вялікага Княства Літоўскага, месца гамілетыкі сярод рытарычных твораў; суадносіны паміж царкоўным і свецкім красамоўствам (агляд гамілетычнай традыцыі); пахавальнае казанне сярод іншых гамілетычных жанраў; прычыны папулярнасці пахавальных казанняў у Рэчы Паспалітай у канцы XVI – XVII стст.; рытарычныя канцэпцыі XVI – XVII стст. і іх уплыў на тэорыю і практыку казнадзейства; *простая мова* ў моўнай сітуацыі Вялікага Княства Літоўскага; гамілетыка ў літаратурнай спадчыне П. Скаргі, М. Сматрыцкага і І. Галятоўскага. 2. Кампазіцыя пахавальных казанняў П. Скаргі, М. Сматрыцкага і І. Галятоўскага: пахавальнае казанне як тып тэксту; рыторыка аб кампазіцыі тэксту; кампазіцыя *exordium'y*; кампазіцыйныя прынцыпы *narratio*; кампазіцыя *conclusio*; кампазіцыйны інварыянт пахавальнага казання. 3. Арганізацыя сінтаксічных макраструктур (складанага сінтаксічнага цэлага і складанага сказа): складанае сінтаксічнае цэлае; складаны сказ. 4. Арганізацыя сінтаксічных мікраструктур (простага сказа і словазлучэння): тыпы простых сказаў і іх месца ў структуры складанага

сінтаксічнага цэлага; парадак размяшчэння галоўных і залежных кампанентаў сказа і словазлучэння; семантыка-сінтаксічная арганізацыя сказа (семантычныя тыпы і формы выражэння кампанентаў сказа. 5. Сінтаксічныя фігуры: прынцыпы апісання сінтаксічных фігур; колькасць і месца ўжывання сінтаксічных фігур; перыяд; пералічэнне і градацыя; антытэза; функцыі перыяду, пералічэння, градацыі і антытэзы ў пахавальных казаннях; адрозненні рытарычных стратэгій Скаргі, Сматрыцкага і Галятоўскага на падставе выкарыстаных сінтаксічных фігур.

У дысертацыі 1 дадатак (12 с.) – пераклады цытат, якія прыводзяцца ў якасці прыкладаў у тэксце дысертацыі.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана месца пахавальных казанняў у рытарычнай культуры польска-беларуска-ўкраінскага арэалу ў XVI – XVII стст.; вызначаны кампазіцыйны інварыянт пахавальных казанняў; выяўлены тыпы і сродкі кагезіі ў складаным сінтаксічным цэлым; апісаны сінтаксічныя адзінкі рознай ступені складанасці (складаны і просты сказы, словазлучэнні): вызначаны прынцыпы і спосабы падпарадкавання, парадку слоў, граматыка-марфалагічнай формы і семантычных тыпаў членаў сказа і словазлучэння; даследавана сінтаксічная вобразнасць казанняў: апісаны сінтаксічныя фігуры і прапанавана іх інтэрпрэтацыя; вызначаны адрозненні мадэляў пераканання і ў цэлым стыляў казанняў Скаргі, Сматрыцкага, Галятоўскага.

***Крыніца інфармацыі:*** Дзялендзік, Т.М. Кампазіцыя і сінтаксіс пахавальных казанняў (на матэрыяле казанняў П. Скаргі, М. Сматрыцкага, І. Галятоўскага): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.М. Дзялендзік; БДУ. – Мінск, 1996. – 19 с.

## 80 ДЗЯНІСАЎ УЛАДЗІМІР СЯРГЕЕВІЧ

***Тэма:*** Эпітэт як моўна-стылістычны сродак у беларускай мастацкай прозе (марфалагічнае выражэнне і стылістычныя функцыі).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Бірыла М.В., д.філал.н.; Рагаўцоў В.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МагДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.06.1998; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Лазоўскі У.М., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Характарыстыка спосабаў марфалагічнага выражэння эпітэтаў і іх стылістычных функцый у мове беларускай мастацкай прозы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 114 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 139 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Агляд літаратуры: паняцце эпітэта; эпітэт і лагічнае азначэнне; марфалагічнае выражэнне эпітэтаў; сінтаксічная роля эпітэтаў; класіфікацыя эпітэтаў. 2. Марфалагічнае выражэнне

эпітэтаў у мове беларускай мастацкай прозы: эпітэт-прыметнік; эпітэт-дзеепрыметнік і -дзеепрыслоўе; эпітэт-прыслоўе; эпітэт-прэдыкатыў; эпітэт-назоўнік. 3. Матывацыя і стылістычныя функцыі эпітэтаў у мове беларускай мастацкай прозы: агульныя заўвагі; матывацыя і стылістычныя функцыі эпітэтаў у творах К. Чорнага; матывацыя і стылістычныя функцыі эпітэтаў у творах М. Лынькова; матывацыя і стылістычныя функцыі эпітэтаў у творах І.Шамякіна; матывацыя і стылістычныя функцыі эпітэтаў у творах В. Быкава.

У дысертацыі 1 дадатак (1 с.) – «Эпітэты ў мове беларускай мастацкай прозы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны тыповыя і нетыповыя формы выражэння эпітэтаў; разгледжаны спосабы актуалізацыі імпліцытнага значэння эпітэтаў; акрэслена матывавансць ужывання эпітэтаў у мастацкіх творах; ахарактарызаваны разнавіднасці стылістычных функцый эпітэтаў; паказана адметнасць ужывання эпітэта ў творах розных беларускіх пісьменнікаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Дзянісаў, У.С. Эпітэт як моўна-стылістычны сродак у беларускай мастацкай прозе (марфалагічнае выражэнне і стылістычныя функцыі): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / У.С. Дзянісаў; ГДУ. – Гомель, 1998. – 19 с.

## 81 ДЗЯТКО ДЗМІТРЫЙ ВАСІЛЬЕВІЧ

***Тэма:*** Фарміраванне і склад беларускай матэматычнай тэрміналогіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхайлаў П.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 09.02.2007; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Вештарт Г.Ф., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Правесці поліаспектнае вывучэнне беларускай матэматычнай тэрміналогіі на структурна-граматычным, словаўтваральным і семантычным узроўнях.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 167 с., асноўны тэкст займае 125 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 317 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Станаўленне і развіццё беларускай матэматычнай тэрміналогіі: актуальныя праблемы тэрміназнаўства (логіка-тэрміналагічныя, нарматыўна-семантычныя, сістэмна-семіятычныя даследаванні); перыядызацыя гісторыі беларускай матэматычнай тэрміналогіі (пурыстычны перыяд, антыпурыстычны перыяд, перыяд мадыфікаванага антыпурызму). 2. Структурна-дэрывацыйныя асаблівасці беларускай матэматычнай тэрміналогіі: структурная арганізацыя беларускай матэматычнай тэрміналогіі; асноўныя праблемы і паняцці тэрмінаўтварэння; моналексемныя матэматычныя тэрміны; полілексемныя матэматычныя тэрміны. 3. Структурна-семантычныя асаблівасці беларускай матэматычнай тэрміналогіі: полімарфізм у беларускай

матэматычнай тэрміналогіі; полісемія ў беларускай матэматычнай тэрміналогіі; антанімія ў беларускай матэматычнай тэрміналогіі; аманімія ў беларускай матэматычнай тэрміналогіі.

У дысертацыі 2 дадаткі (15 с.): «Сінтаксічны і квантытатыўны полімарфізм у беларускай матэматычнай тэрміналогіі», «Дыяграмы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена поліаспектнае вывучэнне беларускай матэматычнай тэрміналогіі на структурна-граматычным, словаўтваральным і семантычным узроўнях: выяўлены поўны рэестр моўных адзінак, што функцыянуюць (або функцыянавалі) у нацыянальнай тэрміналогіі для намінацыі і дэфініцыі матэматычных паняццяў, зроблена іх сістэматызацыя; акрэслены межы і спецыфічныя рысы асноўных перыядаў у развіцці беларускай матэматычнай тэрміналогіі; устаноўлены сістэмаўтваральныя сувязі паміж элементамі матэматычнай тэрмінасістэмы; ахарактарызавана структурна-граматычная арганізацыя беларускай матэматычнай тэрміналогіі; вызначаны асаблівасці ўтварэння спецыяльных найменняў і акрэслены прадуктыўныя спосабы іх дэрывацыі; раскрыта спецыфіка структурна-семантычнай арганізацыі тэрмінаў у межах беларускай матэматычнай тэрміналогіі.

***Крыніца інфармацыі:*** Дзятко, Д.В. Фарміраванне і склад беларускай матэматычнай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Д.В. Дзятко; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2007. – 22 с.

## 82 ДОДА ІВАН ГЕНАДЗЕВІЧ

***Тэма:*** Дзеясловы са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах (лексіка-семантычны і словаўтваральны аспекты).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.06.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Машчэнская Л.Р., д.філал.н.; Кунцэвіч Л.П., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Супастаўляльнае даследаванне лексіка-семантычных груп дзеясловаў інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах, вызначэнне ўплыву матывацыйных адносін паміж кампанентамі лексіка-семантычных груп на састаў і характар сістэмных адносін унутры лексіка-семантычнай групы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 447 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 313 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Лексіка-семантычная структура дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і ру-

скай мовах: азначэнне паняцця *лексіка-семантычная група*; семантычная характарыстыка лексіка-семантычных груп дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах; словаўтваральная характарыстыка дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах. 2. Сістэмная арганізацыя і словаўтваральны патэнцыял дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах: азначэнне паняццяў *словаўтваральнае гняздо* і *словаўтваральны ланцужок*; структура і састаў словаўтваральных ланцужкоў дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай мове; структура і састаў словаўтваральных ланцужкоў дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў рускай мове; супастаўляльная характарыстыка дзеяслоўных словаўтваральных ланцужкоў у беларускай і рускай мовах; множнасць матывацыі дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах.

У дысертацыі 12 дадаткаў, якія афармлены асобнай кнігай (346 с.): «Дзеясловы са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай мове», «Дзеясловы са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў рускай мове», «Беларускія дзеясловы з прамымі лексічнымі значэннямі ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці», «Беларускія дзеясловы з пераноснымі лексічнымі значэннямі ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці», «Рускія дзеясловы з прамымі лексічнымі значэннямі ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці», «Рускія дзеясловы з пераноснымі лексічнымі значэннямі ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці», «Рускія дзеясловы з прамымі і пераноснымі лексічнымі значэннямі ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці», «Стылістычна маркіраваныя дзеясловы ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай мове», «Стылістычна маркіраваныя дзеясловы ў складзе лексіка-семантычнай групы інтэлектуальнай дзейнасці ў рускай мове», «Спіс невытворных дзеясловаў са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах», «Структурная арганізацыя і колькасная характарыстыка словаўтваральных ланцужкоў у беларускіх і рускіх дзеяслоўных фрагментах словаўтваральных гнёздаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена структурна-семантычнае і супастаўляльнае даследаванне лексіка-семантычных груп беларускіх і рускіх дзеясловаў інтэлектуальнай дзейнасці, разгледжаны іх лексічны склад і семантычная структура, вызначаны разнастайныя фактары сістэмнай арганізацыі лексіка-семантычных груп; выяўлены і ахарактарызаваны словаўтваральныя магчымасці базавых кампанентаў лексіка-семантычных груп, з улікам семантычных і матывацыйных адносін даследаваны структура і састаў словаўтваральных ланцужкоў ядзерных дзеясловаў у складзе лексіка-семантычных груп; разгледжана з’ява множнасці матывацыі фінальных кампанентаў дзеяслоўных словаўтваральных ланцужкоў.

***Крыніца інфармацыі:*** Дода, І.Г. Дзеясловы са значэннем інтэлектуальнай дзейнасці ў беларускай і рускай мовах (лексіка-семантычны і словаўтваральны аспекты): аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / І.Г. Дода; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 20 с.

## 83 ДОЎГАЛЬ АЛЕСЯ ВАЛЕР'ЕЎНА

***Тэма:*** Функцыянальна-семантычная катэгорыя эматыўнасці ў сучаснай беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Рамза Т.Р., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.11.2006; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Рудэнка А.М., д.філал.н.; Вештарт Г.Ф., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Выявіць рознаўзроўневыя сродкі выражэння эмоцый у сучаснай беларускай мове і сістэматызаваць іх праз функцыянальна семантычнае поле.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 176 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 141 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Эматыўнасць як моўны феномен: эмацыянальнасць і эматыўнасць (падставы размежавання); эматыўнасць як функцыянальна-семантычная катэгорыя; суадносіны эматыўнасці з экспрэсіўнасцю і ацэначнасцю. 2. Моўныя сродкі абазначэння эмоцый: лексічныя сродкі перадачы эмоцый; сінтаксічныя мадэлі эматыўных выказванняў; парафічныя сродкі абазначэння. 3. Маўленчыя сродкі выражэння эмоцый: інтанацыя як галоўны сродак выражэння эмоцый; эматыўныя выказванні; ужыванне выклічнікаў і функцыянальна блізкіх выразаў; кантэкст і кансітуацыя як неабходныя ўмовы для рэалізацыі эматыўнай семантыкі; паралінгвістычныя сродкі выражэння.

У дысертацыі 3 дадаткі (59 с.): «Лексічныя назвы эмоцый, зафіксаваныя ў слоўніках», «Эматыўная лексіка, зафіксаваная ў слоўніках», «Маўленчыя эматывы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Абгрунтавана неабходнасць размежавання эмацыянальнасці як псіхалагічнай катэгорыі і эматыўнасці як моўнай катэгорыі; вызначаны моўны статус і катэгарыяльная сутнасць эматыўнасці; прааналізаваны лексічныя сродкі абазначэння эмоцый: выяўлены асаблівасці іх семантычнай структуры і функцыянальнага прызначэння, прапанавана тыпалогія эматыўных лексем з улікам іх дыферэнцыяльных прымет; вылучаны, сістэматызаваны і ахарактарызаваны тыпы эматыўных выказванняў беларускай мовы; акрэслена роля інтанацыі, кантэксту і кансітуацыі, а таксама паралінгвістычных сродкаў у выражэнні эмоцый; змадэлявана структура функцыянальна-семантычнага поля эматыўнасці ў сучаснай беларускай мове.

***Крыніца інфармацыі:*** Доўгаль, А.В. Функцыянальна-семантычная катэгорыя эматыўнасці ў сучаснай беларускай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.В. Доўгаль; БДУ. – Мінск, 2006. – 21 с.

## 84 ДУБІНІНА ДЗІНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Беларускі фальклор як сродак развіцця выразнага маўлення старэйшых дашкольнікаў ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.07 – тэорыя і методыка дашкольнай адукацыі.

***Навуковы кіраўнік:*** Старжынская Н.С., к.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра методык дашкольнага выхавання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 09.12.1997; Д 02.21.02, БДПУ.

***Апаненты:*** Глазырына Л.Д., д.пед.н., Кавалевіч М.С., к.пед.н.; НІА.

***Мэта:*** Вызначыць і распрацаваць найбольш аптымальныя шляхі фарміравання выразнага і вобразнага беларускага маўлення старэйшых дашкольнікаў ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 151 с., асноўны тэкст займае 115 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 194 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Тэарэтычныя асновы развіцця выразнага і вобразнага маўлення ў дзяцей дашкольнага ўзросту ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму: выразнасць і вобразнасць маўлення, псіхалагічныя і сіхалінгвістычныя аспекты яго развіцця ў дзяцей дашкольнага ўзросту; выразна-выяўленчыя сродкі вуснай народнай творчасці і іх уплыў на мастацтва маўлення дашкольнікаў; праблемы развіцця выразнага і вобразнага маўлення дзяцей у тэорыі і практыцы дашкольнага выхавання; перадумовы авалодання старэйшымі дашкольнікамі выразнасцю беларускага маўлення ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму. 2. Фарміраванне выразнасці і вобразнасці беларускага маўлення старэйшых дашкольнікаў у дзіцячым садзе з рускім моўным рэжымам: работа дашкольных устаноў з рускім моўным рэжымам па фарміраванні выразнасці і вобразнасці беларускага маўлення старэйшых дашкольнікаў; асаблівасці ўспрымання старэйшымі дашкольнікамі выразных сродкаў беларускага фальклору ў дзіцячым садзе з рускім моўным рэжымам; фарміраванне выразнасці і вобразнасці беларускага маўлення дашкольнікаў у працэсе іх эстэтычна-вобразных зносін.

У дысертацыі 3 дадаткі (23 с.): «Анкета для выхавальнікаў», «Гульнявыя комплексы па развіцці выразнага маўлення старэйшых дашкольнікаў», «Музычна-літаратурная кампазіцыя «*Вясновая вандроўка* (*па матэрыялах беларускага фальклору*)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучаны асаблівасці ўспрымання старэйшымі дашкольнікамі розных жанраў беларускага фальклору і вызначаны

ўзроўні развіцця выразнага рэпрадуктыўнага і прадуктыўнага беларускага маўлення выхаванцаў старэйшай групы рускамоўнага дзіцячага сада; вызначаны асноўныя сродкі выразнасці беларускага фальклору, якія аказваюць уплыў на развіццё выразнага маўлення старэйшых дашкольнікаў; распрацаваны змест і методыка фарміравання выразнага і вобразнага беларускага маўлення старэйшых дашкольнікаў у дзіцячым садзе з рускім моўным рэжымам.

***Крыніца інфармацыі:*** Дубініна, Д.М. Беларускі фальклор як сродак развіцця выразнага маўлення старэйшых дашкольнікаў ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму: аўтарэф. дыс. … канд. пед. навук: 13.00.07 / Д.М. Дубініна; БДПУ. – Мінск, 1997. – 21 с.

## 85 ДУБРОЎСКАЯ ЮЛІЯ АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Мова палемічнай рэлігійнай літаратуры канца XVI ст. (на матэрыяле «Уніі» І. Пацея і «Берасцейскага сабора…» П. Скаргі).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Паўлавец Д.Д., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 02.03.2001; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Клімаў І.П., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Вывучыць мову помнікаў рэлігійна-палемічнай літаратуры «Уніі» І. Пацея і «Берасцейскага сабора…» П. Скаргі на графіка-арфаграфічным, марфалагічным і лексічным узроўнях, вызначыць іх месца і ролю ў агульнай сістэме функцыянавання старабеларускай пісьмовай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 110 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 120 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Графіка-арфаграфічныя асаблівасці: асаблівасці ўжывання літар для абазначэння галосных гукаў; асаблівасці ўжывання літар для абазначэння зычных гукаў. 2. Марфалагічныя асаблівасці: назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў. 3. Асаблівасці лексічнага складу.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Апісаны графіка-арфаграфічны ўзровень палемічных твораў; вызначаны асноўныя прынцыпы арфаграфіі помнікаў, іх уплыў на пісьмовую рэалізацыю фанетычных рыс жывой народнай мовы; выяўлены асноўныя кірункі ў функцыянаванні сістэмы скланення іменных часцін мовы і спражэння дзеяслова; праведзена класіфікацыя лексічных адзінак, разгледжаны іх словаўтваральныя магчымасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Дуброўская, Ю.А. Мова палемічнай рэлігійнай літаратуры канца XVI ст. (на матэрыяле «Уніі» І. Пацея і «Берасцейскага сабора…» П. Скаргі): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю.А. Дуброўская; ГДУ. – Гомель, 2001. – 20 с.

## 86 ЕРМАКОВА АЛЕНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Катэгорыя суб'ектыўнай мадальнасці ў сучаснай беларускай публіцыстыцы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Станкевіч А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.06.1999; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Сянкевіч В.І., д.філал.н.; Іўчанкаў В.І., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Шляхам семантыка-прагматычнага аналізу вызначыць ролю суб'ектыўнага пачатку ў фарміраванні тэкстаў публіцыстычнага стылю.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 105 с., асноўны тэкст займае 96 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 146 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Мова як сродак уздзеяння. Прагмалінгвістычны падыход да мовы публіцыстычных тэкстаў: прагматычная парадыгма мовы; поле суб'ектыўнай мадальнасці публіцыстычнага тэксту. 2. Моўныя сродкі выражэння катэгорыі суб'ектыўнай мадальнасці ў тэкстах публіцыстычнага стылю: марфалагічныя сродкі выражэння мадальнасці; лексіка-семантычныя сродкі стварэння суб'ектыўнай мадальнасці; сінтаксічныя сродкі стварэння суб'ектыўнай мадальнасці. 3. Спосабы выражэння суб'ектыўнай мадальнасці на тэкставым узроўні.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана мова публіцыстыкі ў яе прагматычнай функцыі; раскрыта роля катэгорыі ацэнкі ў стварэнні поля суб'ектыўнай мадальнасці; акрэслены асноўныя фактары, што ўплываюць на фарміраванне ацэначнай структуры (роля суб'екта ацэнкі, ацэначнага стэрэатыпу, суадносіны рацыянальнага і эмацыянальнага); прааналізаваны моўныя спосабы суб'ектывізацыі аўтарскага маўлення (экспрэсіўнасць і эматыўнасць выкладу); разгледжаны шляхі фарміравання поля суб'ектыўнай мадальнасці сродкамі лексічнага, марфалагічнага і сінтаксічнага моўных узроўняў.

***Крыніца інфармацыі:*** Ермакова, А.М. Катэгорыя суб'ектыўнай мадальнасці ў сучаснай беларускай публіцыстыцы: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Ермакова; ГДУ. – Гомель, 1999. – 21 с.

## 87 ЕРОМА ЖАННА ИВАНОВНА

***Тема:*** Морфологические полонизмы в Статуте Великого Княжества Литовского 1529 г.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.03 – славянские языки; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Лизисова М.-Т., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГрГУ, кафедра польской филологии.

***Дата защиты, совет по защите:*** 10.01.2006; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Станкевич А.А., д.филол.н.; Важник С.А., к.филол.н.; БГПУ.

***Цель:*** Выявить морфологические полонизмы в грамматических формах существительных, местоимений, глаголов в списках Первого Статута Великого Княжества Литовского на старобелорусском языке (Дзялыньский, Фирлейский, Слуцкий списки, список Замойских).

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 126 с., основной текст занимает 97 с. Список использованной литературы – 272 источника.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Обзор литературы: исследование языковых особенностей Статутов ВКЛ; степень исследования морфологических полонизмов в памятниках старобелорусской письменности. 2. Статут 1529 г. в контексте исторической, этнолингвистической и языковой ситуации в ВКЛ: историческая и этнолингвистическая ситуация в ВКЛ в период, предшествующий Люблинской унии 1569 г.; языковая ситуация в ВКЛ в XV – XVI вв.; кодификация права в ВКЛ; содержание Первого Статута; рукописи и издания Первого Статута. 3. Лексическая и грамматическая обусловленность польского влияния в морфологии существительных: грамматический род; грамматические окончания существительных. 4. Морфологические полонизмы в формах местоимений, мотивированные структурой и референцией нормативного высказывания: употребление местоимений *тэж* / *тож* в связи с директивным характером нормативного высказывания; формы местоимений на *-кольве* (*-кольвек*) в связи с референцией юридического высказывания. 5. Полонизмы в глагольных формах в связи со стилистическими особенностями юридического текста: грамматические полонизмы в устойчивых словосочетаниях; морфологические полонизмы в связи с условным способом выражения юридической нормы; модальная функция грамматических форм глаголов, появившихся под влиянием польского языка; синтаксическая функция польской формы глагола *естъ*.

В диссертации 8 приложений (11 с.): «Индекс проанализированных грамматических форм», «Карта ВКЛ», 6 фрагментов рукописей списков Статута ВКЛ, книг Литовской метрики и проч.

***Научное значение исследования:*** Проведено сравнение морфологических полонизмов, выявленых в списках Статута 1529 г., с грамматическими формами в польском тексте Первого Статута – Ольшевском списке; отделены морфологические полонизмы от фактов древнерусского, старославянского влияния, а также от фактов белорусского, украинского диалектного влияния в литературном языке; исследована семантическая, стилистическая и прагматическая обусловленность грамматических полонизмов в Дзялыньском списке; описана степень распространения морфологических полонизмов в письменных памятниках, отразивших официально-деловой стиль старобелорусского языка ВКЛ XV – XVI вв.

***Источник информации:*** Ерома, Ж.И. Морфологические полонизмы в Статуте Великого Княжества Литовского 1529 г.: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.03; 10.02.01 / Ж.И. Ерома; БГУ. – Минск, 2005. – 21 с.

## 88 ЖАЎНЯРОВІЧ ПЁТР ПЯТРОВІЧ

***Тэма:*** Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча: моўны факт у вызначэнні жанру.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.01.10 – журналістыка.

***Навуковы кіраўнік:*** Іўчанкаў В.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра стылістыкі і літаратурнага рэдагавання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 07.12.2006; Д 02.01.08, БДУ.

***Апаненты:*** Ухванава І.Ф., д.філал.н.; Падаляк Т.У., к.філал.н.; ІЛ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Ахарактарызаваць парадыгматычную заканамернасць і сінтагматычную неабходнасць выбару аўтарам канкрэтнага моўнага факта, паказаць яго жанраўтваральную ролю.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 132 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 147 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Публіцыстыка ў літаратурнай спадчыне Уладзіміра Караткевіча: метадалогія вызначэння публіцыстыкі і яе жанраў; лексічныя сістэмы публіцыстыкі і мастацкай прозы; жанравы сінтэтызм публіцыстыкі Уладзіміра Караткевіча. 2. Эсэістычны Уладзіміра Караткевіча: дэйктычныя сродкі маркіроўкі суб'екта-адрасанта і аб'екта-адрасата дыскурсу; рытарычныя фігуры як сродак уздзеяння на адрасата; паказчыкі функцыі ілакутыўнага акта; дыскурсны аналіз публіцыстычнага твора як прэзентацыя аўтарскіх інтэнцый. 3. Канцэптуалізацыя лексемы і яе жанраўтваральная роля: канцэпт публіцыстычнага тэксту – сродак семантычнай кагезіі; канцэптуалізацыя лексемы *зямля* і тэкстаўтварэнне.

У дысертацыі 6 дадаткаў (18 с.): «Крыніцы размяшчэння даследаваных публіцыстычных твораў Уладзіміра Караткевіча», «Урывак з эсэ-нарыса Уладзіміра Караткевіча *Зямля пад белымі крыламі*», «Эсэ-партрэт Уладзіміра Караткевіча *Гэта было 10-га сакавіка 1864 года...*» з пазначэннем падзелу твора на пяць макраструктур», «Азначэнні і эпітэты да лексемы *зямля* ў публіцыстыцы Уладзіміра Караткевіча», «Спалучальныя магчымасці лексемы *зямля* ў публіцыстыцы Уладзіміра Караткевіча», «Спалучальныя магчымасці лексемы *Беларусь* у публіцыстыцы Уладзіміра Караткевіча».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана частотнасць функцыянавання тыповых безацэначных лексем у публіцыстыцы і мастацкай прозе У. Караткевіча; супастаўлены лексічныя сістэмы публіцыстыкі і мастацкай прозы У. Караткевіча з лексікай, зафіксаванай у частотных слоўніках: выяўлена і параўнана частот-

насць ацэначных лексем у публіцыстыцы і мастацкай прозе У. Караткевіча; вылучаны найбольш характэрныя для эсэістычнага дыскурсу У. Караткевіча моўныя факты і адзначана іх уздзеянне на выяўленне жанру; праведзены дыскурсны аналіз публіцыстычнага твора У. Караткевіча і паказана матывацыя выбару канкрэтных моўных фактаў у якасці прэзентантаў аўтарскіх інтэнцый; апісаны асаблівасці семантычнай кагезіі публіцыстычнага тэксту У. Караткевіча, створанай з дапамогай імпліцыту трапеічнай адзінкі як канцэпту тэксту, і матываванасць канцэптам канкрэтнай жанравай разнавіднасці эсэ; даследаваны характэрныя прыметы, асаблівасці функцыянавання і асацыятыўныя сувязі канцэпту *зямля* ў публіцыстыцы У. Караткевіча.

***Крыніца інфармацыі:*** Жаўняровіч, П.П. Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча: моўны факт у вызначэнні жанру: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.01.10 / П.П. Жаўняровіч; БДУ. – Мінск, 2006. – 21 с.

## 89 ЖИЛИНСКАЯ ИРИНА АЛЕКСАНДРОВНА

***Тема:*** Пространственно-временная модель мира восточных славян в языке русских и белорусских заговоров.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Шуба П.П., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 11.01.2000; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Мартынов В.В., д.филол.н.; Антропов Н.П., к.филол.н.; ГГУ.

***Цель:*** Реконструкция основополагающих пространственно-временных координат концептуальной мифопоэтической модели мира на материале языка русских и белорусских заговоров с привлечением (для полноты картины) украинских текстов.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 178 с., основной текст занимает 103 с. Список использованной литературы – 403 источника.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Основные теоретические предпосылки исследования: заговоры как тексты магического характера, определение; композиционная схема заговоров; заговоры как тексты, отражающие переход от исходного состояния к желанному, типы заговорных персонажей; теоретическое обоснование модели мира. 2. Представление о пространстве в русских и белорусских заговорах: пространственно-временная система древней модели мира, мифологическое пространство (общая характеристика); «вертикальная» пространственная модель (ирреальный мир); «горизонтальная» пространственная модель (реальный мир); «вертикальная» и «горизонтальная» пространственные модели (общие черты). 3. Система времени в русских и белорус-

ских заговорах: общие замечания о фольклорном времени; система временных показателей в заговорах; пространство и время (общие черты). 4. Символика цвета в русских и белорусских заговорах: система цветообозначений, характеристика и анализ.

В диссертации 4 приложения (11 с.): «Дополнительные комментарии к основному тексту», «Пространственная система русских и белорусских заговоров», «Временная система русских и белорусских заговоров», «Система цветообозначений в русских и белорусских заговорах».

***Научное значение исследования:*** На материале языка заговоров семиотически реконструированы фундаментальные категории обыденного сознания (человек, место, время); проанализированы пространственная и временная системы древней модели мира через детальное описание групп бинарных оппозиций, обозначающих пространственные и временные понятия; выявлены и описаны центральные оппозиции для каждой группы и способы их реализации в текстах; описаны различные элементы и аспекты пространственной и временной моделей (антропоцентричность, способы ориентации, линейность и т.д.) на основе системного анализа языка заговоров; проанализирована и описана система цветообозначений, являющаяся дополнительным классификатором пространственно-временной модели.

***Источник информации:*** Жилинская, И.А. Пространственно-временная модель мира восточных славян в языке русских и белорусских заговоров: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / И.А. Жилинская; БГУ. – Минск, 1999. – 21 с.

## 90 ЖОРАВА НАТАЛЛЯ ПАЎЛАЎНА

***Тэма:*** Касмаганічная лексіка ў малых фальклорных жанрах: семантыка-функцыянальны аспект.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Васюковіч Л.С., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.06.2005; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Яновіч А.І., д.філал.н.; Міхайлаў П.А., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Акрэсліць спецыфіку функцыянавання касмаганічнай лексікі як цэласнай сістэмы ў мове малых фальклорных жанраў (загадак, прыказак, замоў).

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 153 с., асноўны тэкст займае 111 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 291 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Спецыфіка фальклорнага слова: касмаганічная лексіка як прадмет навуковага даследавання; агульная характарыстыка групы касмаганічнай лексікі ў мове твораў беларускага фальклору; семантычная ўскладненасць фальклорнага слова; дыфузнасць і мнагазнач-

насць фальклорнага слова на ўзроўні сінтагматыкі; сінанімія і ізафункцыянальнасць лексічных адзінак у мове фальклору; формульны характар спалучальнасці фальклорнага слова; падпарадкаванасць фальклорнага слова спецыфіцы жанру. 2. Касмаганічная лексіка ў мове беларускіх загадак і прыказак: функцыянаванне касмаганічнай лексікі ў мове беларускіх загадак; функцыянаванне касмаганічнай лексікі ў мове прыказак. 3. Касмаганічная лексіка ў мове беларускіх замоў: семантыка і функцыянаванне касмаганічнай лексікі ў тэкстах беларускіх замоў; сінтагматыка касмаганічнай лексікі ў мове беларускіх замоў; фальклорна-канатацыйны кампанент значэння слова ў тэкстах беларускіх замоў.

У дысертацыі 1 дадатак (18 с.) – табліцы.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены комплексны аналіз касмаганічнай лексікі з пазіцый спецыфікі фальклорнага слова: даследаваны яе семантыка-функцыянальныя асаблівасці ў кантэксце малых жанраў вуснай народнай творчасці, выяўлены і абгрунтаваны агульныя заканамернасці выкарыстання касмаганізмаў у залежнасці ад мастацка-эстэтычнай і моўнай спецыфікі канкрэтнага жанру; прапанавана шматаспектная характарыстыка фальклорнага слова і вызначаны шэраг спецыфічных уласцівасцей, якія фарміруюць адметнасць яго ўжывання ў творах вуснай народнай паэзіі; распрацавана ўласная аўтарская графічная мадэль структуры лексічнага значэння фальклорнага слова.

***Крыніца інфармацыі:*** Жорава, Н.П. Касмаганічная лексіка ў малых фальклорных жанрах: семантыка-функцыянальны аспект: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.П. Жорава; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2005. – 21 с.

## 91 ЖУРАЎЛЁВА СВЯТЛАНА ІВАНАЎНА

***Тэма:*** Мова перакладу «Траянскай гісторыі» пачатку XVII ст.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПІ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.06.2000; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Груца А.П., д.філал.н.; Ціванова Г.К., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Сістэмнае апісанне мовы перакладу «Траянскай гісторыі».

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 165 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 125 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Графіка-арфаграфічныя асаблівасці помніка: назоўнік; прыметнік; лічэбнік; займеннік; дзеяслоў; прыслоўе. 2. Лексіка помніка: ваенная лексіка; грамадска-палітычная лексіка; прафесійна-вытворчая лексіка; сельскагаспадарчая лексіка; бытавая лексіка; лексіка, якая характарызуе чалавека; лексіка, якая характарызуе прыроду; лексіка, якая абазначае часавыя паняцці; рэлігійная лексіка.

У дысертацыі 3 дадаткі (54 с.): «Колькасны паказчык найбольш ужывальных слоў у *Траянскай гісторыі*», «Слоўнік мовы *Траянскай гісторыі*» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі), «Індэкс даследаваных слоў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Сістэмна апісана мова перакладу «Траянскай гісторыі»: прааналізаваны графіка-арфаграфічныя асаблівасці помніка (выяўлена функцыянальная роля графічных сродкаў; паказана ступень рэалізацыі ў помніку фанетычных рыс жывой народнай мовы; прасочаны ўзаемаадносіны паміж фанетычнымі і этымалагічна-марфалагічнымі напісаннямі); вызначаны марфалагічныя асаблівасці помніка (вывучаны характэрныя рысы ў сістэме скланення самастойных часцін мовы; прасочана ступень уплыву на граматычны лад «Траянскай гісторыі» марфалагічных рыс іншых моў); ахарактарызаваны лексічны склад помніка (раскрыты семантычны аб'ём лексем; устаноўлена этымалогія, шляхі пранікнення ў мову лексічных адзінак; паказаны шляхі іх утварэння і асаблівасці функцыянавання).

***Крыніца інфармацыі:*** Жураўлёва, С.І. Мова перакладу «Траянскай гісторыі» пачатку XVII ст.: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.І. Жураўлёва; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2000. – 18 с.

## 92 ЗАБАШТАНСКАЯ АКСАНА ІГАРАЎНА

***Тэма:*** Нерэгулярныя фанетычныя з'явы ў беларускай дыялектнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхайлаў П.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.12.2008; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Даніловіч М.А., д.філал.н.; Кунцэвіч Л.П., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Выявіць, сістэматызаваць і апісаць нерэгулярныя фанетычныя з'явы ў беларускай дыялектнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 133 с., асноўны тэкст займае 115 с. Бібліяграфічны спіс – 235 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Нерэгулярныя фанетычныя з'явы ў метадалагічным аспекце: працы па беларускай дыялекталогіі і гісторыі мовы XIX – першай паловы XX ст.; сістэматызацыя лінгвістычнай літаратуры, у якой непасрэдна закранаюцца пытанні фанетычных змен і нерэгулярнай фанетыкі; суаднясенне тэрмінаў *нерэгулярная фанетычная з'ява* і *лексікалізаваная фанетычная з'ява*; праблема вызначэння тэрміна *нерэгулярная фанетычная з'ява*; выяўленне і класіфікацыя нерэгулярных фанетычных з'яў. 2. Варыянтнасць зыч-

ных на аснове якасных прымет: варыянтнасць губных; варыянтнасць пярэднеязычных; /j/ – мяккі зычны; варыянтнасць заднеязычных; варыянтнасць шумных, аднолькавых паводле спосабу ўтварэння; варыянтнасць санорных; варыянтнасць звонкіх і глухіх; варыянтнасць цвёрдых і мяккіх. 3. Варыянтнасць галосных на аснове якасных прымет: варыянтнасць галосных верхняга пад'ёму; варыянтнасць галосных сярэдняга пад'ёму; варыянтнасць галосных верхняга – сярэдняга пад'ёму; варыянтнасць галосных сярэдняга – ніжняга пад'ёму; варыянтнасць галосных верхняга – ніжняга пад'ёму. 4. Нерэгулярныя фанетычныя з'явы квалітатыўна-дыстрыбутыўнага характару: пратэза; адпадзенне пачатковых фанем; эпентэза; дыярэза; метатэза.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны нерэгулярныя фанетычныя з'явы ў беларускай дыялектнай мове, дадзена вызначэнне тэрміна *нерэгулярная фанетычная з'ява*, распрацавана методыка адбору і апісання дадзеных з'яў; выяўлены фанематычныя варыянты слоў, у якіх адбыліся якасныя змены нерэгулярнага характару ў складзе зычных, праведзена іх класіфікацыя, вызначана пашырэнне ў беларускім дыялектным арэале; устаноўлены фанематычныя варыянты слоў, у якіх адбыліся якасныя нерэгулярныя змены ў складзе галосных, акрэслена іх лакалізацыя ў беларускіх гаворках; высветлены ўмовы і прычыны рэалізацыі фанематычных варыянтаў квалітатыўна-дыстрыбутыўнага характару.

***Крыніца інфармацыі:*** Забаштанская, А.І. Нерэгулярныя фанетычныя з'явы ў беларускай дыялектнай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.І. Забаштанская; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2008. – 20 с.

## 93 ЗАІКА ЗОЯ МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Адтапанімічныя дэрываты ў арэале заходнепалескіх гаворак.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ АН Беларусі, аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.05.1994; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Мезенка Г.М., д.філал.н.; Берднік С.К., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Даць усебаковую характарыстыку словаўтваральнага працэсу адтапанімічных дэрыватаў (ад'ектонімаў і катайконімаў) у зоне заходнепалескіх гаворак.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 240 с., асноўны тэкст займае 186 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 185 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Слоўнік (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі, зоны дэрыватаў, зоны пашпартызацыі). 2. Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў: ад'ектонімы, матываваныя тапо-

німамі ў форме мужчынскага роду; ад’ектонімы, матываваныя тапонімамі ў форме жаночага роду; ад’ектонімы, матываваныя тапонімамі ў форме ніякага роду; ад’ектонімы, матываваныя тапонімамі ў форме множнага ліку; ад’ектонімы, матываваныя састаўнымі тапонімамі. 3. Словаўтварэнне множналікавых катайконімаў: словаўтваральны тып з суфіксам *-ц*(*ы*); словаўтваральны тып з суфіксам *-оўцы* / *-аўцы, -еўцы*; словаўтваральны тып з суфіксам *-анц*(*ы*)*, -янц*(*ы*)*, -інц*(*ы*); словаўтваральны тып з суфіксам *-ан*(*е*)*, -ян*(*е*); словаўтваральны тып з суфіксамі *-ук*(*і*)*, -чук*(*і*)*, -чак*(*і*). 4. Словаўтварэнне катайконімаў мужчынскага роду: словаўтваральны тып з суфіксам *-ец*; словаўтваральны тып з суфіксам *-авец* / *-явец, -овец* / *-ёвец, -евец*; словаўтваральны тып з суфіксам *-анец* / *-янец, -інец* / *-ынец, -енец*; словаўтваральны тып з суфіксам *-анін* / *-янін*; словаўтваральны тып з суфіксам *-чанін*; словаўтваральны тып з суфіксам *-ніц*(*а*)*, -аніц*(*а*); словаўтваральны тып з суфіксамі *-лянец, -лянін*; словаўтваральны тып з суфіксам *-ук* / *-юк, -чук*; словаўтваральны тып з суфіксам *-ак* / *-як*; утварэнне катайконімаў мужчынскага роду ад састаўных айконімаў. 5. Словаўтварэнне катайконімаў жаночага роду: словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-ец* / *-ац*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-авец* / *-явец, -овец* / *-ёвец*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-анец* / *-янец, -енец, -інец* / *-ынец*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-анін* / *-янін*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-чанін, -чанец*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-лянін, -лянец*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-ук* / *-юк, -чук*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-к*(*а*) – *-ак*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-анк*(*а*) – *-ец* / *-ац*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-анк*(*а*) – *-ніца, -аніца, -чаніца*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-чанк*(*а*) – *-ец*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-чанк*(*а*) – *-авец* / *-явец, -овец*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-анк*(*а*) – *-ук*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-анк*(*а*) / *-чанк*(*а*) – *-ун*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-анк*(*а*) – *-ак* / *-як*; словаўтваральны тып з суфіксальнай карэляцыяй *-чых*(*а*) – *-ец*.

У дысертацыі 1 дадатак (33 с.) – схемы ўтварэння адтапанімічных прыметнікаў з дапамогай розных суфіксаў і схемы розных словаўтваральных тыпаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны структурна-семантычныя адносіны паміж утваральнымі і вытворнымі асновамі; выяўлены словаўтваральныя тыпы і мадэлі ад’ектонімаў і катайконімаў, паказана іх прадуктыўнасць, ступень пашырэння, тэндэнцыі развіцця і функцыянавання; вызначаны нарматыўны статус разгледжаных словаўтваральных тыпаў і мадэляў.

***Крыніца інфармацыі:*** Заика, З.М. Оттопонимические дериваты в ареале западнополесских говоров: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / З.М. Заика; ИЯ АН Беларуси. – Минск, 1994. – 16 с.

## 94 ЗАНКАВІЧ АЛЕНА ПЯТРОЎНА

***Тэма:*** Уласнабеларуская лексіка ў тэхнічнай тэрміналогіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Падлужны А.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 13.02.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Капылоў І.Л., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Прааналізаваць уласнабеларускую тэхнічную тэрміналогію на лексіка-семантычным, лексіка-граматычным і словаўтваральным узроўнях.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 149 с., асноўны тэкст займае 104 с. Бібліяграфічны спіс – 265 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лексіка-семантычная характарыстыка ўласнабеларускіх тэрмінаў: паняцці *тэрмін* і *тэрміналогія*; лексіка-семантычныя групы ўласнабеларускіх тэрмінаў. 2. Лексіка-граматычныя і функцыянальныя асаблівасці ўласнабеларускіх тэрмінаў: тэрміны-назоўнікі; тэрміны-прыметнікі; тэрміны-дзеясловы; тэрміны-дзеепрыметнікі. 3. Словаўтваральная характарыстыка ўласнабеларускіх тэрмінаў: марфалагічны спосаб утварэння ўласнабеларускіх тэрмінаў; лексіка-семантычны спосаб утварэння ўласнабеларускіх тэрмінаў у тэхнічнай тэрміналогіі; словазлучэнне як спосаб утварэння ўласнабеларускіх тэрмінаў.

У дысертацыі 1 дадатак (25 с.) – алфавітны паказальнік тэрмінаў з указаннем крыніц.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны лексіка-семантычныя групы ўласнабеларускіх тэрмінаў у складзе тэхнічнай тэрміналогіі; вызначаны лексіка-граматычныя разрады ўласнабеларускіх тэрмінаў у сферы фіксацыі (у тэрміналагічных слоўніках) і прааналізаваны асаблівасці іх ужывання ў сферы функцыянавання (у тэкстах навукова-тэхнічнай літаратуры); раскрыты асноўныя спосабы ўтварэння ўласнабеларускіх тэрмінаў у галіне тэхнікі.

***Крыніца інфармацыі:*** Занкавіч, А.П. Уласнабеларуская лексіка ў тэхнічнай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.П. Занкавіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 20 с.

## 95 ЗАРЕМБО ОЛЬГА СЕРГЕЕВНА

***Тема:*** Место греческо-церковнославянской грамматики «Адельфотис» (Львов, 1591) в истории восточнославянской грамматической традиции.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – теория языка.

***Научный руководитель:*** Мечковская Н.Б., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 12.06.2003; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Янович Е.И., д.филол.н.; Щербин В.К., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Характеристика лингвистической методологии греко-церковнославянской грамматики «Адельфотис» и определение места «Адельфотиса» среди ранних восточнославянских грамматик.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 131 с., основной текст занимает 108 с. Список использованной литературы – 172 источника.

Результаты исследования отражены в 6 главах. 1. «Еллинословенская» грамматика «Адельфотис» в историко-культурном контексте: представления о связи языка и правоверия в восточнославянской книжности XVI – XVII вв.; символическое значение и реальное использование греческого языка в восточнославянской культуре XVI – XVII вв.; языковая ситуации в ВКЛ XVI – XVII вв.; роль православных братств в распространении знаний; история создания, публикации и научных изданий «еллинословенской» грамматики «Адельфотис». 2. Языки-объекты и метаязыки в «еллинословенской» грамматике «Адельфотис»: место и функции древнегреческого и среднегреческого языка в «Адельфотисе»; место и функции церковнославянского и народного языка в «Адельфотисе»; противопоставление синонимичных церковнославянской и народной форм в языке-объекте. 3. Фонетико-орфографические проблемы в грамматике «Адельфотис»: разделы грамматики, в которых рассматриваются фонетико-просодические и графико-орфографические вопросы; фонетическое содержание раздела «Орфография»; характеристика фонетической терминологии «Адельфотиса»; основные коллизии церковнославянского письма в восточнославянской книжности XVI – XVII вв.; виды орфографических заимствований в «Адельфотисе»; тенденция к семантизации аллографов как отличительная черта старинной орфографической традиции, функциональные роли аллографов в «Адельфотисе». 4. Методы представления морфологического строя языка в «Адельфотисе»: классификация (их объекты и роль в грамматике «Адельфотис»); противоречие метода и языкового материала; виды определений в «Адельфотисе» и их эвристическая ценность; характеристика механизмов формообразования в «Адельфотисе». 5. Синтаксическая проблематика в «Адельфотисе»: учение о синтаксисе в древнегреческой и византийской науке о языке; место синтаксической проблематики в истории восточнославянской грамматической традиции. 6. Языковое своеобразие и когнитивные функции терминологии в «Адельфотисе»: своеобразие оппозиции термина и неспециального слова в ранних памятниках грамматической традиции; славянская терминология «Адельфотиса» с точки зрения ее происхождения; калькирование как наиболее продуктивный прием раннего терминотворчества (греческие и славянские источники грамматической терминологии «Адельфотиса»); когни-

тивные и языковые факторы варьирования в терминологиях ранних восточнославянских грамматик; полисемия славянской грамматической терминологии «Адельфотиса» и ее причины; судьба терминологии «Адельфотиса».

В диссертации 2 приложения (13 с.): «Систематический список греческих и церковнославянских терминов *Адельфотиса* (Львов, 1591)», «Толкования языковых категорий в грамматике *Адельфотис* в сопоставлении и современными дефинициями».

***Научное значение исследования:*** Изучена роль греко-латинской традиции в лингвистической идеологии средневековых славянских грамматистов; выявлена система грамматических категорий в «Адельфотисе», выявлена степень релевантности для церковнославянского языка; охарактеризована грамматическая теория и практика грамматического описания в конце XVI в. на основе анализа терминологии, лингвистических дефиниций, принципов классификации и способов представления парадигм в «Адельфотисе»; исследованы методы ранних церковнославянских грамматик с точки зрения значимости для современной лингвистической методологии, а также степень оформленности методов лингвистического описания в «Адельфотисе» в сравнении с другими грамматиками церковнославянского языка XVI – XVII вв.; охарактеризована терминология грамматики «Адельфотис» с точки зрения происхождения, зависимости от греческих и латинских источников, степени мотивированности лингвистических терминов, их морфемного состава, дальнейшей судьбы терминологии, представленной в грамматике.

***Источник информации:*** Зарембо, О.С. Место греческо-церковнославянской грамматики «Адельфотис» (Львов, 1591) в истории восточнославянской грамматической традиции: автореф. дис… канд. филол. наук: 10.02.19 / О.С. Зарембо; БГУ. – Минск, 2003. – 23 с.

## 96 ЗЕЛЯНКО ВОЛЬГА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Методыка навучання беларускай мове на аснове лінгвакультуралагічнага падыходу (X – XI класы).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Навуковы кіраўнік:*** Валочка Г.М., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя гуманітарнай адукацыі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 02.12.2010; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Гамеза Л.М., д.пед.н.; Шахаб В.В., к.пед.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Вызначыць тэарэтычныя асновы лінгвакультуралагічнага падыходу і распрацаваць методыку яго ўкаранення ў працэс навучання беларускай мове (X – XI класы).

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 170 с., асноўны тэкст займае 125 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 120 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах: 1. Метадалагічныя перадумовы рэалізацыі лінгвакультуралагічнага падыходу да навучання беларускай мове ў агульнаадукацыйных установах: характарыстыка лінгвакультуралагічнага падыходу да навучання беларускай мове; метадычныя напрамкі рэалізацыі лінгвакультуралагічнага падыходу да навучання беларускай мове, змест фарміравання лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі вучняў пры навучанні беларускай мове; прынцыпы навучання беларускай мове на аснове лінгвакультуралагічнага падыходу. 2. Зыходны ўзровень лінгвакультуралагічнага развіцця вучняў (канстатуючы эксперымент): рэалізацыя лінгвакультуралагічнага падыходу ў падручніках па беларускай мове для X – XI класаў агульнаадукацыйных школ; узровень сфарміраванасці ў вучняў лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі (вынікі канстатуючага эксперымента); тыпалогія практыкаванняў, накіраваных на фарміраванне лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі вучняў агульнаадукацыйных устаноў. 3. Фарміраванне лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі ў вучняў X – XI класаў агульнаадукацыйных устаноў: задачы навучальнага эксперымента; вывучэнне нацыянальна маркіраваных адзінак беларускай мовы (моўны кампанент лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі); спасціжэнне вучнямі каштоўнасцей і рэалій нацыянальнай культуры пры навучанні беларускай мове (нацыянальна-культурны кампанент лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі); навучанне беларускай мове ў дыялогу культур (міжкультурны кампанент лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі); вынікі эксперыментальнага навучання.

У дысертацыі 7 дадаткаў (33 с.): «Практыкаванні, на аснове якіх адбывалася вывучэнне нацыянальна маркіраваных адзінак беларускай мовы», «Лінгвакультуразнаўчыя тэксты, на аснове якіх адбывалася вывучэнне нацыянальна маркіраваных адзінак беларускай мовы», «Практыкаванні, на аснове якіх адбывалася спасціжэнне вучнямі каштоўнасцей і рэалій нацыянальнай культуры пры навучанні беларускай мове», «Культуразнаўчыя тэксты, на аснове якіх адбывалася спасціжэнне вучнямі каштоўнасцей і рэалій нацыянальнай культуры пры навучанні беларускай мове», «Практыкаванні, на аснове якіх адбывалася навучанне беларускай мове ў дыялогу культур», «Культуразнаўчыя тэксты, на аснове якіх адбывалася навучанне беларускай мове ў дыялогу культур», «Культуразнаўчыя тэксты, на аснове якіх адбывалася праверка эфектыўнасці эксперыментальнага навучання».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызавана сутнасць лінгвакультуралагічнага падыходу да навучання беларускай мове, вызначаны метадычныя напрамкі яго рэалізацыі; вызначаны змест фарміравання лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі як выніку рэалізацыі ў навучанні лінгвакультуралагічнага падыходу; сфармуляваны прынцыпы навучання беларускай мове на аснове лінгвакультуралагічнага падыходу; выяўлены зыходны ўзровень сфарміраванасці лінвакультуралагічнай кампетэнцыі вучняў XI класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай

і рускай мовамі навучання; распрацавана методыка фарміравання лінгвакультуралагічнай кампетэнцыі вучняў X – XI класаў і праверана яе эфектыўнасць пры навучанні беларускай мове.

***Крыніца інфармацыі:*** Зелянко, В.У. Методыка навучання беларускай мове на аснове лінгвакультуралагічнага падыходу (X – XI класы): аўтарэф. дыс. … канд. пед. навук: 13.00.02 / В.У. Зелянко; БДУ. – Мінск, 2010. – 26 с.

## 97 ЗІМАНСКІ ВАДЗІМ ЭЛДАРАВІЧ

***Тэма:*** Мова беларускай пісьменнасці ранняга перыяду (на матэрыяле Вісліцкага статута XV ст.).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 03.12.2002; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Будзько І.У., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Вывучэнне і максімальна поўнае апісанне стану і кірункаў развіцця старабеларускай мовы ранняга перыяду на графіка-арфаграфічным, марфалагічным і лексічным узроўнях на матэрыяле Вісліцкага статута як помніка дзелавой пісьменнасці XV ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 233 с., асноўны тэкст займае 113 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 248 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Графіка-арфаграфічная сістэма Вісліцкага статута: графічныя асаблівасці помніка; арфаграфічныя асаблівасці помніка. 2. Марфалагічная сістэма Вісліцкага статута: іменнае скланенне; атрыбутыўнае скланенне; спрагальныя формы дзеясловаў; асаблівасці ўжывання іменных формаў дзеяслова; асаблівасці ўжывання займеннікаў; асаблівасці ўжывання лічэбнікаў; словаўтваральныя тыпы прыслоўяў. 3. Лексічная сістэма Вісліцкага статута: тэматычная характарыстыка лексікі помніка; запазычаная лексіка помніка.

У дысертацыі 3 дадаткі (104 с.) – «Копіі некаторых артыкулаў Вісліцкага статута», «Колькасныя паказчыкі найбольш ужывальных у Вісліцкім статуце слоў», «Слоўнік Вісліцкага статута» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле Вісліцкага статута XV ст. вывучана мова беларускай дзелавой пісьменнасці ранняга перыяду; даследаваны асноўныя графіка-арфаграфічныя асаблівасці помніка, вызначаны тэндэнцыі эвалюцыі графічнай сістэмы і ступені ўплыву на пісьмовую дзелавую мову рыс жывой народнай мовы ў галіне арфаграфіі; праведзены аналіз кірункаў развіцця

важнейшых граматычных формаў у сістэме скланення і спражэння; даследаваны лексічныя адзінкі помніка, вызначаны іх семантычны аб'ём і дэрывацыйныя магчымасці; удакладнена семантыка асобных лексем, даследавана ступень тэрміналагізацыі слоў.

***Крыніца інфармацыі:*** Зіманскі, В.Э. Мова беларускай пісьменнасці ранняга перыяду (на матэрыяле Вісліцкага статута XV ст.): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.Э. Зіманскі; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2002. – 21 с.

## 98 ЗРАЗІКАВА ВАЛЯНЦІНА АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Семантычная і словаўтваральная структура індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў (на матэрыяле беларускіх мастацкіх твораў першай палавіны XX ст.).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Кулеш Г.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 14.11.2006; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Іўчанкаў В.І., д.філал.н.; Шумчык Ф.С., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Выяўленне семантычных і словаўтваральных асаблівасцей аказіяналізмаў і вызначэнне іх ролі як сродкаў выразнасці і вобразнасці ў мове мастацкіх твораў першай палавіны XX ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 132 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 187 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Індывідуальна-аўтарскія неалагізмы як маўленчая з'ява: маўленчыя новаўтварэнні як адметная катэгорыя лексічных адзінак; дыферэнцыяльныя адзнакі індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў; семантычная структура індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў; дэрывацыйная структура індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў; індывідуальна-аўтарскія неалагізмы ў лексічнай сістэме беларускай мовы першай палавіны XX ст.; праблема выяўлення індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў; класіфікацыя індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў. 2. Індывідуальна-аўтарскія неалагізмы з эксплiцытнай актуалізацыяй семантыкі: індывідуальна-аўтарскія назоўнікі; індывідуальна-аўтарскія прыметнікі; індывідуальна-аўтарскія дзеясловы і атрыбутыўныя формы дзеясловаў. 3. Індывідуальна-аўтарскія неалагізмы з імпліцытнай актуалізацыяй семантыкі: індывідуальна-аўтарскія назоўнікі; індывідуальна-аўтарскія прыметнікі; індывідуальна-аўтарскія дзеясловы і атрыбутыўныя формы дзеясловаў. 4. Індывідуальна-аўтарскія неалагізмы з эксплiцытна-імпліцытнай актуалізацыяй семантыкі: значэнні аказіянальных семантэм; семантыка індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў, матываваных аказіянальнымі першаасновамі.

У дысертацыі 1 дадатак (7 с.) – «Алфавітны паказальнік індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны індывідуальна-аўтарскія неалагізмы ў літаратурных творах першай паловы XX ст. на семантычным і слова-ўтваральным узроўнях; на аснове семантычнай класіфікацыі ўстаноўлены тыпы сэнсавай сувязі аказіяналізмаў з першаасновамі, у межах гэтых тыпаў вызначана роля дэрывацыйных сродкаў у працэсе актуалізацыі семантыкі неўзуальных неалагізмаў, паказаны ўзаемаўплыў і ўзаемаабумоўленасць лексічнага і слова-ўтваральнага значэнняў; акцэнтавана ўвага на ўмовах метафарызацыі новаўтва-рэнняў, што ў значнай ступені тлумачыць неабходнасць ужывання такіх адзінак у канкрэтным мастацкім кантэксце, падкрэслівае адметнасць іх функцыянальна-стылістычнага выкарыстання; разгледжаны пытанні сістэмных узаемаадносін у аказіянальнай лексіцы; абгрунтавана аднаразовасць ужывання аказіяналізмаў; даказаны пераважна семасіялагічны характар аказіянальнасці аўтарскіх утварэнняў.

***Крыніца інфармацыі:*** Зразікава, В.А. Семантычная і словаўтваральная структура індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў (на матэрыяле беларускіх мастацкіх твораў першай палавіны XX ст.): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.А. Зразікава; БДУ. – Мінск, 2006. – 20 с.

## 99 ИВАНОВА СВЕТЛАНА ФЕДОРОВНА

***Тема:*** Манифестация грамматических различий близкородственных языков в тексте (на материале эквивалентных текстов на белорусском и русском языках).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – общее языкознание, социолингвистика, психолингвистика.

***Научный руководитель:*** Мечковская Н.Б., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 18.09.1998; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Конюшкевич М.И., д.филол.н.; Гордей А.Н., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Теоретическая разработка и практическая реализация контрастивного анализа грамматического строя близкородственных языков на материале текстов, выявление текстовой (речевой) значимости межъязыковых грамматических различий, их характера, встречаемости, выявление меры близости грамматик.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 141 с., основной текст занимает 127 с. Список использованной литературы – 189 источников.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Методология контрастивного изучения языков: роль приема сопоставления в контрастивных исследованиях; контрастивная лингвистика в кругу смежных сопоставительных исследова-

ний языков; аспекты контрастивных исследований; специальные методы языкового описания и сопоставительный подход; основные принципы межъязыковых сопоставлений. 2. Принципы контрастивно-грамматического исследования эквивалентных текстов на белорусском и русском языках: эквивалентные тексты и принципы их отбора; обоснование избранного подхода «от содержания к форме»; специфика контрастивно-грамматического исследования текстов; количественная методика в контрастивно-грамматическом исследовании эквивалентных текстов. 3. Морфологические различия в эквивалентных текстах на белорусском и русском языках: категория рода в белорусском и русском языках и межъязыковые различия в роде; категория числа в белорусском и русском языках и межъязыковые различия по числу; полные / краткие формы прилагательных и причастий в белорусском и русском языках и межъязыковые различия в их выборе в текстах; межъязыковые различия в сфере глагола в белорусском и русском языках. 4. Синтаксические различия в эквивалентных текстах на белорусском и русском языках: различия в синтаксисе словосочетаний; различия в синтаксисе предложения.

***Научное значение исследования:*** Разработан метод сопоставления близкородственных языков на основе эквивалентных текстов; выявлены и поуровнево систематизированы межъязыковые лексико-грамматические различия в корпусе текстов, достаточном для получения значимых результатов; проведено ранжирование межъязыковых различий (с учетом их количественной представленности в текстах) по степени значимости для оценки близости языков.

***Источник информации:*** Иванова, С.Ф. Манифестация грамматических различий близкородственных языков в тексте (на материале эквивалентных текстов на белорусском и русском языках): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / С.Ф. Иванова; БГУ. – Минск, 1998. – 22 с.

## 100 ІВАНОЎ ЯЎГЕН ЯЎГЕНАВІЧ

***Тэма:*** Дыферэнцыяльныя прыметы афарызма.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.19 – тэорыя мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Плотнікаў Б.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.06.2004; Д 02.01.24, БДУ.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Вызначэнне дыферэнцыяльных прымет афарызма як спецыфічнай з’явы мовы і маўлення і апісанне на гэтай падставе яго агульнакатэгарыяльных разнавіднасцей (асноўных класаў) і семантычных тыпаў.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 142 с., асноўны тэкст займае 122 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 308 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Афарызм як аб'ект лінгвістыкі (развіццё, напрамкі і спецыфіка вывучэння): станаўленне і асаблівасці асэнсавання афарызма як моўнага феномена; праблемы апісання афарызма як літаратурнага тэксту; погляды на афарызм як адзінку фразеалагічнага складу мовы; лінгвістычнае асэнсаванне афарызма ў тэрмінах структурнай парэміялогіі; лінгвакраіназнаўчая тэорыя афарызма; спосабы апісання афарызма з пункту гледжання функцыянальна-семантычнай тыпалогіі выказвання. 2. Лінгвістычнае паняцце афарызма і прынцыпы дыферэнцыяцыі афарыстычных адзінак паводле іх агульнакатэгарыяльных адрозненняў: вызначэнне лінгвістычнага паняцця афарызма; дыферэнцыяцыя афарыстычных адзінак паводле іх агульнакатэгарыяльных адрозненняў; дыферэнцыяльныя прыметы асноўных (агульнакатэгарыяльных) класаў афарызмаў; функцыянальныя суадносіны і дынаміка асноўных класаў афарызмаў. 3. Афарыстычная семантыка і прынцыпы сэнсавай дыферэнцыяцыі афарызмаў паводле іх адносін да рэчаіснасці: семантычная кваліфікацыя афарызма паводле яго адносін да рэчаіснасці; сэнсавая дыферэнцыяцыя афарызмаў паводле іх адносін да рэчаіснасці; дыферэнцыяльныя прыметы асноўных семантычных тыпаў афарызмаў; сфера функцыянавання і агульнакатэгарыяльныя разнавіднасці афарызмаў розных семантычных тыпаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Удакладнена паняцце афарызма як уласна лінгвістычнага аб'екта; вызначаны прынцыпы дыферэнцыяцыі афарыстычных адзінак паводле іх агульнакатэгарыяльных адрозненняў; акрэслена месца афарызма ў сістэме камунікатыўных і намінатыўных адзінак; вызначана спецыфіка афарыстычнай семантыкі; выяўлены асноўныя семантычныя тыпы афарызма паводле яго адносін да рэчаіснасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Іваноў, Я.Я. Дыферэнцыяльныя прыметы афарызма: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.19 / Я.Я. Іваноў; БДУ. – Мінск, 2004. – 23 с.

## 101 ИВАТОВИЧ ВАЛЕНТИНА ТАДЕУШЕВНА

***Тема:*** Фразеологизмы в художественной прозе В. Короткевича и особенности их перевода на русский язык.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Груцо А.П., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГПУ, кафедра теории и истории языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 20.09.2001; К 02.21.01, БГПУ.

***Оппоненты:*** Коваль В.И., д.филол.н.; Козырев Л.И., к.филол.н.; БрГУ.

***Цель:*** Анализ фразеологизмов в языке оригиналов и переводов на русский язык художественной прозы В. Короткевича.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 165 с., основной текст занимает 89 с. Список использованной литературы – 365 источников.

Результаты исследования отражены в 2 главах. 1. История вопроса: основные направления в исследовании фразеологии; некоторые вопросы художественного перевода с близкородственных языков; фразеологизм и перевод. 2. Фразеология в художественной прозе В. Короткевича: фразеология в оригиналах и переводах художественной прозы В. Короткевича (классификация их по степени общности и дифференциации); индивидуально-авторское использование фразеологизмов; историко-этимологическое исследование фразеологии; фразеология с учетом ее происхождения в художественной прозе В. Короткевича; стилистические функции фразеологизмов в тексте художественного произведения.

В диссертации 1 приложение (54 с.) – «Фразеологический словарь художественной прозы В. Короткевича» (полная словарная статья состоит из следующих информационных зон: зоны номинации, зоны семантизации, зоны иллюстраций, зоны паспортизации).

***Научное значение исследования:*** Исследованы фразеологизмы в языке оригиналов и переводов на русский язык художественной прозы В. Короткевича: предложена классификация фразеологических соответствий по степени их общности и дифференциации; выявлены случаи авторского преобразования фразеологических единиц в оригиналах и установлена адекватность их передачи в переводах на русский язык; исследованы фразеологические единицы оригиналов и переводов с учетом происхождения; определены стилистические функции фразеологических единиц в оригиналах произведений писателя.

***Источник информации:*** Иватович, В.Т. Фразеологизмы в художественной прозе В. Короткевича и особенности их перевода на русский язык: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / В.Т. Иватович; БГПУ. – Минск, 2001. – 20 с.

## 102 ІЎЧАНКАЎ ВІКТАР ІВАНАВІЧ

***Тэма:*** Дыскурс беларускіх СМІ. Арганізацыя публіцыстычнага тэксту.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковыя кансультанты:*** Стральцоў Б.В., д.філал.н.; Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра стылістыкі і літаратурнага рэдагавання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 02.10.2003; Д 02.01.08, БДУ.

***Апаненты:*** Бондарава Е.Л., д.філал.н.; Станкевіч А.А., д.філал.н.; Цімошык М.С., д.філал.н.; Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце РБ.

***Мэта:*** Распрацоўка комплекснай тэарэтычнай канцэпцыі вывучэння дыскурса беларускіх СМІ і арганізацыі публіцыстычнага тэксту як сінкрэтычнай галіны пазнання ў сферах журналістыкі і мовазнаўства, а таксама абгрунтаванне дыскурснага аналізу беларускамоўных тэкстаў СМІ.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 232 с., асноўны тэкст займае 203 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 320 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Генезіс дыскурса беларускіх СМІ і анталагічны статус лінгвістыкі публіцыстычнага тэксту. 1.1. Тэкст. Тэорыя тэксту і лінгвістыка тэксту. Дэфінітыўны апарат апрацоўкі тэксту ў лінгвістычных сферах. Інтэртэкстуальнасць. 1.2. Тэкставая дзейнасць журналіста. Журналісцкі тэкст: інфармацыйныя і публіцыстычныя тэксты. PR-тэксты. 1.3. Дыскурсны падыход да вывучэння публіцыстычных тэкстаў (сцэнарый дыскурснага аналізу тэкстаў-навін). 1.4. Роля сасюраўскай канцэпцыі ў вызначэнні сутнасці дыскурснага падыходу да вывучэння СМІ. 1.5. Праблема вызначэння зместу тэрміна *дыскурс*, яго структуры і залежнасцей. 1.6. Ад вывучэння мовы ў сацыяльным кантэксце да дыскурснага аналізу. 1.7. Асобныя характарыстыкі беларускамоўных тэкстаў СМІ ў звязку з гісторыяй і сучасным станам функцыянавання мовы. 1.7.1. Семантычная кандэнсацыя як акумулятыўны сродак назапашвання ведаў пра ментальнасць народа. 1.7.2. Моўная дывергенцыя і канвергенцыя: уплыў на вытворчасць публіцыстычнага тэксту. 1.7.3. Беларускія СМІ ў сітуацыі дзяржаўнага білінгвізму, сучасныя тэндэнцыі развіцця мовы СМІ. 1.7.3.1. Ізамарфізм рускага элемента ў беларускамоўных тэкстах СМІ. 1.8. Агульныя анталагічныя і прыватныя экстралінгвістычныя характарыстыкі публіцыстычнага тэксту. 1.8.1. Публіцыстычны тэкст: прызначанасць для масавай аўдыторыі і распаўсюджанасць. 1.8.2. Экстралінгвістычны фактар дзеяння публіцыстычнага тэксту: аператыўнасць. 1.8.3. Перманентнасць публіцыстычнага тэксту: перыядычнасць і рэгулярнасць. Фарміраванне інфармацыйных паводзін. 1.8.4. Дубліраванне і вар'іраванне: варыянтна-інварыянтны падыход да сігніфікацыі публіцыстычнага тэксту. 1.8.5. «Вытворчы цэх» публіцыстычнага тэксту: аўтарскае «я» і калектыўнае аўтарства. 1.8.6. Экстралінгвістычная матывацыя інтэртэкстуальнага эфекту журналісцкай дзейнасці. 1.8.7. Камунікатыўная зададзенасць і прызначанасць публіцыстычнага тэксту. 2. Лінгвістычная арганізацыя публіцыстычнага тэксту. 2.1. Выражэнне моўнай асобы ў тэксце. 2.1.1. Трапеічная сістэма мастацкага тэксту ў дачыненні да сацыяльнай дзейнасці носьбіта мовы. 2.2. Вонкавая і ўнутраная структураванасць публіцыстычнага тэксту. 2.3. Парадыгматыка і сінтагматыка публіцыстычнага тэксту. 2.3.1. Парадыгматычная здольнасць вербальнага знака ў публіцыстычным тэксце. 2.3.2. Індыкатары ілакутыўнага акта перабудовы. 2.3.3. Парадыгматычная структураванасць публіцыстычнага тэксту і камунікатыўная дамінанта аднаго з яго элементаў. 2.3.4. Сінтагматыка публіцыстычнага тэксту. 2.4. Марфалагічная стратыфікацыя публіцыстычнага тэксту. 3. Кагнітыўная апрацоўка дыскурса СМІ. 3.1. «Падзейнасць» публіцыстычнага тэксту: рэальнасць / ірэальнасць. 3.1.1. Кагнітыўны аспект ірэальнай «падзейнасці» медыядзеяння. 3.2. Інтэрпрэтацыя публіцыстычнага тэксту як дыскурса. Канцэпты «чалавека» як сукупнай моўнай асобы. 3.3. Складнікі публіцыстычнага тэксту: тэма, топік, фрэйм. 3.3.1. Фрэймавыя структуры як прэзентацыя эпізадычнай памяці. 3.4. Дыскурсны аналіз у лінгвістыцы

публіцыстычнага тэксту. 3.4.1. Прагма-кагнітыўны аналіз публіцыстычнага тэксту як дыскурса. 3.4.2. Лакутыўна-ілакутыўна-перлакутыўны працэс у публіцыстычным тэксце.

У дысертацыі 2 дадаткі (10 с.): «Ілюстрацыя інтэртэкстуальнай пабудовы аўдыявізуальнага тэксту», «Спіс публікацый, выкарыстаных для аналізу парадыгматычных магчымасцей слова ў публіцыстычных тэкстах, тэматычна ўніфікаваных».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Закладзены асновы дыскурснага аналізу СМІ і фарміравання на Беларусі лінгвістыкі публіцыстычнага тэксту. Распрацавана канцэпцыя і вызначаны кагнітыўныя параметры даследавання дыскурса беларускіх СМІ (прызначанасць для масавай аўдыторыі, аператыўнасць, перыядычнасць і рэгулярнасць, дубліраванне і вар'іраванне, калектыўная творчасць, інтэртэкстуальнасць, камунікатыўная і прагматычная зададзеннасць, звязаная з эфектыўнасцю ўплыву на спажыўца інфармацыі). Акрэслены лінгвістычныя прыёмы і сродкі маніпулятыўных інфармацыйных тэхналогій, якія забяспечваюць камунікатыўную і прагматычную накіраванасць публіцыстычнага тэксту, вызначана камунікатыўна-інфармацыйная дамінанта (канцэпт) дыскурса, праведзены мэтанакіраваны адбор вербальных сродкаў, вызначаны «рэпертуар тэм» і рэпертуар канцэптаў, якія іх увасабляюць. Выяўлены лінгвістычныя заканамернасці і правілы пабудовы тэкставанага дыскурса беларускіх СМІ. Дадзены рэкамендацыі па выкарыстанні сродкаў сучаснай беларускай мовы ў сферы мадэліравання паводзін носьбітаў мовы – успрымальнікаў вербальнай інфармацыі СМІ, а таксама рэкамендацыі па выкарыстанні сродкаў мовы ў працэсе тэкстаўтварэння. Устаноўлены рэпертуар сродкаў беларускай мовы розных узроўняў: лексічнага (выбар нейтральнай і ацэначнай канцэптуальнай лексікі), граматычнага (пераважнае выкарыстанне адзінай пэўнай часціны мовы), марфалагічнага (перавага пэўных граматычных формаў і сінтаксічных канструкцый), дэрывацыйнага (выкарыстанне матываванай лексікі пэўных словаўтваральных тыпаў).

***Крыніца інфармацыі:*** Іўчанкаў, В.І. Дыскурс беларускіх СМІ. Арганізацыя публіцыстычнага тэксту: аўтарэф. дыс… д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.І. Іўчанкаў; БДУ. – Мінск, 2003. – 41 с.; Ивченков, В.И. Лингвистическая организация текста: в творческой лаборатории Владимира Короткевича / В.И. Ивченков. – Минск: Изд-во БГУ, 2002. – 211 с.; Ивченков, В.И. Лингвостилистика тропов Юрия Казакова / В.И. Ивченков. – Минск: Пачатковая школа, 2002. – 112 с.; Іўчанкаў, В.І. Дыскурс беларускіх СМІ. Арганізацыя публіцыстычнага тэксту / В.І. Іўчанкаў. – Мінск: Выд-ва БДУ, 2003. – 257 с.

## 103 КАВАЛЁВА ЛІЛІЯ ЯЎГЕНАЎНА

***Тэма:*** Англіцызмы ў тэрміналогіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 12.11.2004; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Груца А.П., д.філал.н.; Шэлягава Т.Г., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Комплексны аналіз тэрмінаадзінак англійскага паходжання ў складзе сучаснай беларускай мовы, вызначэнне іх лексічна-граматычных разрадаў, спосабаў адаптацыі і замацавання ў беларускай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 172 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 168 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Англіцызмы-тэрмінаадзінкі ў беларускай мове: тэорыя і гісторыя пытання: тэрмін, тэрміналогія, тэрміназнаўства, галоўныя адзнакі тэрміна і іх выяўленне ў складзе англіцызмаў беларускай мовы; тэрмін і іншыя спецыяльныя адзінкі; сістэмнасць тэрмінаў-англіцызмаў; монасемія тэрміна і яе выяўленне ў складзе англіцызмаў беларускай мовы; сінанімія, варыянтнасць, дублетнасць тэрмінаў-англіцызмаў; аманімія ў складзе тэрмінаў-англіцызмаў; кароткая форма тэрмінаў-англіцызмаў. 2. Сферы выкарыстання англійскамоўных адзінак у сучаснай беларускай тэрміналогіі: спартыўная тэрміналогія; тэхнічная тэрміналогія; марская тэрміналогія; эканамічна-фінансавая тэрміналогія; грамадска-палітычная тэрміналогія; сельскагаспадарчая тэрміналогія; фізічна-матэматычная тэрміналогія; біялагічная тэрміналогія; хімічная тэрміналогія; філалагічная тэрміналогія; вайсковая тэрміналогія; філасофская тэрміналогія; медыцынская тэрміналогія; юрыдычная тэрміналогія; тэрміналогія культуры і мастацтва; тэкстыльная тэрміналогія; інфармацыйна-адукацыйная тэрміналогія; будаўнічая тэрміналогія; мінералагічная тэрміналогія; горназдабыўная тэрміналогія; металургічная тэрміналогія; прыродна-метэаралагічная тэрміналогія; паліграфічная тэрміналогія; гістарычная тэрміналогія; чыгуначная тэрміналогія. 3. Адаптацыя тэрмінаадзінак-англіцызмаў у сучаснай беларускай мове: фанетычная адаптацыя; марфалагічная адаптацыя англіцызмаў; англійскамоўныя адзінкі ў словаўтваральнай сістэме беларускай мовы; семантычная адаптацыя англіцызмаў у беларускай мове.

У дысертацыі 1 дадатак (62 с.) – слоўнік англіцызмаў у беларускай мове (слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны этымалагічнай інфармацыі, зоны семантызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены і сістэматызаваны моўныя адзінкі англійскага паходжання, якія выкарыстоўваюцца ў беларускай тэрміналогіі, акрэслена сфера іх выкарыстання; высветлены спосабы і прыёмы марфалагічнай, семантычнай і фанетычнай адаптацыі англіцызмаў у беларускай мове; вызначана роля англіцызмаў у тэрмінаўтваральным працэсе беларускай мовы; даследавана сістэмнасць тэрмінаў-англіцызмаў у плане зместу і плане выражэння, а таксама іх адпаведнасць патрабаванню кароткасці тэрміна; устаноўлена спецыфіка праяўлення лексічна-семантычных з'яў у складзе тэрмінаў-англіцызмаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Кавалёва, Л.Я. Англіцызмы ў тэрміналогіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.20 / Л.Я. Кавалёва; БДПУ. – Мінск, 2004. – 21 с.

## 104 КАВАЛЁНАК СВЯТЛАНА ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Спосабы дзеяслоўнага дзеяння і дзеяслоўнае словаўтварэнне ў беларускай і рускай мовах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.06.2008; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Роўда І.С., д.філал.н.; Гадуйка Л.С., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Лексіка-граматычная і словаўтваральная характарыстыка значэнняў спосабаў дзеяслоўнага дзеяння ў беларускай і рускай мовах (на матэрыяле бінарных дзеясловаў руху і перамяшчэння).

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 332 с., асноўны тэкст займае 154 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 181 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Спосабы дзеяслоўнага дзеяння: сутнасць і месца ў лексіка-граматычнай катэгорыі дзеяслова: спосабы дзеяслоўнага дзеяння: да праблемы іерархічнай класіфікацыі; спосабы дзеяслоўнага дзеяння і катэгорыя трывання дзеяслова; спосабы дзеяслоўнага дзеяння і пераходнасць / непераходнасць; спосабы дзеяслоўнага дзеяння і зваротнасць / незваротнасць дзеяслова; спосабы дзеяслоўнага дзеяння і кратнасць / някратнасць дзеяслова. 2. Узаемасувязь словаўтваральнага і акцыянсартнага значэнняў дзеяслоўных словаўтваральных афіксаў у беларускай і рускай мовах. 3. Супастаўляльнае вывучэнне спосабаў дзеяслоўнага дзеяння бінарных дзеясловаў руху і перамяшчэння: матэматычныя метады ў даследаванні словаўтваральных гнёздаў; словаўтваральныя тыпы непераходных дзеясловаў руху; словаўтваральныя тыпы дзеясловаў перамяшчэння.

У дысертацыі 4 дадаткі, якія аформлены асобнай кнігай (160 с.): беларускія словаўтваральныя гнёзды (15), табліцы (12), тлумачэнні кадыфікаваных дадзеных, аналізуемых з дапамогай матрыц (4), матрыцы (8).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана сутнасць спосабаў дзеяслоўнага дзеяння ў беларускай і рускай мовах і іерархія іх значэнняў; выяўлена спецыфіка ўзаемасувязі спосабаў дзеяслоўнага дзеяння з іншымі лексіка-граматычнымі катэгорыямі дзеяслова (трывання, пераходнасці, зваротнасці, кратнасці); выяўлены корпус вытворных дзеясловаў руху і перамяшчэння ў беларускай і рускай мовах, даследавана спецыфіка ўзаемасувязі словаўтваральнага і акцыянсартнага значэнняў; устаноўлена месца дзеясловаў руху і перамяшчэння

розных спосабаў дзеяслоўнага дзеяння ў беларускай і рускай мовах з улікам наступных параметраў: ступень дэрывацыі, акцыянсартнае значэнне, словаўтваральны фармант, граматычная мадэль; выяўлены словаўтваральныя тыпы, у межах якіх адбываецца ўтварэнне дзеясловаў з пэўным акцыянсартным значэннем, а таксама іх суадноснасць у супастаўляемых мовах.

***Крыніца інфармацыі:*** Кавалёнак, С.В. Спосабы дзеяслоўнага дзеяння і дзеяслоўнае словаўтварэнне ў беларускай і рускай мовах: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / С.В.Кавалёнак; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2008. – 22 с.

## 105 КАВАЛЬЧУК АКСАНА ІВАНАЎНА

***Тэма:*** Апелятыўная лексіка з семантыкай персанальнасці ў гаворках Гродзеншчыны (структурна-семантычная арганізацыя, паходжанне).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 04.07.2002; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Ляшчынская В.А., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Аналіз агульнаасабовай субстантыўнай лексікі, якая ў гаворках Гродзеншчыны характарызуе асобу паводле ўзросту і полу, фізічнага стану, вонкавага выгляду, роднасці і сваяцтва.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 135 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 162 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Найменні асоб паводле ўзросту і полу: назвы малалетніх дзяцей і дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту; назвы дзяцей пераходнага ўзросту; назвы дарослых маладых асоб; назвы асоб сталага ўзросту; назвы старых людзей. 2. Найменні асобы паводле фізічнага стану: назвы фізічна моцнага, здаровага чалавека і фізічна слабога, хваравітага чалавека; назвы людзей з рознымі фізіялагічнымі недахопамі. 3. Найменні асобы паводле вонкавага выгляду: назвы асобы паводле адметнасцяў твару; назвы асобы паводле адметнасцяў канстытуцыі цела; назвы асобы паводле вопраткі і прычоскі. 4. Найменні асобы паводле роднасці і сваяцтва: агульныя назвы роднасці і сваяцтва; назвы кроўнай роднасці; назвы някроўнага сваяцтва.

У дысертацыі 1 дадатак (16 с.) – «Рэестр прааналізаваных найменняў (з паказальнікам крыніц)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана семантычная арганізацыя субстантыўнай лексікі, якая ў гаворках Гродзеншчыны характарызуе асобу паводле ўзросту і полу, фізічнага стану, знешняга выгляду, роднасці і сваяцтва; вызначаны рода-відавыя і сінанімічныя адносіны паміж лексемамі; вывучана словаўтваральн-

ная структура субстантываў з семантыкай персанальнасці; акрэслены дачыненні гэтых адзінак да лексічнай сістэмы іншых беларускіх гаворак і сучаснай беларускай літаратурнай мовы; высветлена паходжанне некаторых агульнаасабовых назоўнікаў, якія маюць непразрыстую структуру.

***Крыніца інфармацыі:*** Кавальчук, А.І. Апелятыўная лексіка з семантыкай персанальнасці ў гаворках Гродзеншчыны (структурна-семантычная арганізацыя, паходжанне): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.І. Кавальчук; ГДУ. – Гомель, 2002. – 19 с.

## 106 КАЗАНКОВА ЕКАТЕРИНА АЛЕКСЕЕВНА

***Тема:*** Лингво-семиотические закономерности отображения речевого общения в современной художественной прозе (на материале белорусского, русского и немецкого языков).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – теория языка.

***Научный руководитель:*** Мечковская Н.Б., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 17.12.2009; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Задворная Е.Г., д.филол.н.; Котовская С.С., к.филол.н.; ГГУ.

***Цель:*** Выявление лингво-семиотических закономерностей отображения речевого общения в шести современных повестях на белорусском, русском и немецком языках.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 149 с., основной текст занимает 113 с. Список использованной литературы – 215 источников.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Исследование речевого общения в лингвистике, лингвистической поэтике и семиотике: лингвистический аспект исследования коммуникации в художественном тексте; лингвопрагматический аспект исследования коммуникации в художественном тексте; литературоведческий аспект исследования коммуникации в художественном тексте; семиотический аспект исследования коммуникации в художественном тексте; материал, предмет, объект и методы исследования. 2. Коммуникация персонажей и ее место в уровневой организации литературного произведения: прямая речь действующих лиц как одна из составляющих организации произведения, принадлежащая уровню речевых актов; коммуникативные партии персонажей как художественное преломление прямой речи; принципы анализа коммуникативных партий в аспекте теории речевых актов; корреляции между составом персонажей и иллокутивной структурой их коммуникативных партий; художественный смысл различий в иллокутивной структуре коммуникативных партий персонажей. 3. Отображение коммуникации персонажей в художественной прозе: разнонаправленность литературной модификации коммуникативной реальности: факторы редукции диалога в разных формах повествования; художественный смысл различий в коммуникативных партитурах повестей. 4. Взаимодействие авторской

речи и прямой речи персонажей в аспектах прагмалингвистики и семиотики художественной прозы: нарратив и чужая речь; аспекты лингвистической характеристики авторского сопровождения прямой речи; виды информации в авторском сопровождении и их художественный смысл; художественный смысл различий между произведениями в удельном весе разных содержательных групп авторских сопровождений прямой речи героев; картина речевых актов в прямой речи *vs*. картина речевых актов, названных в авторских сопровождениях прямой речи.

В диссертации 10 приложений, которые составляют отдельный том (246 с.): «Частные принципы иллокутивной характеристики высказываний», «Коммуникативная партитура повести В. Кадетовой *Тэст на першае каханне*», «Коммуникативная партитура повести В. Потапенко *Надзя, Надзейка…*», «Коммуникативная партитура повести Г. Щербаковой *Косточка авокадо*», «Коммуникативная партитура повести Л. Улицкой *Веселые похороны*», «Коммуникативная партитура повести Ю. Герман *Рут* (*подруги*)», «Коммуникативная партитура повести Х. Ланге *Странник*», «Статистические расчеты взаимосвязи основных параметров, характеризующих способы представления прямой речи в шести исследуемых повестях», «Сводная таблица наличия выделенных признаков авторского сопровождения прямой речи, позволяющая учитывать их представленность во всем объеме исследованных текстов», «Указатель таблиц, представленных в диссертации».

***Научное значение исследования:*** Определены место и основные детерминанты коммуникации персонажей в уровневой структуре литературного произведения; представлены обязательные (языковые) и факультативные (речевые) иллокуции речевых актов и их относительная встречаемость в речи героев на основе полной выборки реплик персонажей и их авторского сопровождения из шести прозаических произведений; определен состав и количественная иерархия речевых актов, представленных в прямой речи героев; выявлены направления литературной модификации коммуникативной реальности в исследуемых прозаических произведениях; выделено содержание (семантика) авторского сопровождения к прямой речи персонажей и определена относительная представленность установленных видов информации (в авторских сопровождениях) в рассматриваемых произведениях с учетом особенностей повествовательной формы.

***Источник информации:*** Казанкова, Е.А. Лингво-семиотические закономерности отображения речевого общения в современной художественной прозе (на материале белорусского, русского и немецкого языков): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / Е.А. Казанкова; БГУ. – Минск, 2009. – 27 с.

## 107 КАЗАНЦЕВА ЕЛЕНА АНАТОЛЬЕВНА

***Тема:*** Денотативная структура текста народной загадки (на материале белорусских, русских и польских загадок).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.03 – славянские языки.

***Научный руководитель:*** Кожинова А.А., д.филол.н.

## 142 КУЛІКОВІЧ УЛАДЗІМІР ІВАНАВІЧ

***Тэма:*** Лінгвістычныя погляды У. Дубоўкі: інтэрлінгвістычны, графіка-арфаграфічны і лексічны аспекты.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Бурак Л.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.12.2001; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Жураўскі А.І., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Абагульніць і сістэматызаваць лінгвістычную тэарэтычную спадчыну У. Дубоўкі, асэнсаваць яго агульналінгвістычныя погляды і змест лінгвістычнай дзейнасці ў кантэксце станаўлення графіка-арфаграфічных і лексічных нормаў беларускай літаратурнай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 273 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Тэарэтычныя праблемы мовазнаўства ў спадчыне У. Дубоўкі: агульнатэарэтычныя пытанні; аспекты беларускай мовы ў інтэрпрэтацыі У. Дубоўкі. 2. Дзейнасць У. Дубоўкі па ўнармаванні беларускай літаратурнай мовы: тэрмінатворчасць У. Дубоўкі; рэфармаванне графічнай сістэмы; удасканаленне арфаграфічнай сістэмы; развіццё лексічнай сістэмы.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Раскрыта сутнасць агульналінгвістычных тэарэтычных поглядаў У. Дубоўкі на мову, паходжанне кірыліцы і глаголіцы, стварэнне ўніверсальнай графічнай сістэмы, гістарычныя этапы развіцця і функцыянавання беларускай мовы; супастаўлены прапановы У. Дубоўкі па ўнармаванні беларускай мовы з прапановамі іншых даследчыкаў; ахарактарызаваны і суаднесены Дубоўкавы погляды на ўдасканаленне графіка-арфаграфічнай і лексічнай сістэм беларускай літаратурнай мовы з сучаснай лінгвістычнай практыкай; выяўлена станоўчае і адмоўнае ў сцвярджэннях паэта адносна шляхоў і перспектыў развіцця беларускай літаратурнай мовы; вызначана месца і значэнне лінгвістычнай тэарэтычнай спадчыны У. Дубоўкі ў гісторыі нацыянальнага мовазнаўства.

***Крыніца інфармацыі:*** Куліковіч, У.І. Лінгвістычныя погляды У. Дубоўкі: інтэрлінгвістычны, графіка-арфаграфічны і лексічны аспекты: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / У.І. Куліковіч; БДУ. – Мінск, 2001. – 21 с.

## 143 КУПРЭЕВА ТАЦЦЯНА ІВАНАЎНА

***Тэма:*** Транспазіцыя «назоўнік → прыназоўнік» у сучаснай беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.11.2006; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Паўлоўская Н.Ю., д.філал.н.; Чайка Н.У., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Вызначэнне заканамернасцей актыўнага працэсу пераходу назоўнікаў у прыназоўнікі ў сучаснай беларускай мове, што вядзе да ўтварэння складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 120 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 162 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Традыцыйныя і новыя аспекты вывучэння прыназоўніка як службовай часціны мовы: прыназоўнік у асвятленні сучасных тэарэтычных і практычных граматык; праблема паходжання прыназоўнікаў і іх фармальная тыпалогія; суадносіны паняццяў і тэрмінаў *прыназоўнік*, *предлог – preposition*, *паслялог – postposition*; да пытання пра агульнакатэгарыяльнае значэнне прыназоўніка; складанасастаўныя прыназоўнікавыя звароты (ССПЗ) як сродак семантычнай дыферэнцыяцыі адносін паміж лексемамі ў сказе. 2. Семантыка-сінтаксічны механізм пераходу назоўніка ў прыназоўнік: фармальная працэдура вычлянення ССПЗ у сказе; ССПЗ і семная сінтактыка; параметрычныя назоўнікі як база ўтварэння ССПЗ; паняцце *складанасастаўны прыназоўнікавы ланцужок* у рэлятыўнай структуры. 4. Складанасастаўныя прыназоўнікавыя звароты і складанасастаўныя прыназоўнікавыя ланцужкі ў тэксце: функцыянальна-стылістычныя асаблівасці ўжывання ССПЗ; спроба стылявой тыпалогіі новых прыназоўнікавых утварэнняў; ССПЗ у празаічных мастацкіх тэкстах (індывідуальна-аўтарскія адрозненні).

У дысертацыі 2 дадаткі (6 с.): «Палевая структура лексіка-граматычнай групы *Параметрычныя назоўнікі*», «Рэестр зафіксаваных беларускіх складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны заканамернасці актыўнага працэсу пераходу назоўнікаў у прыназоўнікі ў сучаснай беларускай мове, што вядзе да ўтварэння складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў; апісана праблематыка катэгорыі прыназоўнікавасці ў граматычным вучэнні; удакладнены прынцыпы тыпалагізацыі прыназоўнікаў; класіфікаваны сродкі выражэння катэгорыі прыназоўнікавасці; разгледжана пытанне агульнакатэгарыяльнага значэння прыназоўнікаў; раскрыты семантычны механізм утварэння складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў; вызначаны разрады назоўнікаў, здольных транспаніравацца ў прыназоўнікі; высветлена роля складанасастаўных прыназоўнікавых ланцужкоў у рэляцыйнай структуры сказа; прасочаны асаблівасці ўжывання складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў і складанасастаўных прыназоўнікавых ланцужкоў у тэкстах розных стыляў; вызначаны заканамернасці актыўнага працэсу пераходу назоўнікаў у прыназоўнікі ў сучаснай беларускай мове, што вядзе да ўтварэння складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў;

апісана праблематыка катэгорыі прыназоўнікавасці ў граматычным вучэнні; удакладнены прынцыпы тыпалагізацыі прыназоўнікаў; класіфікаваны сродкі выражэння катэгорыі прыназоўнікавасці; разгледжана пытанне агульнакатэгарыяльнага значэння прыназоўнікаў; раскрыты семантычны механізм утварэння складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў; вызначаны разрады назоўнікаў, здольных транспаніравацца ў прыназоўнікі; высветлена роля складанасастаўных прыназоўнікавых ланцужкоў у рэляцыйнай структуры сказа; прасочаны асаблівасці ўжывання складанасастаўных прыназоўнікавых зваротаў і складанасастаўных прыназоўнікавых ланцужкоў у тэкстах розных стыляў.

***Крыніца інфармацыі:*** Купрэева, Т.І. Транспазіцыя «назоўнік → прыназоўнік» у сучаснай беларускай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.І. Купрэева; БДУ. – Мінск, 2006. – 23 с.

## 144 КУРБЕКА АКСАНА ВАСІЛЬЕЎНА

***Тэма:*** Дыялог у прозе Івана Мележа (лінгвістычны аспект).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Яўневіч М.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.03.2000; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Наркевіч А.І., д.філал.н.; Зялёнка В.Г., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Выявіць спецыфіку структурна-сінтаксічнай арганізацыі дыялогу ў прозе Івана Мележа: вызначыць асаблівасці будовы дыялагічнай мовы, сінтаксісу яе састаўных кампанентаў – рэплік і рэмарак, акрэсліць іх ролю і месца ў складзе дыялагічных формаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 111 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 113 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Структура дыялогаў: узаемаадносіны і ўзаемасувязь рэплік дыялогаў; рэмаркі ў дыялогах. 2. Сінтаксічныя асаблівасці рэплік дыялогаў: рэплікі дыялогаў у форме пытальных сказаў; рэплікі дыялогаў у форме пабуджальных сказаў; рэплікі дыялогаў у форме клічных сказаў; рэплікі дыялогаў у форме апавядальных сказаў; рэплікі дыялогаў у форме няпоўных сказаў; словы-сказы як рэплікі дыялогаў; зваротак у рэпліках дыялогаў; рэплікі дыялогаў у форме складаных сказаў. 3. Сінтаксіс рэмарак дыялогаў: рэмаркі ў форме простых двухсастаўных сказаў, рэмаркі ў форме аднасастаўных сказаў; рэмаркі ў форме складаных сказаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучаны і манаграфічна апісаны структура і сінтаксіс дыялагічнай мовы ў сучаснай беларускай мастацкай прозе; даказана, што ў дыялогах у параўнанні з іншымі формамі простай мовы пераважаюць простыя сказы, у той час як складаныя выкарыстоўваюцца абмежавана; вызнача-

на месца дыялагічных формаў у кампазіцыйна-стылістычнай структуры мастацкага твора.

***Крыніца інфармацыі:*** Курбека, А.В. Дыялог у прозе Івана Мележа (лінгвістычны аспект): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.В. Курбека; БДПУ. – Мінск, 2000. – 21 с.

## 145 КУРЦОВА ВЕРАНІКА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Стан вясковага народнага вымаўлення ў паўночна-ўсходняй Гомельшчыне.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Крывіцкі А.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ АН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.10.1994; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Блінава Э.Д., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Устанавіць мясцовыя сістэмы моўных сродкаў сучаснай вымаўленчай арыентацыі мясцовага насельніцтва абранага сацыяльна-вытворчага мікраяднання сельскіх паселішчаў; ажыццявіць сацыяльна-маўленчую групоўку мясцовага насельніцтва абранага мікраяднання сельскіх паселішчаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 309 с., асноўны тэкст займае 206 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 54 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Сацыяльная структура мясцовага насельніцтва: сацыяльная характарыстыка насельніцтва вёсак; сацыяльна-вытворчая дыферэнцыяцыя і групоўка насельніцтва вёсак. 2. Сістэмы моўных сродкаў маўленчай арыентацыі мясцовага насельніцтва: мясцовыя моўныя сістэмы фанетычных сродкаў маўлення; сацыяльна-вытворчыя групы і сістэмы моўных сродкаў вымаўленчай арыентацыі; сацыяльна-маўленчая групоўка мясцовага насельніцтва.

У дысертацыі 6 дадаткаў, якія афармлены асобнай кнігай (95 с.): «Спіс вёсак калгаса «Звязда» Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці», «Дыягнастычны апытальнік па вызначэнні тыпаў мясцовага вымаўлення (фанетыка)», «Анкета па збіранні звестак аб вымаўленні», «Спіс інфармантаў», «Сістэма транскрыпцыйных знакаў», «Узоры тэкстаў маўлення сацыяльна-вытворчых груп жыхароў в. Залессе».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны моўныя сістэмы вымаўлення на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Гомельшчыны; устаноўлены характар узаемаадносін паміж гэтымі моўнымі сістэмамі; апісаны сродкі вымаўлення кожнай сацыяльна-вытворчай групы мясцовага насельніцтва ў розных камунікатыўных сферах.

***Крыніца інфармацыі:*** Курцова, В.М. Стан вясковага народнага вымаўлення ў паўночна-ўсходняй Гомельшчыне: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.02 / В.М. Курцова; ІМ АН Беларусі. – Мінск, 1994. – 26 с.

## 146 КУРЬЯН ИНЕССА ВЛАДИМИРОВНА

***Тема:*** Система причастий в начальный период славянских литературных языков.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.03 – славянские языки.

***Научный руководитель:*** Супрун А.Е., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 13.04.1999; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Мартынов В.В., д.филол.н.; Красней В.П., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Изучить грамматическую природу причастия, прослеживая его развитие в группе славянских языков.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 142 с., основной текст занимает 106 с. Список использованной литературы – 249 наименований.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Состояние системы причастий в славянских языках: состояние старославянской системы причастий как исходной; состояние системы причастий в современных славянских языках; представление об исходной славянской системе причастий на основании современных данных. 2. Вопрос о грамматической природе славянской системы причастий: особенность причастия как грамматической категории; атрибутивная природа причастия; глагольная природа причастия; формирование наречного значения в причастии; синтаксическое переосмысление значений причастия в старославянском тексте; значение причастия в составном именном сказуемом. 3. Вопрос о развитии и соотношении двух активных причастий прошедшего времени: общая картина развития двух форм действительных причастий прошедшего времени; *participium praeteriti activi I*; *participium praeteriti activi II*; функции и соотношение *participium praeteriti activi I* и *participium praeteriti activi II*. 4. Надграмматические факторы формирования и развития славянской системы причастий: роль контактов диалекта с языком высшей культуры; система переводческой деятельности Кирилла и Мефодия; авторитет Библии и создание «библейского стиля» в языке переводов; единство церковнославянского языка на разноязычной территории; факты взаимовлияния славянских библейских переводов и нормативных грамматических трудов. 5. Языковая ситуация диглоссии и формирование славянской системы причастий: старославянский язык и говор в понятии языкового дуализма или диглоссии; развитие *participium praeteriti activi* в системе диглоссии. 6. Орфографическая традиция и орфоэпическая норма в системе диглосии: мотивы наследования и нарушения графо-орфографической системы первичных текстов; значение морфемного показателя *participium praeteriti activi* в соотношении знака и звука; фонетическое качество *ĭ* в современных славянских языках и их диалектах; некоторые тенденции развития *ĭ*; вопрос о первом письменном свидетельстве произношения **ĭ* как *[й]* или *[w]*.

В диссертации 5 приложений (20 с.): «Современное состояние системы причастий в славянских языках», «Функции и соотношение *participium praeteriti activi I* і *participium praeteriti activi II* в старославянском тексте», «Материалы по фактам взаимодействия библейских текстов и нормативных грамматических трудов», «Звуковое качество *і* в современных литературных славянских языках», «Гипотеза о развитии *participium praeteriti activi*».

***Научное значение исследования:*** Исследовано развитие и соотношение двух активных причастий прошедшего времени; изучены надграмматические факторы формирования и развития славянской системы причастий; охарактеризована языковая ситуация диглоссии и формирование славянской системы причастий; рассмотрены относительно причастий особенности орфографической традиции и орфоэпической нормы в системе диглосии.

***Источник информации:*** Курьян, И.В. Система причастий в начальный период славянских литературных языков: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.03 / И.В. Курьян; БГУ. – Минск, 1999. – 17 с.

## 147 ЛАПИЦКАЯ ИРИНА НИКОЛАЕВНА

***Тема:*** Лексическое взаимодействие белорусского и русского языков в художественной прозе Беларуси (функциональный аспект).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – белорусский язык; 10.02.01 – русский язык.

***Научный руководитель:*** Булыко А.Н., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ИЯ АН Беларуси, отдел белорусско-русских языковых связей.

***Дата защиты, совет по защите:*** 11.06.1993; Д 006.15.01, ИЯ АН Беларуси.

***Оппоненты:*** Гируцкий А.А., д.филол.н.; Вешторт Г.Ф., к.филол.н.; БрДПИ.

***Цель:*** Рассмотреть по возможности полно и последовательно (с учетом имеющегося материала) функционирование лексических русизмов в произведениях художественной прозы, написанных на белорусском языке, и лексических белорусизмов в произведениях художественной прозы, написанных на русском языке.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 207 с., основной текст занимает 187 с. Список использованной литературы – 150 наименований.

Результаты исследования отражены в 2 главах. 1. Лексические русизмы в белорусской художественной прозе: лексические русизмы в прямой речи персонажей; лексические русизмы в авторской речи; способы введения лексических русизмов в белорусский художественный текст. 2. Лексические белорусизмы в русскоязычной художественной прозе: лексические белорусизмы в прямой речи персонажей; лексические белорусизмы в авторской речи; способы введения и приемы толкования лексических белорусизмов в русскоязычном художественном тексте.

***Научное значение исследования:*** Предложена классификация лексических русизмов в белорусской художественной прозе с функциональной точки зрения; выявлены причины, обусловливающие включение лексики русского и белорусского языков в художественный текст; последовательно охарактеризованы стилистические функции лексических русизмов и белорусизмов в речи персонажей и в авторской речи; показано влияние контекстных условий на эффективность реализации художественных функций русских и белорусских слов; рассмотрены разнообразные способы введения и толкования русской и белорусской лексики в их взаимосвязи с решением определенных художественных задач.

***Источник информации:*** Лапицкая, И.Н. Лексическое взаимодействие белорусского и русского языков в художественной прозе Беларуси (функциональный аспект): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / И.Н. Лапицкая; ИЯ АН Беларуси. – Минск, 1993. – 24 с.

## 148 ЛАПИЦКАЯ НАДЕЖДА ИВАНОВНА

***Тема:*** Имена собственные в русских и белорусских заговорах.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Коваль В.И., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГГУ, кафедра русского, общего и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 19.09.2000; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Янович Е.И., д.филол.н.; Михайлов П.А., к.филол.н.; МогГУ.

***Цель:*** Установление специфики имен собственных и закономерностей их функционирования в русских и белорусских заговорах.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 129 с., основной текст занимает 116 с. Список использованной литературы – 161 наименование.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Имена собственные в текстах заговоров как объект изучения: краткий обзор литературы по теме диссертации; обоснование выбора направления исследования и методика его проведения. 2. Имена святых и антропоморфных существ: христианские имена святых мучеников и апокрифические имена; имена антропоморфных существ. 3. Наименования неантропоморфных существ, мифолокативов и мифодендронимов: наименования неантропоморфных существ; мифолокативы и мифодендронимы.

***Научное значение исследования:*** Установлены закономерности использования определенных имен собственных в заговорах различной направленности; определены принципы номинации имен собственных, имеющих «открытую» внутреннюю форму, и выявлено происхождение имен собственных, обладающих «скрытой» внутренней формой; установлена словообразовательная структура

и основные модели образования имен собственных; определены сходные и отличительные особенности функционирования имен собственных в русской и белорусской заговорных традициях.

***Источник информации:*** Лапицкая, Н.И. Имена собственные в русских и белорусских заговорах: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Н.И. Лапицкая; БГУ. – Минск, 2000. – 18 с.

## 149 ЛАПКОЎСКАЯ АЛЕНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Сучасная беларуская батанічная тэрміналогія.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Красней В.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.03.1999; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Станкевіч А.А., д.філал.н.; Шчэрбін В.К., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Па магчымасці поўнае апісанне беларускай батанічнай тэрміналогіі, г.зн. з улікам лексіка-семантычных уласцівасцей, спосабаў утварэння і крыніц фарміравання прааналізаваць тэрміны агульнай батанікі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 140 с., асноўны тэкст займае 113 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 111 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах: 1. Лексіка-семантычная характарыстыка беларускіх батанічных тэрмінаў: пра паняцці *тэрмін* і *тэрміналогія*; сістэмнасць тэрмінаў; адназначнасць; лексіка-семантычныя з'явы і іх праяўленне (сінанімія, дублетнасць, варыянтнасць, аманімія, антанімія, эмацыянальна-экспрэсіўная нейтральнасць). 2. Спосабы ўтварэння і крыніцы фарміравання беларускіх батанічных тэрмінаў: семантычны спосаб утварэння тэрмінаў; марфалагічны спосаб утварэння тэрмінаў; сінтаксічны спосаб утварэння тэрмінаў; крыніцы фарміравання і спосабы ўтварэння беларускіх батанічных тэрмінаў для паняццяў катэгорыі прадметаў і з'яў; крыніцы фарміравання і спосабы ўтварэння батанічных тэрмінаў для паняццяў катэгорыі працэсаў і дзеянняў; крыніцы фарміравання і спосабы ўтварэння батанічных тэрмінаў для паняццяў катэгорыі якасцей і ўласцівасцей.

У дысертацыі 1 дадатак (14 с.) – «Індэкс».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны беларускія тэрміны агульнай батанікі з пункту гледжання такіх лексіка-семантычных з'яў і ўласцівасцей, як сістэмнасць, адназначнасць, сінанімія, дублетнасць, варыянтнасць, аманімія, антанімія, эмацыянальна-экспрэсіўная нейтральнасць; даследаваны асноўныя спосабы ўтварэння беларускай батанічнай тэрміналогіі; раскрыты спосабы ўтварэння і вызначаны крыніцы фарміравання батанічных тэрмінаў для паняццяў катэгорый прадметаў і з'яў, працэсаў і дзеянняў, якасцей і ўласцівасцей.

***Крыніца інфармацыі:*** Лапкоўская, А.М. Сучасная беларуская батанічная тэрміналогія: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Лапкоўская; БДУ. – Мінск, 1999. – 20 с.

## 150 ЛАПУШИНСКАЯ НАТАЛЬЯ ОЛЕГОВНА

***Тема:*** Фразеологизмы с компонентами, называющими голову и ее части, в русском, белорусском и западногерманских языках: структурный, семантический, символический аспекты.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.20 – сравнительно-историческое, типологическое и сопоставительное языкознание.

***Научный руководитель:*** Маслова В.А., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ВГУ, кафедра общего и русского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 15.09.2011; К 02.14.04, ГрГУ.

***Оппоненты:*** Богушевич Д.Г., д.филол.н.; Шиманская О.Ю., к.филол.н.; МогГУ.

***Цель:*** Установить особенности функционирования компонентов, называющих голову и ее части, во фразеологизмах русского, белорусского и западногерманских языков на структурном, семантическом и символическом уровнях.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 463 с., основной текст занимает 109 с. Список использованной литературы – 273 наименования.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Структурно-семантический анализ фразеологизмов с компонентами, называющими голову и ее части: выявление общих семем лексем, называющих голову и ее части, в исследуемых языках; сопоставительный анализ фразеообразовательной продуктивности соматических компонентов; прототипический анализ соматических компонентов; сопоставительный анализ морфологической структуры фразеологических единиц; межъязыковые соответствия фразеологизмов. 2. Семантика фразеологических единиц с компонентами, называющими голову и ее части: способы семантических преобразований переменных словосочетаний, на базе которых возникли изучаемые фразеологизмы; фразеологическая семантика; фразеосемантические поля фразеологических единиц с компонентом *голова*; 3. Символический аспект значения компонентов, называющих голову и ее части, в составе фразеологизмов: символ как предмет лингвистического исследования, символический аспект значения фразеологических единиц; символические значения соматических компонентов (голова, волосы, глаз, ухо, нос, рот, зуб, язык, подбородок, щека, лоб, лицо).

В диссертации 7 приложений (317 с.): «Семемный состав лексем, называющих голову и ее части, в русском, белорусском, немецком, английском и нидерландском языках (на основе дефиниций одноязычных толковых словарей)», «Списки фразеологизмов с компонентами, называющими голову и ее части», «Результаты прототипического анализа соматических компонентов фразеоло-

гизмов», «Межъязыковые соответствия фразеологизмов с компонентами, называющими голову и ее части», «Фразеосемантические поля фразеологизмов с компонентом *голова* в русском, белорусском, немецком, английском и нидерландском языках», «Символические значения соматизмов», «Примеры фразеологизмов, на формирование семантики которых оказывают влияние символические значения соматических компонентов».

***Научное значение исследования:*** Установлена зависимость между лексическим значением соматизма и его фразеообразовательной продуктивностью, выявлены посредством прототипического анализа участвующие во фразеообразовании значения соматизмов, установлены новые смыслы, возникшие в ходе данного процесса; определена морфолого-структурная организация соматических фразеологических единиц, а также вариантность грамматической структуры и лексического состава соматических фразеологических единиц; установлены и классифицированы межъязыковые соответствия фразеологических единиц; а также фразеосемантические поля соматических фразеологических единиц с компонентом *голова*; определен символический потенциал лексем, называющих голову и ее части, выявлены фразеологические единицы, значение которых коррелирует с символическим значением стержневого компонента-соматизма.

***Источник информации:*** Лапушинская, Н.О. Фразеологизмы с компонентами, называющими голову и ее части, в русском, белорусском и западногерманских языках: структурный, семантический, символический аспекты: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / Н.О. Лапушинская; ГрГУ. – Гродно, 2011. – 27 с.

## 151 ЛАПЦЁНАК АЛЕНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Лексіка-фразеалагічныя асаблівасці перакладаў твораў Івана Навуменкі на рускую мову ў аспекце праблемы эквівалентнасці.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.04.2010; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Ляшчынская В.А., д.філал.н.; Іватовіч-Бабіч В.Т., к.філал.н.; МДУ.

***Мэта:*** Даць усебаковую характарыстыку лексіка-семантычных і фразеалагічных сродкаў арыгінальных і перакладных твораў Івана Навуменкі ў аспекце праблемы эквівалентнасці.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 174 с., асноўны тэкст займае 116 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 276 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах: 1. Тэарэтычныя асновы перакладу лексічных і фразеалагічных адзінак: адлюстраванне лінгвістычнай

тэорыі перакладу ў сучасных даследаваннях; спецыфіка перадачы лексічных і фразеалагічных адзінак у іншамоўным кантэксце. 2. Спосабы перадачы лексічных адзінак у перакладах твораў І. Навуменкі: перадача агульнаўжывальнай стылістычна нейтральнай лексікі; функцыянальна-стылістычная і эмацыянальна-экспрэсіўная лексіка ў перакладах; дыялектныя лексемы ў перакладах; адлюстраванне сінанімічных сродкаў мовы. 3. Спосабы перадачы фразеалагічных адзінак у тэкстах перакладаў І. Навуменкі: пераклад узуальных фразеалагічных адзінак; перадача індывідуальна-аўтарскіх фразеалагізмаў. 4. Адлюстраванне нацыянальнай спецыфікі ў перакладных творах І. Навуменкі: спосабы перадачы безэквівалентнай лексікі; беларусізмы ў перакладных тэкстах.

У дысертацыі 3 дадаткі (29 с.): «Мастацкія творы І. Навуменкі, перакладзеныя на рускую мову Я. Мазальковым», «Колькасная характарыстыка лексічных і фразеалагічных сродкаў у перакладах твораў І. Навуменкі», «Лексічныя і фразеалагічныя сродкі ў творах І. Навуменкі і спосабы іх перадачы ў рускамоўных тэкстах».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны лексіка-семантычныя і фразеалагічныя сродкі арыгінальных і перакладных твораў Івана Навуменкі ў аспекце праблемы эквівалентнасці; выяўлены асноўныя крытэрыі эквівалентнай перадачы лексічных і фразеалагічных сродкаў арыгінала на рускую мову; вызначаны спосабы перакладу нейтральных, стылістычна афарбаваных і эмацыянальна-экспрэсіўных лексічных сродкаў арыгінала і ўстаноўлена ступень эквівалентнасці іх перадачы на рускую мову; прааналізаваны пераклад сінанімічных сродкаў арыгінала і акрэслены іх асаблівасці ў рускамоўным тэксце; адзначаны асаблівасці перакладу моўных і індывідуальна-аўтарскіх фразеалагічных сродкаў арыгінала; вызначана ступень захавання ў перакладах нацыянальна-культурнай спецыфікі на лексічным узроўні.

***Крыніца інфармацыі:*** Лапцёнак, А.М. Лексіка-фразеалагічныя асаблівасці перакладаў твораў Івана Навуменкі на рускую мову ў аспекце праблемы эквівалентнасці: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Лапцёнак; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2010. – 27 с.

## 152 ЛАЎШУК ДЗІНА АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Структурна-семантычная характарыстыка сучаснай беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Падлужны А.І., д.філал.н.
***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МагДУ, кафедра беларускай мовы.
***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.03.2003; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.
***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Капылоў І.Л., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Выяўленне заканамернасцей функцыянавання сельскагаспадарчай тэрміналогіі ў структурна-семантычным аспекце: па магчымасці, даць поўную ха-

рактарыстыку яе лексіка-семантычных і структурна-граматычных асаблівасцей, а таксама даследаваць крыніцы фарміравання і асноўныя спосабы ўтварэння тэрмінасістэмы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 113 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 165 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Крыніцы фарміравання і спосабы ўтварэння нацыянальнай сельскагаспадарчай тэрміналогіі: крыніцы фарміравання нацыянальнай сельскагаспадарчай тэрміналогіі; спосабы ўтварэння беларускіх сельскагаспадарчых тэрмінаў (лексіка-семантычны, марфалагічны, марфолага-сінтаксічны). 2. Лексіка-семантычная і структурна-граматычная характарыстыка беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі: лексіка-семантычныя працэсы ў нацыянальнай сельскагаспадарчай тэрміналогіі (сістэмнасць, полісемія, аманімія, сінанімія, антанімія); структурна-граматычная характарыстыка беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі (тэрміны-словы, тэрміны-словазлучэнні, сімвалы-словы).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны структурна-семантычныя асаблівасці сучаснай беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі: раскрыты асноўныя спосабы ўтварэння тэрмінаў сельскай гаспадаркі, ахарактарызавана ступень прадуктыўнасці кожнага з іх; выяўлены і сістэматызаваны асноўныя лексіка-семантычныя працэсы ў беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі; вылучаны асноўныя групы сферы сельскай гаспадаркі з пункту гледжання іх стуктурна-граматычнай арганізацыі.

***Крыніца інфармацыі:*** Лаўшук, Д.А. Структурна-семантычная характарыстыка сучаснай беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Д.А. Лаўшук; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 20 с.

## 153 ЛЕВАНЦЭВІЧ ЛЕНА ВАСІЛЬЕЎНА

***Тэма:*** Лінгвагеаграфічная групоўка гаворак Бярозаўскага раёна.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Клімчук Ф.Д., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 15.11.1996; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Выгонная Л.Ц., д.філал.н.; Міхайлаў П.А., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Правесці лінгвагеаграфічнае даследаванне мовы жыхароў Бярозаўскага раёна і яго сумежжа, даць групоўку гаворак дадзенага рэгіёна.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 176 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 120 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. З гісторыі вывучэння гаворак. 2. Асноўныя дыялектныя асаблівасці даследуемых гаворак: уступныя заўвагі;

фанетычныя асаблівасці; марфалагічныя асаблівасці; лексічныя асаблівасці. 3. Характарыстыка пучкоў ізаглос. 4. Пучкі ізаглос і групоўка гаворак (некаторыя пытанні генезісу): пучкі ізаглос і групоўка гаворак; некаторыя пытанні генезісу.

У дысертацыі 12 дадаткаў (70 с.): «Праграма па збіранні матэрыялаў для складання *Атласа гаворак Бярозаўскага раёна і яго наваколля*», «Кароткі апытальнік па высвятленні дыялектных тыпаў сярэдняй часткі», «Спіс абследаваных населеных пунктаў», «Алфавітны паказальнік абследаваных пунктаў», «Транскрыпцыя», карта «Тэрыторыя *Атласа гаворак Бярозаўскага раёна і наваколляў* на карце-схеме паўднёва-заходняй Беларусі», карта «Бярозаўскі раён і наваколлі», «Гістарычныя карты» (60), «Марфалагічныя карты» (52), «Лексічныя карты» (53), «Пучкі ізаглос» (42), карта «Група гаворак Бярозаўскага раёна і наваколля».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены лінгвагеаграфічны аналіз дыялектнай мовы аднаго з рэгіёнаў Брэсцка-Пінскага Палесся (Бярозаўскі раён і яго сумежжа); складзены мікраатласы па фанетыцы, марфалогіі і лексіцы (усяго – 165 картаў); на аснове апошніх падрыхтаваны зводныя карты ізаглос, якія аб'ядноўваюцца ў 20 пучкоў; зыходзячы з інтэрпрэтацыі ізаглос, выдзелена асобная група – стрыгінская, а таксама ўдакладнены межы паміж верхнясельдскімі і малецкімі, малецкімі і паўночназагародскімі гаворкамі.

***Крыніца інфармацыі:*** Леванцэвіч, Л.В. Лінгвагеаграфічная групоўка гаворак Бярозаўскага раёна: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.В. Леванцэвіч; ІМ АН Беларусі. – Брэст, 1996. – 22 с.

## 154 ЛЕВАНЮК АЛА ЯЎГЕНАЎНА

***Тэма:*** Лексіка-граматычныя і семантыка-стылістычныя асаблівасці беларускага паэтычнага афарызма.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.12.2002; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Рудэнка А.М., д.філал.н.; Чайка Н.У., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Даць поўную лінгвастылістычную характарыстыку беларускіх літаратурных паэтычных афарызмаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 151 с., асноўны тэкст займае 92 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 146 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Афарызм як ідыяматычная адзінка: паняцце афарызма ў філалагічнай навуцы; з гісторыі вывучэння афарызмаў; месца афарыстычнага паэтычнага выслоўя ў беларускай ідыяматыцы. 2. Лексіка-семантычная і лексіка-граматычная спецыфіка афарызма: з'явы пераносу найменняў у афарызмах; фразеалагізм і прыказка ў складзе афарызма; роля

экспрэсіўных сродкаў выяўлення ў афарыстычных выслоўях; роля рытму, рыфмы, гукапісу ў пабудове афарызма; граматычная спецыфіка афарызма. 3. Семантыка-сінтаксічная і стылістыка-сінтаксічная спецыфіка паэтычнага афарызма: стылістыка-сінтаксічныя асаблівасці паэтычных афарызмаў (фігуры прыбаўлення); стылістыка-сінтаксічныя асаблівасці афарыстычных выслоўяў (фігуры ўбаўлення); фігуры размяшчэння ў афарыстычным выслоўі; гібрыдныя фігуры ў складзе афарызма; сінтаксічныя асаблівасці паэтычных афарыстычных выслоўяў.

У дысертацыі 1 дадатак (46 с.) – «Беларускі літаратурны афарызм».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучана спецыфіка паэтычнага афарызма як своеасаблівага прадмета лінгвістычнага даследавання; вызначаны адносіны беларускага паэтычнага афарызма як маўленча-камунікацыйнай адзінкі да беларускай ідыяматыкі; даследаваны асаблівасці паэтычных афарызмаў з пазіцый мовазнаўства і рыторыкі: ахарактарызавана лексіка-граматычная і лексіка-семантычная спецыфіка беларускага паэтычнага афарызма праз аналіз тропаў, раскрыта семантыка-сінтаксічная і стылістычная спецыфіка паэтычнага афарызма праз аналіз рытарычных фігур, разгледжаны іншыя шляхі пабудовы афарыстычнага мікратэксту – уключэнне фразеалагізмаў, выкарыстанне зваротаў, рыфмы, рытмікі, гукапісу і пад.

***Крыніца інфармацыі:*** Леванюк, А.Я. Лексіка-граматычныя і семантыка-стылістычныя асаблівасці беларускага паэтычнага афарызма: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.Я. Леванюк; БДУ. – Мінск, 2002. – 19 с.

## 155 ЛЕКСИНА ЕКАТЕРИНА ВЛАДИМИРОВНА

***Тема:*** Деривационное поле степени проявления признака в русском и белорусском языках.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – белорусский язык; 10.02.02 – русский язык.

***Научный руководитель:*** Ровдо И.С., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 25.02.2000; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Гируцкий А.А., д.филол.н.; Журавель В.Б., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Выявление всех возможных аффиксальных (синтетических) и неаффиксальных – функциональных деривационных (аналитических) – средств выражения значения степени проявления признака в русском и белорусском языках путем сопоставительного анализа номинантов, входящих в деривационное поле, выявление соотношения цельнооформленных и раздельнооформленных русских и белорусских дериватов с соответствующей семантикой с дальнейшим обоснованием существующего соотношения.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 138 с., основной текст занимает 123 с. Список использованной литературы – 150 наименований.

Результаты исследования отражены в 2 главах. 1. Теоретические предпосылки исследования деривационного поля степени проявления признака в русском и белорусском языках: истоки понятийной категории степени проявления признака; понятие нормы; номенклатура, количество и состав степеней проявления признака; связь степени проявления признака с категорией количества; элементарные смыслы в семантической структуре степени; план содержания и план выражения градуальных значений; языковые единицы со значением степени проявления признака в составе деривационного поля. 2. Аффиксальные и функциональные деривационные средства выражения степени проявления признака в русском и белорусском языках (сопоставительный анализ номинативов со значением степени проявления признака): поле слабой степени проявления признака; поле умеренной степени проявления признака; поле высшей степени проявления признака; поле чрезмерной степени проявления признака.

В диссертации 1 приложение (4 с.) – таблица «Аффиксальные и аффиксоидные средства выражения значения степени проявления признака в русском и белорусском языках».

***Научное значение исследования:*** Изучен план содержания и план выражения дериватов, образующих поле степени проявления признака; рассмотрена структура деривационного поля; выделены соотносительные и несоотносительные аффиксальные и функциональные деривационные средства двух языков, формализующие семантику степени проявления признака.

***Источник информации:*** Лексина, Е.В. Деривационное поле степени проявления признака в русском и белорусском языках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01; 10.02.02 / Е.В. Лексина; БГУ. – Минск, 2000. – 20 с.

## 156 ЛІСОЎСКАЯ ІНА САМСОНАЎНА

***Тэма:*** Дзеясловы маўлення ў беларускай і рускай мовах як частка моўнай карціны свету.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Антонава С.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра рускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 03.12.1999; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Прохарава С.М., д.філал.н.; Нікалаева В.М., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Выявіць і апісаць пры супастаўленні з адпаведнай рускай лексіка-семантычнай групай агульнамоўныя, нацыянальна- і функцыянальна-спецыфічныя спосабы і сродкі мадэліравання карціны свету праз лексіка-семантычную групу дзеясловаў маўлення беларускай мовы.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 200 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 300 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Моўная карціна свету і лексіка-семантычная група дзеясловаў маўлення: класіфікацыя дзеясловаў маўлення як крыніца для асэнсавання сувязі паміж суб’ектыўным і аб’ектыўным стварэннем моўнай карціны свету; мадэль даследавання фрагмента нацыянальна-моўнай карціны свету; увасабленне моўнай карціны свету; функцыянаванне дзеясловаў маўлення ў наратыўным тэксце як спосаб адлюстравання фрагмента нацыянальна-моўнай карціны свету. 2. Лексіка-семантычная група дзеясловаў маўлення як шасціаспектнае ўвасабленне фрагмента нацыянальна-моўнай карціны свету: акустычны аспект маўленчай дзейнасці як фрагмент нацыянальна-моўнай карціны свету; намінатыўны аспект маўленчай дзейнасці як фрагмент нацыянальна-моўнай карціны свету; маніфестацыйны аспект маўленчай дзейнасці як фрагмент нацыянальна-моўнай карціны свету; інфармацыйны аспект маўленчай дзейнасці як фрагмент нацыянальна-моўнай карціны свету; камунікатыўны аспект маўленчай дзейнасці як фрагмент нацыянальна-моўнай карціны свету; імператыўны аспект маўленчай дзейнасці як фрагмент нацыянальна-моўнай карціны свету.

У дысертацыі 1 дадатак (68 с.) – «Тлумачальны слоўнік дыялектнай лексіка-семантычнай групы дзеясловаў маўлення» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны функцыянальна-стылістычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны характар сістэмнай арганізацыі дзеясловаў, якія абазначаюць працэс маўлення: ядро і перыферыя, парадыгматыка, сінтагматыка і дэрывацыйныя адносіны лексіка-семантычнай групы дзеясловаў маўлення ў беларускай літаратурнай і дыялектнай мовах у супастаўленні з рускай лексіка-семантычнай групай дзеясловаў маўлення; раскрыты мадэлявальныя здольнасці дзеясловаў маўлення ў дыялекце, літаратурнай мове і наратыве; выяўлены агульнанацыянальныя, уласналітаратурныя і ўласнадыялектныя рысы ў мадэляванні сітуацыі маўлення дзеясловамі даследаванай лексіка-семантычнай групы ў беларускай нацыянальнай мове.

***Крыніца інфармацыі:*** Лісоўская, І.С. Дзеясловы маўлення ў беларускай і рускай мовах як частка моўнай карціны свету: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / І.С. Лісоўская; БДУ. – Мінск, 1999. – 23 с.

## 157 ЛОБАНЬ НАТАЛЛЯ ПЯТРОЎНА

***Тэма:*** Лексіка са значэннем канатацыі ў беларускіх мастацкіх тэкстах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Яўневіч М.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага моваэнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.06.1996; Д 01.43.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Цікоцкі М.Я., д.філал.н.; Усціновіч Г.К., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Па магчымасці поўна і паслядоўна даследаваць лексіку са значэннем канатацыі ў мастацкіх творах шляхам аналізу яе семантычных і функцыянальна-стылістычных асаблівасцей.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 139 с., асноўны тэкст займае 117 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 200 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Лексіка са значэннем узуальнай канатацыі: лексічныя адзінкі з узуальна-абумоўленым канатацыйным значэннем; лексічныя адзінкі з узуальна-актуалізаваным канатацыйным значэннем. 2. Лексіка са значэннем аказіянальнай канатацыі: асноўныя шляхі ўзнікнення аказіянальных канатацыйных значэнняў слова; роля кантэксту ў рэалізацыі аказіянальных канатацыйных значэнняў слова (прыметнікі са значэннем колеру). 3. Антрапанімічная лексіка са значэннем канатацыі: канатацыйныя антрапанімічныя адзінкі на лексіка-семантычным узроўні; канатацыйныя антрапанімічныя адзінкі на словаўтваральным узроўні. 4. Стылістычныя функцыі лексікі са значэннем канатацыі.

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле мастацкіх твораў малога жанру сучасных беларускіх пісьменнікаў даследавана лексіка са значэннем канатацыі; вывучаны асаблівасці функцыянавання лексічных сродкаў выражэння узуальнай і аказіянальнай канатацыі ва ўзаемасувязі з вырашэннем пэўных стылістычных задач; прааналізаваны асноўныя шляхі ўзнікнення аказіянальных канатацыйных значэнняў слова, паказана роля кантэксту рознага тыпу ў рэалізацыі гэтых значэнняў.

***Крыніца інфармацыі:*** Лобань, Н.П. Лексіка са значэннем канатацыі ў беларускіх мастацкіх тэкстах: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.П. Лобань; ІМ АН Беларусі. – Мінск, 1996. – 20 с.

## 158 ЛУКАШАНЕЦ АЛЯКСАНДР АЛЯКСАНДРАВІЧ

***Тэма:*** Граматычныя аспекты беларускага словаўтварэння.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 22.06.2001; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Булахаў М.Г., д.філал.н.; Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Лемцюгова В.П., д.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Распрацоўка і абгрунтаванне граматычнай мадэлі даследавання сістэмы словаўтварэння беларускай мовы.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 262 с., асноўны тэкст займае 251 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 160 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Катэгорыі граматыкі і словаўтварэння. 1.1. Іерархія адзінак словаўтварэння ў беларускай мове. 1.2. Узроўневая інтэрпрэтацыя адзінак словаўтварэння. 1.3. Граматычная структура словаўтварэння ў беларускай мове. 1.4. Семантычныя параметры граматычнай класіфікацыі адзінак словаўтварэння. 2. Граматычная структура словаўтварэння суфіксальных назоўнікаў у беларускай мове. 2.1. Семантыка-словаўтваральная катэгорыя персанальнасці. 2.2. Суфіксальныя назвы жывых істот. 2.3. Неадушаўлёныя суфіксальныя назоўнікі (унутранае словаўтварэнне). 2.4. Неадушаўлёныя суфіксальныя назоўнікі (знешняе словаўтварэнне). 3. Словаўтваральная семантыка і парадыгматыка ў граматычным асвятленні. 3.1. Тыпалогія словаўтваральных катэгорый (граматычны аспект). 3.2. Словаўтваральныя магчымасці катэгорый і суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў. 3.3. Граматычныя аспекты семантыкі і парадыгматыкі суфіксальных фармантаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Абгрунтаваны новы ў беларускім мовазнаўстве напрамак – вывучэнне сістэмы словаўтварэння на прыкладзе граматычных катэгорый. Распрацавана мадэль граматычнага даследавання беларускага словаўтварэння на аснове граматычных параметраў (часцінамоўная прыналежнасць і класіфікацыйныя граматычныя катэгорыі) матывавальнага і матываванага слоў. Створана іерархічная класіфікацыя адзінак словаўтварэння і тым самым удакладнены паняційны апарат словаўтварэння. Устаноўлены асаблівасці граматычнай маркіроўкі суфіксальных назоўнікаў беларускай мовы, якія заключаюцца ў супадзенні або несупадзенні, частковым або поўным, граматычных характарыстык матывавальнага і матываванага слоў (часцінамоўная прыналежнасць, адушаўлёнасць – неадушаўлёнасць, род). Выяўлены граматычныя параметры, якія абмяжоўваюць рэалізацыю словаўтваральнай семантыкі (сувязь словаўтваральных катэгорый назоўнікаў з пэўнымі граматычнымі катэгорыямі – адушаўлёнасць – неадушаўлёнасць, род) і валентнасных магчымасцей словаўтваральнай базы. Вызначаны граматычны цэнтр і перыферыя функцыянавання словаўтваральнага фарманта і вылучаны цэнтральны морф паводле граматычных межаў рэалізацыі і прадуктыўнасці ў выніку даследавання асаблівасцей морфнага вар’іравання ў залежнасці ад рэалізуемай семантыкі і граматычных межаў функцыянавання.

***Крыніца інфармацыі:*** Лукашанец, А.А. Граматычныя аспекты беларускага словаўтварэння: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / А.А. Лукашанец; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2001. – 39 с.; Лукашанец, А.А. Словаўтварэнне і граматыка / А.А. Лукашанец. – Мінск: Права і эканоміка, 2001. – 251 с.

## 159 ЛУК'ЯНЮК ЮЛІЯ МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Сучасная беларуская філасофская тэрміналогія (семантычны і структурны аспекты).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Красней В.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.12.2003; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Антанюк Л.А., д.філал.н.; Капылоў І.Л., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Правесці многааспектнае даследаванне філасофскай тэрміналогіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, прааналізаваць тэрміналагічныя адзінкі з улікам лексіка-семантычных асаблівасцей, спосабаў утварэння і крыніц фарміравання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 129 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 161 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Агульнае паняцце пра тэрмін і тэрміналогію: пра паняцці *тэрмін* і *тэрміналогія*; тэрмін і номен; асаблівасці семантыкі тэрміна. 2. Лексіка-семантычная характарыстыка беларускіх філасофскіх тэрмінаў: семантычная акрэсленасць філасофскіх тэрмінаў; сінанімія, дублетнасць і варыянтнасць філасофскіх тэрмінаў; антанімія філасофскіх тэрмінаў; аманімія філасофскіх тэрмінаў; сістэмнасць беларускай філасофскай тэрміналогіі; эмацыянальнасць і ацэначнасць філасофскіх тэрмінаў. 3. Структурна-словаўтваральная і генетычная характарыстыка беларускіх філасофскіх тэрмінаў: семантычны спосаб утварэння філасофскіх тэрмінаў; марфалагічны спосаб утварэння філасофскіх тэрмінаў; марфолага-сінтаксічны спосаб утварэння філасофскіх тэрмінаў; сінтаксічны спосаб утварэння філасофскіх тэрмінаў; генетычная характарыстыка беларускай філасофскай тэрміналогіі.

У дысертацыі 1 дадатак (9 с.) – «Індэкс».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны тэрміналагічныя адзінкі філасофіі з пункту гледжання іх семантычнай акрэсленасці, сінаніміі, дублетнасці, варыянтнасці, антаніміі, аманіміі, эмацыянальна-экспрэсіўнай нейтральнасці; паказана іерархічнасць сістэмнай арганізацыі філасофскіх тэрмінаў; апісаны асноўныя спосабы ўтварэння аналізуемых тэрмінаў; даследавана філасофская тэрміналогія ў плане суадносін у ёй нацыянальнага і інтэрнацыянальнага.

***Крыніца інфармацыі:*** Лук'янюк, Ю.М. Сучасная беларуская філасофская тэрміналогія (семантычны і структурны аспекты): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю.М. Лук'янюк; БДУ. – Мінск, 2003. – 19 с.

# 160 ЛЮБЕЦКАЯ КАЦЯРЫНА ПЯТРОЎНА

***Тэма:*** Нямецка-беларуская лексікаграфія ХХ ст. і фарміраванне беларускай тэрміналогіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Цыхун, Г.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 08.10.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Шчэрбін В.К., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Вызначыць ролю нямецка-беларускай лексікаграфічнай практыкі ў працэсе фарміравання беларускай навуковай мовы ХХ ст. праз увод у навуковы ўжытак нямецка-беларускіх слоўнікавых крыніц першай паловы ХХ ст. і іх аналіз у комплексе з нямецка-беларускімі даведнікамі другой паловы ХХ ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 186 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 173 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Крыніцы нямецка-беларускай лексікаграфіі і тэрмінаграфіі ХХ ст.: здабыткі нямецка-беларускай лексікаграфічнай практыкі ХХ ст.; нямецка-беларуская слоўнікавая практыка ХХ ст. (перыядызацыя, тыпалогія, характарыстыка). 2. Роля нямецка-беларускіх лексікаграфічных крыніц у фарміраванні беларускай тэрміналогіі: «Сямімоўны слоўнік» (1918) у гісторыі фарміравання беларускай тэрміналогіі; лёс лексічных намінацый «Сямімоўнага слоўніка» (1918) у беларускай навуковай мове; нямецка-беларускія слоўнікавыя крыніцы і беларуская навуковая мова ХХ ст.

У дысертацыі 5 дадаткаў (57 с.): «Каментарыі», «Неадшуканыя слоўнікавыя крыніцы», «Зводная табліца колькасных і якасных змен лексічных намінацый *Сямімоўнага слоўніка* (1918) у беларускай тэрміналогіі», «Дыяграмы колькасных і якасных змен тэрміналагічных груп *Сямімоўнага слоўніка* (1918) у беларускай тэрміналогіі», «Агульная слоўнікавая картатэка».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана роля нямецка-беларускай лексікаграфічнай практыкі ў працэсе фарміравання беларускай навуковай мовы ХХ ст.: высветлены гістарычныя перадумовы распрацоўкі і ўкладання перакладных нямецка-беларускіх слоўнікаў першай паловы ХХ ст.; апісаны выяўленыя слоўнікавыя крыніцы першай паловы ХХ ст.; пададзены сістэматызаваныя бібліяграфічныя звесткі пра слоўнікавыя крыніцы другой паловы ХХ ст.; вылучаны і ахарактарызаваны асноўныя этапы развіцця нямецка-беларускай прыкладной лексікаграфіі ХХ ст.; вызначана роля нямецка-беларускіх слоўнікаў у станаўленні і развіцці беларускай тэрміналогіі ХХ ст.

***Крыніца інфармацыі:*** Любецкая, К.П. Нямецка-беларуская лексікаграфія ХХ ст. і фарміраванне беларускай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / К.П. Любецкая; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 21 с.

## 161 ЛЯСОВІЧ СВЯТЛАНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Сістэма колераабазначэння ў мове твораў Уладзіміра Караткевіча: структурна-семантычны, функцыянальны і кагнітыўны аспекты.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Бабіч Ю.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.12.2006; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Паўлавец Д.Д., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Выявіць і апісаць спецыфіку функцыянавання колераабазначэнняў як лексіка-семантычнай сістэмы ў розных аспектах – семантычным, кагнітыўным, функцыянальным – у мове твораў У. Караткевіча.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 461 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 227 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Спецыфіка колераабазначэння як моўнай адзінкі ў мастацкім тэксце: розныя аспекты вывучэння колеру як знакавай сістэмы; кагнітыўны аспект колераабазначэння: канцэптасфера колеру і колеравы канцэпт; колькасны аналіз ужывання каларонімаў у творах Уладзіміра Караткевіча. 2. Метафара і параўнанне – аснова колерапісу ў мове твораў Уладзіміра Караткевіча: параўнанні з колеравым кампанентам у паэзіі Уладзіміра Караткевіча; колеравыя параўнальныя канструкцыі ў прозе Уладзіміра Караткевіча; колеравая метафара ў мове твораў Уладзіміра Караткевіча. 3. Функцыянаванне колераабазначэння як кампанент вобразатворчасці ў мове твораў Уладзіміра Караткевіча: каларонімы-кампазіты – сродак дэталізацыі вобраза; няўласныя якасці – кампанент вобразнасці ў сістэме колераабазначэння; колеравая гармонія – вобразаўтваральны элемент у сістэме колераабазначэння Уладзіміра Караткевіча.

У дысертацыі 5 дадаткаў (359 с.): «Рэестр каларонімаў Уладзіміра Караткевіча», «Словы з пасіўнай колеравай схемай *Перадача колеру апісальным шляхам*», «Рэестр каларонімаў-кампазітаў Уладзіміра Караткевіча», «Лексіка-граматычныя разрады каларонімаў», «Колеравая метафарызацыя апелятываў». Дадатак «Слоўнік колераабазначэнняў Уладзіміра Караткевіча» (315 с.) аформлены асобнай кнігай (спосаб падачы матэрыялу – тэматычны: колеракод *белы*, колеракод *жоўты*, колеракод *зялёны*, колеракод *сіні*, колеракод *чорны*, колеракод *чырвоны*, колеракод *шэры*, колеракод *шматфарбнасць*, колераабазначэнні з неакрэсленай семантыкай; поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучана сістэма колераабазначэнняў на матэрыяле мастацкіх тэкстаў У. Караткевіча і праведзены іх комплексны аналіз:

вызначаны колькасны і кампанентны склад колераабазначэнняў і стылістычных фігур, пабудаваных на аснове каларонімаў, даследавана структура колеравых кодаў у творах пісьменніка; акрэслена паняцце і дадзена шматаспектная характарыстыка канцэптасферы колеру і колеравага канцэпту з вызначэннем магчымых механізмаў утварэння канцэптаў і крытэрыяў вылучэння колераканцэптаў; створана класіфікацыя каларонімаў-кампазітаў, колеравай метафары і параўнання; апісана сімвалічная і канатацыйная спецыфіка каларонімаў у творах пісьменніка.

***Крыніца інфармацыі:*** Лясовіч, С.М. Сістэма колераабазначэння ў мове твораў Уладзіміра Караткевіча: структурна-семантычны, функцыянальны і кагнітыўны аспекты: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / С.М. Лясовіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – 24 с.

## 162 ЛЯШКЕВІЧ ВОЛЬГА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Антрапанімічная сістэма Віцебшчыны і Магілёўшчыны XVI – XVIII стст. (на матэрыяле мясцовай дзелавой пісьменнасці).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Мезенка Г.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.12.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Заіка З.М., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Комплексны аналіз антрапанімічнай сістэмы Віцебшчыны і Магілёўшчыны XVI – XVIII стст. у структурным і семантычным аспектах.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 124 с., асноўны тэкст займае 109 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 168 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Уласныя асабовыя імёны: мужчынскія ўласныя асабовыя імёны; жаночыя ўласныя асабовыя імёны. 2. Разгорнутая сістэма называння: анамастычны статус імён па бацьку і асаблівасці іх фарміравання; шматкампанентныя мужчынскія найменні; шматкампанентныя найменні асоб жаночага полу. 3. Імя-мянушка як лінгвістычная і гісторыкасацыяльная крыніца: імёны-мянушкі, утвораныя ад «nomina personalia»; імёнымянушкі, утвораныя ад «nomina impersonalia».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены заканамернасці словаўтварэння і функцыянавання мужчынскіх і жаночых каляндарных імён (апісаны найбольш тыповыя для даследаванага рэгіёна словаўтваральныя мадэлі і тыпы антрапонімаў; прасочаны тэндэнцыі развіцця структурных тыпаў і мадэляў антрапонімаў; прааналізаваны сродкі антрапанімнага словаўтварэння, прадуктыўнасць асобных фармантаў і межы іх распаўсюджання); разгледжаны розныя варыянты мужчынскіх і жаночых каляндарных імён, якія ўзніклі ў выніку іх адаптацыі ў даследа-

ваны перыяд; выяўлены асаблівасці ўжывання і фарміравання імён па бацьку; устаноўлены спосабы ўтварэння і структурныя асаблівасці разгорнутых найменняў асоб мужчынскага і жаночага полу; адзначана спецыфіка імён-мянушак і дадзена іх лексіка-семантычная характарыстыка.

***Крыніца інфармацыі:*** Ляшкевіч, В.М. Антрапанімічная сістэма Віцебшчыны і Магілёўшчыны XVI – XVIII стст. (на матэрыяле мясцовай дзелавой пісьменнасці): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.М. Ляшкевіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 21 с.

## 163 ЛЯШУК ВІКТОРЫЯ МАРЛЕНАЎНА

***Тэма:*** Развіццё лексічных сродкаў беларускай паэзіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шакун Л.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.12.1993; Д 056.03.06, БДУ.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; ІМ АН Беларусі.

***Мэта:*** Вызначыць заканамернасці і акрэсліць шляхі развіцця лексічных сродкаў беларускай паэзіі з улікам іх дыферэнцыяцыі на традыцыйныя і інавацыйныя, прааналізаваць асаблівасці эстэтычнага асваення слова пад уплывам мастацкіх крытэрыяў, аўтарскай задумы і, нарэшце, пэўных ідэалагічных установак, якія ў асобныя перыяды развіцця грамадства строга рэгламентавалі літаратурнамоўны працэс.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 217 с., асноўны тэкст займае 201 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 141 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Агульнаўжывальная лексіка як сродак мастацкага выяўлення ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі: агульныя заўвагі; прыродаапісальная лексіка; прыродаапісальная лексіка ў дакастрычніцкай паэзіі Я. Коласа; лексіка сялянскага побыту; лексіка-семантычная група «з'явы дзяржаўнага ладу і звязаных з ім рэалій»; лексіка-семантычная група сацыяльна-філасофскіх паняццяў; лексіка-семантычная група рэалій і паняццяў разумовай і творчай дзейнасці; лексіка-семантычная група «чалавек (па розных яго прыметах)»; лексіка-семантычная група «рэальныя і ўмоўныя часткі чалавечага арганізму»; лексіка-семантычная група эмацыянальна-пачуццёвага стану чалавека; лексіка светаўспрымання сялян. 2. Зрухі ў выкарыстанні лексічных сродкаў беларускай паэзіі ў паслякастрычніцкі час: агульныя заўвагі; колькасная характарыстыка слоў агульнаўжывальнай (традыцыйнай) лексікі ў паслякастрычніцкай беларускай паэзіі; словы-вобразы як выяўленчы сродак беларускай паэзіі; інавацыйныя працэсы ў сістэме традыцыйных лексічных сродкаў; народна-гутарковыя крыніцы і індывідуальная словатворчасць; выкарыстанне лексічных сродкаў з іншых крыніц.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызавана лексіка-семантычная сістэма беларускай дакастрычніцкай паэзіі як зыходная база для аналізу наступнага развіцця лексічных сродкаў; прааналізаваны заканамернасці эстэтычнага засваення элементаў вылучаных эмпірычным чынам лексіка-семантычных груп; шляхам прыкладнага частотнага аналізу лексікі ў тэкстах розных часавых зрэзаў раскрыта дынаміка функцыянавання традыцыйнага лексічнага пласта; паказаны найбольш істотныя змены ў сістэме традыцыйных лексічных сродкаў пасляКастрычніцкай беларускай паэзіі; выяўлены асаблівасці ўзаемадзеяння інавацый з традыцыйнай лексічнай вобразнай сістэмай беларускай паэзіі; вызначаны тэндэнцыі інавацыйных працэсаў у кантэксце агульных заканамернасцяў развіцця лексічных сродкаў беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Ляшук, В.М. Развитие лексических средств белорусской поэзии: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / В.М. Ляшук; БГУ. – Минск, 1993. – 20 с.

## 164 ЛЯШЧЫНСКАЯ ВОЛЬГА АЛЯКСЕЕЎНА

***Тэма:*** Мова паэзіі Янкі Купалы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кансультант:*** Падлужны А.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.11.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Мезенка Г.М., д.філал.н.; Міхневіч А.Я., д.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Даследаванне мовы паэзіі Янкі Купалы ў лексіка-семантычным і нармалізацыйным аспектах.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 227 с., асноўны тэкст займае 209 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 293 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Слова як кампанент паэтычнага тэксту і як адзінка індывідуальнага стылю. 1.1. Рэлігійная лексіка. 1.2. Каляровая карціна свету Янкі Купалы. 1.3. Уласныя імёны і адметнасць іх ужывання ў паэта. 1.3.1. Імёны рэальных гістарычных людзей. 1.3.2. Імёны персанажаў, створаных аўтарам. 1.3.3. Адметнасць паэтычнага ўжывання. 1.4. Словы загалоўка і тэкст. 1.5. Пераасэнсаванне слова ў кантэксце твора. 1.5.1. Метафара. 1.5.1.1. Канцэптуальна-тэматычная карціна свету Янкі Купалы. 1.5.2. Гіпербала і літота. 1.5.3. Метанімія. 1.5.4. Эпітэт. 1.5.5. Параўнанне. 1.5.5.1. Асацыятыўнае поле параўнанняў Янкі Купалы. 1.5.6. Узаемасувязь тропаў. 2. Слова ў паэзіі і норма. 2.1. Паэзія Янкі Купалы і нармалізацыя беларускай мовы. 2.1.1. Словатворчасць паэта. 2.1.2. Формаўтварэнне паэта. 2.2. Асаблівасці спалучальнасці слова ў паэзіі Янкі Купалы. 2.3. Асаблівасці месцаразмяшчэння слова ў паэзіі Янкі Купалы. 2.4. Сінтаксічныя сродкі размоўнасці ў паэзіі Янкі Купалы і норма.

2.4.1. Дыялагічная форма. 2.4.2. Зачыны вершаў. 2.4.3. Зваротак. 2.4.4. Эліпсіс. 2.4.5. Назоўны тэмы. 2.4.6. Намінатыўны сказ. 2.4.7. Пабочныя словы, словазлучэнні, сказы. 3. Паўтор слова ў паэтычным маўленні. 3.1. Фанетычны паўтор. 3.1.1. Алітэрацыя. 3.1.2. Асананс. 3.2.3. Рыфма. 3.1.4. Паранімічная атракцыя. 3.2. Марфемны паўтор. 3.2.1. Паўтор аднапрэфіксальных слоў. 3.2.2. Паўтор аднасуфіксальных слоў. 3.2.3. Паўтор аднакаранёвых слоў. 3.3. Лексіка-семантычны паўтор. 3.3.1. Лексічны паўтор. 3.3.2. Сінанімічны паўтор. 3.3.3. Антанімічны паўтор. 3.4. Сінтаксічны паўтор. 3.4.1. Паўтор злучніка. 3.4.2. Паўтор прыназоўніка. 3.4.3. Паўтор часціцы. 3.4.4. Паўтор зваротка. 3.4.5. Прыём сіметрычнай падвойнасці. 3.4.6. Прыём ампліфікацыі. 3.4.7. Сінтаксічны паралелізм. 3.4.8. Паўтор пытальных сказаў. 3.4.9. Амебейная кампазіцыя.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены асаблівасці ідыястылю Янкі Купалы праз характарыстыку ўласцівых яму прыёмаў паэтычнага выкарыстання слова ў разнастайных эстэтычных функцыях (трапеізацыя, стылістычны сінтаксіс, лексіка-семантычныя групоўкі, семантычнае вар'іраванне, вобразныя трансфармацыі, фраза- і тэкстаўтварэнне). Устаноўлены заканамернасці фарміравання нормаў беларускай літаратурнай мовы ў цеснай сувязі з нарматворчай дзейнасцю Янкі Купалы; выяўлены адрозненні паміж нормамі літаратурнай мовы і нормамі паэтычнай мовы; заканамернасці семантыка-прагматычнай трансфармацыі і стылістычнай мадыфікацыі лексікі беларускай мовы ў працэсе мастацкай творчасці. Апісаны спосабы і прыёмы (актывізацыя паэтычных тропаў – метафары і гіпербалы, актуалізацыя пэўных сем, марфем, выкарыстанне капулятыўных лексіка-сінтаксічных адзінак) паэтычнай трансфармацыі агульнамоўных сродкаў. На матэрыяле паэтычных твораў Янкі Купалы створана лінгвістычная тыпалогія паўтораў.

***Крыніца інфармацыі:*** Ляшчынская, В.А. Мова паэзіі Янкі Купалы: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.А. Ляшчынская; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 42 с.; Ляшчынская, В.А. Метафара ў паэзіі Янкі Купалы / В.А. Ляшчынская. – Гомель: Выд-ва ГДУ, 2003. – 160 с.; Ляшчынская, В.А. Слова ў паэзіі Янкі Купалы / В.А. Ляшчынская. – Мінск: Беларуская навука, 2004. – 272 с.

## 165 МАЗУРКЕВІЧ ЛЮДМІЛА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Лексіка народнай медыцыны Усходняга Палесся.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.06.2003; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Клімчук Ф.Д., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Даць усебаковы лексіка-семантычны аналіз медыцынскай лексікі ў гаворках Усходняга Палесся.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 149 с., асноўны тэкст займае 116 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 146 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Саматычная лексіка: назвы частак цела чалавека; назвы ўнутраных органаў. 2. Медыцынская лексіка: назвы хвароб, недамаганняў і сімптомаў захворванняў; назвы асоб паводле стану здароўя; назвы асоб паводле іх лячэбных функцый. 3. Назвы лекавых раслін: матываваныя назвы лекавых раслін; нематываваныя назвы лекавых раслін.

У дысертацыі 3 дадаткі (24 с.): «Індэкс даследаваных намінацый», «Паказчык лацінскіх назваў», «Карты-схемы» (7).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Манаграфічна апісана лексічная сістэма медыцынскіх намінацый усходнепалескага рэгіёна, праведзена дыферэнцыяцыя найменняў паводле лексіка-семантычных класіфікацыйных прымет, вызначаны семантычны аб'ём і паходжанне кожнай лексемы; прасочаны сінанімічныя адносіны ў межах прааналізаваных тэматычных аб'яднанняў, ажыццёўлены лінгвагеаграфічны аналіз, высветлена ўзаемадзеянне найменняў з лексічнай сістэмай беларускай літаратурнай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Мазуркевіч, Л.М. Лексіка народнай медыцыны Усходняга Палесся: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.М. Мазуркевіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 20 с.

## 166 МАКАРЭВІЧ АЛЯКСАНДР ВАСІЛЬЕВІЧ

***Тэма:*** Устарэлая лексіка ў беларускай мове (на матэрыяле лексікаграфічных прац XIX – XX стст.).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.06.2004; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Куліковіч У.І., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Вызначэнне сутнасці ўстарэлай лексікі, выяўленні функцыянальнай, семантычнай і стылістычнай спецыфікі яе на матэрыяле слоўнікаў беларускай мовы XIX – XX стст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 126 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 200 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Устарэлая лексіка ў структуры беларускай мовы: устарэлая лексіка як аб'ект беларускага мовазнаўства; устарэлая лексіка і дынаміка мовы; архаізмы і гістарызмы ў сістэме ўстарэлых слоў; архаічная лексіка ў сістэме мовы. 2. Устарэлая лексіка ў слоўніках

беларускай мовы XIX – XX стст.: устарэлая лексіка ў слоўніках XIX – першай паловы XX ст.; устарэлая лексіка ў слоўніках другой паловы XX – пачатку XXI ст.; сістэма памет устарэлай лексікі; тлумачальны слоўнік як поўнае і сістэмнае адлюстраванне лексікі літаратурнай мовы. 3. Лексічныя асаблівасці гістарызмаў: лексічныя і семантычныя гістарызмы; разрады гістарызмаў па часе іх актыўнага ўжывання ў мове; лексіка-тэматычная характарыстыка гістарызмаў. 4. Уласна лексічныя архаізмы і тыпалогія архаічнай лексікі: праблема тыпалогіі і вызначэння крытэрыяў архаізацыі; кваліфікацыйныя прыметы ўласна лексічных архаізмаў; прычыны з'яўлення ўласна лексічных архаізмаў; лексіка-семантычная тыпалогія архаізмаў; уласна лексічныя архаізмы ў тлумачальных слоўніках беларускай мовы; «ажыўленне» ўстарэлай лексікі.

У дысертацыі 1 дадатак (11 с.) – «Індэкс прааналізаваных слоў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена комплекснае даследаванне ўстарэлай лексікі, змешчанай у лексікаграфічных працах XIX – XX стст.; вызначаны крытэрыі аднясення такіх слоў да архаізмаў і гістарызмаў; устаноўлены прычыны з'яўлення ў беларускай мове ўласна лексічных архаізмаў і распрацавана іх тыпалогія; выяўлены і апісаны лексіка-семантычныя асаблівасці гістарызмаў; удакладнены кваліфікацыйныя прыметы ўстарэлай лексікі; вызначана яе функцыянальная і стылістычная спецыфіка ў беларускай мове на працягу XIX – XX стст.

***Крыніца інфармацыі:*** Макарэвіч, А.В. Устарэлая лексіка ў беларускай мове (на матэрыяле лексікаграфічных прац XIX – XX стст.): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.В. Макарэвіч; БДУ. – Мінск, 2004. – 21 с.

## 167 МАКАРЭВІЧ МІХАІЛ МІХАЙЛАВІЧ

***Тэма:*** Лексіка народных промыслаў і рамёстваў у гісторыі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.04.2011; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Савіцкая І.І., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Вызначыць ступень выкарыстання і ролю лексікі народных промыслаў і рамёстваў у працэсе фарміравання беларускай нацыянальнай навуковай тэрміналогіі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 157 с., асноўны тэкст займае 128 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 194 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Лексіка народных промыслаў і рамёстваў як аб'ект навуковага даследавання: з гісторыі народных

промыслаў і рамёстваў; з гісторыі нацыянальнай тэрміналогіі; асноўныя тэрміны і паняцці. 2. Прадметна-тэматычная і структурна-генетычная характарыстыка промыславай лексікі: рыбалоўства; пчалярства; бондарства; ганчарства; кавальства; структурна-генетычная характарыстыка промыславай лексікі. 3. Словаўтварэнне промыславай тэрміналогіі: лексіка-семантычны спосаб тэрмінаўтварэння; марфалагічны спосаб тэрмінаўтварэння; сінтаксічны спосаб тэрмінаўтварэння. 4. Промыславая лексіка ў нацыянальнай тэрміналогіі: промыславая лексіка і фарміраванне навуковай тэрміналогіі 20 – 30-х гадоў XX ст.; тэматычныя групы промыславай лексікі ў нацыянальнай тэрміналогіі.

У дысертацыі 1 дадатак (9 с.) – «Спіс выкарыстаных тэрміналагічных адзінак».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Сістэматызаваны і класіфікаваны лексічныя адзінкі, якія выкарыстоўваюцца для намінацыі промыславых і рамесных паняццяў і з'яў з галіны рыбалоўства, пчалярства, бондарства, ганчарства і кавальства паводле прадметна-тэматычнай суаднесенасці намінатыўных адзінак; высветлена паходжанне лексем народных промыслаў і рамёстваў і ўстаноўлены крыніцы іншамоўных запазычанняў; ахарактарызавана словаўтваральная структура і ступень прадуктыўнасці словаўтваральных тыпаў і мадэлей тэрміналагічных адзінак; вызначана месца і роля намінацый народных промыслаў і рамёстваў у працэсе станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай навуковай тэрміналогіі.

***Крыніца інфармацыі:*** Макарэвіч, М.М. Лексіка народных промыслаў і рамёстваў у гісторыі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / М.М. Макарэвіч; БДУ. – Мінск, 2011. – 23 с.

## 168 МАЛАШАНКА НАТАЛЛЯ ПАЎЛАЎНА

***Тэма:*** Сінтаксіс беларускай народнай песні: тыпы семантычнага суб'екта.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Станкевіч А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.04.2006; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Сянкевіч В.І., д.філал.н.; Злобін Л.І., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Апісанне семантычнага суб'екта як адной з цэнтральных катэгорый семантычнай структуры сказа і асаблівасцей яго фармальнага выражэння ў тэкстах беларускіх народных песень сямейна-бытавой тэматыкі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 120 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 143 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Катэгорыя суб'екта ў семантычнай структуры сказа: розныя падыходы да катэгорыі семантычнага суб'екта ў лінгвістычнай літаратуры; трактоўкі паняцця семантычнай структуры сказа; семантычны суб'ект у адносінах да сітуацыі; суадносіны семантычнага

і граматычнага суб'ектаў; асноўныя ўласцівасці семантычнага суб'екта як семантыка-сінтаксічнай катэгорыі. 2. Выражэнне і функцыянаванне семантычнага суб'екта ў мове беларускіх народных песень сямейна-бытавой тэматыкі: тыповае і спецыфічнае ў структуры функцыянальна-семантычнага поля суб'ектнасці, у магчымасцях лексіка-марфалагічнага запаўнення функцыянальна-сінтаксічных пазіцый суб'екта; магчымасці вербальнага і невербальнага выражэння семантычнага суб'екта, узаемаадносіны склону і семы асобы ў катэгорыі семантычнага суб'екта; пазіцыя семантычнага суб'екта ў адносінах да прэдыката; праблема бессуб'ектнасці і полісуб'ектнасці ў тэкстах песень.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены семантыка-сінтаксічны аналіз беларускіх народных песень, створана парадыгма семантычных роляў суб'екта ў сукупнасці са сродкамі фармальнага выражэння; выяўлены прыметы, уласцівыя семантычнаму суб'екту як семантыка-сінтаксічнай катэгорыі, а таксама месца семантычнага суб'екта сярод іншых катэгорый семантычнай структуры сказа; апісаны формы экспліцытнага і імпліцытнага выражэння семантычнага суб'екта ў сказах розных тыпаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Малашанка, Н.П. Сінтаксіс беларускай народнай песні: тыпы семантычнага суб'екта: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01. / Н.П. Малашанка; ГДУ. – Гомель, 2006. – 20 с.

## 169 МАЛІЦКІ ЮРЫЙ ВЯЧАСЛАВАВІЧ

***Тэма:*** Эмацыянальна-ацэначныя і экспрэсіўныя дзеясловы ў народна-дыялектнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шаблоўскі А.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 10.11.2006; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Сянкевіч В.І., д.філал.н.; Антропаў М.П., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Сістэмны аналіз эмацыянальна-ацэначных і экспрэсіўных дзеясловаў, якія ўжываюцца ў народна-дыялектнай мове (у гаворках усходняй Магілёўшчыны).

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 138 с., асноўны тэкст займае 82 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 127 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Эмацыянальна-ацэначная і экспрэсіўная лексіка як прадмет лінгвістычнага вывучэння: эмацыянальна-ацэначныя і экспрэсіўныя словы як адзінкі маўлення; вызначэнне сутнасці моўных феноменаў экспрэсіі і эмацыянальнай ацэнкі ў сучаснай лінгвістыцы; асноўныя падыходы да класіфікацыі эмацыянальна-ацэначнай і экспрэсіўнай лексікі ў сучаснай лінгвістыцы; сістэмны аналіз і класіфікацыя эмацыянальна-ацэначных і экспрэсіўных дзеясловаў. 2. Эмацыянальна-ацэначныя і экспрэсіўныя дзеясло-

вы ў гаворках Усходняй Магілёўшчыны: стылістычная маркіроўка прагмем у дыялектнай лексікаграфіі; экспрэсіўны фармальны тып рэалізацыі прагматычнага зместу дзеясловаў; эмацыянальна-ацэначны фармальны тып рэалізацыі прагматычнага зместу дзеясловаў; эмацыянальна-ацэначны семантычны тып рэалізацыі прагматычнага зместу дзеясловаў; лексічныя і сінтаксічныя сродкі рэалізацыі эмацыянальна-ацэначнага і экспрэсіўнага зместу дзеясловаў.

У дысертацыі 1 дадатак (44 с.) – «Слоўнік эмацыянальна-ацэначных і экспрэсіўных дзеясловаў у гаворках усходняй Магілёўшчыны» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны функцыянальна-стылістычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле дыялектных слоўнікаў усходняй Магілёўшчыны, а таксама народных казак, запісы якіх выкананы ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх паветах Магілёўскай губерні ў канцы XIX – пачатку XX ст., даследаваны корпус экспрэсіўных і эмацыянальна-ацэначных дзеясловаў; вызначаны моўныя фармальныя сродкі рэалізацыі экспрэсіўнага і эмацыянальна-ацэначнага зместу дыялектных дзеясловаў; на аснове канкрэтных фармальных крытэрыяў размежаваны экспрэсіўныя і эмацыянальна-ацэначныя дзеясловы; выпрацавана аперацыйная методыка дыферэнцыяцыі эмацыянальна-ацэначных і экспрэсіўных дзеясловаў для атрымання эканомнай, простай і інфарматыўнай класіфікацыі.

***Крыніца інфармацыі:*** Маліцкі, Ю.В. Эмацыянальна-ацэначныя і экспрэсіўныя дзеясловы ў народна-дыялектнай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю.В. Маліцкі; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – 20 с.

## 170 МАЛОХА МИРОСЛАВА

***Тема:*** Фразеология и национальная картина мира: фразеологизмы с компонентом-названием дерева в восточнославянских и польском языках.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.03 – славянские языки.

***Научный руководитель:*** Прохорова С.М., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра прикладной лингвистики.

***Дата защиты, совет по защите:*** 24.12.1996; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Плотников Б.А., д.филол.н.; Шкраба И.Г., к.филол.н.; ГГУ.

***Цель:*** Выявление межъязыковых сходств и различий в структуре и семантике фразеологических единиц, в их образном наполнении, а также рассмотрение общих и специфических черт в характере качественных преобразований лексем-наименований дерева при вхождении их в состав фразеологических сочетаний.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 150 с., основной текст занимает 119 с. Список использованной литературы – 218 наименований.

Результаты исследования отражены в 6 главах. 1. Теоретические основания изучения состава фразеологических единиц с помощью метода компонентного анализа: типы фразеологических единиц: история формирования основных понятий; метод компонентного анализа в истории изучения фразеологии. 2. Фразеологизмы с компонентом *дерево* в концептуальной модели мира славян. 3. Культурный стереотип лиственного дерева и его отображение во фразеологии: яблоня; груша; дуб; ива (верба); береза; орех; осина; липа; калина; ольха; рябина. 4. Представления о сосне и ели в народной традиции и их отражение во фразеологии. 5. Фразеологизмы с компонентом-названием экзотических деревьев. 6. Особенности мотива мертвого дерева во фразеологии.

В диссертации 4 приложения (18 с.): «Перечень приведенных в работе фразеологических единиц с компонентом-названием дерева в польском языке», «Перечень приведенных в работе фразеологических единиц с компонентом-названием дерева в белорусском языке», «Перечень приведенных в работе фразеологических единиц с компонентом-названием дерева в украинском языке», «Перечень приведенных в работе фразеологических единиц с компонентом-названием дерева в русском языке».

***Научное значение исследования:*** Систематизирован фразеологический материал в соответствии с центральным компонентом-названием отдельной породы дерева; прослежена семантическая наполненность и ритуальное функционирование деревьев в традиционной славянской культуре и их отображение в значениях фразеологических единиц; выделены в пределах семантических групп продуктивные структурные модели и доминирующие компоненты; выявлены закономерности мотивировки внутренней формы фразеологических единиц, установлены моменты сходства и различия между образными основаниями фразеологических единиц польского, белорусского, украинского и русского языков, рассмотрено варьирование их компонентов; выявлены общие и дифференциальные особенности в отражении картин мира в рассматриваемых фразеологизмах сопоставляемых языков; выявлены первичные номинации отдельных фразеологизмов с компонентом-названием дерева.

***Источник информации:*** Малоха, М. Фразеология и национальная картина мира: фразеологизмы с компонентом-названием дерева в восточнославянских и польском языках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.03 / М. Малоха; БГУ. – Минск, 1996. – 17 с.

## 171 МАЛЬКО ГАННА ІВАНАЎНА

***Тэма:*** Руска-беларуская інтэрферэнцыя ў перыядычным друку Рэспублікі Беларусь (лексічны і прагматычны ўзроўні).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Запрудскі С.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.03.2004; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Антанюк Л.А., д.філал.н.; Мельнікава Л.А., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Вывучэнне і апісанне ўплыву рускай мовы на беларускае пісьмовае маўленне ў публіцыстычных тэкстах перыядычнага друку 90-х гадоў ХХ ст. і параўнанне інтэнсіўнасці руска-беларускай інтэрферэнцыі на лексічным і граматычным узроўнях у пачатку і канцы дадзенага перыяду.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 143 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 252 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Моўныя кантакты, білінгвізм і інтэрферэнцыя як сацыялінгвістычныя паняцці: пытанні кантакту моў, білінгвізму і інтэрферэнцыі ў асвятленні айчынных і замежных даследчыкаў; інтэрферэнцыя як вынік кантакту моў. 2. Руска-беларуская лексічная інтэрферэнцыя: паняцце *русізм*, функцыянальныя і нефункцыянальныя русізмы; віды руска-беларускай лексічнай інтэрферэнцыі і іх распаўсюджанне ў беларускамоўным перыядычным друку; руска-беларуская фразеалагічная інтэрферэнцыя. 3. Руска-беларуская марфалагічная інтэрферэнцыя: назоўнік; інтэрферэмы ва ўтварэнні сінтэтычных формаў ступеняў параўнанняў прыметнікаў; інтэрферэнцыйныя памылкі ў скланенні лічэбнікаў. 4. Руска-беларуская сінтаксічная інтэрферэнцыя: інтэрферэнцыйныя памылкі ў словазлучэннях з сінтэтычнай формай вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў; інтэрферэнцыйныя памылкі ва ўжыванні кароткіх формаў прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у ролі іменнай часткі выказнікаў; інтэрферэмы ў сінтаксічных канструкцыях з колькаснай семантыкай; інтэрферэнцыйныя памылкі ў дзеяслоўным кіраванні; інтэрферэмы ў словазлучэннях з сінтэтычнай формай вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў; інтэрферэнцыйныя памылкі ў некаторых беспрыназоўнікавых і прыназоўнікавых канструкцыях. 5. Руска-беларуская словаўтваральная інтэрферэнцыя: інтэрферэмы ва ўтварэнні назоўнікаў; інтэрферэмы ва ўтварэнні прыметнікаў; інтэрферэнцыйныя памылкі ва ўтварэнні адмоўных займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў; інтэрферэмы ва ўтварэнні дзеясловаў; інтэрферэнцыйныя памылкі ва ўтварэнні дзеепрыметнікаў; інтэрферэнцыйныя памылкі ва ўтварэнні калек і паўкалек.

У дысертацыі 7 дадаткаў (18 с.): «Пералік інтэрферэнцыйных моўных з'яў, якія сустрэліся ў перыядычным друку», «Выкарыстаныя выданні», «Пашыранасць руска-беларускай інтэрферэнцыі ў некаторых перыядычных выданнях (колькасць выяўленых інтэрферэнцыйных ужыванняў)», «Колькасць інтэрферэнцыйных памылак, зарэгістраваных у асобных нумарах некаторых перыядычных выданняў», «Агульная колькасць зарэгістраваных інтэрферэм», «Паказальнік прааналізаваных русізмаў», «Паказальнік прааналізаваных фразеалагізмаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучаны ўплыў рускай мовы на беларускае пісьмовае маўленне ў публіцыстычных тэкстах перыядычнага друку 90-х гадоў XX ст.: прапанавана класіфікацыя інтэрферэнтных з'яў па асноўных параметрах, праілюстравана ўжыванне ў беларускамоўных тэкстах рускамоўных рыс на лексічным і граматычным узроўнях, выяўлены прычыны ўзнікнення інтэрферэнцыйных памылак, параўнана інтэнсіўнасць праяўлення руска-беларускай інтэрферэнцыі ў некаторых беларускіх перыядычных выданнях у пачатку і ў канцы 90-х гадоў XX ст.

***Крыніца інфармацыі:*** Малько, Г.І. Руска-беларуская інтэрферэнцыя ў перыядычным друку Рэспублікі Беларусь (лексічны і граматычны ўзроўні): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / Г.І. Малько; БДУ. – Мінск, 2004. – 19 с.

## 172 МАРОЗ ВАЛЯНЦІНА КАНСТАНЦІНАЎНА

***Тэма:*** Мова беларускіх летапісаў у кантэксце фарміравання старажытнай беларускай літаратурнай мовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кансультант:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 18.12.2009; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Яновіч А.І., д.філал.н.; Паўлоўская Н.Ю., д.філал.н.; Коваль У.І., д.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Комплекснае і сістэмнае навуковае асвятленне ролі летапісаў у фарміраванні старажытнай беларускай літаратурнай мовы і станаўленні яе нормаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 241 с., асноўны тэкст займае 218 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 204 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Стан і перспектывы даследавання мовы беларускага летапісання. 1.1. Тэарэтычныя асновы аналізу і напрамкі даследавання летапіснай факталогіі. 1.2. Лінгва-гістарычны аспект фарміравання тэрмінасістэмы беларускага летапісазнаўства. 1.2.1. Замацаванне ў навуковай літаратуры формаў намінацыі беларускіх летапісных твораў. 1.2.2. Гістарычная зменнасць тэрміналагічных назваў адносна мовы беларускіх летапісаў. 2. Фарміраванне беларускай летапіснай традыцыі: мовазнаўчы аспект. 2.1. Устойлівыя формулы часу ў працэсе пераарыентацыі беларускага летапісання на апавядальную прозу. 2.2. Прыёмы аўтарскай апрацоўкі тэксту: пагадовая выбарка ў складзе першага летапіснага зводу. 2.3. Мастацка-стылістычнае абнаўленне летапіснай вобразнасці: «Пахвала Вітаўту». 2.4. Мова Баркулабаўскага летапісу. 3. Мова беларускіх летапісаў і станаўленне літаратурных нормаў. 3.1. Адлюстра-

ванне ў летапісах нарматыўных рыс старажытнай беларускай літаратурнай мовы. 3.2. Моўная аснова «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». 3.3. Даследаванне нарматворчых працэсаў праз аналіз летапісных розначытанняў. 3.3.1. Адзнакі ўстойлівасці і нарматыўнай варыянтнасці ў «Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх» (на матэрыяле розначытанняў па спісах Віленскім і трох беларускіх зводаў). 3.3.2. Прыёмы моўнай адаптацыі кампілятыўных частак (на матэрыяле розначытанняў Нікіфараўскага і Супрасльскага спісаў). 4. Фразеалогія беларускага летапісання як форма ўзбагачэння старажытнай літаратурнай мовы. 4.1. Акумуляцыя ў мове летапісаў фразеалагічных адзінак і замацаванне іх у якасці літаратурнай фразеалагічнай нормы. 4.1.1. Сінанімія фразеалагізмаў. 4.1.2. Варыянтнасць у фразеалогіі (на матэрыяле розначытанняў «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»). 4.2. Ідэйна-тэматычная характарыстыка фразеалагічнага складу беларускіх летапісаў. 5. Мова беларускіх гарадскіх летапісаў-хронік XVII – XIX стст. 5.1. Прадаўжэнне традыцый беларускага летапісання ў гарадскіх летапісах-хроніках. 5.2. Лацінскае пісьмо ў беларускіх летапісах: адлюстраванне змены літаратурных моўных кодаў праз пераарыентацыю графіка-арфаграфічных нормаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна даследавана роля летапісаў у фарміраванні старажытнай беларускай літаратурнай мовы і станаўленні яе нормаў. Вызначана ступень вывучанасці мовы беларускага летапісання, выяўлены недастаткова распрацаваныя аспекты праблемы, паказаны новыя магчымасці выкарыстання летапіснага матэрыялу ў моваазнаўчых даследаваннях. Прааналізаваны прыёмы і спосабы аўтарскай апрацоўкі летапіснага тэксту. Сістэматызаваны рознаўзроўневыя нарматыўныя паказчыкі, адлюстраваныя ў мове беларускіх летапісаў; на летапісным матэрыяле распрацаваны так званы каэфіцыент нарматыўнасці для вызначэння беларускамоўнай асновы помнікаў пісьменства. Праведзены параўнальна-гістарычны аналіз спісаў летапісных зводаў, выяўлены ў мове летапісаў розначытанні і прапанавана іх лінгвістычнае апісанне. Раскрыты працэсы фарміравання фразеалагічнага складу беларускіх летапісаў; разгледжаны з’явы варыянтнасці і сінаніміі фразеалагізмаў у якасці паказчыкаў станаўлення фразеалагічнай нормы; вывучана функцыянаванне фразеалогіі беларускага летапісання ў дынаміцы – ад старажытнасці да сучаснасці. На прыкладзе гарадскіх летапісаў-хронік вызначаны новыя падыходы да асэнсавання беларускай літаратурнай мовы на этапе пераходу ад старажытнага да нацыянальнага перыяду. Разгледжана роля лацінскай графікі ў працэсе пераарыентацыі летапісання з беларускай мовы на польскую.

***Крыніца інфармацыі:*** Мароз, В.К Мова беларускіх летапісаў у кантэксце фарміравання старажытнай беларускай літаратурнай мовы: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.К. Мароз; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2009. – 42 с.; Мароз, В.К. Мова беларускага летапісання / В.К. Мароз. – Мінск: Выд-ва БДТУ, 2008. – 227 с.

## 173 МАРОЗ СВЯТЛАНА СЯРГЕЕЎНА

***Тэма:*** Катэгорыя пасесіўнасці і сродкі яе выражэння ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Яўневіч М.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 02.11.2001; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Яновіч А.І., д.філал.н.; Зялёнка В.Г., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Сістэмны, найбольш поўны структурна-семантычны аналіз сінтаксічных канструкцый, што перадаюць семантыку пасесіўнасці ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 109 с., асноўны тэкст займае 96 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 116 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Пасесіўнасць як моўная катэгорыя: праблема пасесіўнасці ў лінгвістычнай літаратуры; катэгорыя пасесіўнасці: змест і выражэнне. 2. Атрыбутыўныя пасесіўныя канструкцыі: канструкцыі з прыналежнымі прыметнікамі; канструкцыі з прыналежнымі займеннікамі; канструкцыі з родным склонам назоўнікаў без прыназоўнікаў; канструкцыі з давальным склонам назоўнікаў без прыназоўнікаў; прыназоўнікава-склонавыя канструкцыі. 3. Прэдыкатыўныя пасесіўныя канструкцыі: канструкцыі з дзеясловамі тыпу *валодаць*, *мець*, *трымаць* і пад.; канструкцыі з дзеясловам *належаць*. 4. Аб'ектныя пасесіўныя канструкцыі: канструкцыі з назоўнікамі тыпу *гаспадар*, *гаспадыня*.

У дысертацыі 2 дадаткі (3 с.) – табліцы «Атрыбутыўныя і пасесіўныя канструкцыі», «Прэдыкатыўныя пасесіўныя канструкцыі».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Сістэмна апісана структура і семантыка пасесіўных канструкцый; вывучаны кампанентавы склад пасесіўных канструкцый, роля атрыбутываў у іх будове, выяўлены тэндэнцыі развіцця, сфера ўжывання і стылістычныя магчымасці, акрэслены сінанімічныя сувязі паміж канструкцыямі рознай структуры.

***Крыніца інфармацыі:*** Мароз, С.С. Катэгорыя пасесіўнасці і сродкі яе выражэння ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / С.С. Мароз; БДПУ. – Мінск, 2001. – 19 с.

## 174 МАРШЭЎСКАЯ ВАЛЯНЦІНА ВАСІЛЬЕЎНА

***Тэма:*** Семантычная і граматычная характарыстыка фразеалагізмаў са структурай сказа ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лепешаў І.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.06.1996; Д 01.43.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Аксамітаў А.С., д.філал.н.; Берднік С.К., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Даследаваць фразеалагізмы са структурай сказа ў семантычным і граматычным аспектах.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 121 с., асноўны тэкст займае 113 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 61 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Семантычная характарыстыка фразеалагізмаў са структурай сказа: фразеалагізмы паводле іх катэгарыяльнага значэння; мнагазначнасць фразеалагізмаў; варыянтнасць фразеалагізмаў; сінанімія фразеалагізмаў; антанімія фразеалагізмаў. 2. Марфалагічная характарыстыка фразеалагізмаў. 3. Сінтаксічная характарыстыка фразеалагізмаў, утвораных па структурнай схеме сказа: структурныя тыпы фразеалагізмаў; парадак кампанентаў фразеалагізмаў і пранікальнасць фразеалагічнай структуры; тыпы фразеалагізмаў па спалучальнасці са словам; сінтаксічная роля фразеалагізмаў-сказаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны кампаненты фразеалагічнага значэння і пададзена якасная і колькасная характарыстыка фразеалагізмаў, суадносных і несуадносных з часцінамі мовы; выяўлены і апісаны сістэмныя сувязі, якія існуюць паміж фразеалагізмамі; ахарактарызаваны фразеалагізмы-сказы паводле іх марфалагічных асаблівасцей; праведзена класіфікацыя фразеалагізмаў-сказаў па структурных тыпах і мадэлях; даследаваны фразеалагізмы паводле іх спалучальнасці са словамі; вызначаны сінтаксічныя функцыі фразеалагізмаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Маршэўская, В.В. Семантычная і граматычная характарыстыка фразеалагізмаў са структурай сказа ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.В. Маршэўская; ІМ АН Беларусі. – Мінск, 1996. – 20 с.

## 175 МАЧАЛАВА АЛЕНА АЛЕГАЎНА

***Тэма:*** Структурна-семантычная характарыстыка найменняў асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет у беларускай і англійскай мовах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.20 – параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 16.05.2008; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Таболіч А.У., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Правесці комплексны аналіз намінацый асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет у структурна-граматычным і лексіка-семантычным аспектах праз параўнанне матэрыялу беларускай і англійскай моў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 161 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 283 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Катэгорыя асобы ў беларускай і англійскай мовах: тэорыя і гісторыя пытання: найменні асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет у сістэме імён дзеяча; сінхранічна-дыяхранічная абумоўленасць даследавання; пытанні адзінства / падзельнасці моўнай формы; сістэмы асабовых суфіксальных фармантаў у беларускай і англійскай мовах. 2. Найменні асобы паводле прафесійнай прыметы (семантыка і структура): структурна-граматычная характарыстыка найменняў асобы паводле прафесійнай прыметы і іх лексіка-семантычныя разрады; найменні асобы вытворчай сферы ў беларускай і англійскай мовах; найменні асобы абслуговай сферы ў беларускай і англійскай мовах; найменні асобы невытворчай сферы ў беларускай і англійскай мовах; структурныя адпаведнікі ў найменнях асобы паводле прафесійнай прыметы. 3. Найменні асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы (семантыка і структура): структурна-граматычная характарыстыка найменняў асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы і іх лексіка-семантычныя разрады; найменні асобы паводле тапанімічна-этнічнай прыналежнасці; найменні асобы паводле месца жыхарства; структурныя адпаведнікі ў найменнях асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы.

У дысертацыі 23 дадаткі (26 с.): «Часцінамоўная спалучальнасць суфіксаў у беларускай і англійскай мовах», «Ступень агентыўнасці суфіксальных фармантаў у беларускай і англійскай мовах», «Спалучальнасць суфіксаў з субстантыўнымі матывавальнымі асновамі ў беларускай і англійскай мовах», «Суфіксы беларускай і англійскай моў у лексіка-семантычных разрадах найменняў асобы паводле прафесійнай прыметы», «Дамінуючыя суфіксальныя фарманты ў найменнях асобы паводле прафесійнай прыметы», «Ступень выкарыстання *-чык* / *-шчык*, *-льшчык* і *-er* у лексіка-семантычных разрадах найменняў асобы паводле прафесійнай прыметы», «Дамінуючыя беларуска-англійскія і англійска-беларускія суфіксальныя адпаведнікі ў найменнях асобы паводле прафесійнай прыметы», «Суфіксы беларускай і англійскай моў у найменнях асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы», «Дамінуючыя суфіксальныя фарманты ў найменнях асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы», «Ступень выкарыстання *-ец і -*(*і*) *ап* у найменнях асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы», «Дамінуючыя беларуска-англійскія і англійска-беларускія суфіксальныя адпаведнікі ў найменнях асобы паводле тэрытарыяльнай прыметы», «Параўнальная характарыстыка размеркаванасці генетычна роднасных суфіксаў *-іст* (*-ыст*) і *-ist* у лексіка-семантычных разрадах найменняў асобы паводле прафесійнай прыметы», «Суфіксальныя найменні асобы паводле тапанімічна-этнічнай прыналежнасці і паводле месца жыхарства»,

***Источник информации:*** Ольшевская, А.Г. Каузативность глаголов со значением ‘защищать’ (на материале белорусского, русского, английского и немецкого языков): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / А.Г. Ольшевская; БГУ. – Минск, 2008. – 23 с.

## 192 ПАЛУЯН АЛЕНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Беларуская анатамічная тэрміналогія.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Паўлавец Д.Д., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 18.01.2002; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Падлужны А.І., д.філал.н.; Мінакова Л.М., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Прааналізаваць тэрміны анатоміі чалавека з улікам лексіка-семантычных уласцівасцей, спосабу ўтварэння і крыніц фарміравання.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 124 с., асноўны тэкст займае 112 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 187 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Лексіка-семантычная характарыстыка беларускіх анатамічных тэрмінаў: пра паняцці *тэрмін*, *тэрміналогія*, *наменклатура*; сістэмнасць тэрміналогіі анатоміі чалавека; гіпоніма-гіперанімічныя адносіны; полісемія тэрмінаў анатоміі чалавека; аманімія ў тэрміналогіі анатоміі чалавека; сінанімія, дублетнасць і варыянтнасць у тэрміналогіі анатоміі чалавека; антанімія ў анатамічнай тэрміналогіі. 2. Спосабы ўтварэння і крыніцы фарміравання беларускамоўнай анатамічнай тэрміналогіі: агульная характарыстыка асаблівасцей тэрміналагічнай дэрывацыі; выкарыстанне гатовых лексічных сродкаў пры стварэнні тэрмінаў анатоміі чалавека; сінтаксічны спосаб утварэння тэрмінаў анатоміі чалавека; афіксальнае тэрмінаўтварэнне; тэрміны-кампазіты.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны тэрміны анатоміі чалавека з пункту гледжання такіх лексіка-семантычных уласцівасцей, як сістэмнасць, адназначнасць, сінанімія, дублетнасць, варыянтнасць, аманімія, антанімія; прааналізаваны асноўныя спосабы ўтварэння тэрміналогіі анатоміі чалавека; выяўлены крыніцы папаўнення анатамічных найменняў сучаснай беларускай мовы; вызначана месца тэрміналогіі анатоміі чалавека ў сістэме літаратурнай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Палуян, А.М. Беларуская анатамічная тэрміналогія: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Палуян; ГДУ. – Гомель, 2001. – 19 с.

## 193 ПАЛЯШЧУК НАТАЛЛЯ ВІКЕНЦЬЕЎНА

***Тэма:*** Мова «Трыбунала» (1586).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** IМ НАН Беларусі, аддзел гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 29.10.1999; Д 01.43.01, IМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Машчэнская Л.Р., д.філал.н.; Памецька Н.К., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Вывучыць мову «Трыбунала» на графіка-арфаграфічным, марфалагічным і лексічным узроўнях, вызначыць яго ролю ў агульнай сістэме функцыянавання старабеларускай пісьмовай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 198 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 158 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Графіка-арфаграфічная сістэма «Трыбунала»: графічныя асаблівасці; арфаграфічныя асаблівасці. 2. Марфалагічная сістэма «Трыбунала»: асаблівасці скланення назоўнікаў; асаблівасці скланення прыметнікаў; асаблівасці скланення займеннікаў; асаблівасці скланення лічэбнікаў; катэгорыі і формы дзеясловаў. 3. Лексічная сістэма «Трыбунала»: агульныя заўвагі; лексіка са значэннем прадметнасці; лексіка са значэннем прыметы; лексіка са значэннем дзеяння і працэсу.

У дысертацыі 3 дадаткі (85 с.): «Копіі некаторых артыкулаў *Трыбунала*», «Колькасныя паказчыкі найбольш ужывальных слоў у *Трыбунале*», «Слоўнік мовы *Трыбунала*» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна даследавана мова «Трыбунала» (1586 г.): прааналізаваны графіка-арфаграфічныя асаблівасці помніка (апісана сістэма графічных сродкаў; выяўлены асноўныя прынцыпы арфаграфіі; паказана ступень рэалізацыі ў помніку фанетычных рыс жывой народнай гаворкі; прасочаны ўзаемаадносіны паміж фанетычнымі і этымалагічна-марфалагічнымі напісаннямі); даследавана марфалогія «Трыбунала» (вывучаны характэрныя рысы ў сістэме скланення назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў); прааналізаваны асаблівасці функцыянавання ў тэксце дзеяслова і яго формаў; вылучаны ў сістэме часцін мовы рысы жывой народнай мовы); даследавана ступень уплыву на граматычны лад «Трыбунала» марфалагічных рыс іншых моў); апісаны слоўнікавы склад помніка (праведзена класіфікацыя лексічных адзінак у залежнасці ад наяўнасці ў іх агульнай семантычнай прыметы; вызначаны генетычныя вытокі лексем; раскрыты іх семантычны аб'ём, асаблівасці семантычнай структуры; даследаваны парадыгматычныя адносіны паміж лексічнымі адзінкамі; выяўлены лексемы спецыяльнага прызначэння, устаноўлены шляхі іх утварэння і прасочаны асаблівасці функцыянавання).

***Крыніца інфармацыі:*** Паляшчук, Н.В. Мова «Трыбунала» (1586): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.В. Паляшчук; IМ НАН Беларусі. – Мінск, 1999. – 20 с.

## 194 ПАПЕЙКА АНАТОЛЬ АНАТОЛЬЕВІЧ

***Тэма:*** Лексічныя асацыятыўныя палі ў беларускай і рускай мовах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.19 – агульнае мовазнаўства, сацыялінгвістыка, псіхалінгвістыка.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Супрун А.Я., д.філал.н.; Норман Б.Ю., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 29.12.2000; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Высвятленне і фіксацыя ўстойлівай асацыятыўнай нормы беларускай і рускай моў пры адлюстраванні ў ёй міжмоўнай спецыфікі слоў, выкарыстаных у якасці стымулаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 317 с., асноўны тэкст займае 114 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 196 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лексічная сістэмнасць і псіхалінгвістычныя метады яе вывучэння: лексіка як моўная сістэма, агульная характарыстыка метадаў даследавання лексікі; асацыятыўная лексікаграфія (з гісторыі развіцця), прызначэнне і практычная каштоўнасць асацыятыўных слоўнікаў (і «Беларуска-рускага асацыятыўнага слоўніка» ў прыватнасці); складанне «Беларуска-рускага асацыятыўнага слоўніка», адбор лексікі і правядзенне эксперыменту на свабоднае асацыіраванне. 2. Праблемы лексічнай тыпалогіі беларускай і рускай моў: некаторыя агульныя праблемы славянскай тыпалогіі; фрагмент тыпалагічнага апісання беларускай і рускай моў. 3. Аналіз асацыятыўных сувязей у свядомасці беларусаў: люстэркавае асацыіраванне ў «Беларуска-рускім асацыятыўным слоўніку»; адлюстраванне асацыятыўных сувязей стымулаў семантычнай групы «чалавек, асоба»; адлюстраванне асацыятыўных сувязей стымулаў семантычнай групы «пачуцці, стан чалавека»; адлюстраванне асацыятыўных сувязей стымулаў-дзеясловаў.

У дысертацыі 3 дадаткі, якія аформлены асобнай кнігай (193 с.): «Беларуска-рускі асацыятыўны слоўнік (асноўныя слоўнікавыя артыкулы, артыкулы стымулаў-займеннікаў)» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны статыстычнай інфармацыі, зоны частотнай інфармацыі), «Табліцы» (спісы стымулаў), «Люстэркавае асацыіраванне ў *Беларуска-рускім асацыятыўным слоўніку*».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Атрыманы дадзеныя па нормах асацыіравання для носьбітаў беларускай і рускай моў на сучасным этапе развіцця моўнай сітуацыі ў Беларусі; высветлены адрозненні нормаў рэагавання разнамоўных інфармантаў і семантыкі лексічных адзінак дзвюх моўных сістэм (беларускай і рускай) пры міжмоўным супастаўленні; пашыраны магчымасці псіхалінгві-

стычнага даследавання семантыкі за кошт увядзення ў зыходныя спісы стымулаў шэрагу новых для падобных эксперыментаў слоў.

***Крыніца інфармацыі:*** Папейка, А.А. Лексічныя асацыятыўныя палі ў беларускай і рускай мовах: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.19 / А.А. Папейка; БГУ. – Мінск, 2000. – 20 с.

## 195 ПАПЛАЎНАЯ ЛІЛІЯ ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Моўныя сродкі выяўленчай выразнасці ў паэзіі Пімена Панчанкі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Еўтухоў У.Д., к.філал.н.; Станкевіч А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.05.2003; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Сянкевіч В.І., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; БДУК.

***Мэта:*** Выявіць і прааналізаваць асноўныя моўныя сродкі выяўленчай выразнасці ў паэзіі Пімена Панчанкі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 120 с., асноўны тэкст займае 107 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 209 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Тропы ў мове паэтычных твораў Пімена Панчанкі як важнейшы сродак выяўленчай арганізацыі: паняцце тропа; эпітэт; метафара; параўнанне; перыфраза. 2. Паэтычны сінтаксіс Пімена Панчанкі як сродак выяўленчай выразнасці: фігуры ў паэтычнай мове Пімена Панчанкі (фігуры дабаўлення, перастаноўкі, убаўлення, супрацьпастаўлення, рытарычныя фігуры).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана сістэма важнейшых моўна-выяўленчых сродкаў у паэтычнай мове Пімена Панчанкі: ахарактарызавана марфолага-структурнае выражэнне тропаў; вызначана месца і функцыі эпітэтаў у сістэме моўна-выразных сродкаў паэтычнай мовы; вызначаны асаблівасці выкарыстання метафар, а таксама ўвасабленняў і адухаўленняў як асобных відаў метафары; разгледжана сістэма параўнанняў і перыфраз, вызначаны характэрныя асаблівасці іх функцыянавання; выяўлены і паказаны спосабы і прыёмы мастацкага ўжывання сродкаў паэтычнага сінтаксісу ў паэзіі Пімена Панчанкі; праведзены колькасны аналіз выкарыстання тропаў і фігур у моўнай сістэме аўтара.

***Крыніца інфармацыі:*** Паплаўная, Л.В. Моўныя сродкі выяўленчай выразнасці ў паэзіі Пімена Панчанкі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.В. Паплаўная; ГДУ. – Гомель, 2003. – 22 с.

## 196 ПАЎЛОЎСКАЯ НАТАЛЛЯ ЮР'ЕЎНА

***Тэма:*** Катэгорыя мадальнасці ў сучаснай беларускай мове: кагнітыўная структура, функцыянальны статус, сродкі выражэння.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кансультант:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МДЛУ, кафедра беларускай мовы і літаратуры.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 26.02.2002; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Булахаў М.Г., д.філал.н.; Канюшкевіч М.І., д.філал.н.; Яновіч А.І., д.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Комплекснае вывучэнне плана зместу і субкатэгарызацыя плана выражэння мадальнасці ў сучаснай беларускай мове, арыентаваныя на высвятленне заканамернасцей і правіл функцыянавання граматычных адзінак (формаў і канструкцый) у выказванні з улікам іх кагнітыўнай парадыгмы; пабудова таксаноміі моўнай мадальнасці ў выглядзе сістэмы функцыянальна-семантычных палёў – зместава-фармальных адзінстваў, якія фарміруюцца сукупнасцю рознаўзроўневых моўных сродкаў выражэння на аснове агульнасці іх канцэптуальных характарыстык, семантычных функцый, кантэкставых і маўленчых умоў выкарыстання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 231 с., асноўны тэкст займае 195 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 313 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Лінгвістычны статус і катэгарыяльная сутнасць мадальнасці. 1.1. Мадальнасць у канцэпцыях філасофіі і мовазнаўства. 1.2. Ацэнка як аснова мадальнасці. 1.3. Мадальнасць на фоне апазіцыі рэальнасць / патэнцыяльнасць. 1.4. Рэальнасць / патэнцыяльнасць – ісціннасць / няісціннасць. 1.5. Мадальнасць – прэдыкатыўнасць – прэдыкацыя. 1.6. Мадальнасць і катэгорыі афірматыўнасці / негатыўнасці. 1.7. Мадальнасць і эмацыянальнасць. 1.8. Мадальнасць у логіцы і мове. 2. Функцыянальна-кагнітыўны падыход да аналізу мадальных адзінак і асновы пабудовы таксаноміі мадальнасці. 2.1. Інтэграцыйныя працэсы ў развіцці тэорыі лінгвістычных даследаванняў. 2.2. Функцыянальна-семантычная інтэрпрэтацыя катэгорыі ладу і пытанні мадальнасці. 2.3. Асновы пабудовы таксаноміі мадальнасці. 3. Мадальнасць волевыяўлення. 3.1. Філасофскае і лінгвістычнае асэнсаванне. Праблематыка волевыяўлення. 3.2. Функцыянальна-семантычнае поле імператыўнасці. 3.2.1. Ядзерныя (прамыя) сродкі выражэння імператыўнасці. 3.2.2. Перыферыйныя (ускосныя) сродкі выражэння імператыўнасці. 3.2.3. Перыферыйныя (кансітуатыўныя) сродкі выражэння імператыўнасці. 3.3. Функцыянальна-семантычнае поле аптатыўнасці. 3.4. Функцыянальна-семантычнае поле неабходнасці. 4. Мадальнасць імавернасці. 4.1. Філасофскае і лінгвістычнае асэнсаванне. Праблематыка імавернасці. 4.2. Функцыянальна-семантычнае поле праблематычнай верагоднасці. 4.3. Функцыянальна-семантычнае поле магчымасці.

4.4. Функцыянальна-семантычнае поле простай верагоднасці (канстатацыі). 4.5. Функцыянальна-семантычнае поле катэгарычнай верагоднасці (падкрэсленай канстатацыі).

У дысертацыі 1 дадатак (4 с.) – «Слоўнік тэрмінаў» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з дзвюх інфармацыйных зон – зоны намінацыі і зоны семантызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Распрацавана канцэпцыя граматычнай катэгорыі мадальнасці ў сучаснай беларускай мове, заснаваная на сукупнасці кагнітыўнага, сістэмна-структурнага і функцыянальнага прынцыпаў даследавання. Вылучаны кагнітыўныя параметры рэальнасці (патэнцыяльнасці, дэскрыптыўнасці, крэатыўнасці, імавернасці, валітыўнасці), характэрныя для мадальнасці, якая фарміруецца ў выніку рэпрэзентацыі моўнымі адзінкамі дзвюх асноўных функцый мовы – камунікатыўнай і кагнітыўнай. Распрацавана на аснове інтэгральнага функцыяльна-кагнітыўнага падыходу метадалогія і методыка даследавання моўнай катэгорыі мадальнасці і ўведзена новая тэрміналагічная парадыгма. Створана функцыянальна-граматычная мадэль мадальнасці з улікам заканамернасцей палявога структуравання моўнага матэрыялу: вызначана макраполе волевыяўлення з функцыянальна-семантычнымі палямі імператыўнасці, аптатыўнасці, неабходнасці і макраполе імавернасці з функцыянальна-семантычнымі палямі праблематычнай верагоднасці, катэгарычнай верагоднасці. Устаноўлены корпус мадальных адзінак у сучаснай беларускай мове на лексічным, марфалагічным, сінтаксічным і кансітуатыўным узроўнях, якія найбольш выразна рэпрэзентуюць прапанаваную граматычную мадэль мадальнасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Паўлоўская, Н.Ю. Катэгорыя мадальнасці ў сучаснай беларускай мове: кагнітыўная структура, функцыянальны статус, сродкі выражэння: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / Н.Ю. Паўлоўская; БДУ. – Мінск, 2002. – 39 с.; Паўлоўская, Н.Ю. Мадальнасць як лінгвістычная катэгорыя / Н.Ю. Паўлоўская. – Мінск: Выд-ва МДЛУ, 1995. – 24 с.; Паўлоўская, Н.Ю. Катэгорыя мадальнасці ў сучаснай беларускай мове / Н.Ю. Паўлоўская. – Мінск: Выд-ва МДЛУ, 2001. – 206 с.

## 197 ПАЎЛОЎСКАЯ ТАЦЦЯНА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Сучасная маўленчая сітуацыя ў беларускім горадзе (Баранавічы): сацыялінгвістычны аспект.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.19 – тэорыя мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхайлаў П.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 16.12.2008; Д 02.01.24, БДУ.

***Апаненты:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.; Запрудскі С.М., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Выявіць асаблівасці маўленчай сітуацыі ў г. Баранавічы ў сацыялінгвістычным аспекце.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 122 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 222 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Сучасная сацыялінгвістыка: стан і праблемы: з гісторыі сацыялінгвістычных даследаванняў; методыка даследавання. 2. Асаблівасці сацыяльна-дэмаграфічнай структуры г. Баранавічы і даследаванне маўленчай сітуацыі: сацыяльна-дэмаграфічная структура горада; сацыялінгвістычная характарыстыка сферы прамысловасці; маўленчая сітуацыя ў сферы адукацыі; двухмоўе ў сферы масавай камунікацыі; сацыялінгвістычная характарыстыка сферы абслугоўвання. 3. Інтэрферэнцыя як вынік шматмоўнай сітуацыі: інтэрферэнцыя як сацыялінгвістычнае паняцце; маўленчая інтэрферэнцыя ў сучасным гарадскім асяроддзі.

У дысертацыі 2 дадаткі (4 с.) – анкеты.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана сацыяльна-дэмаграфічная структура г. Баранавічы; выяўлены сацыяльна-дэмаграфічныя і сацыяльна-камунікатыўныя фактары, што найбольш значна ўплываюць на выбар мовы ў маўленчых зносінах гараджан; устаноўлены ўзровень маўленчай кампетэнцыі (патэнцыяльнае двухмоўе) і маўленчай актыўнасці (рэальнае двухмоўе) жыхароў г. Баранавічы; сістэматызаваны выяўленыя інтэрферэмы па моўных узроўнях; раскрыты і ахарактарызаваны спецыфічныя асаблівасці маўленчай сітуацыі ў г. Баранавічы.

***Крыніца інфармацыі:*** Паўлоўская, Т.А. Сучасная маўленчая сітуацыя ў беларускім горадзе (Баранавічы): сацыялінгвістычны аспект: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.19 / Т.А. Паўлоўская; БДУ. – Мінск, 2008. – 20 с.

## 198 ПАЎЛОЎСКІ ІВАН ІВАНАВІЧ

***Тэма:*** Педагагічныя асновы і метадычная сістэма навучання беларускай мове ў пачатковых класах.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя пачатковай адукацыі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 01.03.2001; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Літвінка Ф.М., д.пед.н.; Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Старжынская Н.С., д.пед.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Вызначэнне тэарэтычных асноў і распрацоўка метадычнай сістэмы навучання беларускай мове малодшых школьнікаў, якая арыентавана на пачуццёва-вобразнае ўспрыняцце моўнага знака ў суадноснасці з рэчаіснасцю; адбор і структураванне зместу на аснове ўзроўневай арганізацыі мовы і распрацоўка методыкі

навучання беларускай мове, якая забяспечвае засваенне вучнямі моўных паняццяў, раскрыццё сутнасці знакавай сістэмы мовы, фарміраванне граматычнага ладу мовы вучняў, камунікатыўных уменняў і навыкаў, звязаных з нармаваным ужываннем моўных сродкаў у вуснай і пісьмовай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 223 с., асноўны тэкст займае 200 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 280 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Лінгваметадычныя прадпасылкі навучання беларускай мове ў пачатковых класах. 1.1. Агульныя заканамернасці працэсу засваення малодшымі школьнікамі беларускай мовы. 1.2. Беларуская мова як аб'ект вучэбнай дзейнасці малодшых школьнікаў. 1.3. Функцыянальныя ўласцівасці беларускай мовы як сродку выказвання думак адносін і пачуццяў. 1.4. Прынцыпы адбору зместу і тэхналагізацыі працэсу навучання беларускай мове ў пачатковых класах. 2. Выяўленне стану падрыхтаванасці малодшых школьнікаў да засваення зместу беларускай мовы. 2.1. Задачы канстатуючага эксперыменту. 2.2. Метадычная сістэма навучання малодшых школьнікаў пабудове тэксту. 2.3. Метадычная сістэма навучання вычляненню сказа з тэксту. 2.4. Метадычная сістэма навучання вучняў арыенціроўцы на слова ў сказе. 2.5. Метадычная сістэма навучання распазнаванню гукаў у слове. 3. Фарміраванне граматычных абагульненняў і нармаванай мовы малодшых школьнікаў. 3.1. Навучанне малодшых школьнікаў граматычнаму ладу беларускай мовы. 3.2. Асаблівасці праяўлення лексічных і граматычных значэнняў у мове малодшых школьнікаў. 3.3. Асэнсаванне малодшымі школьнікамі адзінства зместу і формы моўных сродкаў. 3.4. Навучанне малодшых школьнікаў лексіка-граматычным нормам беларускай мовы.

У дысертацыі 4 дадаткі (7 с.): «Матэрыялы для канстатуючага зрэзу па раздзеле *Тэкст* у I – III класах школ з беларускай мовай навучання», «Матэрыялы для канстатуючага зрэзу па раздзеле *Сказ* у I – III класах школ з беларускай мовай навучання», «Матэрыялы для канстатуючага зрэзу па раздзеле *Слова* ў I – III класах школ з беларускай мовай навучання», «Матэрыялы для канстатуючага зрэзу па раздзеле *Гукі мовы* ў I – III класах школ з беларускай мовай навучання».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Распрацаваны лінгвадыдактычныя асновы навучання беларускай мове ў пачатковых класах. Тэарэтычна абгрунтавана і практычна даказана мэтазгоднасць пабудовы метадычнай сістэмы на прынцыпах, вылучаных у адпаведнасці з навучаннем беларускай мове з агульных палажэнняў навучальна-выхаваўчага працэсу. Вызначаны метадычныя падыходы да засваення зместу навучання малодшых школьнікаў беларускай мове на аснове пачуццёва-вобразнага ўспрымання мовы ў яе суадноснасці з рэчаіснасцю і мысленнем з улікам вычлянімасці сказа з тэксту, слова са сказа, гука са слова. Устаноўлены ўзровень моўнага вопыту, ведаў, уменняў і навыкаў малодшых школьнікаў на кожным этапе навучання для вызначэння эфектыўнасці метадычнай сістэмы і шляхоў яе ўдасканалення.

***Крыніца інфармацыі:*** Паўлоўскі, І.І. Педагагічныя асновы і метадычная сістэма навучання беларускай мове ў пачатковых класах: аўтарэф. дыс. … д-ра пед. навук: 13.00.02 / І.І. Паўлоўскі; БДУ. – Мінск, 2001. – 40 с.; Паўлоўскі, І.І. Канцэптуальныя падыходы да распрацоўкі зместу і тэхналогіі навучання ў сельскай школе / І.І. Паўлоўскі [і інш.]. – Мінск: НІА, 1996. – 30 с.; Паўлоўскі, І.І. Моўная адукацыя малодшых школьнікаў: тэарэтыка-дыдактычнае даследаванне / І.І. Паўлоўскі. – Мінск: НІА, 1998. – 178 с.

## 199 ПАЧКОЎСКАЯ АКСАНА ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Прагматыка і стыль рэкламных тэкстаў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Станкевіч А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.02.2004; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Рагаўцоў В.І., д.філал.н.; Іўчанкаў В.І., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Правесці комплексны лінгвапрагматычны аналіз рэкламных тэкстаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 107 с., асноўны тэкст займае 99 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 125 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Рэклама як сацыякультурны феномен і аб'ект лінгвапрагматычных даследаванняў: рэклама як сацыякультурны феномен; мова рэкламы як аб'ект лінгвапрагматычных даследаванняў; беларускамоўная рэклама. 2. Характэрныя асаблівасці мовы рэкламных тэкстаў: фанетычныя асаблівасці мовы рэкламных тэкстаў; лексічныя асаблівасці мовы рэкламных тэкстаў; граматычныя асаблівасці мовы рэкламных тэкстаў; пунктуацыйныя асаблівасці мовы рэкламных тэкстаў; паўторы; рэкламныя табу.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена лінгвапрагматычнае даследаванне механізму рэалізацыі рэкламнага ўплыву на спажывецкія масы, вызначаны фанетычныя, лексічныя, граматычныя і пунктуацыйныя асаблівасці, уласцівыя вербальна выражанаму кампаненту рэкламных зваротаў, пастаўлена пытанне аб мэтазгоднасці вылучэння стылю рэкламных тэкстаў як асобага функцыянальнага стылю.

***Крыніца інфармацыі:*** Пачкоўская, А.В. Прагматыка і стыль рэкламных тэкстаў: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.В. Пачкоўская; ГДУ. – Гомель, 2004. – 20 с.

## 200 ПЕРАВАЛАВА НАТАЛЛЯ ЮР'ЕЎНА

***Тэма:*** «Арыстоцелевы вароты» як помнік старабеларускага пісьменства XVI ст. (графіка-арфаграфічны, фанетычны і марфалагічны аспекты).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.06.2003; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Груца А.П., д.філал.н.; Несцяровіч В.І., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Апісанне палеаграфічных асаблівасцей рукапісу «Арыстоцелевых варот», аналіз мовы твора на фанетыка-арфаграфічным і марфалагічным узроўнях.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 131 с., асноўны тэкст займае 98 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 134 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Графіка-арфаграфічная сістэма «Арыстоцелевых варот»: палеаграфічныя асаблівасці «Арыстоцелевых варот»; графічная сістэма; фанетыка-арфаграфічная сістэма. 2. Марфалагічная сістэма «Арыстоцелевых варот»: назоўнік; займеннік; прыметнік; лічэбнік; прыслоўе; дзеяслоў.

У дысертацыі 2 дадаткі (24 с.): «Ілюстрацыйны матэрыял да дысертацыйнай работы», «Фактычны матэрыял да дысертацыйнай работы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызаваны палеаграфічныя асаблівасці твора; прааналізаваны графіка-арфаграфічныя асаблівасці мовы помніка шляхам аналізу графічнай сістэмы твора і высвятлення асаблівасцей ужывання графем у пэўнай пазіцыі; прапанавана інтэрпрэтацыя фанетычных асаблівасцей у сістэме вакалізму і кансанантызму; вывучаны спосабы адлюстравання ў помніку рысаў жывога народнага маўлення; устаноўлена ступень рэалізацыі марфалагічна-этымалагічнага і фанетычнага прынцыпаў арфаграфіі; даследаваны марфалагічны лад мовы твора праз апісанне парадыгмаў назоўніка, займенніка, прыметніка, лічэбніка, прыслоўя, дзеяслова і яго формаў; вызначана ступень уплыву на мову помніка царкоўнаславянскай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Перавалава, Н.Ю. «Арыстоцелевы вароты» як помнік старабеларускага пісьменства XVI ст. (графіка-арфаграфічны, фанетычны і марфалагічны аспекты): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.Ю. Перавалава; БДУ. – Мінск, 2003. – 20 с.

## 201 ПЕРШАЙ АЛЕКСАНДР ЮРЬЕВИЧ

***Тема:*** Репрезентация гендерных отношений во фразеологии.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – теория языка.

***Научные руководители:*** Супрун А.Е., д.филол.н.; Руденко Е.Н., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 23.12.2002; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Михневич А.Е., д.филол.н.; Варпахович Л.В., к.филол.н.; ВГУ.

***Цель:*** Проанализировать фразеологизмы с семантикой гендерных отношений в белорусском, русском, польском и английском языках и сопоставить их.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 173 с., основной текст занимает 103 с. Список использованной литературы – 207 наименований.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Теоретические и методологические предпосылки исследования фразеологизмов, обозначающих гендерные отношения: объект и предмет изучения гендерной лингвистики; особенности гендерной лингвистики как научной дисциплины; отражение пола и гендера в языковой системе; гендерная семантика как полевая структура; принципы отбора и анализа материала; проблемы определения гендерных критериев во фразеологии. 2. Семантическая дифференциация фразеологизмов, обозначающих гендерные отношения: фразеологизмы с интегрирующей семой «однополое сообщество»; характеристика личностных качеств; фразеологизмы, номинирующие социальные характеристики мужчины / женщины; фразеологизмы с интегрирующей семой «брачные отношения»; характеристика по физиологическим признакам; характеристика по внешним признакам; фразеологизмы с интегрирующей семой «беременность»; фразеологизмы с интегрирующей семой «действия и состояние, свойственные только мужчинам или только женщинам». 3. Структурная организация системы фразеологизмов с семантикой гендерных отношений: подсистемы фразеологизмов с семантикой гендерных отношений; структурная организация гендерных признаков в семантике фразеологизмов.

В диссертации 2 приложения (56 с.): алфавитные словари-индексы белорусских, русских, польских и английских фразеологизмов (полная словарная статья состоит из следующих информационных зон: зоны номинации, зоны вариантов, зоны стилистической информации, зоны семантизации, зоны паспортизации), тематические словари белорусских, русских, польских и английских фразеологизмов (полная словарная статья состоит их следующих информационных зон: зоны номинации, зоны вариантов, зоны стилистической информации, зоны семантизации, зоны паспортизации).

***Научное значение исследования:*** Выявлена семантическая структура фразеологизмов со значением гендерных отношений; установлены семантические связи между фразеологизмами, определен способ организации системы фразеологизмов, обозначающих гендерные отношения; сопоставлены данные разных языков и проведена содержательная интерпретация результатов исследования.

***Источник информации:*** Першай, А.Ю. Репрезентация гендерных отношений во фразеологии: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / А.Ю. Першай; БГУ. – Минск, 2002. – 21 с.

## 202 ПЕТЫШ ТАЦЦЯНА ВАЛЯНЦІНАЎНА

***Тэма:*** Складаназалежныя сказы з даданымі часу ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: структурна-семантычная арганізацыя і функцыянальныя асаблівасці.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Яўневіч М.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 01.03.2002; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Груца А.П., д.філал.н.; Бандарэнка Т.П., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Вызначэнне асаблівасцяў структурнай і семантычнай арганізацыі, выяўленне функцыянальных характарыстык складаназалежных сказаў з даданымі часу ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 113 с., асноўны тэкст займае 98 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 159 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Гісторыя і тэарэтычныя асновы вывучэння складаназалежных сказаў з даданымі часу: з гісторыі пытання аб складаназалежных сказах з даданымі часу; складаназалежны сказ з даданай часу як структурна-семантычнае адзінства; функцыянальна-семантычны аспект вывучэння складаназалежных сказаў з даданымі часу. 2. Структурна-семантычныя разнавіднасці і функцыянальныя асаблівасці двухсітуацыйных складаназалежных сказаў з даданымі часу: складаназалежныя сказы з адносінамі розначасовасці; складаназалежныя сказы з адносінамі адначасовасці. 3. Структурна-семантычныя разнавіднасці і функцыянальныя асаблівасці аднасітуацыйных складаназалежных сказаў з даданымі часу: складаназалежныя сказы, у якіх паведамляецца аб падзеі і яе часавым арыенціры; складаназалежныя сказы, у якіх паведамляецца аб прыроднай з'яве і яе часавым арыенціры.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Сістэмна вывучана структурна-семантычная арганізацыя і функцыянаванне складаназалежных сказаў з даданымі часу; прааналізавана семантычная структура, характар тэмпаральных адносін, граматычныя і лексічныя сродкі іх выражэння; разгледжаны функцыянальна-камунікатыўны аспект складаназалежных сказаў з даданымі часу.

***Крыніца інфармацыі:*** Петыш, Т.В. Складаназалежныя сказы з даданымі часу ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: структурна-семантычная арганізацыя і функцыянальныя асаблівасці: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.В. Петыш; БДПУ. – Мінск, 2002. – 20 с.

## 203 ПІВАВАРЧЫК ІРЫНА ВАЙЦЕХАЎНА

***Тэма:*** Намінацыі беларускага вясельна-абрадавага жаночага касцюма (этналінгвістычная характарыстыка).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 04.07.2002; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Міхайлаў П.А., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Аналіз намінацый вясельнага жаночага касцюма ў цеснай сувязі з экстралінгвістычным планам, выяўленне рытуальных функцый і знакавага статусу абрадавага строю.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 124 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 148 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Намінацыі шлюбна-вясельнага ўбрання маладой (лінгвістычны, знакавы аналіз): гісторыя і тэорыя пытання, крыніцы даследавання; агульная характарыстыка вясельнага строю маладой. 2. Намінацыі дзявочых галаўных убораў (лексічны, семантычны і функцыянальны аспекты): структурна-семантычная характарыстыка найменняў дзявочых галаўных убораў; група слоў з семантыкай 'стужка, якую дзяўчаты ўплятаюць у касу'; лексемы з семантыкай 'каснікі' ў вясельным абрадзе і абрадавым фальклоры. 3. Намінацыі шлюбных галаўных убораў (структурна-семантычны аналіз): структурна-семантычная характарыстыка шлюбных галаўных убораў; абрадавая семантыка вянка. 4. Намінацыі галаўных убораў замужняй жанчыны (лінгвістычны, сімвалічны і функцыянальны аспекты): ручніковыя галаўныя ўборы; знакавая характарыстыка намітки ў структуры абраду завівання маладой; знакавая структура наміткі ў сістэме дараабмену; каптуровыя галаўныя ўборы; абрадавая семантыка чапца; лексемы з семантыкай складанага галаўнога ўбору (з цвёрдай асновай) замужняй жанчыны; рагатыя галаўныя ўборы.

У дысертацыі 1 дадатак (2 с.) – «Рэестр разгледжаных у працы слоў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Апісаны тэматычныя групы намінацый жаночага касцюма, ахарактарызавана структурна-семантычная арганізацыя гэтых лексем; вызначаны прынцыпы матывацыі слоў пазначанай групы, разгледжана этымалогія слоў з непразрыстай структурай; выяўлены ідэі, паняцці, рытуальная інфармацыя, якія ўвасабляе жаночы абрадавы строй у традыцыйнай вясельнай абраднасці; прапанавана інтэрпрэтацыя семантыкі і сімволікі, заключанай у лексемах і прадметна-дзейсным складзе вясельнага абраду; прааналізаваны асаблівасці функцыянавання асобных намінацый пазначанай лексічнай групы ў комплексе з аналізам адпаведных невербальных кампанентаў абраду.

***Крыніца інфармацыі:*** Піваварчык, І.В. Намінацыі беларускага вясельна-абрадавага жаночага касцюма (этналінгвістычная характарыстыка): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / І.В. Піваварчык; ГДУ. – Гомель, 2002. – 19 с.

## 204 ПИВОВАРЧИК ТАМАРА АНАТОЛЬЕВНА

***Тема:*** Персонализация в русском и белорусском речевом общении.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Конюшкевич М.И., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГрДУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 13.05.2003; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Янович Е.И., д.филол.н.; Савчук Т.Н., к.филол.н.; ГГУ.

***Цель:*** Определить характер и содержательную структуру лингвопрагматической категории персонализации и выявить способы ее реализации в практике общения носителей русского и белорусского языков.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 176 с., основной текст занимает 109 с. Список использованной литературы – 318 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Лингвопрагматическая категория персонализации: языковая категория персонализации; лингвопрогматическая категория персонализации. 2. Адресантное прагмазначение персонализации: представление адресанта на оппозициях отношений *верх* / *низ*, *много* / *мало*; представление адресанта на оппозиции отношений *свой* / *чужой*; представление адресанта на оппозиции отношений *тепло* / *холодно*; представление адресанта на оппозиции отношений *хорошо* / *плохо*. 3. Адресатное прагмазначение персонализации: представление адресата на оппозициях отношений *верх* / *низ*, *много* / *мало*; представление адресата на оппозиции отношений *свой* / *чужой*; представление адресата на оппозиции отношений *тепло* / *холодно*; представление адресата на оппозиции отношений *хорошо* / *плохо*. 4. Третьеличное прагмазначение персонализации: представление третьих лиц на оппозиции отношений *верх* / *низ*, *много* / *мало*; представление третьих лиц на оппозиции отношений *хорошо* / *плохо*; представление третьих лиц на оппозиции отношений *свой* / *чужой*; представление адресата на оппозиции отношений *тепло* / *холодно*.

В диссертации 3 приложения (44 с.): «Адресантное прагмазначение», «Адресатное прагмазначение», «Третьеличное прагмазначение».

***Научное значение исследования:*** Определена категория персонализации как лингвопрагматическая категория, обоснованы ее взаимосвязи с функционально-семантической категорией персональности; выявлена содержательная структура категории персонализации и проведено ее моделирование с опорой на общие закономерности речевой коммуникации; проанализирована реализация персонализационных прагмазначений: адресантного, адресатного и третьеличного – в русских и белорусских устойчивых формулах речевого общения; выявлена специфика каждого из значений в наборе функций и в системе средств выражения этих функций; сопоставлены экспликаторы персонализационных значений в прагматике общения носителей русского и белорусского языков; установлены этнокультурные особенности русской и белорусской аксиологических систем речевого поведения в преломлении к персонализации.

***Источник информации:*** Пивоварчик, Т.А. Персонализация в русском и белорусском речевом общении: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Т.А. Пивоварчик; БГУ. – Минск, 2003. – 21 с.

## 205 ПЛЫГАЎКА ЛІЛІЯ ЛЕАНІДАЎНА

***Тэма:*** Лексіка чыгуначнага транспарту.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.02 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.02.1995; Д 006.15.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Піскун У.Ц., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Структурна-семантычны, словаўтваральны і этымалагічны аналіз тэматычнай групы чыгуначных лексем.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 226 с., асноўны тэкст займае 164 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 94 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Назвы рэйкавай дарогі, яе састаўных частак, прыстасаванняў і збудаванняў. 2. Назвы транспартных сродкаў чыгункі і месцаў іх прыпынку: назвы сродкаў цягі, састаўных рухомых частак і іх савакупнасцей; назвы месцаў прыпынку цягнікоў і збудаванняў для іх. 3. Назвы асоб па абслугоўванню пасажыраў і чыгуначнага транспарту.

У дысертацыі 2 дадаткі (44 с.): «Указальнік выкарыстаных слоў», «Руска-беларускі слоўнік чыгуначных тэрмінаў» (алфавітна-гнездавы прынцып падачы слоў; поўны слоўнікавы артыкул складаецца з зоны намінацыі і зоны перакладу).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены структурна-семантычны, словаўтваральны і этымалагічны аналіз беларускай лексікі, якая адносіцца да сферы намінацыі паняццяў, з'яў, прадметаў чыгуначнага транспарту.

***Крыніца інфармацыі:*** Плыгаўка, Л.Л. Лексіка чыгуначнага транспарту: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.02 / Л.Л. Плыгаўка; ІМ АН Беларусі. – Мінск, 1995. – 19 с.

## 206 ПОПЛАВСКАЯ ТАТЬЯНА ВИКТОРОВНА

***Тема:*** Ритмическая структура речи и фонетическая подсистема языка.

***Ученая степень, специальность:*** д.филол.н.: 10.02.19 – теория языкознания.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** МГЛУ, кафедра теоретической и экспериментальной фонетики.

***Дата защиты, совет по защите:*** 28.06.1996; Д 056.06.01, МГЛУ.

***Оппоненты:*** Николаева Т.М., д.филол.н.; Чекмонас В.Н., д.филол.н.; Клименко А.П., д.филол.н.; Санкт-Петербургский государственный университет.

***Цель:*** Разработка и экспериментальное обоснование единой теории речевого ритма как первичной базы фонации, доказательство ее отдельных положений и систематизация ритмических закономерностей.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 208 с.

Результаты исследования отражены в 2 частях: «Сегментная фонетика и просодия устной речи» (Минск, 1993) и «Речевой ритм в синхронии и диахронии» (Минск, 1995). Первая часть содержит введение и 10 глав. Введение (1. Параллельный поиск в исследовании фонетического объекта. 2. Типологическое сопоставление в фонетике. 3. Некоторые аспекты исследования фонологических систем). 1. Сравнительный анализ звуковых систем русского и французского языков на фоне звуковой системы английского языка. 2. Звуковая система британского и американского вариантов английского языка. 3. Звуковые сегменты и просодия речи. 4. Акцентно-ритмические структуры в английской, белорусской и русской речи. 5. Некоторые аспекты вариативности гласных в белорусском языке. 6. Ритмообразующие факторы экспрессивной речи. 7. Типология речи и иноязычная интерференция. 8. Гласные и согласные в речи на иностранном языке. 9. Идентификация английского языка в качестве родного. 10. Просодические признаки итальянской интерференции. Вторая часть содержит 3 главы. 1. Об универсальном характере исторического формирования ритмики. 2. Ритмическая структура слова. 3. Модифицирующие закономерности в речевом ритме.

***Научное значение исследования:*** Изучены образцы нейтральной, экспрессивной, спонтанной, подготовленной, детской, иноязычной, стилистически дифференцированной речи носителей русского, белорусского, английского, французского, испанского, итальянского, арабского, шведского, китайского, японского языков. Уточнены понятия ритмики речи, интеллективных и организующих элементов в просодии, слога, структурных и функциональных речевых единиц. Уточнено понятие синтагмы как точки соединения грамматики, семантики и фонетики. Сформулированы и проиллюстрированы общие закономерности функционирования сегментной и супрасегментной частей фонетической подсистемы. Установлены некоторые просодические универсалии. Введены понятия созидательных и модифицирующих ритмообразующих факторов. Дано новое определение понятия просодии слова, проанализирована роль ритмики лексического слова в формировании ритмического облика языка. Дано определение речевого ритма как фактора формирования вокализма. Намечены пути диахронического изучения просодии, в связи с этим проанализированы возможности исторического формирования ритмики. Расширено понятие порождающей фонетики как части языковой динамики. Отождествлены синхронный и исторический метаморфизм в построении супрасегментных систем.

***Источник информации:*** Поплавская, Т.В. Ритмическая структура речи и фонетическая подсистема языка: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.02.19 / Т.В. Поплавская; МГЛУ. – Минск, 1995. – 33 с.; Поплавская, Т.В. Сравнительная типология английского и белорусского языков / Т.В. Поплавская, О.Н. Нехай. – Минск: Вышэйшая школа, 1983. – 250 с.; Поплавская, Т.В. Просодическая интерференция в иноязычной речи / Т.В. Поплавская [и др.]. – Минск: Изд-во МГПИИЯ, 1985. – 94 с.; Поплавская, Т.В. Сегментная фонетика и просодия устной речи /

Т.В. Поплавская. – Минск: Изд-во МГЛУ, 1993. – 160 с.; Паплаўская, Т.В. Агульная фанетыка: праблемы і метады / Т.В. Паплаўская. – Мінск: Выд-ва МДЛУ, 1994. – 19 с.; Поплавская, Т.В. Речевой ритм в синхронии и диахронии / Т.В. Поплавская. – Минск: Изд-во МГЛУ, 1995. – 50 с.

## 207 ПОРТНОВА АЛЛА ВЛАДИМИРОВНА

***Тема:*** Абстрактная лексика в истории русского и белорусского языков (XI – XVII вв.).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Булахов М.Г., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГПУ, кафедра теории и истории языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 22.12.2004; К 02.21.01, БГПУ.

***Оппоненты:*** Мощенская Л.Г., д.филол.н.; Полещук Н.В., к.филол.н.; БрГУ.

***Цель:*** Изучить в сравнительно-историческом аспекте структурно-смысловые особенности абстрактной лексики древнерусского периода и эпохи образования языков восточнославянских народностей.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 262 с., основной текст занимает 97 с. Список использованной литературы – 126 наименований.

Результаты исследования отражены в 2 главах. 1. Понятийно-смысловая характеристика абстрактных существительных в истории русского и белорусского языков: лексико-семантическая группировка древнерусских абстрем; лексико-семантическая характеристика восточнославянских абстрем XIV – XVII вв.; система парадигматических отношений слов с отвлеченными значениями; «понятийные» гнезда, контекстуальные метафоры и фраземы с отвлеченным значением как компоненты языковой картины мира. 2. Структурно-деривационные особенности существительных XI – XVII вв. с отвлеченным значением: словообразовательные модели абстрем древнерусского периода; пути формирования фонда старорусских и старобелорусских абстрактных номинаций; грамматическая вариативность абстрактных существительных; исторические изменения в основах абстрем.

В диссертации 3 приложения (156 с.): «Хронологический указатель слов», «Обратный (морфемный) указатель слов», «Деривационно-хронологическая характеристика абстрактной лексики».

***Научное значение исследования:*** Раскрыта специфика формирования восточнославянских лексических единиц с отвлеченным значением; определены лексико-семантические группы изучаемого класса слов и прослежены изменения, которые происходили в них на различных этапах развития двух восточнославянских языков; установлены возможности деривационной парадигмы абстрем: охарактеризованы основные модели, по которым происходило образова-

ние отвлеченных существительных в истории восточнославянских языков; определена степень участия абстрем в становлении языковой нормы периода формирования русского и белорусского языков; раскрыта специфика синтаксико-стилистической сочетаемости абстрем и их роль в формировании языковой картины мира.

***Источник информации:*** Портнова, А.В. Абстрактная лексика в истории русского и белорусского языков (XI – XVII вв.): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / А.В. Портнова; БГПУ. – Минск, 2004. – 21 с.

## 208 ПОТАПОВА ОЛЬГА ВАСИЛЬЕВНА

***Тема:*** Языковые этнические стереотипы и их представление в белорусской, русской и польской лексикографии XIX в..

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – теория языка.

***Научный руководитель:*** Кожинова А.А., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 04.10.2005; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Маслова В.А., д.филол.н.; Антропов Н.П., к.филол.н.; ГГУ.

***Цель:*** Реконструкция системы языковых этнических стереотипов.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 152 с., основной текст занимает 113 с. Список использованной литературы – 204 наименования.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Языковые этнические стереотипы, их свойства и функции: понятия *концепт*, *стереотип* и *образ*, определение языкового этнического стереотипа; классификация стереотипов; свойства стереотипов; функции стереотипов; методы исследования языковых этнических стереотипов в современной лингвистике; этноним как фиксатор языкового этнического стереотипа; языковые маркеры этнических стереотипов; словарь как источник изучения этнических стереотипов. 2. Этнонимы, фиксирующие языковые этнические стереотипы в словарях XIX в. (лексико-семантические свойства, словообразовательная активность, сочетаемость): состав и количество этнонимов и слов, их заменяющих, в словарях XIX в.; стилистическая дифференциация этнонимов и слов, их заменяющих, в словарях XIX в.; словообразовательная активность этнонимов; закономерности семантической деривации в сфере этнонимов; этнонимы и их дериваты в составе фразеологизмов; этнонимы и их дериваты в составе паремий; этнонимы и их дериваты в составе свободных синтаксических сочетаний. 3. Отражение языковых этнических стереотипов в словарях: аспекты отражения языковых этнических стереотипов; языковые этнические стереотипы в словарях.

В диссертации 6 приложений (27 с.): «Словообразовательные гнезда этнонимов, представленных в *Словаре живого великорусского языка* В.И. Даля», «Сло-

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.10.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Вендзіна Т.І., д.філал.н.; Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Міхневіч А.Я., д.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Выявіць і апісаць сістэму марфаналагічных сродкаў пры словазмяненні і словаўтварэнні ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 233 с., асноўны тэкст займае 220 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 212 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Тэарэтычныя праблемы марфаналогіі. 1.1. Асноўныя этапы ў развіцці тэорыі марфаналогіі. 1.2. Актуальныя пытанні марфаналагічнага апісання. 1.3. Функцыянальнасць марфаналагічных з'яў. 2. Марфаналогія словазмянення. 2.1. Марфаналагічныя з'явы ў парадыгматыцы дзеясловаў. 2.1.1. Кансанантныя чаргаванні каранёвай марфемы. 2.1.2. Чаргаванні галосных фанем. 2.2. Марфаналагічныя з'явы ў парадыгматыцы назоўнікаў. 2.2.1. Чаргаванні зычных фанем у зыходзе субстантыўнай асновы. 2.2.2. Чаргаванні галосных фанем з нулём унутры асновы. 2.3. Марфаналагічныя з'явы ў парадыгматыцы прыметнікаў. 2.4. Марфаналагічныя з'явы ў парадыгматыцы лічэбнікаў. 3. Марфаналогія словаўтварэння. 3.1. Марфаналагічныя змены асноў матывавальных слоў. 3.1.1. Марфаналагічныя змены асновы матывавальнага дзеяслова. 3.1.2. Змены асноў матывавальных імён і прыслоўяў. 3.2. Марфаналагічныя з'явы пры аддзеяслоўным словаўтварэнні. 3.3. Марфаналагічныя з'явы пры адназоўнікавым словаўтварэнні. 3.4. Марфаналагічныя з'явы пры адпрыметнікавым словаўтварэнні. 3.5. Чаргаванні пры словаўтварэнні прыметнікаў. 3.6. Марфаналогія словаўтварэння прыслоўяў. 3.6.1. Чаргаванні пры словаўтварэнні прыслоўяў. 3.7. Марфаналогія карэляцыйных чаргаванняў фанем каранёвай марфемы. 4. Марфаналагічны прынцып класіфікацыі дзеясловаў. 4.1. Традыцыйная класіфікацыя дзеясловаў. 4.1.1. Марфаналагічная класіфікацыя дзеясловаў. 5. Марфаналагічны прынцып класіфікацыі назоўнікаў. 5.1. Марфаналагічныя тыпы субстантыўных парадыгмаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены заканамернасці марфалагічнай сінтагматыкі і парадыгматыкі беларускай мовы: вызначаны ўмовы (цесная сувязь з граматычнымі катэгорыямі) узаемапрыстасоўвання морфаў, размешчаных у лінейнай паслядоўнасці ў межах словаформы; устаноўлены працэдуры атаясамлівання марфем для выяўлення вынікаў марфаналагічных змен. Пабудавана абагульняльная марфаналагічная мадэль фаналагічных пераўтварэнняў марфем і асноў, заснаваная на вывучэнні мадыфікацый парадку і складу фанем, што ўзаемадзейнічаюць пры словазмяненні і словаўтварэнні назоўнікаў, дзеясловаў, прыметнікаў, прыслоўяў, лічэбнікаў. Устаноўлены рэгулярнасць, функцыянальная значнасць, асаблівасці выкарыстання марфаналагічных сродкаў у розных класах марфем і часцінамоўных марфаналагічных змен. Складзены поўны рэестр марфаналагічных чаргаванняў сучаснай беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Русак, В.П. Марфаналогія ў словазмяненні і словаўтварэнні сучаснай беларускай мовы: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.П. Русак; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 38 с.; Русак, В.П. Марфаналогія сучаснай беларускай мовы / В.П. Русак. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – 316 с.

## 225 РУСАК ВОЛЬГА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Экспрэсіўны сінтаксіс празаічных твораў Янкі Сіпакова.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Гаўрош Н.В., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.04.2009; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Паўлоўская Н.Ю., д.філал.н.; Міхалевіч А.Г., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Раскрыць асаблівасці структурнай арганізацыі і семантыка-стылістычнай функцыі сродкаў экспрэсіўнага сінтаксісу, тыповых для празаічнага кантэксту Янкі Сіпакова.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі –129 с., асноўны тэкст займае 107 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 274 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Праблема сінтаксічнай экспрэсіўнасці мастацкага тэксту ў лінгвістычных даследаваннях: экспрэсіўнасць як катэгорыя лінгвістыкі: сутнасць, асноўныя канцэпцыі; структурна-сінтаксічная арганізацыя мастацкага твора і экспрэсіўнасць. 2. Інгерэнтныя экспрэсіўныя сродкі сінтаксісу ў прозе Янкі Сіпакова: фігуры размяшчэння і перастаноўкі як экспрэсіўныя элементы аўтарскага празаічнага кантэксту (парцэляцыя, парантэза, абзацавае чляненне, сегментацыя); фігуры павелічэння аб'ёму выказвання ў сістэме экспрэсіўных сінтаксічных сродкаў празаіка (сінтаксічны паралелізм, перыяд). 3. Адгерэнтныя экспрэсіўныя сродкі сінтаксісу ў прозе Янкі Сіпакова: экспрэсіўнае функцыянаванне кантэкстуальнай групы простых сказаў; экспрэсіўнае функцыянаванне складаных поліпрэдыкатыўных сказаў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле празаічных твораў Янкі Сіпакова праведзены комплексны аналіз індывідуальна-аўтарскай сістэмы сродкаў экспрэсіўнага сінтаксісу; вылучаны рэлевантныя прыметы аўтарскага стылю на сінтаксічным узроўні; прааналізаваны структурныя адметнасці і тыповыя стылістычныя функцыі такіх экспрэсіўных элементаў, як стылістычныя фігуры размяшчэння і перастаноўкі (парантэза, парцэляцыя, абзацавае чляненне, сегментацыя) і фігуры павелічэння аб'ёму выказвання (сінтаксічны паралелізм, перыяд), вызначана экспрэсіўная поліфункцыянальнасць кантэкстуальна аб'яднаных простых сінтаксем і складаных поліпрэдыкатыўных сказаў з аднароднымі часткамі.

***Крыніца інфармацыі:*** Русак, В.У Экспрэсіўны сінтаксіс празаічных твораў Янкі Сіпакова: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.У. Русак; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2009. – 23 с.

## 226 РУССКИХ АНАСТАСИЯ СЕРГЕЕВНА

***Тема:*** Переводческие корреляты польских производных имен существительных в русском и белорусском языках: структурно-семантический аспект (на материале поэмы А. Мицкевича «Пан Тадеуш» и ее переводов на русский и белорусский языки).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.03 – славянские языки.

***Научный руководитель:*** Волынец Т.Н., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 09.06.2009; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Лукашанец А.А., д.филол.н.; Артеменок Г.А., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Выявление особенностей и основных закономерностей перевода с польского языка на русский и белорусский языки производных имен существительных, входящих в состав текста поэмы А. Мицкевича «Пан Тадеуш»; установление типов их переводческих коррелятов; выявление деривационных особенностей польских производных имен существительных, влияющих на выбор переводческого коррелята.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 140 с., основной текст занимает 124 с. Список использованной литературы – 194 наименования.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Лингвистические проблемы художественного перевода: проблема принципиальной переводимости; проблема переводческой эквивалентности; проблема выделения единицы перевода; вопрос о классификации переводческих коррелятов. 2. Словарные эквиваленты польских производных имен существительных в русском и белорусском переводах поэмы: польские производные имена существительные и их полные словарные эквиваленты; польские производные имена существительные и их частичные словарные эквиваленты. 3. Текстовые эквиваленты польских производных имен существительных в русском и белорусском переводах поэмы: лексико-семантические трансформации; словообразовательные трансформации; морфологические трансформации. 4. Переводческие лакуны на месте польских производных имен существительных в русском и белорусском переводах поэмы: лингвистические лакуны (словообразовательные, грамматические, лексические, этнографические лакуны); контекстуальные лакуны. 5. Переводческие приемы, применяемые при переводе текста поэмы на русский и белорусский языки: переводческие предпочтения русского переводчика; переводческие предпочтения белорусского переводчика.

В диссертации 1 приложение (56 с.) – «Польские производные имена существительные, входящие в состав текста поэмы А. Мицкевича «Пан Тадеуш», и их переводческие корреляты».

***Научное значение исследования:*** Выявлены и охарактеризованы полные и частичные соответствия между польскими и переводными словарными эквивалентами; объяснены причины расхождений между польскими существительными и переводческими коррелятами на семантическом, деривационном и морфологическом уровнях; выявлены лакуны в текстах переводов, установлены причины их появления; охарактеризована зависимость выбора типа переводческого коррелята от словообразовательных характеристик польских производных существительных; сопоставлены русский и белорусский переводы с точки зрения адекватности воспроизведения формальной и семантической структуры польских производных имен существительных, охарактеризованы переводческие приемы русского и белорусского переводчиков.

***Источник информации:*** Русских, А.С. Переводческие корреляты польских производных имен существительных в русском и белорусском языках: структурно-семантический аспект (на материале поэмы А. Мицкевича «Пан Тадеуш» и ее переводов на русский и белорусский языки): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.03 / А.С. Русских; БГУ. – Минск, 2009. – 24 с.

## 227 РУТКЕВИЧ СЕРГЕЙ АЛЕКСАНДРОВИЧ

***Тема:*** Лексическое калькирование как билингвальный номинативный процесс.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – русский язык.

***Научный руководитель:*** Шуба П.П., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 06.1991; Д 056.03.06, БГУ.

***Оппоненты:*** Баханьков А.Е., д.филол.н.; Дубограева М.П., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Доказать, что господствующие в современной лингвистике представления о сущности и механизме калькирования вербоидов (в которых доминирует идея перевода иноязычия по структурным элементам) страдают «неуважением» к эмпирической данности, лишают «прав гражданства» многие несомненные кальки и в конечном счете не адекватны реальности; в качестве альтернативы предложить вниманию специалистов собственное понимание природы, закономерностей процесса калькирования иноязычных наименований.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 134 с., основной текст занимает 116 с. Список использованной литературы – 139 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Мотивированность – важнейшее условие номинации; калькирование – одна из причин сходной мотивиро-

ванности разноязычных наименований какой-либо реалии. 2. Калькирование как один из путей обогащения номинативного тезауруса русского языка (некоторые примеры и теоретические комментарии): иноязычные влияния периода христианизации, калькирование греческих наименований; иноязычные влияния XVIII – XIX вв., калькирование немецких, французских, английских, латинских номинантов. 3. Калькирование русских наименований в белорусском литературном языке советского периода (некоторые примеры и теоретические комментарии). 4. К вопросу о природе калькирования номинативных единиц; роль закономерностей ассоциирования слов (понятий) в психолингвистическом порождении кальки.

В диссертации 2 приложения (6 с.): «Русские кальки с греческих наименований», «Русские кальки с немецких слов».

***Научное значение исследования:*** Доказано, что рекогносцирование способа аргументации вербального обозначения не сводится к нахождению производящей базы и деривационных аффиксов, а является, по сути дела, выходом на те понятия, с опорой на которые происходило отражение обозначаемого, осознанием релевантности их синтагматического объединения и типовых смысловых отношений между ними для мотивации отношения именования; на фоне значительного количества примеров калькирования выделены и прокомментированы те кальки, которые мотивированы и (или) деривационно оформлены не идентично; изучено влияние на оформление кальки ее номинативной функции в калькирующем языке; обоснована идея универсальной роли закономерностей ассоциирования понятий (слов) в процессе калькообразования; предложено авторское определение номинативного калькирования.

***Источник информации:*** Руткевич, С.А. Лексическое калькирование как билингвальный номинативный процесс: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.01 / С.А. Руткевич; БГУ. – Минск, 1991. – 18 с.

## 228 САВІНА НІНА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Беларускі экскурсійны тэкст: моўна-класіфікацыйныя параметры.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Ляшук В.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.01.2007; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Машчэнская Л.Р., д.філал.н.; Бурак І.Л., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Выявіць лінгвістычную спецыфіку экскурсійнага тэксту.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 126 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 188 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Тэкстаўтварэнне як лінгвістычная праблема: паняцце тэксту і тэкстаўтварэння; тэкстаўтварэнне і тэкставыя катэгорыі; асноўныя структурныя адзінкі тэксту і іх роля ў тэкстаўтварэнні; функцыянальна-стылістычныя жанравыя характарыстыкі ў экскурсійным тэкстаўтварэнні; культуралагічны аспект у інтэрпрэтацыі тэксту і тэкстаўтварэння; спецыяльная экскурсазнаўчая дыхатамія: кантрольны і індывідуальны тэксты; спецыяльныя класіфікацыйныя параметры экскурсійных тэкстаў; тэкстаўтварэнне ў экскурсійнай дзейнасці: тэарэтычная прафесійная база. 2. Лінгвістычныя аспекты ў беларускамоўным экскурсійным тэкстаўтварэнні: параметры беларускамоўнага экскурсійнага тэкстаўтварэння (тэматыка – тэма – назва); лексічная база беларускамоўнага экскурсійнага тэкстаўтварэння; граматычная спецыфіка экскурсійнага тэкстаўтварэння; стылістычная спецыфіка экскурсійнага тэкстаўтварэння; лінгвістычная спецыфіка інтэртэкстуальнасці экскурсійных тэкстаў; лінгвістычныя асаблівасці экскурсійных тэкстаў, прысвечаных Янку Купалу; анамасіялогія ў экскурсійным тэксце.

У дысертацыі 12 дадаткаў (9 с.): «Класіфікацыя экскурсій», «Размеркаванне фактычнага матэрыялу», «Суадносіны тэмы і назвы экскурсійных тэкстаў», «Літаратурныя экскурсіі», «Гістарычныя экскурсіі», «Мастацтвазнаўчыя экскурсіі», «Прыродазнаўчыя экскурсіі», «Архітэктурна-горадабудаўнічыя экскурсіі», «Інтэртэкстуальнасць у экскурсійных тэкстах (экскурсах), прысвечаных суб'екту экскурсіі», «Інтэртэкстуальнасць у тэкстах уласна экскурсіі», «Наяўнасць цытат у экскурсійных тэкстах (музейных даведніках)», «Інтэртэкстуальнасць у экскурсійных тэкстах без галоўнага суб'екта экскурсіі».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Апісана праблематыка моўна-класіфікацыйнага параметрыравання тэкстаў; выяўлены крытэрыі тэкстуальнасці і фактары экскурсійнага тэкстаўтварэння; раскрыта жанравая спецыфіка экскурсійнага тэксту ў суаднесенасці з дыферэнцыяльнымі прыметамі функцыянальных стыляў і падстыляў як фактալагічнага тэксту з анталагічным культуралагічным статусам; дадзена лінгвістычная інтэрпрэтацыя спецыяльных экскурсазнаўчых класіфікацыйных параметраў і стандартаў экскурсійнага тэксту; выяўлены асаблівасці зместавай структуры пісьмовых экскурсійных тэкстаў; ахарактарызавана спецыфіка беларускамоўнага тэкстаўтварэння па тэматычным параметры; апісаны структурныя адзінкі пісьмовых экскурсійных тэкстаў, вызначаны іх асаблівасці; вылучаны спецыфічныя лінгвістычныя (лексічныя і граматычныя) адзінкі экскурсійнага тэксту, іх стылістычная спецыфіка; прааналізавана спецыфіка інтэртэкстуальнасці і спосабы ўключэння прэцэдэнтных тэкстаў у экскурсійныя тэксты; акрэслены заканамернасці і спецыфіка анамасіялогіі ў экскурсійных тэкстах.

***Крыніца інфармацыі:*** Савіна, Н.У. Беларускі экскурсійны тэкст: моўна-класіфікацыйныя параметры: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.У. Савіна; БДУ. – Мінск, 2006. – 22 с.

## 229 САВІЦКАЯ ІРЫНА ІВАНАЎНА

***Тэма:*** Лексікаграфічная спадчына М. Гарэцкага: моўна-гістарычны кантэкст, фарміраванне лексікону, нармалізатарская практыка.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Бадзевіч З.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.06.2002; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Жураўскі А.І., д.філал.н.; Круталевіч М.М., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Выявіць і асвятліць агульныя заканамернасці станаўлення лексічных нормаў беларускай літаратурнай мовы ў 20-я гады XX ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 114 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 180 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Нармалізатарская практыка на Беларусі ў 20-я гады (пытанні тэорыі): лексічныя нормы беларускай літаратурнай мовы (погляд у мінулае); лексікаграфія як сродак адлюстравання моўнай сітуацыі; агульная канцэпцыя даследавання; асноўныя метады даследавання. 2. Лексікаграфічная дзейнасць М. Гарэцкага ў рэчышчы нармалізацыйных працэсаў 20-х гадоў: сацыяльныя аспекты моўнай сітуацыі; М. Гарэцкі і культура мовы; нармалізацыйная роля нацыянальнай лексікаграфіі. 3. Адлюстраванне асноўных сродкаў намінацыі ў лексікаграфічных даведніках М. Гарэцкага: асваенне лексічных рэзерваў беларускіх гаворак; утварэнне новых слоў; апора на наяўныя лексікаграфічныя выданні; запазычванне лексічных адзінак. 4. Дынаміка змен семантычнай структуры слоў з лексікаграфічных даведнікаў М. Гарэцкага: сацыяльная абумоўленасць лексічных навацый у беларускай мове 20-х гадоў; змены ў сінанімічных радах беларускай лексікі (размоўная, дыялектная, устарэлая лексіка); разрады слоў паводле семантычнай структуры; змены ў семантычным аб'ёме лексем (размоўныя, дыялектныя, устарэлыя словы).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана месца і роля лексікаграфічнай спадчыны М. Гарэцкага пры вырашэнні надзённых праблем беларускай лексікаграфіі 20-х гадоў; высветлены прынцыпы адбору лексічных адзінак з розных пластоў беларускай лексікі і раскрыты спосабы іх лексікаграфічнага апісання ў слоўніках М. Гарэцкага; выяўлена адпаведнасць / неадпаведнасць прапанаваных вучоным лексічных адзінак рэальнай маўленчай практыцы, магчымасць / немагчымасць іх далейшага функцыянавання ў беларускай літаратурнай мове ў залежнасці ад унутры- і пазамоўных фактараў.

***Крыніца інфармацыі:*** Савіцкая, І.І. Лексікаграфічная спадчына М. Гарэцкага: моўна-гістарычны кантэкст, фарміраванне лексікону, нармалізатарская практыка: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / І.І. Савіцкая; БДУ. – Мінск, 2002. – 19 с.

## 230 САВІЦКАЯ ІРЫНА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Гаўрош Н.В., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 12.12.2003; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Бандарэнка Т.П., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Вызначыць спецыфіку структурнай арганізацыі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі, выявіць асаблівасці іх функцыянальна-стылістычнага выкарыстання ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 115 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 101 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Да праблемы вывучэння складаных сказаў з рознымі відамі сувязі: сказы з рознымі відамі сувязі ў сістэме складанага сказа; мадэлі і варыянты складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. 2. Структурна-семантычная арганізацыя складаных сказаў з рознымі відамі сувязі: сказы са спалучальнай і падпарадкавальнай сувяззю; сказы са злучальнай і бяззлучнікавай сувяззю; сказы з падпарадкавальнай і бяззлучнікавай сувяззю; сказы са злучальнай, падпарадкавальнай і бяззлучнікавай сувяззю. 3. Функцыянаванне складаных сказаў з рознымі відамі сувязі: асаблівасці функцый складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ў тэксце; функцыянаванне сказаў з інтанацыйным разрывам, звязаным з парцэляцыяй; функцыянаванне складаных сказаў з рознымі відамі сувязі з паўторам; функцыянаванне складаных сказаў з рознымі відамі сувязі са структурным паралелізмам.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана месца складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ў сінтаксічнай сістэме сучаснай беларускай мовы; выдзелены канструктыўныя прыметы камбінаваных сінтаксічных канструкцый як разнавіднасці складанага сказа; устаноўлена тыпалогія такіх сказаў вызначаны ўласна сінтаксічныя мадэлі і частотнасць іх ужывання; высветлены асаблівасці структуры камбінаваных сінтаксічных канструкцый, спалучальнасці іх частак і кампанентаў; раскрыта спецыфіка функцыянавання складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ў сучаснай беларускай мове; выяўлена значэнне і функцыі парцэляцыі, паўтору і сінтаксічнага паралелізму ў структуры камбінаваных сінтаксічных канструкцый.

***Крыніца інфармацыі:*** Савіцкая, І.У. Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / І.У. Савіцкая; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 20 с.

## 231 САВЧУК ТАТЬЯНА НИКОЛАЕВНА

***Тема:*** Речевой этикет в русских и белорусских народных сказках.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Янович Е.И., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 25.04.1996; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Конюшкевич М.И., д.филол.н.; Кудреватых И.П., к.филол.н.; ИЯ АН Беларуси.

***Цель:*** Сопоставить способы реализации коммуникативных интенций приветствия, прощания, просьбы (с разной степенью модальной градации), согласия и отказа в системах русского и белорусского языков, что значит установить сходства и различия языковых средств, обслуживающих исследуемые ситуации речевого этикета в этих языках; выявить специфику данных речевых действий в каждом из сравниваемых языков на основе комплексного исследования этикетных единиц данных тематических групп (с учетом лингвистического и социолингвистического подходов).

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 137 с., основной текст занимает 104 с. Список использованной литературы – 211 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Обзор литературы: коммуникативно-прагматический аспект речевого акта; социокультурный аспект речевого акта; сфера применения и реализации речевого акта. 2. Способы выражения приветствия и прощания: речевые формулы приветствия; речевые формулы прощания. 3. Речевые конструкции со значением просьбы: прямые способы выражения просьбы; дополнительные средства передачи этикетной информации при выражении побуждения; косвенные способы выражения просьбы. 4. Способы выражения согласия (разрешения) и отказа (запрещения): речевые конструкции согласия (разрешения); речевые конструкции отказа (запрещения).

В диссертации 2 приложения (22 с.) – перечень условных обозначений, таблицы.

***Научное значение исследования:*** Выявлены совокупности формул (конструкций, выражений), обслуживающие ситуации речевого этикета в русском и белорусском языках, установлена соотнесенность русских и белорусских формул, описаны их свойства в лингвистическом аспекте: с точки зрения семантики, структурной организации, лексического наполнения, морфологического выражения, синтаксического оформления; предложена социолингвистическая характеристика формул речевого этикета в сопоставляемых языках – показана зависимость способа и формы выражения интенции от условий речевой ситуации;

определены факторы влияющие на стилистическую характеристику формул речевого этикета, раскрыто их значение в каждой из рассматриваемых этикетных ситуаций в сопоставляемых языках; выделены особенности функционирования формул речевого этикета в художественной речи с учетом специфики жанра фольклорной прозы на фоне их современного употребления.

***Источник информации:*** Савчук, Т.Н. Речевой этикет в русских и белорусских народных сказках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Т.Н. Савчук; БГУ. – Минск, 1996. – 21 с.

## 232 САДОЎСКАЯ АЛЕНА СТАНІСЛАВАЎНА

***Тэма:*** Фразеалагізмы-словаспалучэнні ў сучаснай беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лепешаў І.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.06.2002; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Берднік С.К., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Комплексны аналіз фразеалагізмаў са структурай спалучэння слоў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 127 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 80 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Семантычная характарыстыка фразеалагізмаў: класіфікацыя фразеалагізмаў па семантычнай злітнасці кампанентаў; мнагазначнасць фразеалагізмаў; варыянтнасць фразеалагізмаў; сінанімічнасць фразеалагізмаў; антанімічнасць фразеалагізмаў. 2. Марфалагічная характарыстыка фразеалагізмаў: назоўнікавыя фразеалагізмы; прыметнікавыя фразеалагізмы; дзеяслоўныя фразеалагізмы; прыслоўныя фразеалагізмы; мадальныя і выклічнікавыя фразеалагізмы; пра службовыя фразеалагізмы; фразеалагізмы, несуадносныя з часцінамі мовы; марфалагічныя асаблівасці мнагазначных фразеалагізмаў. 3. Сінтаксічная характарыстыка фразеалагізмаў: структурныя тыпы і мадэлі фразеалагізмаў-спалучэнняў; парадак кампанентаў і пранікальнасць структуры ў фразеалагізмах; фразеалагізмы паводле іх спалучальнасці са словамі; сінтаксічная роля фразеалагізмаў. 4. Стылістычная характарыстыка фразеалагізмаў-спалучэнняў: сэнсавая структура фразеалагізма; функцыянальна-стылёвыя разрады фразеалагізмаў са структурай спалучэння слоў; стылістычныя функцыі фразеалагізмаў; нематываваныя адступленні ад фразеалагічнай нормы.

У дысертацыі 1 дадатак (16 с.) – «Індэкс фразеалагізмаў са структурай спалучэння слоў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны заканамернасці функцыянавання фразеалагізмаў са структурай спалучэння слоў, ахопленых з'явамі варыянтнасці, мнагазначнасці, сінаніміі, антаніміі; ахарактарызаваны марфалагічныя асаблівасці выразаў-спалучэнняў; апісаны структурныя тыпы і мадэлі выразаў-спалучэнняў, а таксама разгледжаны іх спалучальныя магчымасці; вызначаны сінтаксічныя функцыі названых фразеалагізмаў з улікам іх прыналежнасці да пэўнага семантыка-граматычнага разраду; даследаваны стылістычныя асаблівасці фразеалагізмаў названай разнавіднасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Садоўская, А.С. Фразеалагізмы-словаспалучэнні ў сучаснай беларускай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.С. Садоўская; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2002. – 21 с.

## 233 САДОЎСКАЯ АНЖАЛІКА ЛЕАНІДАЎНА

***Тэма:*** Фразеалагізмы з кампанентам-арнітонімам у беларускай мове: этналігвістычны аспект.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Бадзевіч З.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.12.2002; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Даніловіч М.А., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Даследаваць беларускія фразеалагічныя адзінкі з кампанентам-арнітонімам у аспекце этналінгвістыкі, прасачыць іх узаемасувязь з традыцыйнай народнай духоўнай культурай беларусаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 229 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 264 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 6 раздзелах. 1. Беларуская этналінгвістыка (стан, праблемы і перспектывы): беларуская этналінгвістыка ў кантэксце славяназнаўства; этналінгвістычны аспект у фразеалогіі. 2. Нацыянальна-культурная спецыфіка фразеалагізмаў (тэрмінасістэма даследавання). 3. Канцэпт *птушка* ў беларускай фразеалогіі (вопыт этналінгвістычнага аналізу). 4. Этналінгвістычны аспект фразеалагізмаў з кампанентамі-назвамі «нячыстых» птушак: фразеалагічныя адзінкі з арнітонімамі *варона*, *крумкач*; фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *сарока*; фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *верабей*; фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *сава*; фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *зязюля*. 5. Нацыянальна-культурная семантыка фразеалагізмаў з кампанентамі-назвамі «чыстых» птушак: фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *бусел*; фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *салавей*. 6. Фразеалагізмы з кампанентамі-назвамі свойскіх птушак у кантэксце народнай культуры: фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *курыца*; фразеалагічныя адзінкі з арнітонімам *певень*.

У дысертацыі 3 дадаткі (102 с.): «Дадатковыя каментарыі да асноўнага тэксту», «Паказальнік фразеалагізмаў», «Прадуктыўнасць, граматычнае і семантычнае акружэнне арнітонімаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вылучаны і даследаваны асноўныя семантычныя стрыжні ў межах вылучаных груп фразеалагізмаў, паказана іх прадуктыўнасць; ахарактарызавана семантычнае і граматычнае акружэнне арнітонімаў у беларускіх фразеалагічных адзінках; вывучаны арнітаморфны код у беларускай фразеалогіі і прасочана яго сувязь з абрадамі, міфамі, вераваннямі, звычаямі і традыцыйнымі народнымі ўяўленнямі пра з'явы навакольнага свету; апісаны асаблівасці функцыянавання лексем-арнітонімаў у складзе беларускіх фразеалагічных адзінак; шляхам этналінгвістычнага аналізу акрэслены нацыянальна-культурны змест канцэпту *птушка* ў беларускай фразеалогіі; выяўлена сістэма нацыянальна-культурных канатацый лексем-арнітонімаў у складзе беларускай фразеалогіі.

***Крыніца інфармацыі:*** Садоўская, А.Л. Фразеалагізмы з кампанентам-арнітонімам у беларускай мове: этналігвістычны аспект: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.Л. Садоўская; БДУ. – Мінск, 2002. – 21 с.

## 234 САЗОНЕНКА ЗІНАІДА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Лінгвадыдактычныя асновы навучання беларускай арфаграфіі ў V класе.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.; 13.00.02 – методыка выкладання беларускай мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Яленскі М.Г., к.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МДПІ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.12.1990; К 113.16.04, МДПІ.

***Апаненты:*** Мурына Л.А., д.пед.н.; Касцян М.І., к.пед.н.; БрДПІ.

***Мэта:*** Распрацаваць навукова абгрунтаваную методыку выкладання беларускай арфаграфіі ў V класе агульнаадукацыйнай школы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 212 с., асноўны тэкст займае 185 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 210 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лінгвістычныя і псіхолагадыдактычныя асновы методыкі фарміравання арфаграфічных навыкаў: сучасная сістэма беларускай арфаграфіі і праблемы методыкі, арфаграфічны мінімум; псіхолага-дыдактычныя механізмы і ўмовы выпрацоўкі ў вучняў навыкаў арфаграфічнай пісьменнасці. 2. Стан арфаграфічнай пісьменнасці вучняў V класа беларускамоўных школ: шляхі вывучэння арфаграфічнай пісьменнасці; узровень арфаграфічных уменняў і навыкаў у вучняў V класа; тыпалогія арфаграфічных памылак, іх прычыны. 3. Методыка фарміравання арфаграфічных навыкаў на

ўроках беларускай мовы, навучальны эксперымент: фарміраванне арфаграфічных навыкаў на аснове фанетычнага прынцыпу правапісу; засваенне вучнямі фанемна-марфалагічных напісанняў; азнаямленне школьнікаў з марфолагасінтаксічнымі арфаграмамі; выкарыстанне ЭВМ і сродкаў нагляднасці пры навучанні арфаграфіі.

У дысертацыі 1 дадатак (10 с.) – «Арфаграфічны слоўнік-мінімум. V клас» (слоўнікавы артыкул складаецца толькі з зоны намінацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** На аснове канстатуючага эксперыменту вызначаны рэальны ўзровень пісьменнасці вучняў, выяўлены найбольш тыповыя арфаграфічныя памылкі, устаноўлены іх генезіс і з улікам гэтага адабраны арфаграфічны мінімум для V класа беларускай школы; распрацавана сістэма навучання беларускай арфаграфіі з улікам тэарэтычных асноў правапісання, унутрыпрадметнай пераемнасці (пачатковыя і сярэднія класы), структуры вучэбных дзеянняў, псіхолага-дыдактычных механізмаў фарміравання арфаграфічных уменняў і навыкаў; тэарэтычна абгрунтаваны і эксперыментальна правераны распрацаваныя сродкі знакава-сімвалічнай нагляднасці і вучэбныя праграмы для ЭВМ па арфаграфіі, вызначаны найбольш дарэчныя і мэтазгодныя шляхі іх выкарыстання.

***Крыніца інфармацыі:*** Сазоненко, З.Н. Лингводидактические основы обучения белорусской орфографии в V классе: автореф. дис. ... канд. пед. наук: 13.00.02 / З.Н. Сазоненко; МГПИ. – Минск, 1990. – 15 с.

## 235 САКОВИЧ АЛЕКСАНДРА МИХАЙЛОВНА

***Тема:*** Синтаксис однофразовых текстов (на материале белорусских и сербских пословиц и поговорок).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.19 – теория языка.

***Научный руководитель:*** Мечковская Н.Б., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра теоретического и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 10.01.2006; Д 02.01.24, БГУ.

***Оппоненты:*** Коваль В.И., д.филол.н.; Запрудский С.Н., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Выявление синтаксических свойств однофразового пословичного текста, определение значений этих свойств для понимания природы коммуникативной единицы и зависимости от грамматической системы языка в целом.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 120 с., основной текст занимает 97 с. Список использованной литературы – 277 наименований.

Результаты исследования отражены в 5 главах. 1. Паремии в ряду смежных явлений в аспектах лингвистики и паремиологии: паремии в ряду воспроизводимых явлений языка; исследования по семантике паремий; паремии как объект

синтаксиса; паремии как класс однофразовых текстов. 2. Общие закономерности организации пословичного текста: факторы цельности пословичного текста; отсутствие средств связности как дифференциальный признак пословичного текста; синтаксическая классификация пословичных высказываний и методика их сопоставления с моделями предложений в художественной и научной прозе; основные классы предложений в изучаемом корпусе паремий и их количественное соотношение; средняя длина и распространенность пословичного высказывания. 3. Синтаксическая организация паремий со структурой простого предложения: двухкомпонентные предложения; однокомпонентные предложения в пословичном синтаксисе. 4. Сложные предложения в пословичном синтаксисе: сложносочиненные предложения; сложноподчиненные предложения. 5. Подчинительные конструкции в белорусских и сербских паремиях: виды подчинительной связи в паремиях; особенности предложного управления в пословичном тексте; инверсия нейтрального порядка слов в пословичных высказываниях.

***Научное значение исследования:*** Выявлены грамматические и лексико-семантические факторы, определяющие формирование контекстуально независимой коммуникативной единицы; определен состав моделей предложений в пословичном материале; изучена роль грамматической семантики в образовании смысловой структуры паремии; сопоставлены свойства, состав и продуктивность синтаксических моделей в паремиях и в связных фрагментах художественной и научной прозы; выявлены корреляции между синтаксической структурой паремий и грамматической организацией языка, которому они принадлежат; выявлено и охарактеризовано своеобразие синтаксической организации белорусского и сербского пословичного фонда.

***Источник информации:*** Сакович, А.М. Синтаксис однофразовых текстов (на материале белорусских и сербских пословиц и поговорок): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / А.М. Сакович; БГУ. – Минск, 2005. – 21 с.

## 236 САМАТЫЯ ІРЫНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Функцыянальная накіраванасць вывучэння назоўніка беларускай мовы на аснове абагульненых паняццяў ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – методыка выкладання беларускай мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Яленскі М.Г., к.пед.н; ***навуковы кансультант:*** Трасцянцова Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МДПІ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 12.03.1992; К 113.16.04, МДПІ.

***Апаненты:*** Мурына Л.А., д.пед.н.; Дзёміна Н.П., к.пед.н; ВДПІ.

***Мэта:*** Распрацоўка методыкі вывучэння назоўніка на аснове абагульненых марфалагічных паняццяў з улікам функцыянальнай накіраванасці, прынцыпаў апоры і дыферэнцыяцыі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 247 с., асноўны тэкст займае 231 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 189 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лінгвадыдактычныя асновы навучання марфалогіі беларускай мовы ў сітуацыі блізкароднаснага білінгвізму: праблема навучання беларускай мове ў сітуацыі блізкароднаснага білінгвізму ў метадычнай спадчыне; параўнальны аналіз назоўніка ў беларускай і рускай мовах як аснова прагназіравання транспазіцыі і інтэрферэнцыі. 2. Узровень развіцця ў вучняў VI класа граматычных ведаў, уменняў і навыкаў: арганізацыя і методыка даследавання; эксперыментальная праверка стану засваення вучнямі назоўніка ў VI класе; адлюстраванне ўліку міжмоўнага пераносу ў традыцыйным змесце навучання. 3. Методыка вывучэнне назоўніка ў VI класе: прынцыпы эксперыментальнага навучання; функцыянальная накіраванасць вывучэння назоўніка; праверка эфектыўнасці эксперыментальнай методыкі.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена даследаванне асаблівасцяў вывучэння марфалогіі на аснове абагульненых паняццяў з улікам асноўных функцый мовы, а таксама прынцыпаў апоры (унутрыпрадметнай і міжпрадметнай) і дыферэнцыяцыі, вызначаны найбольш тыповыя памылкі ў маўленні вучняў, устаноўлены іх прычыны, удакладнены змест курса, яго структура, канкрэтызаваны метадычныя прынцыпы, распрацавана новая тэхналогія навучання марфалогіі – сінтэз стратэгіі, тактыкі і методыкі педагагічнага ўздзеяння на асобу вучня.

***Крыніца інфармацыі:*** Саматыя, И.Н. Функциональная направленность изучения существительного белорусского языка на основе обобщенных понятий в условиях близкородственного билингвизма: автореф. дис. ... канд. пед. наук: 13.00.02 / И.Н. Саматыя; МГПИ. – Минск, 1992. – 20 с.

## 237 САМУСЕВІЧ ВОЛЬГА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Беларускія СМІ ў лагасферы нацыянальнай культуры (лінгвістычны аспект).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.01.10 – журналістыка.

***Навуковы кіраўнік:*** Карповіч М.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра стылістыкі і літаратурнага рэдагавання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.02.2003; Д 02.01.08, БДУ.

***Апаненты:*** Прохарава С.М., д.філал.н.; Дубовік С.В., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Даследаванне месца і ролі беларускіх сродкаў масавай інфармацыі ў развіцці маўленча-мысліцельнай галіны нацыянальнай культуры.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 136 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 230 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Тэарэтычны аспект паняцця *лагасфера культуры*. Канцэптавая аснова лагасферы беларускай культуры: змест паняцця *лагасфера нацыянальнай культуры* ў навуковых крыніцах; канцэптасфера як катэгорыя лагасферы; маўленчы ідэал як фактар арганізацыі лагасферы; дамінантныя субсферы лагасферы беларускай культуры. 2. Газета «Наша Ніва» – першы нацыянальна-кансалідуючы дыскурс пачатку XX ст.: канцэптасферы газеты «Наша Ніва»; асаблівасці маўленчага ідэалу нашаніўскага дыскурсу. 3. Паняццевая структура лагасферы беларускіх СМІ савецкага перыяду: структурна-семантычная трансфармацыя ключавых субсфер у савецкім друку; маўленчы ідэал беларускіх СМІ савецкага перыяду. 4. Лагасфера сучасных беларускіх СМІ: нацыянальная ідэя – ідэалагічны падмурак лагасферы сучасных СМІ; асноўныя субсферы ў лагасферы сучасных СМІ; праблема гуманізацыі нацыянальнай лагасферы.

У дысертацыі 3 дадаткі (12 с.): «Ключавыя паняцці агульнай лагасферы (паводле алфавіту)», «Ключавыя паняцці агульнай лагасферы (паводле індэксу частотнасці)», «Субсферы агульнай лагасферы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Тэарэтычна абгрунтавана паняцце *лагасфера нацыянальнай культуры*; выяўлены дамінантныя канцэпты лагасферы нацыянальнай культуры на матэрыяле этнаграфічных і фальклорных крыніц і прасочана іх структурна-семантычная трансфармацыя ў перыядычным друку; ахарактарызаваны асаблівасці канцэптуалізацыі рэчаіснасці ў дыскурсе «Нашай Нівы»; праведзены семантычны аналіз паняццевай структуры лагасферы беларускіх СМІ савецкага перыяду; акрэслены фактары дэгуманізацыі лагасферы і роля сучасных СМІ ў яе гуманізацыі.

***Крыніца інфармацыі:*** Самусевіч, В.М. Беларускія СМІ ў лагасферы нацыянальнай культуры (лінгвістычны аспект): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.01.10 / В.М. Самусевіч; БДУ. – Мінск, 2003. – 21 с.

## 238 САЎКО УЛАДЗІМІР ПАЎЛАВІЧ

***Тэма:*** Развіццё мовы вучняў VI класа пры вывучэнні марфалогіі (назоўніка і прыметніка).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – методыка выкладання беларускай мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Мурына Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.06.1995; К 113.16.04, БДПУ.

***Апаненты:*** Шуба П.П., д.філал.н.; Верашчака Г.І., к.пед.н; ВДПІ.

***Мэта:*** На аснове аналізу лінгвістычнай, метадычнай, псіхолага-педагагічнай літаратуры, а таксама вынікаў канстатуючага эксперыменту распрацаваць навукова абгрунтаваную методыку развіцця мовы школьнікаў пры вывучэнні марфалогіі, якая прадугледжвае глыбокае асэнсаванне граматычных з'яў, засваенне нормаў беларускай літаратурнай мовы, узбагачэнне слоўнікавага запасу вучняў, фарміраванне ўменняў і навыкаў звязнай вуснай і пісьмовай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 168 с., асноўны тэкст займае 154 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 220 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лінгваметадычныя асновы развіцця мовы школьнікаў на ўроках беларускай мовы: узбагачэнне слоўніка і развіццё граматычнага ладу мовы вучняў пры вывучэнні марфалогіі; праблема засваення нормаў беларускай літаратурнай мовы пры вывучэнні марфалогіі; развіццё звязнай мовы вучняў пры вывучэнні марфалогіі. 2. Узровень развіцця мовы вучняў VI класа і метадычная сістэма развіцця мовы школьнікаў: вынікі канстатуючага эксперыменту; метадычная сістэма маўленчага развіцця вучняў VI класа. 3. Методыка развіцця мовы школьнікаў пры вывучэнні марфалогіі (назоўніка і прыметніка) у VI класе: задачы навучальнага эксперыменту; развіццё мовы вучняў пры вывучэнні назоўніка ў VI класе; развіццё мовы вучняў пры вывучэнні прыметніка ў VI класе; вынікі вопытна-эксперыментальнай работы (кантрольны эксперымент).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даказана неабходнасць і магчымасць комплекснай рэалізацыі трох узаемазвязаных напрамкаў работы па рэалізацыі мовы школьнікаў на ўроках вывучэння беларускай марфалогіі ў VI класе; распрацавана методыка вывучэння назоўніка і прыметніка ў школе.

***Крыніца інфармацыі:*** Саўко, У.П. Развіццё мовы вучняў VI класа пры вывучэнні марфалогіі (назоўніка і прыметніка): аўтарэф. дыс. ... канд. пед. навук: 13.00.02 / У.П. Саўко; БДПУ. – Мінск, 1995. – 19 с.

## 239 САЎЧАНКА ВОЛЬГА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Звышфразавыя адзінствы ў мове беларускай мастацкай літаратуры: функцыянальна-стылістычны аспект.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Абабурка М.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МагДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 13.02.2009; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Кулікoвіч У.І., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Выявіць асаблівасці звышфразавых адзінстваў, а таксама іх ролю як мастацкіх сродкаў у творах пісьменнікаў XX ст.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 127 с., асноўны тэкст займае 112 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 210 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Тэарэтычныя праблемы вывучэння звышфразавых адзінстваў у лінгвістыцы: вывучэнне звышфразавых адзінстваў у XVII – XIX стст.; вывучэнне звышфразавых адзінстваў у XX – XXI стст. 2. Абзац як звышфразавае адзінства і выкарыстанне яго ў літаратурна-мастацкім тэксце: структурныя асаблівасці абзацаў у літаратурна-мастацкім тэксце; асаблівасці абзацавання літаратурна-мастацкага тэксту; сінтаксічная роля абзаца ў літаратурна-мастацкіх тэкстах; стылістычная роля абзаца ў літаратурна-мастацкіх тэкстах; 3. Функцыі складанага сінтаксічнага цэлага і перыяду як звышфразавых адзінстваў у літаратурна-мастацкім тэксце: структурна-стылістычныя асаблівасці складанага сінтаксічнага цэлага і перыяду; сінтаксічна-стылістычная функцыя складанага сінтаксічнага цэлага і перыяду ў літаратурна-мастацкім тэксце; складанае сінтаксічнае цэлае і перыяд як тэксты (мікратэксты) у тэксце (макратэксце).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены асаблівасці звышфразавых адзінстваў, а таксама іх роля як мастацкіх сродкаў у творах пісьменнікаў XX ст.; удакладнены лінгвістычны статус звышфразавых адзінстваў; выяўлены асаблівасці ўзаемадзеяння структурнай, сінтаксічнай і стылістычнай арганізацыі звышфразавых адзінстваў у творах беларускіх пісьменнікаў XX ст.; параўнаны розныя тыпы звышфразавых адзінстваў у аспекце іх здольнасці павышаць вобразнасць літаратурна-мастацкага тэксту; вызначаны тэкставыя ўласцівасці і прынцыпы спалучальнасці кампанентаў звышфразавых адзінстваў у мастацкім макратэксце (мікратэксце, кантэксце); паказаны ўплыў спалучальнасці звышфразавых адзінстваў на фарміраванне пісьменніцкага ідыястылю.

***Крыніца інфармацыі:*** Саўчанка, В.М. Звышфразавыя адзінствы ў мове беларускай мастацкай літаратуры: функцыянальна-стылістычны аспект: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.М. Саўчанка; БДУ. – Мінск, 2008. – 21 с.

## 240 СВИРИДЕНКО ЕЛЕНА АНДРЕЕВНА

***Тема:*** Русско-белорусские гетеролексы: структурно-семантический аспект.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Ровдо И.С., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 15.03.2005; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Абабурко Н.В., д.филол.н.; Кунцевич Л.П., к.филол.н.; БГПУ.

***Цель:*** Выявление гетеролекс в русском и белорусском языках, синхронный анализ данных номинативных единиц с точки зрения формы и содержания на уровне языка и речи.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 148 с., основной текст занимает 105 с. Список использованной литературы – 211 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Русско-белорусские гетеролексы как предмет исследования: предпосылки формирования гетеролекс; регулярность / нерегулярность межъязыковых соответствий как один их принципов систематизации русско-белорусских гетеролекс; разряды гетеролекс. 2. Структурно-типологическая характеристика гетеролекс с учетом их частеречной принадлежности: гетеролексы-существительные; гетеролексы-прилагательные и причастия; гетеролексы-глаголы; гетеролексы-наречия; гетеролексы-служебные слова. 3. Семантическая характеристика гетеролекс: трансляционный подход при сопоставлении класса гетеролекс с точки зрения содержания; семантическая эквивалентность и типы межъязыковых лексических соответствий; характеристика смысловых отношений русско-белорусских гетеролекс. 4. Русско-белорусские гетеролексы в коммуникативно-прагматическом аспекте: общее описание экспериментального исследования; перевод с русского языка на белорусский; обобщение результатов эксперимента.

В диссертации 8 приложений (28 с.): «Типы гетеролекс-существительных», «Префиксально-суффиксальные дериваты-существительные», «Типы гетеролекс-прилагательных», «Префиксально-суффиксальные дериваты-прилагательные», «Типы гетеролекс-причастий», «Типы гетеролекс-глаголов», «Префиксально-суффиксальные дериваты-глаголы», «Типы гетеролекс-наречий».

***Научное значение исследования:*** С опорой на понятия регулярности / нерегулярности определены формальные границы гетеролекс согласно их частеречной принадлежности; выделены структурные типы гетеролексических пар, предложена структурно-типологическая классификация русско-белорусских гетеролекс; разработана характеристика семантической соотносительности разнокорневых коррелятов, определены типы межъязыковых лексических соответствий.

***Источник информации:*** Свириденко, Е.А. Русско-белорусские гетеролексы: структурно-семантический аспект: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Е.А. Свириденко; БГУ. – Минск, 2005. – 21 с.

## 241 СВІРЫДЗЕНКА ВОЛЬГА ІВАНАЎНА

***Тэма:*** Развіццё маўлення малодшых школьнікаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (пачатковая адукацыя).

***Навуковы кіраўнік:*** Івашуціч Я.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускай мовы і методыкі яе выкладання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 14.11.2001; К 02.21.05, БДПУ.

***Апаненты:*** Протчанка В.У., д.пед.н.; Саматыя І.М., к.пед.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Вызначыць на аснове аналізу лінгвістычнай, метадычнай, псіхалагічнай, педагагічнай літаратуры, а таксама вынікаў канстатуючага эксперыменту найбольш аптымальныя шляхі развіцця маўлення малодшых школьнікаў пры азнаямленні са словазлучэннем і сказам, якія вядуць да асэнсавання вучнямі граматычных з'яў, засваення нормаў беларускай літаратурнай мовы, успрымання, разумення, пабудовы, прадуцыравання вусных і пісьмовых выказванняў розных стыляў, жанраў і тыпаў і спрыяюць маральна-этычнаму выхаванню дзяцей.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 149 с., асноўны тэкст займае 123 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 201 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лінгваметадычныя асновы развіцця маўлення вучняў пачатковых класаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам: асвятленне праблемы развіцця маўлення ў сучаснай навуковай літаратуры; праца з сінтаксічнымі сродкамі мовы ў аспекце развіцця маўлення. 2. Аналіз і асэнсаванне стану развіцця маўлення школьнікаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам: аналіз ступені развіцця маўлення малодшых школьнікаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам; метадычная сістэма маўленчага развіцця вучняў пачатковых класаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам. 3. Методыка развіцця маўлення малодшых школьнікаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам: развіццё маўлення вучняў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем; развіццё маўлення школьнікаў у працэсе азнаямлення са сказам; ацэнка эфектыўнасці эксперыментальна-вопытнай методыкі развіцця маўлення вучняў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам.

У дысертацыі 6 дадаткаў (14 с.): «Вынікі канстатуючага эксперыменту», «Вынікі кантрольнага эксперыменту», «Ступень паспяховасці навучання па эксперыментальнай методыцы», «Прыклады пераказаў вучняў II класаў», «Прыклады сачыненняў вучняў III класаў», «Устанаўленне значнасці статыстычных разыходжанняў пры дапамозе крытэрыю згоды».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлена ступень эфектыўнасці сінтаксічнай арыентацыі працэсу навучання беларускай мове ў развіцці маўлення вучняў I – III класаў (засваенне нормаў беларускай літаратурнай мовы, слоўнікавы запас, сфарміраванасць уменняў і навыкаў звязнага вуснага і пісьмовага маўлення); вызначаны метады і прыёмы працы з сінтаксічнымі адзінкамі, якія найбольш садзейнічаюць развіццю мовы і маўлення школьнікаў; распрацавана тыпалогія і сістэма практыкаванняў для эксперыментальна-вопытнага вывучэння словазлучэння і сказа ў пачатковых класах у камунікатыўным аспекце; прааналізаваны

вынікі эксперыментальна-вопытнага навучання і праверана эфектыўнасць распрацаванай методыкі.

***Крыніца інфармацыі:*** Свірыдзенка, В.І. Развіццё маўлення малодшых школьнікаў у працэсе азнаямлення са словазлучэннем і сказам: аўтарэф. дыс. … канд. пед. навук: 13.00.02 / В.І. Свірыдзенка; БДПУ. – Мінск, 2001. – 17 с.

## 242 СВІСТУНОВА МАРЫНА ІОСІФАЎНА

***Тэма:*** Моўныя і стылёвыя асаблівасці «Апокрысіса» Хрыстафора Філалета.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Прыгодзіч М.Р., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.11.2000; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.; Круталевіч М.М., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Апісанне мовы «Апокрысіса» Х.Філалета на фанетыка-арфаграфічным і марфалагічным узроўнях.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 167 с., асноўны тэкст займае 111 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 129 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Агляд літаратуры па вывучэнню «Апокрысіса» Х. Філалета: праблема аўтарства «Апокрысіса» Х. Філалета; палеаграфічныя асаблівасці «Апокрысіса» Х. Філалета. 2. Фанетыка-арфаграфічная сістэма «Апокрысіса» Х. Філалета: галосныя гукі; зычныя гукі; фанетычныя працэсы ў сістэме вакалізму; фанетычныя працэсы ў сістэме кансанантызму. 3. Марфалагічная сістэма «Апокрысіса» Х. Філалета: назоўнік; займеннік; прыметнік; лічэбнік; дзеяслоў.

У дысертацыі 2 дадаткі (47 с.): «Ілюстрацыйны матэрыял да дысертацыйнай работы», «Фактычны матэрыял да дысертацыйнай работы».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены аналіз фанетыка-арфаграфічных асаблівасцей «Апокрысіса» Х. Філалета, які ўключае ў сябе апісанне сістэмы графічных сродкаў помніка з адначасовым правядзеннем класіфікацыі галосных і зычных гукаў на падставе «гук – марфема» і высвятленне асаблівасцей іх ужывання, выяўлены фанетычныя працэсы ў сістэме кансанантызму і вакалізму; устаноўлена ступень рэалізацыі марфалагічна-этымалагічнага і фанетычнага прынцыпаў арфаграфіі; даследаваны марфалагічны лад твора: апісаны парадыгмы назоўніка, займенніка, прыметніка, лічэбніка, дзеяслова і яго формаў; высветлены характэрныя асаблівасці функцыянавання часцін мовы ў тэксце; устаноўлена ступень рэалізацыі ў старабеларускім тэксце «Апокрысіса» рыс жывой народнай гаворкі і ўдакладнены звесткі аб дыялектнай прыналежнасці перакладчыка (-аў) старабеларускага тэксту; высветлена ступень уплыву мовы польскага арыгінала

на мову старабеларускага варыянта твора; вызначана ступень уплыву на старабеларускі тэкст «Апокрысіса» Х. Філалета стараславянскай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Свістунова, М.І. Моўныя і стылёвыя асаблівасці «Апокрысіса» Хрыстафора Філалета: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / М.І. Свістунова; БДУ. – Мінск, 2000. – 20 с.

## 243 СЕГЕНЬ БАЗЫЛЬ

***Тэма:*** Этымалогія і семантыка дыялектных прыназоўнікаў беларускай мовы (на матэрыяле гаворкі вёскі Трывежа на Беласточчыне).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Шакун Л.М., д.філал.н.; Трайкоўская В.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.11.1997; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Плотнікаў Б.А., д.філал.н.; Елісеева Л.В., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Дэталёвае апісанне прыназоўнікаў перыферыйнай гаворкі ў этымалагічным і семантычным аспектах, а таксама вызначэнне суадносін з прыназоўнікамі беларускай літаратурнай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 130 с., асноўны тэкст займае 118 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 177 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Агляд літаратуры. 2. Прыназоўнік як аб'ект вывучэння: агульныя заўвагі; катэгарыяльны статус прыназоўніка; функцыі прыназоўніка; значэнне прыназоўнікаў. 3. Этымалогія дыялектных прыназоўнікаў беларускай мовы: уступныя заўвагі; склад і паходжанне дыялектных прыназоўнікаў; этымалогія невытворных прыназоўнікаў; этымалогія вытворных прыназоўнікаў. 4. Семантыка дыялектных прыназоўнікаў беларускай мовы: прасторавыя адносіны; часавыя адносіны; аб'ектныя адносіны; прычынныя адносіны; мэтавыя адносіны; іншыя семантычныя адносіны.

***Навуковае значэнне даследавання:*** З дапамогай этымалагічнага аналізу раскрыта паходжанне прыназоўнікаў у гаворцы в. Трывежа на Беласточчыне; апісаны семантычныя адносіны паміж словамі, якія выражаюцца з дапамогай дыялектных прыназоўнікаў; вызначаны агульныя рысы, уласцівыя для прыназоўнікаў дадзенай гаворкі і беларускай літаратурнай мовы; выяўлены спецыфічныя рысы прыназоўнікаў у гаворцы; устаноўлены характар іншамоўнага ўплыву на ўжыванне і семантыку дыялектных прыназоўнікаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Сегень, Б. Этымалогія і семантыка дыялектных прыназоўнікаў беларускай мовы (на матэрыяле гаворкі вёскі Трывежа на Беласточчыне): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Б. Сегень; БДУ. – Мінск, 1997. – 18 с.

## 244 СЕМЯНЬКОВА ГАЛІНА КАНСТАНЦІНАЎНА

***Тэма:*** Прозвішчы жыхароў Віцебшчыны: структура, семантыка, геаграфія.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Мезенка Г.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ВДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 01.03.2002; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Гурская Ю.А., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Комплексны аналіз сучасных прозвішчаў жыхароў Віцебшчыны ў структурным, семантычным і лінгвагеаграфічным аспектах.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 149 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 207 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. Уводзіны: з гісторыі ўзнікнення прозвішчаў; з гісторыі вывучэння беларускай антрапаніміі. 1. Структура прозвішчаў жыхароў Віцебшчыны: першасныя прозвішчы; другасныя прозвішчы (агульнаславянскія, усходнеславянскія, унутрымоўныя прозвішчныя тыпы). 2. Семантычныя асаблівасці прозвішчаўтваральных асноў: ядро семантычнага поля; каляядзерная прастора семантычнага поля; перыферыя семантычнага поля. 3. Лінгвагеаграфічны аспект даследавання прозвішчаў жыхароў Віцебшчыны: геаграфія другасных прозвішчаў на тэрыторыі Віцебшчыны; геаграфія першасных прозвішчаў на тэрыторыі Віцебшчыны; геаграфія прозвішчаў, утвораных ад розных у семантычным плане апелятываў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна даследаваны сучасныя прозвішчы жыхароў Віцебшчыны ў структурным, семантычным і лінгвагеаграфічным аспектах; антрапонімы раскласіфікаваны па структуры, вызначана прадуктыўнасць розных прозвішчных асноў; ажыццёўлена апісанне прозвішчаўтваральных асноў у тэрмінах семантычнага поля, устаноўлена адметнасць ядзерна-перыферыйных адносін паміж элементамі; вызначаны асаблівасці размяшчэння розных па семантыцы прозвішчаўтваральных асноў і па структуры антрапанімных адзінак на тэрыторыі Віцебскай вобласці, выяўлены фактары, якія аказваюць уплыў на характар іх пашырэння; выяўлены спецыфічныя асаблівасці прозвішчаў жыхароў Віцебшчыны ў семантычным, структурным і лінгвагеаграфічным планах.

***Крыніца інфармацыі:*** Семянькова, Г.К. Прозвішчы жыхароў Віцебшчыны: структура, семантыка, геаграфія: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Г.К. Семянькова; БДПУ. – Мінск, 2002. – 21 с.

## 245 СЕРЫКАЎ РЫГОР УЛАДЗІМІРАВІЧ

***Тэма:*** Лексічная стылістыка Янкі Купалы (функцыянаванне сінанімічных лексем нерэгулярнага і рэгулярнага ўжытку).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.11.1998; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Выгонная Л.Ц., д.філал.н.; Іўчанкаў В.І., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Выходзячы з тэарэтычнай канцэпцыі аб меры аўтарскага адхілення ад нейтральнай нормы – з аднаго боку – і існаванні пастаянных кампанентаў, інтэгральных прымет, уласцівых індывідуальнаму стылю – з другога, выявіць спецыфіку генетычнага стылю Купалы, раскрыць лексіка-семантычныя асаблівасці моўнай манеры пісьменніка.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 102 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 79 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Функцыянальна-стылістычны ўзровень: мастацкі стыль; публіцыстычны стыль; размоўны стыль. 2. Функцыянальна-экспрэсіўны ўзровень: выразнасць нейтральнай лексікі; экспрэсіўная лексіка са станоўчай ацэначнасцю; адмоўная ацэначнасць экспрэсіўнай лексікі; экспрэсіўныя сінонімы са змешанай ацэначнасцю; экспрэсіўна-ацэначная лексіка без нарматыўных адпаведнікаў.

У дысертацыі 2 дадаткі (11 с.): «Пра частотнасць ужывання і стылістычныя магчымасці купалаўскай лексікі», «Паказальнік частотнасці ўжывання прааналізаваных лексем».

***Навуковае значэнне даследавання:*** На функцыянальна-стылістычным узроўні прааналізавана роля паэтызмаў і набліжаных да іх наватвораў; выяўлены семантыка-стылістычныя асаблівасці засваення Янкам Купалам запазычанняў на фоне іх ужывання ў розных функцыянальных стылях; вызначаны характар выкарыстання Купалам лексем нерэгулярнага ўжытку ў арыгінальных і перакладных мастацкіх творах; устаноўлены лексіка-семантычныя спосабы актывізацыі мыслення адрасата ў творах публіцыстыкі, прыватнай перапісцы паэта; вывучаны дадатковыя сэнсавыя кампаненты прадметна-паняційнага зместу лексем.

***Крыніца інфармацыі:*** Серыкаў, Р.У. Лексічная стылістыка Янкі Купалы (функцыянаванне сінанімічных лексем нерэгулярнага і рэгулярнага ўжытку): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Р.У. Серыкаў; ГДУ. – Гомель, 1998. – 20 с.

## 246 СІВІЦКАЯ НАТАЛЛЯ ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Лінгвагеаграфія і паходжанне назваў адзення ў гаворках беларускай мовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Кунцэвіч Л.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 29.09.2006; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Даніловіч М.А., д.філал.н.; Акуленка А.А., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Даследаваць тэматычную групу намінацый адзення ў гаворках беларускай мовы з пункту гледжання лінгвагеаграфічнай дыферэнцыяцыі і паходжання назваў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 141 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 171 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Назвы вопраткі: назвы адзення тыпу «світа»; назвы кароткай вопраткі; назвы доўгай вопраткі з аўчын; назвы кароткай вопраткі з аўчын. 2. Назвы плечавога адзення: назвы кароткага адзення без рукавоў; назвы сарочкі. 3. Назвы паяснога адзення і адзення для рук і ног: назвы спадніцы; назвы фартуха; назвы штаноў; назвы рукавіц; назвы панчох. 4. Агульныя найменні: агульныя назвы адзення ў сукупнасці; агульныя назвы вопраткі; агульныя назвы аднаго прадмета адзення з сукупнасці; агульныя назвы старога адзення. 5. Традыцыйныя назвы і найменне сучасных відаў адзення і вопраткі: назвы фуфайкі (ватоўкі): назвы паліто; назвы кофты (блузкі); назвы сукенкі і сарафана; назвы іншых відаў адзення.

У дысертацыі 2 дадаткі (29 с.): «Індэкс назваў», «Карты ізаглос» (19).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана тэматычная група намінацый адзення ў гаворках беларускай мовы з пункту гледжання лінгвагеаграфічнай дыферэнцыяцыі і паходжання назваў; вызначаны асаблівасці лінгвагеаграфічнай дыферэнцыяцыі назваў адзення ў гаворках беларускай мовы; устаноўлены шляхі паходжання намінацый адзення; выяўлены асноўныя фактары намінацыйнай матывацыі народна-дыялектнай лексікі адзення; вызначаны асаблівасці функцыянавання назваў сучасных відаў адзення ў беларускіх народных гаворках.

***Крыніца інфармацыі:*** Сівіцкая, Н.В. Лінгвагеаграфія і паходжанне назваў адзення ў гаворках беларускай мовы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.В. Сівіцкая; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – 20 с.

## 247 СІПЛІВЕНЯ ЖАННА СЯМЁНАЎНА

***Тэма:*** Ад'ектыўнае словаўтварэнне ад іншамоўных назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сцяцко П.У., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.12.1998; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Карповіч М.П., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Апісаць сістэму афіксавых ад'ектываў, утвораных ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 108 с., асноўны тэкст займае 97 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 141 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Ад'ектыўнае словаўтварэнне як прадмет спецыяльнага даследавання: распрацоўка пытанняў ад'ектыўнага словаўтварэння ад іншамоўных назоўнікаў у айчынным мовазнаўстве; асноўныя метады і крыніцы даследавання ад'ектыўнага ўтварэння на базе іншамоўных назоўнікаў. 2. Суфіксацыя адсубстантыўных прыметнікаў: ад'ектывы з суфіксамі *-н-, -ов-* (*-ав-, -ев-*), *-ск-, -ычн-* (*-ічн-*), *-ыўн-* (*-ўн-, -н-*), *-альн-, -енн-, -озн-* (*-ёзн-, -тозн-, -атозн-*), *-арн-* (*-ярн-*); іншаструктурныя ад'ектывы; словаўтваральная сінанімія суфіксавых ад'ектываў. 3. Канфіксацыя адсубстантыўных прыметнікаў: ад'ектывы з конфіксамі *без-+-н-, без-+-ов, між-+-н-, між-+-альн-, між-+-ов, між-+-ск-, за-+-ск-, за-+-н-, за-+-ов-, унутры-+-н-, унутры-+-ов-, унутры-+-ск-, каля-+-н-, перад-+-ов-, перад-+-н-, па-+-н-, па-+-ов-, паза-+-н-, паза-+-ов-, паза-+-ск-, пад-+-н-, пад-+-ов-, пры-+-н-, пры-+-ов-, да-+-н-, да-+-ов-, да-+-ск-, да-+-енн-, над-+-н-, над-+-ов-* (*на-+-н-, на-+-ов-*).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена даследаванне асноўных спосабаў утварэння ад асноў іншамоўных субстантываў, выяўлены лексіка-семантычныя групы назоўнікаў, што ўдзельнічаюць у дэрывацыі адсубстантыўных прыметнікаў, вызначана ступень прадуктыўнасці і дастасаванасці да словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы дэрывацыйных сродкаў пры ўтварэнні ад'ектываў.

***Крыніца інфармацыі:*** Сіплівеня, Ж.С. Ад'ектыўнае словаўтварэнне ад іншамоўных назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Ж.С. Сіплівеня; БДПУ. – Мінск, 1998. – 21 с.

## 248 СКАЧКОВА ВАЛЯНЦІНА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Лексіка памеру ў мове Янкі Купалы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.05.2000; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Лазоўскі У.М., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Даследаванне лексікі памеру і вытворных ад яе варыянтаў у мове Купалы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 118 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 110 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Назоўнікі памеру: меры даўжыні і плошчы; адзінкі вагі; адзінкі вымярэння вадкіх і сыпкіх рэчываў; грашовыя адзінкі; адзінкі лічэння; адзінкі колькасці. 2. Прыметнікі памеру: агульны памер; вышыня; даўжыня; шырыня; таўшчыня; глыбіня; вага.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Раскрыты характар узаемадзеяння паміж адзінкамі памеру, вызначана спецыфіка і разнастайнасць сэнсавых сувязей; устаноўлены крыніцы ўзнікнення адзінак памеру; прасочаны лёс тэматычнага аб'яднання памеру на працягу гістарычнага развіцця беларускай мовы, акрэслена яго тэрытарыяльнае распаўсюджанне ў межах Беларусі; вызначана семантычная структура моўных адзінак са значэннем памеру ў мове Янкі Купалы; ахарактарызаваны словаўтваральны патэнцыял лексікі памеру ў мове Янкі Купалы.

***Крыніца інфармацыі:*** Скачкова, В.А. Лексіка памеру ў мове Янкі Купалы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.А. Скачкова; ГДУ. – Гомель, 2000. – 20 с.

## 249 СКОБАР АНТАНІНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Камунікатыўна-дзейнасны падыход да вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.01 – агульная педагогіка.

***Навуковы кіраўнік:*** Ляшчынская Т.Л., к.пед.н.; ***навуковы кансультант:*** Віслабокава Н.С., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, аддзяленне дэфекталогіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.09.1998; Д 02.23.01, НІА.

***Апаненты:*** Савельева Т.М., д.псіхал.н.; Ціхамірава С.В., к.пед.н.; Акадэмія паслядыпломнай адукацыі.

***Мэта:*** Распрацаваць змест, эфектыўныя сродкі, формы, этапы навучання разумова адсталых дзяцей у ходзе рэалізацыі камунікатыўна-дзейнаснага падыходу да вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 121 с., асноўны тэкст займае 107 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 174 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Вывучэнне мовы на камунікатыўна-дзейнаснай аснове як псіхолага-педагагічная праблема: сучасныя ўяўленні аб дзейнасці і зносінах; камунікатыўная парадыгма навучання мове ў сучаснай адукацыі; праблема вывучэння мовы на камунікатыўна-дзейнаснай аснове ў тэорыі і практыцы карэкцыйнага навучання; практыка навучання мове ў дапаможнай школе. 2. Перадумовы вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе: агульная характарыстыка методыкі даследавання; характарыстыка падрыхтаванасці вучняў I – II класаў дапаможнай школы да вывучэння беларускай мовы; праграмна-метадычнае забеспячэнне вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе; лексічнае забеспячэнне вывучэння беларускай мовы ў малодшых

класах дапаможнай школы. 3. Камунікатыўна-дзейнасны падыход як сродак эфектыўнага вывучэння беларускай мовы ў малодшых класах дапаможнай школы: арганізацыя і правядзенне ўрокаў беларускай мовы на камунікатыўна-дзейнаснай аснове; карэкцыйнае навучанне мове на камунікатыўна-дзейнаснай аснове; вынікі і перспектывы вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе на камунікатыўна-дзейнаснай аснове.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлена магчымасць вывучэння беларускай мовы разумова адсталымі школьнікамі; вызначаны найбольш эфектыўныя сродкі, формы, этапы навучання, накіраваныя на рэалізацыю прынцыпу камунікатыўна-дзейнаснага падыходу да вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе; складзены лексічны мінімум па беларускай мове для малодшых школьнікаў; падрыхтаваны праграмна-метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі вучэбнага працэсу на камунікатыўна-дзейнаснай аснове.

***Крыніца інфармацыі:*** Скобар, А.М. Камунікатыўна-дзейнасны падыход да вывучэння беларускай мовы ў дапаможнай школе: аўтарэф. дыс. … канд. пед. навук: 13.00.01 / А.М. Скобар; НІА. – Мінск, 1998. – 19 с.

## 250 СМАЛЬ НАТАЛЛЯ РАМАНАЎНА

***Тэма:*** Гідранімія і айканімія Пабужжа. Праблема ўзаемадзеяння.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ АН Беларусі, аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.12.1996; Д 01.43.01, ІМ АН Беларусі.

***Апаненты:*** Мезенка Г.М., д.філал.н.; Яшкін І.Я., к.філал.н.; МазДПІ.

***Мэта:*** Правесці супастаўляльны аналіз на лексіка-семантычным і структурна-словаўтваральным узроўнях гідронімаў і айконімаў Пабужжа, паказаць агульнае і адрознае ў працэсе іх утварэння, характар узаемаўплыву і ўзаемасувязі паміж імі.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 159 с., асноўны тэкст займае 127 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 188 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Гідранімія Пабужжа: лексіка-семантычная характарыстыка гідронімаўтваральных асноў; словаўтварэнне гідронімаў. 2. Айканімія Пабужжа: лексіка-семантычная характарыстыка айконімаўтваральных асноў; словаўтварэнне айконімаў.

У дысертацыі 2 дадаткі (46 с.): «Алфавітны слоўнік гідронімаў» (уключае 608 гідронімаў басейна Заходняга Буга; поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны ідэнтыфікацыі, зоны экстралінгвстычнай інфармацыі), «Алфавітны слоўнік айконімаў» (уключае 805 назваў з 870 населеных пунктаў, зафіксаваных на

тэрыторыі Пабужжа; поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны граматычнай інфармацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны лексічны склад гідронімаў і айконімаў Пабужжа, выяўлены характар і семантыка іх асноў; паказаны агульныя і спецыфічныя рысы ў лексічным складзе ўтваральных асноў і ў прынцыпах намінацыі водных аб'ектаў і паселішчаў; праведзены структурна-словаўтваральны аналіз гідронімаў і айконімаў па словаўтваральных тыпах, вызначана семантыка словаўтваральных тыпаў кожнага з класаў; абгрунтавана храналагічная паслядоўнасць узнікнення генетычна звязаных гідронімаў і айконімаў; раскрыта сутнасць аманіміі паміж гідронімамі і айконімамі; паказаны віды трансфармацый айконімаў і гідронімаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Смаль, Н.А. Гідранімія і айканімія Пабужжа. Праблема ўзаемадзеяння: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.А. Смаль; ІМ АН Беларусі. – Мінск, 1996. – 20 с.

## 251 СНІГІРОВА НАТАЛЛЯ АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі ў польскай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.03 – славянскія мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Цыхун, Г.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел славістыкі і тэорыі мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 09.06.2009; Д 02.01.24, БДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Гушчава В.І., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Высветліць арэальна-тыпалагічную спецыфіку паўночна-ўсходніх інавацый у польскай дыялектнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 175 с., асноўны тэкст займае 115 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 299 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Арэальны аспект даследавання ўзаемадзеяння беларускай і польскай моў: з гісторыі вывучэння беларускіх арэальных уплываў на польскай моўнай тэрыторыі; вопыт арэальнай інтэрпрэтацыі. 2. Паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі ў польскай мове: фанетыка; марфалогія; лексіка і лексічная семантыка; лексіка і словаўтварэнне.

У дысертацыі 2 дадаткі (35 с.): «Карты-схемы *Паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі ў польскай мове*» (29), «Спіс выяўленых інавацыйных паўночна-ўсходніх арэальных з'яў у польскай мове».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны корпус гіпатэтычна інавацыйных моўных з'яў, лакалізаваных на паўночным усходзе генетычна польскай тэрыторыі, праведзена іх класіфікацыя па розных узроўнях мовы: фанетычным, марфалагічным, лексічным (лексіка-семантычным і лексіка-словаўтваральным);

прааналізаваны класіфікаваныя моўныя адзінкі: апісана арэальнае пашырэнне з'яў і лакалізаваны іх гіпатэтычныя цэнтры ірадыяцыі, устаноўлены характар і паходжанне інавацый, а таксама напрамкі магчымых уплываў на польскую мову; вызначаны шляхі адаптацыі новаўтварэнняў да польскамоўнага дыялектнага асяроддзя.

***Крыніца інфармацыі:*** Снігірова, Н.А. Паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі ў польскай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.03 / Н.А. Снігірова; БДУ. – Мінск, 2009. – 22 с.

## 252 СОЛОХОВ АЛЕКСЕЙ ВАСИЛЬЕВИЧ

***Тема:*** Язык старобелорусской научно-публицистической литературы на фонетико-орфографическом и морфологическом уровнях.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – языки народов СССР (белорусский язык).

***Научный руководитель:*** Аниченко В.В., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГГУ, кафедра белорусского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 18.09.1992; Д 006.15.01, ИЯ АН Беларуси.

***Оппоненты:*** Булыко А.Н., д.филол.н.; Пригодич Н.Г., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Изучить особенности языка старобелорусских научно-публицистических тестов, созданных в XVI – первой половине XVII вв.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 205 с., основной текст занимает 180 с. Список использованной литературы – 229 наименований.

Результаты исследования отражены в 2 главах. 1. Фонетико-орфографические особенности: вокализм; консонантизм. 2. Морфологические особенности: имя существительное; имена прилагательные, причастия, порядковые числительные и неличные местоимения; числительное; личные и возвратные местоимения; глагол.

***Научное значение исследования:*** Исследованы принципиальные фонетико-орфографические и морфологические особенности старобелорусских научно-публицистических тестов XVI – первой половины XVII вв.; выявлены и систематизированы в них общие закономерности и особенности; уточнено взаимоотношение традиционно-книжных и народно-разговорных языковых элементов; установлена зависимость фонетико-орфографической и морфологической систем от других языков; определено положение научно-публицистической литературы в общей системе старобелорусской письменности; раскрыт и обоснован характер языковых связей между старобелорусским и современным белорусским языком.

***Источник информации:*** Солохов, А.В. Язык старобелорусской научно-публицистической литературы на фонетико-орфографическом и морфологическом уровнях: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / А.В. Солохов; ИЯ АН Беларуси. – Минск, 1992. – 18 с.

## 253 СТАНКЕВІЧ АЛЯКСАНДРА АЛЯКСАНДРАЎНА

***Тэма:*** Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кансультант:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.12.1997; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Плотнікаў Б.А., д.філал.н.; Мезенка Г.М., д.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Паказаць асноўныя заканамернасці запазычвання і функцыянавання лексікі іншамоўнага паходжання ў народна-дыялектнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 548 с., асноўны тэкст займае 208 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 201 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Класіфікацыя запазычанняў паводле паходжання, тэматычнай характарыстыкі, часу і шляхоў засваення. 1.1. Паланізмы. 1.2. Германізмы. 1.3. Балтызмы. 1.4. Лацінізмы. 1.5. Грэцызмы. 1.6. Цюркізмы. 1.7. Гебраізмы. 1.8. Запазычанні з іншых моў. 1.8.1. Запазычанні з раманскіх моў. 1.8.2. Запазычанні з фіна-ўгорскіх моў. 1.8.3. Запазычанні з арабскай мовы. 1.8.4. Запазычанні з персідскай мовы. 2. Адаптацыя запазычанняў у народна-дыялектнай мове. 2.1. Фанетычная адаптацыя запазычанняў у беларускіх гаворках. 2.1.1. Фанетычныя змены запазычанняў у сістэме вакалізму. 2.1.2. Фанетычныя змены запазычанняў у сістэме кансанантызму. 2.1.3. Лексіка-фанетычнае вар'іраванне запазычанняў. 2.2. Марфалагічная адаптацыя запазычанняў. 2.2.1. Спосабы марфалагічнага засваення запазычанняў. 2.2.2. Лексіка-марфалагічнае вар'іраванне запазычанняў. 2.3. Словаўтварэнне запазычанняў у беларускіх гаворках. 2.3.1. Субстантыўныя дэрываты. 2.3.2. Ад'ектыўныя дэрываты. 2.3.3. Дзеяслоўныя дэрываты. 2.4. Семантычная адаптацыя запазычанняў у беларускіх гаворках. 2.4.1. Семантычная адаптацыя запазычанняў на першай ступені засваення. 2.4.2. Семантычная адаптацыя запазычанняў на другой ступені засваення. Тыпы семантычнай дэрывацыі. 2.4.3. Архаізацыя запазычанняў. 2.5. Кампанентны аналіз семантыкі запазычанняў. 2.5.1. Кампанентны аналіз запазычанняў-монасемантаў. 2.5.2. Кампанентны аналіз запазычанняў-полісемантаў. 2.6. Арэальна-тыпалагічная характарыстыка запазычанняў.

У дысертацыі 4 дадаткі (321 с.): «Праграма (мова Fox Pro 20)», «База даных праграмы», «Карты» (36), «Слоўнік» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны варыянтаў, зоны семантызацыі, зоны этымалагічнай інфармацыі, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Сістэматызавана генетычна разнастайная запазычаная ў беларускія гаворкі лексіка ў адпаведнасці з характарам і ступенню адаптацыі; дадзена іх агульная гісторыка-этымалагічная і храналагічная характарыстыка. Паказаны структурна-тыпалагічныя асаблівасці дыялектных запазычанняў. Выяўлены формы і ступені адаптацыі дыялектнай лексікі іншамоўнага паходжання, вызначана спецыфіка і адметнасці яе засваення ў народнай мове, а таксама фактары, якія абумоўліваюць гэты працэс. Распрацавана база дадзеных па вывучэнні функцыянавання і засваення запазычанай лексікі ў народную беларускую мову. Створана арэальна-тыпалагічная характарыстыка запазычанняў у беларускай дыялектнай мове.

***Крыніца інфармацыі:*** Станкевіч, А.А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / А.А. Станкевіч; БДУ. – Мінск, 1997. – 35 с.; Станкевіч, А.А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках / А.А. Станкевіч. – Гомель: Выд-ва ГДУ, 1996. – 255 с.

## 254 СТАНКЕВІЧ ЛАРЫСА ФЁДАРАЎНА

***Тэма:*** Устойлівыя адзінкі мовы ў кантэксце беларускай казкі (адносіны апазіцыйнасці).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Аляхновіч М.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БрДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 11.06.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Канцавая Г.М., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Сэнсава-структурны аналіз адносін апазіцыйнасці ўстойлівых адзінак мовы ў кантэксце беларускай казкі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 130 с., асноўны тэкст займае 92 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 278 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Апазіцыя і сэнсава-сістэмныя адносіны ўстойлівых адзінак мовы ў беларускай народнай казцы: антанімічнасць і фразеалагізмы-антонімы; варыянтнасць і фразеалагізмы-варыянты; сінанімічнасць і фразеалагізмы-сінонімы; мнагазначнасць і мнагазначныя фразеалагізмы; аманімічнасць і фразеалагізмы-амонімы; апазіцыя і устойлівыя адзінкі мовы тэматычнай групы са значэннем асобы; спалучальнасць фразеалагізмаў. 2. Апазіцыя і фармальна-сэнсавыя адносіны ўстойлівых адзінак мовы ў беларускай народнай казцы: устойлівасць – няўстойлівасць структуры ўстойлівых адзінак мовы; імпліцытнасць – экспліцытнасць; устойлівыя адзінкі мовы з адзнакай супрацьлегласці ў структуры сюжэта казкі; сэнсавая супрацьлегласць у прыказках (прымаўках). 3. Апазіцыя і культуралагічны змест

устойлівых адзінак мовы: апазіцыйнасць устойлівых адзінак мовы сэнсавага поля *дабро – зло*; апазіцыйнасць устойлівых адзінак мовы сэнсавага поля *чалавек – прырода*; апазіцыйнасць устойлівых адзінак мовы сэнсавага поля *мужчына – жанчына*; апазіцыя і міфалагемы.

У дысертацыі 3 дадаткі (20 с.): «Устойлівыя адзінкі мовы, прааналізаваныя ў главе *Апазіцыя і сэнсава-сістэмныя адносіны ўстойлівых адзінак мовы ў беларускай народнай казцы*», «Устойлівыя адзінкі мовы, прааналізаваныя ў главе *Апазіцыя і фармальна-сэнсавыя адносіны ўстойлівых адзінак мовы ў беларускай народнай казцы*», «Устойлівыя адзінкі мовы, прааналізаваныя ў главе *Апазіцыя і культуралагічны змест устойлівых адзінак мовы ў беларускай народнай казцы*».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны ўстойлівыя адзінкі мовы са значэннем апазіцыйнасці, якія ўжываюцца ў мове беларускай казкі; прааналізаваны адносіны апазіцыйнасці ўстойлівых адзінак мовы на сэнсава-сістэмным узроўні; вызначаны асаблівасці праяўлення апазіцыйнасці з улікам фармальна-сэнсавых адносін устойлівых адзінак мовы; акрэслены адносіны апазіцыйнасці ва ўстойлівых адзінках мовы культуралагічнага зместу; ахарактарызаваны асаблівасці стылістычнага выкарыстання ўстойлівых адзінак мовы з адзнакай супрацьлегласці ў беларускай казцы.

***Крыніца інфармацыі:*** Станкевіч, Л.Ф. Устойлівыя адзінкі мовы ў кантэксце беларускай казкі (адносіны апазіцыйнасці): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.Ф. Станкевіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 22 с.

## 255 СТАНКЕВИЧ ВИТАЛИЙ ЛЕОНИДОВИЧ

***Тема:*** Ментальные глаголы в русском языке: состав, структура, семантический объем (в сопоставлении с белорусским языком).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – русский язык.

***Научный руководитель:*** Шуба П.П., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра русского языка.

***Дата защиты, совет по защите:*** 26.04.1991; Д 056.03.06, БГУ.

***Оппоненты:*** Киселев И.А., д.филол.н.; Литвинко Ф.М., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Произвести системный анализ русских и белорусских глаголов, описывающих ментальную сферу внутреннего мира человека, а также выявить основные сходства и различия в отражении данной понятийной области лексикой контактирующих языков.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 191 с., основной текст занимает 171 с. Список использованной литературы – 172 наименования.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Лексико-семантический класс глаголов мыслительных действий: семантика предикатов мыслительных

действий; глаголы мыслительного процесса (гомогенной деятельности); глаголы направленного на объект мышления; глаголы мыслительного созидания. 2. Глаголы ментального акта (семантика, состав и структура): общие сведения о глаголах ментального акта; глаголы с семантикой перехода к состоянию «мнения»; глаголы с семантикой перехода к состоянию «знания». 3. Лексико-семантический класс глаголов ментального состояния.

***Научное значение исследования:*** Изучены русские и белорусские ментальные глаголы в зависимости от их конкретной семантики, определена их структурная организация; охарактеризованы основные типы ментальных предикатов; выявлены и описаны семантические признаки русской и белорусской глагольных микросистем; установлен характер смысловых отношений между конституентами микросистем; выявлены основные сходства и различия в отражении ментальной сферы сознания русской и белорусской глагольной лексикой.

***Источник информации:*** Станкевич, В.Л. Ментальные глаголы в русском языке: состав, структура, семантический объем (в сопоставлении с белорусским языком): автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.01 / В.Л. Станкевич; БГУ. – Минск, 1991. – 28 с.

## 256 СТАРАСЦЕНКА ТАЦЦЯНА ЯЎГЕНАЎНА

***Тэма:*** Лексіка-стылістычныя сродкі рэалізацыі кантрасту (на матэрыяле твораў Алеся Разанава).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Міхайлаў П.А., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.04.2002; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Іўчанкаў В.І., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Аналіз лексіка-стылістычных сродкаў рэалізацыі кантрасту ў мове паэтычных твораў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 137 с., асноўны тэкст займае 97 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 185 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Лінгвістычны аспект вывучэння лексіка-стылістычных сродкаў рэалізацыі кантрасту: праблема антонімаў у мовазнаўстве; пытанні суадносін антанімічных і кантэкстуальных апазіцый у лінгвістыцы; разнавіднасці кантэкстуальных супрацьпастаўленняў; праблема стылістычных сродкаў перадачы кантрасту ў мовазнаўчай навуцы. 2. Аксюмаран у мове твораў Алеся Разанава: аксюмаран на ўзроўні складанага слова; аксюмаран на ўзроўні спалучэння слоў; аксюмаран на ўзроўні словазлучэння; аксюмаран на ўзроўні сказа; аксюмаран на ўзроўні твора. 3. Антанімічныя і кантэкстуальныя апазіцыі антытэзы: антыномія *жыццё – смерць*; антыномія *святло – цемра*;

антыномія *мінулае – будучае*; антыномія *дзень – ноч*; антыномія *многа – мала*. 4. Акратэза, альтэрнатэза, амфітэза, дыятэза, антыменабала як стылістычныя сродкі рэалізацыі кантрасту: акратэза як стылістычны сродак рэалізацыі кантрасту; альтэрнатэза як стылістычны сродак рэалізацыі кантрасту; амфітэза як стылістычны сродак рэалізацыі кантрасту; дыятэза як стылістычны сродак рэалізацыі кантрасту; антыменабала як стылістычны сродак рэалізацыі кантрасту.

У дысертацыі ўтрымліваецца дадатак (27 с.) – «Слоўнік антанімічных і кантэкстуальных апазіцый Алеся Разанава» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Манаграфічна даследаваны антонімы і тыпалагічныя разнавіднасці кантэкстуальных супрацьпастаўленняў, вызначана сутнасць заснаваных на іх стылістычных фігур; прааналізаваны ўзроўні функцыянавання аксюмарана, прадметна-тэматычныя групы антытэзы; створаны «Слоўнік антанімічных і кантэкстуальных апазіцый Алеся Разанава», які з'яўляецца першым у сучаснай філалогіі лексікаграфічным даведнікам, дзе характарызуюцца кантрасныя моўныя адзінкі аднаго пісьменніка.

***Крыніца інфармацыі:*** Старасценка, Т.Я. Лексіка-стылістычныя сродкі рэалізацыі кантрасту (на матэрыяле твораў Алеся Разанава): аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.Я. Старасценка; БДПУ. – Мінск, 2001. – 16 с.

## 257 СТАРЖЫНСКАЯ НАТАЛЛЯ СЦЯПАНАЎНА

***Тэма:*** Асновы развіцця беларускага маўлення і навучання роднай мове дашкольнікаў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.пед.н.: 13.00.07 – тэорыя і методыка дашкольнай адукацыі.

***Навуковы кансультант:*** Супрун А.Е., д.філал.н., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра методык дашкольнага выхавання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.02.1998; Д 02.21.02, БДПУ.

***Апаненты:*** Богуш А.М., д.пед.н.; Пратасава К.Ю., д.пед.н.; Савельева Т.М., д.пед.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Распрацаваць тэарэтычныя і метадычныя асновы развіцця беларускага маўлення і навучання рускамоўных дзяцей дашкольнага ўзросту беларускай мове як роднай.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 270 с., асноўны тэкст займае 220 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 328 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 частках і 7 раздзелах. Частка 1. Дзіцячае маўленне: механізмы і ўмовы авалодання роднай і другімі мовамі. 1. Псіхалінгвістычныя фактары моўнага навучання. 1.1. Маўленчая дзейнасць як

аб’ект навучання ў дашкольным узросце. 1.2. Механізмы авалодання роднай і другой мовамі. 1.3. Развіццё маўлення школьніка як сродку камунікацыі. 2. Білінгвізм у дашкольным узросце. 2.1. Псіхолага-лінгвістычная характарыстыка білінгвізму. 2.2. Праблемы ранняга двухмоўя. Частка 2. Канцэптуальныя асновы беларускамоўнага развіцця дашкольнікаў. 3. Роля і месца беларускай мовы ў сістэме дашкольнага выхавання. 3.1. Сацыялінгвістычная сітуацыя на Беларусі. 3.2. Асаблівасці руска-беларускага двухмоўя ў дашкольнікаў. 3.3. Асноватворныя палажэнні беларускамоўнага развіцця дашкольнікаў. 4. Інструментальная мадэль навучання дашкольнікаў беларускай мове ў дзіцячым садзе. 4.1. Стратэгія навучання дашкольнікаў беларускай мове. 4.2. Матывацыя маўлення дашкольнікаў на беларускай мове. 4.3. Сістэматызацыя зместу маўленчай работы ў нацыянальным дзіцячым садзе. Частка 3. Асноўныя напрамкі работы па развіцці беларускага маўлення ў дашкольнікаў. 5. Шляхі рэалізацыі камунікатыўнага напрамку ў азвіцці беларускага маўлення дзяцей. 5.1. Фарміраванне ў дзяцей ранняга ўзросту пачуццёвай асновы беларускага маўлення. 5.2. Развіццё беларускага маўлення дашкольнікаў у спантанных зносінах. 5.3. Арганізацыя беларускамоўных зносін дзяцей на спецыяльных занятках. 6. Фарміраванне практычных маўленчых навыкаў. 6.1. Развіццё беларускага слоўніка дзяцей. 6.1.1. Асаблівасці лексікі беларускай мовы і значэнне слоўнікавай работы. 6.1.2. Адбор лексічнага матэрыялу. 6.1.3. Асаблівасці методыкі слоўнікавай работы. 6.2. Фарміраванне граматычнага ладу маўлення. 6.2.1. Адбор граматычнага матэрыялу. 6.2.2. Паслядоўнасць навучання дашкольнікаў асаблівасцям беларускай граматыкі. 6.2.3. Фарміраванне граматычных навыкаў: словазмяненне, сінтаксіс, словаўтварэнне. 6.3. Фарміраванне навыкаў вымаўлення. 6.3.1. Адбор і паслядоўнасць увядзення фанемных адзінак. 6.3.2. Фарміраванне правільнага вымаўлення спецыфічна беларускіх гукаў. 6.3.3. Работа над беларускай арфаэпіяй. 6.4. Развіццё прадуктыўнага маўлення. 6.4.1. Асноўныя прынцыпы фарміравання дыялагічнага і маналагічнага маўлення на беларускай мове. 6.4.2. Развіццё вобразнасці маўлення ў старэйшых дашкольнікаў 6.4.3. Агульныя вынікі эксперыментальнага даследавання. 7. Фарміраванне лінгвістычных адносін да мовы ў дзяцей 5 – 6 год. 7.1. Элементарнае асэнсаванне дзецьмі моўных з’яў. 7.2. Навучанне дашкольнікаў элементам арфаграфіі. 7.2.1. Фарміраванне ўяўленняў аб уласных імёнах. 7.2.2. Фарміраванне ў дашкольнікаў фаналагічных уяўленняў. 7.3. Устанаўленне сінтаксічных адносін як асновы авалодання звязным чытаннем.

У дысертацыі 7 дадаткаў (29 с.): «Лексічны мінімум выхавальніка па фізічнай культуры», «Лексічны мінімум па тэме *Дзікія жывёлы*», «Граматычныя гульні і практыкаванні па навучанні дзяцей утварэнню давальнага склону назоўнікаў», «Фанетычныя гульні і практыкаванні па фарміраванні ў дзяцей правільнага вымаўлення гукаў [г], [ґ]», «Канспекты заняткаў па тэме *Свойскія жывёлы і птушкі*» для дзіцячых садоў з рускай мовай выхавання і навучання (сярэдняя

група)», «Прыкладныя канспекты заняткаў для дзіцячых садоў з беларускім моўным рэжымам (старэйшая група)», «Апавяданні па сюжэнтным малюнку выхаванцаў эксперыментальнай групы д / с № 447 г. Мінск».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Тэарэтычна распрацаваны асаблівасці беларуска-рускага двухмоўя дзяцей дашкольнага ўзросту, спецыфіка працэсу навучання рускамоўных дзяцей беларускаму маўленню. Створана і эксперыментальна праверана методыка навучання дашкольнікаў беларускаму маўленню ў дзіцячым садзе. Вызначаны змест развіцця беларускага маўлення і навучання беларускай мове рускамоўных дашкольнікаў, акрэслены крытэрыі адбору лексічнага, фанетычнага і граматычнага матэрыялу. Выдзелены этапы і вызначаны ўзроўні развіцця беларускага маўлення ў дашкольнікаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Старжынская, Н.С. Асновы развіцця беларускага маўлення і навучання роднай мове дашкольнікаў: аўтарэф. дыс. … д-ра пед. навук: 13.00.07 / Н.С. Старжынская; БДПУ. – Мінск, 1998. – 37 с.; Старжынская, Н.С. Дыдактычныя гульні ў дзіцячым садзе / Н.С. Старжынская, Я.І. Удальцова. – Мінск: Народная асвета, 1988. – 111 с.; Старжынская, Н.С. Уводзіны ў методыку развіцця маўлення / Н.С. Старжынская. – Мінск: Выд-ва БДПУ, 1994. – 72 с.; Старжынская, Н.С. Беларуская мова ў дзіцячым садзе / Н.С. Старжынская. – Мінск: Народная асвета, 1995. – 159 с.; Старжынская, Н.С. Навучанне дашкольнікаў роднай мове / Н.С. Старжынская. – Мінск: Народная асвета, 1995. – 104 с.; Старжынская, Н.С. Тэарэтычныя асновы развіцця беларускага маўлення і навучання роднай мове дашкольнікаў / Н.С. Старжынская. – Мінск: Выд-ва БДПУ, 1997. – 106 с.

## 258 СТАРЫЧОНАК ВАСІЛЬ ДЗЯНІСАВІЧ

***Тэма:*** Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра рускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.01.1998; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.; Плотнікаў Б.А., д.філал.н.; Літвін Ф.А., д.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Зыходзячы з тэарэтычнай канцэпцыі аб сістэмнасці лексічнага складу мовы, вызначыць асноўныя заканамернасці і кірункі сэнсавага развіцця полісемантычных субстантываў, выявіць спецыфіку іх выяўлення ў розных каардынатах лінгвістычнай прасторы, розных тэматычных групах і літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 233 с., асноўны тэкст займае 205 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 507 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 6 раздзелах. 1. Полісемія як семантычная ўніверсалія. 1.1. Значэнне слова. 1.1.1. Канататыўны аспект лексічнага зна-

чэння. 1.1.2. Класіфікацыя значэнняў. 1.2. Асноўныя тыпы полісеміі. 2. Метафара. 2.1. Пераасэнсаванні па вонкавым падабенстве. 2.2. Пераасэнсаванні па размяшчэнні ў прасторы. 2.3. Часавыя пераасэнсаванні. 2.4. Функцыянальныя пераасэнсаванні. 2.5. Пераасэнсаванні па спосабе вытворчасці, матэрыяле. 2.6. Гукавыя пераасэнсаванні. 2.7. Якасныя пераасэнсаванні. 2.8. Квантытатыўныя пераасэнсаванні. 2.9. Пераасэнсаванні па памеры, велічыні. 2.10. Анімістычныя метафары. 2.10.1. Заамарфізмы. 2.10.2. Анімістычныя пераасэнсаванні найменняў розных тэматычных груп. 2.10.2.1. Метафары, якія характарызуюць асобу з пункту гледжання яе вонкавага выгляду. 2.10.2.2. Метафары, якія характарызуюць асобу з пункту гледжання яе псіхічнага складу, разумовых здольнасцей, рысаў характару. 2.10.2.3. Метафары, якія характарызуюць асобу з пункту гледжання яе паводзін, маралі, спосабу жыцця, дзеянняў і ўчынкаў. 2.11. Антрапамарфічныя метафары. 2.12. Заанімічныя метафары. 2.13. Саматычныя пераасэнсаванні. 3. Структуры з адносінамі сумежнасці. 3.1. Метанімія. 3.1.1. Прасторавая метанімія. 3.1.2. Тэмпаральная метанімія. 3.1.3. Каўзальная метанімія. 3.1.4. Атрыбутыўная метанімія. 3.1.5. Апелятыўная метанімія. 3.2. Сінекдаха. 4. Структуры з адносінамі ўключэння і контрадыкторнасці. 4.1. Гіпанімія. 4.2. Энантыясемія. 5. Полісемія вытворных субстантываў. 5.1. Асаблівасці сэнсавых структур вытворных полісемантаў. 5.2. Асноўныя групы вытворных субстантываў. 6. Полісемантычныя субстантывы ў пагранічным рэгіёне. 6.1. Асноўныя разнавіднасці запазычанняў. 6.2. Асаблівасці сэнсавых структур у пагранічным рэгіёне і яго асобных дыялектных кантынуумах.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна даследавана полісемія ў беларускай дыялектнай мове. Выяўлены кірункі сэнсавага развіцця структур з адносінамі метафарычнасці, сумежнасці, уключэння, контрадыкторнасці і марфемнай вытворнасці, а таксама іх спецыфікі ў розных каардынатах лінгвістычнай прасторы, розных тэматычных групах і літаратурнай мове. Вывучаны асаблівасці полісемантычных субстантываў на беларуска-літоўска-польскім пагранíччы і яго асобных кантынуумах.

***Крыніца інфармацыі:*** Старычонак, В.Д. Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў): аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.Д. Старычонак; БДУ. – Мінск, 1997. – 36 с.; Старычонак, В.Д. Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў) / В.Д. Старычонак. – Мінск: Выд-ва БДПУ, 1997. – 232 с.

## 259 СТРУКАВА СВЯТЛАНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Пераемнасць і эвалюцыя лексічных традыцый у беларускай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.
***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 119 с., асноўны тэкст займае 102 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 138 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Фанетыка-акцэнталагічнае афармленне іншамоўнай лексікі ў беларускіх народных гаворках: акцэнталагічнае афармленне паланізмаў; акцэнталагічнае афармленне лацінізмаў; акцэнталагічнае афармленне галіцызмаў; акцэнталагічнае афармленне германізмаў; акцэнталагічнае афармленне грэцызмаў; акцэнталагічнае афармленне цюркізмаў; акцэнталагічнае афармленне літуанізмаў; акцэнталагічнае афармленне italьянізмаў. 2. Фанетыка-акцэнталагічнае афармленне ўсходнеславянскай лексікі ў беларускіх народных гаворках: акцэнталагічнае афармленне дыялектных назоўнікаў; акцэнталагічнае афармленне дыялектных прыметнікаў.

У дысертацыі 1 дадатак (7 с.) – «Слоўнік націску іншамоўнай лексікі ў беларускай літаратурнай і народна-дыялектнай мовах» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны функцыянальна-стылістычнай інфармацыі, зоны варыянтаў, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Ахарактарызавана акцэнталагічнае афармленне іншамоўных і ўсходнеславянскіх лексем у залежнасці ад асноўных лексіка-граматычных класаў; выяўлена ступень уздзеяння на акцэнталагічнае афармленне лексем фанетыка-дэрывацыйна-марфалагічных паказчыкаў, а таксама фактару аналогіі; выяўлены і прааналізаваны прычыны ўзнікнення акцэнталагічных варыянтных утварэнняў і вызначаны тэндэнцыі іх далейшага развіцця і ўзаемаадносін з літаратурнай нормай.

***Крыніца інфармацыі:*** Федарцова, К.Р. Фанетыка-акцэнталагічны аспект вывучэння беларускіх народных гаворак: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / К.Р. Федарцова; ГДУ. – Гомель, 2002. – 20 с.

## 277 ФУРС ВОЛЬГА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Сучасныя беларускія пераклады Евангелля паводле Мацвея: характар і фактары варыянтнасці выкладаў аднаго зместу ў тэкстах розных тыпаў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Мячкоўская Н.Б., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел славістыкі і тэорыі мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.06.2009; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Важнік С.А., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Выявіць заканамернасці моўнай варыянтнасці ў сучасных беларускіх перакладах Евангелля паводле Мацвея з улікам жанрава-стылістычнага тыпу тэксту, з вызначэннем зон моцнага і слабага вар'іравання, а таксама з вылучэннем фактараў вар'іравання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 342 с., асноўны тэкст займае 115 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 215 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Варыянтнасць біблійных перакладаў як адна з праблем сучаснай беларускай біблеістыкі: тэма «Мова і царква» ў беларусістыцы, яе аспекты і напрамкі даследаванняў; сучасныя беларускія пераклады Евангелля паводле Мацвея: умовы стварэння і прыняцця царквой і грамадствам; прырода варыянтнасці пры выкладзе аднаго зместу і асаблівасці варыянтнасці ў дачыненні да кананічных тэкстаў; магчымасці даследавання моўнай варыянтнасці на матэрыяле беларускіх перакладаў Евангелля паводле Мацвея. 2. Афарыстычныя (узнаўляльныя) выказванні ў беларускіх перакладах Евангелля паводле Мацвея: фанетыка-акцэнталагічныя рысы; марфалагічныя рысы; лексічныя і лексіка-стылістычныя рысы; сінтаксічныя рысы. 3. Моўныя адрозненні паміж перакладамі наратыўных фрагментаў з Евангелля паводле Мацвея: фанетыка-акцэнталагічныя рысы; марфалагічныя змены; лексічныя і лексіка-стылістычныя рысы; сінтаксічныя рысы. 4. Моўныя адрозненні паміж перакладамі аргументатыўных фрагментаў Евангелля паводле Мацвея: фанетыка-акцэнталагічныя рысы; марфалагічныя рысы; лексічныя і лексіка-стылістычныя рысы; сінтаксічныя рысы.

У дысертацыі 5 дадаткаў, якія аформлены асобнай кнігай (200 с.): «Постаці беларускіх перакладчыкаў Бібліі XX – XXI стст. і ўмовы стварэння перакладаў», «Статыстычныя праверкі надзейнасці колькасных характарыстык вар'іравання ў беларускіх перакладах Евангелля паводле Мацвея», «Пяцьдзясят біблійных афарызмаў з Евангелля паводле Мацвея ў дзевяці перакладах на сучасную беларускую мову», «Пяцьдзясят наратыўных фрагментаў з Евангелля паводле Мацвея ў дзевяці перакладах на сучасную беларускую мову», «Пяцьдзясят аргументыўных фрагментаў з Евангелля паводле Мацвея ў дзевяці перакладах на сучасную беларускую мову».

***Навуковае значэнне даследавання:*** На аснове комплекснага аналізу дзевяці перакладаў Евангелля паводле Мацвея (афарыстычных, наратыўных і аргументатыўных фрагментаў) на сучасную беларускую мову з прыцягненнем грэчаскіх, лацінскіх, царкоўнаславянскіх і польскіх тэкстаў выяўлены адрозненні на фанетыка-акцэнталагічным, марфалагічным, лексічным і сінтаксічным узроўнях; вызначаны фактары, якія абумоўліваюць тэкставае вар'іраванне ў перакладах; прааналізавана сувязь паміж прыналежнасцю біблійнага тэксту да пэўнага жанрава-стылістычнага тыпу і характарам вар'іравання; паказана ступень залежнасці каталіцкіх і праваслаўных перакладаў ад іншамоўных.

***Крыніца інфармацыі:*** Фурс, В.У. Сучасныя беларускія пераклады Евангелля паводле Мацвея: характар і фактары варыянтнасці выкладаў аднаго зместу ў тэкстах розных тыпаў: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / В.У. Фурс; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2009. – 22 с.

## 278 ХАЗАНАВА КАЦЯРЫНА ЛЬВОЎНА

***Тэма:*** Моўнае вар’іраванне перакладаў Янкі Купалы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 22.12.2000; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Дзянісаў У.С., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Устанаўленне рэгулярных і нерэгулярных спосабаў і заканамернасцей перакладу на беларускую мову слоў і іх тэматычных груп, а таксама шляхоў перадачы значэння некаторых моўных формаў і структур.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 121 с., асноўны тэкст займае 102 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 155 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Моўнае вар’іраванне перакладаў з рускай мовы: моўныя адметнасці перакладу «Слова пра паход Ігаравы»; прынцыпы ўвасаблення беларускімі моўнымі сродкамі рускай класічнай паэзіі; моўныя асаблівасці перакладу паэмы Пушкіна «Медны коннік». 2. Моўнае вар’іраванне перакладаў з украінскай мовы: семантычная суаднесенасць і лексіка-граматычная варыянтнасць; нацыянальная спецыфіка «Кабзара». 3. Моўнае вар’іраванне перакладаў з польскай мовы: моўная спецыфіка перакладу паэзіі Адама Міцкевіча; моўныя асаблівасці перакладу польскай драматургіі; лексічныя запазычанні польска-беларускіх перакладаў Купалы.

У дысертацыі 1 дадатак (10 с.) – «Паказальнік варыянтаў перакладу».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Распрацаваны метады тэкставага супастаўлення лексіка-семантычнай, структурна-граматычнай і вобразна-стылістычнай спецыфікі беларускай мовы адносна роднасных ёй славянскіх моў на аснове канкрэтных перакладных мастацкіх твораў; выдзелена ступень суаднесенасці граматык славянскіх моў, прагматыка моўных адрозненняў, роля разыходжанняў у стварэнні спецыфікі кожнай з моў-удзельніц перакладной камунікацыі на фоне іх генетычнай агульнасці.

***Крыніца інфармацыі:*** Хазанава, К.Л. Моўнае вар’іраванне перакладаў Янкі Купалы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01. / К.Л. Хазанава; ГДУ. – Гомель, 2000. – 20 с.

## 279 ХАРТАНОВІЧ ЛІЛІЯ ГЕОРГІЕЎНА

***Тэма:*** Дзеяслоўная сінаніміка ў «Палескай хроніцы» І. Мележа.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Падлужны А.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 22.03.2002; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.; Красней В.П., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Даць сістэмнае апісанне дзеяслоўных сінонімаў розных лексіка-семантычных груп у трылогіі І. Мележа «Палеская хроніка», вызначыць склад сінанімічных радоў і ролю дзеяслоўнай сінаніміі ў гэтым творы.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 121 с., асноўны тэкст займае 103 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 210 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Тэарэтычныя перадумовы даследавання: крытэрыі вывучэння сінонімаў; сінанімічны рад, дамінанта сінанімічнага рада; спалучальнасць і сінанімія; лексіка-семантычныя групы і сінанімія; варыянтнасць і сінанімія; мнагазначнасць і сінанімія; лексічная сінанімія; крыніцы сінонімаў; дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні і сінанімія. 2. Дзеяслоў у «Палескай хроніцы» І. Мележа: прэфіксацыя як сродак узбагачэння сінанімічных радоў дзеясловаў; індывідуальна-вобразнае пераасэнсаванне дзеяслова ў «Палескай хроніцы»; абсалютныя, другасныя і індывідуальна-аўтарскія сінонімы ў «Палескай хроніцы». 3. Склад дзеяслоўнай сінанімікі ў «Палескай хроніцы» І. Мележа: сінанімічныя рады ў лексіка-семантычных групах дзеясловаў маўлення; сінанімічныя рады ў лексіка-семантычных групах дзеясловаў руху; сінанімічныя рады ў лексіка-семантычных групах дзеясловаў са значэннем разумовай дзейнасці; сінанімічныя рады ў лексіка-семантычных групах дзеясловаў эмацыянальнага стану і пачуцця.

У дысертацыі 1 дадатак (6 с.) – «Прадметны паказальнік дзеясловаў, дзеяслоўных фразеалагізмаў, дзеяслоўна-іменных словазлучэнняў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле «Палескай хронікі» І. Мележа апісаны сінанімічныя рады ў лексіка-семантычных групах дзеясловаў маўлення, руху, разумовай дзейнасці, эмацыянальнага стану і пачуцця; дадзена характарыстыка сінанімічных адносін дзеясловаў розных лексіка-семантычных груп; паказана роля прэфіксацыі для ўзбагачэння семантыкі дзеяслова і фарміравання новых сінанімічных радоў; выяўлена значэнне дыялектных дзеясловаў у складзе сінанімічных радоў; паказаны адметнасці ўжывання дзеяслова ў мастацкім тэксце; акрэслены стылістычныя функцыі сінанімічных дзеясловаў; вызначаны адметныя рысы мовы трылогіі.

***Крыніца інфармацыі:*** Хартановіч, Л.Г. Дзеяслоўная сінаніміка ў «Палескай хроніцы» І. Мележа: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.Г. Хартановіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2002. – 20 с.

## 280 ХАРЧАНКА АЛА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Дзеяслоўная сінаніміка ў творах Кузьмы Чорнага.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Падлужны А.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 12.03.1999; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Лазоўскі У.М., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Аналіз дзеяслоўнай сінанімікі, вызначэнне яе стылістычнай ролі ў мастацкіх творах Кузьмы Чорнага.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 109 с., асноўны тэкст займае 96 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 117 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Асаблівасці стылю Кузьмы Чорнага: тэарэтычныя перадумовы даследавання; тэксталагічныя назіранні над дзеясловамі ў розных рэдакцыях апавядання «Срэбра жыцця», сінанімічныя замены дзеясловаў у апавяданні. 2. Склад дзеяслоўнай сінанімікі: прыставачныя дзеясловы ў дзеяслоўнай сінаніміцы Кузьмы Чорнага; сінанімічныя адносіны паміж фразеалагічнымі адзінкамі, дзеяслоўна-іменнымі словазлучэннямі і дзеясловамі ў творах Кузьмы Чорнага; асаблівасці ўжывання дзеепрыметнікаў у беларускай мове, сінанімізацыя дзеепрыметнікаў і апісальных зваротаў у творах Кузьмы Чорнага. 3. Функцыі дзеяслоўных сінонімаў у мастацкіх творах Кузьмы Чорнага: сінанімічныя дзеясловы, якія абазначаюць працэс маўлення; функцыі дзеяслоўных сінонімаў у творах Кузьмы Чорнага.

У дысертацыі 1 дадатак (6 с.) – «Паказальнік дзеяслоўных адзінак, разглядаемых у дысертацыі».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены дзеяслоўныя сінонімы ў мастацкіх творах Кузьмы Чорнага, вызначана іх стылістычная роля ў кантэксце; даказана, што дзеяслоўная сінаніміка павінна ўключаць не толькі асобныя дзеясловы, але і дзеяслоўныя фразеалагізмы, дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні; разгледжана сінаніміка дзеепрыметных словазлучэнняў і апісальных зваротаў; апісана адна з характэрных асаблівасцей стылю Кузьмы Чорнага – двухпрыставачныя дзеясловы, пры ўжыванні якіх дасягаецца выразнасць мовы пры найменшай затраце моўных сродкаў.

***Крыніца інфармацыі:*** Харчанка, А.М. Дзеяслоўная сінаніміка ў творах Кузьмы Чорнага: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Харчанка; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 1999. – 19 с.

## 281 ХЛУСЕВІЧ ІРЫНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Варыянтнасць фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лепешаў І.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.02.2001; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Аксамітаў А.С., д.філал.н.; Берднік С.К., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Даць сістэмнае апісанне варыянтнасці фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 113 с., асноўны тэкст займае 96 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 127 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. З гісторыі вывучэння фразеалагічнай варыянтнасці: даследаванне варыянтнасці фразеалагізмаў у рускім мовазнаўстве; вывучэнне фразеалагічнай варыянтнасці ў беларускім мовазнаўстве. 2. Адлюстраванне варыянтнасці фразеалагізмаў у слоўніках і тыпы варыянтаў: фразеалагічная варыянтнасць у слоўніках; тыпы фразеалагічных варыянтаў і моўныя паказчыкі варыянтнасці і сінанімічнасці ў фразеалогіі. 3. Лексічныя варыянты фразеалагізмаў. 4. Фармальныя варыянты фразеалагізмаў: акцэнтныя варыянты; фанетычныя варыянты; акцэнтна-фанетычныя варыянты; словаўтваральныя варыянты; марфалагічныя варыянты. 5. Канструктыўна-колькасныя і камбінаваныя варыянты фразеалагізмаў: канструктыўна-колькасныя варыянты; камбінаваныя варыянты.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Апісаны тыпы варыянтаў фразеалагізмаў; вызначаны прычыны ўзнікнення і існавання варыянтных радоў; даследавана ступень схільнасці да вар'іравання ў тых ці іншых фразеалагічных групах, разрадах, а таксама сярод фразеалагічных кампанентаў, суадносных з назоўнікамі, дзеясловамі і іншымі часцінамі мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Хлусевіч, І.М. Варыянтнасць фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / І.М. Хлусевіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2001. – 21 с.

## 282 ХОЛЯВКО ЕЛЕНА ИВАНОВНА

***Тема:*** Вторичные номинации с исходным значением 'кривой, гнутый' в русском и белорусском языках (на этнокультурном фоне).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – русский язык; 10.02.02 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Коваль В.И., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГГУ, кафедра русского, общего и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 22.12.1995; Д 056.03.06, БГУ.

***Оппоненты:*** Михневич А.Е., д.филол.н.; Климчук Ф.Д., к.филол.н.; ГрГУ.

***Цель:*** Семантический анализ вторичных номинаций, сформировавшихся на основе представлений древних славян о кривизне, изогнутости; выявление закономерностей образования номинаций, мотивированных этнокультурной действительностью.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 135 с., основной текст занимает 120 с. Список использованной литературы – 115 наименований.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Краткий обзор литературы по теме исследования. 2. Обоснование выбора направления исследования и методика его проведения. 3. Основные направления семантического развития лексем с исходным значением ‘кривой, гнутый’: лексемы со значением ‘болеть, умирать’; лексемы, выражающие поведенческие характеристики человека; абстрактная лексика, сложившаяся на основе представлений о кривизне, изогнутости; наименования мифологических существ; лексика, связанная с любовно-брачными отношениями.

***Научное значение исследования:*** Выявлена специфика системной организации вторичных образований, их отношения к экстралингвистической действительности, отражения в сознании носителя языка; раскрыт механизм формирования переносного смысла в сознании индивида; выделен компонент семантики исходного значения, непосредственно осуществляющий семантическое преобразование; определены основные направления семантического развития лексем с исходным значением ‘гнуть, кривить; крутить; вязать, вить, плести’; реконструирован характер мотивированности значения слова и его изменения в результате внутриязыковых и внеязыковых процессов, приводящих в действие деривационный механизм; выявлено соотношение языкового и экстралингвистического уровней, отраженных в семантике слова.

***Источник информации:*** Холявко, Е.И. Вторичные номинации с исходным значением ‘кривой, гнутый’ в русском и белорусском языках (на этнокультурном фоне): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01; 10.02.02 / Е.И. Холявко; БГУ. – Минск, 1995. – 20 с.

## 283 ХРОМЧАНКА АЛЬБІНА РЫШАРДАЎНА

***Тэма:*** Паўночна-мастоўскія гаворкі (арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Цыхун, Г.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускай мовы і методыкі яе выкладання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 05.04.2001; К 02.21.01, БДПУ.

***Апаненты:*** Выгонная Л.Ц., д.філал.н.; Трайкоўская В.П., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Выяўленне найбольш характэрных фанетычных, словаўтваральных, марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцяў паўночна-мастоўскіх гаворак і ўстанаўленне іх магчымага паходжання ў арэальным, тыпалагічным і генетычным аспектах.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 143 с., асноўны тэкст займае 102 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 128 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Фанетычныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак: уступныя заўвагі; фанетычныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак, характэрныя для паўднёва-заходняга дыялекту; з'ява аферэзісу ў паўночна-мастоўскіх гаворках; страта фрыкатыўнага гука [*h*] у абсалютным пачатку слова; сцяжэнне гукаў на канцы запазычаных слоў тыпу *станца*; падаўжэнне зычнага гука *з* у абсалютным пачатку слова. 2. Асаблівасці словаўтварэння ў паўночна-мастоўскіх гаворках: словаўтваральныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак, характэрныя для паўднёва-заходняга дыялекту; словаўтварэнне назоўніка *дзяўчук*; словаўтварэнне назоўніка *агоньчык*; утварэнне формаў назоўніка *жыццё*; спецыфіка дыстрыбуцыі некаторых дзеяслоўных прэфіксаў; словаўтварэнне якасных прыслоўяў тыпу *верня*; утварэнне прыслоўя *раньшай* са значэннем «некалі, даўней». 3. Марфалагічныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак: марфалагічныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак, характэрныя для паўднёва-заходняга дыялекту; адпрыметнікавыя назоўнікі на *-істы* / *-ысты*; дзеясловы 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу на *-ці*; формы роднага і давальнага склонаў указальнага займенніка *той*; рэшткі парнага ліку ў паўночна-мастоўскіх гаворках; форма роднага склону пэўна-колькаснага лічэбніка *двох*; форма назоўнага склону зборнага лічэбніка *двох*. 4. Сінтаксічныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак: сінтаксічныя асаблівасці паўночна-мастоўскіх гаворак, характэрныя для паўднёва-заходняга дыялекту; сінтаксічныя канструкцыі тыпу *казаць на яго*; сінтаксічныя канструкцыі тыпу *паехаць на Польшчу*; сінтаксічныя канструкцыі тыпу *баліць мне галава*; сінтаксічныя канструкцыі тыпу *прыехаць з машынаю*; сінтаксічныя канструкцыі тыпу *з рызіначкамі зацягняно*; сінтаксічныя канструкцыі з паўторнымі прыназоўнікамі; сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам *аб* (*ап*).

У дысертацыі 2 дадаткі (33 с.): «Слоўнік» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны семантызацыі, зоны ілюстрацый, зоны пашпартызацыі), «Узоры транскрыбаваных дыялектных тэкстаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны комплекс спецыфічных моўных з'яў паўночна-мастоўскіх гаворак з арэальнага, генетычнага і тыпалагічнага пунктаў гледжання; выяўлены адметныя, не адзначаныя дагэтуль на Мастоўшчыне моўныя асаблівасці на фанетычным, словаўтваральным, марфалагічным і сінтаксічным узроўнях, акрэслены арэал іх ужывання як у межах беларускіх гаворак, так і на суседніх дыялектных і іншамоўных тэрыторыях, дадзена інтэрпрэтацыя выяўленым фактам супадзення ці адрознення, паказана месца паўночна-мастоўскіх гаворак у кантэксце іншых гаворак і моў, а таксама магчымы кірунак іх далейшага развіцця.

***Крыніца інфармацыі:*** Хромчанка, А.Р. Паўночна-мастоўскія гаворкі (арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка): аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / А.Р. Хромчанка; БДПУ. – Мінск, 2001. – 20 с.

## 284 ЦАЛКО ЛЮДМІЛА ВАЛЕР'ЕЎНА

***Тэма:*** Сістэмныя метафары ў паэтычным тэксце і іх трансфармацыя пры перакладзе (на матэрыяле твораў А. Пушкіна і іх перакладаў на беларускую мову).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова; 10.02.02 – руская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Равуцкі А.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускага моваэнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.01.2008; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Гіруцкі А.А., д.філал.н.; Махонь С.У., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Вызначэнне асаблівасцей сістэмнай арганізацыі метафарычных сродкаў у мове твораў А.Пушкіна і спосабаў трансфармацыі метафар пры перакладзе на беларускую мову.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 120 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 158 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Агульныя праблемы вывучэння вобразна-метафарычных сродкаў у арыгіналах і перакладах на беларускую мову: крыніцы пушкінскіх метафар; асновы сістэмнага даследавання метафар; вобразна-метафарычныя сродкі А. Пушкіна як аб'ект перакладу на беларускую мову. 2. Сістэмныя метафары А. Пушкіна і тыпы іх трансфармацыі ў перакладах на беларускую мову.

У дысертацыі 2 дадаткі (2 с.): «Схема семантычных сувязей у сістэме метафарычных парадыгмаў з расшыранай зонай левага элемента», «Тыпы адпаведнасцей у перакладах метафар А. Пушкіна на беларускую мову».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны асаблівасці сістэмнай арганізацыі метафарычных сродкаў у мове твораў А. Пушкіна і спосабы трансфармацыі метафар пры перакладзе на беларускую мову; устаноўлены лексічны склад метафар А. Пушкіна і асаблівасцей іх сістэмных сувязей; вызначаны тыпы адпаведнасцей метафар А. Пушкіна пры перакладзе на беларускую мову на ўзроўні асобных метафарычных адзінак і іх сістэм.

***Крыніца інфармацыі:*** Цалко, Л.В. Сістэмныя метафары ў паэтычным тэксце і іх трансфармацыя пры перакладзе (на матэрыяле твораў А. Пушкіна і іх перакладаў на беларускую мову): аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / Л.В. Цалко; БДУ. – Мінск, 2007. – 22 с.

# 285 ЦІТАВЕЦ АЛЕНА ІОСІФАЎНА

***Тэма:*** Арабаграфічныя рукапісы канца XVII – першай палавіны XX ст. – крыніцы для вывучэння духоўнай культуры татараў на Беларусі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.гіст.н.: 07.00.09 – гістарыяграфія, крыніцазнаўства і метады гістарычнага даследавання.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Канапацкі І.Б., к.гіст.н.; Яноўская В.В., к.гіст.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІГ НАН Беларусі, аддзел гістарыяграфіі і метадаў гістарычнага даследавання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 07.10.2009; Д 01.40.01, ІГ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Кошалеў У.С., д.гіст.н.; Мартынюк А.В., к.гіст.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Уключэнне вынікаў кадыкалагічнага аналізу рукапісаў татараў з беларускіх дзяржаўных калекцый у працэс даследавання духоўнай культуры татараў Беларусі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 153 с., асноўны тэкст займае 114 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 216 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Гістарыяграфія і крыніцы: гістарыяграфія (праблемы і метады даследавання); крыніцы. 2. Кніжнасць татараў Беларусі. Жанравыя і функцыянальныя асаблівасці: узнікненне кніжнасці татараў ВКЛ; тыпалогія рукапісаў татараў Беларусі; перапісчыкі і ўкладальнікі кніг (аналіз запісаў на кнігах). 3. Адлюстраванне духоўнай культуры татараў Беларусі ў рукапісных кнігах. Сінтэз кніжных культур Усходу і Захаду: тэксты тэалагічнага і богаслужэбнага характару; тэксты, звязаныя з народнымі традыцыямі, фальклорам.

У дысертацыі 3 дадаткі (17 с.): «Спіс татарскіх рукапісаў з айчынных і замежных калекцый», «Паказальнік перакладчыкаў, перапісчыкаў, уладальнікаў рукапісаў і асоб, якія ўпамінаюцца ў запісах (дзяржаўныя калекцыі Беларусі)», «Паказальнік геаграфічных назваў» (дзяржаўныя калекцыі Беларусі)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны рысы, уласцівыя кніжнай культуры Усходу і Захаду, у афармленні рукапісаў на аснове іх кадыкалагічнага і крыніцазнаўчага аналізу; праведзены аналіз інфармацыйных магчымасцей рукапісаў татараў канца XVII – першай палавіны XX ст. з дзяржаўных калекцый Беларусі; выяўлена спецыфіка адлюстравання ў арабаграфічных дакументах элементаў духоўнай культуры татараў, а таксама ўзаемадзеяння цюркскай (мусульманскай) і хрысціянскай культур Беларусі.

***Крыніца інфармацыі:*** Цітавец, А.І. Арабаграфічныя рукапісы канца XVII – першай палавіны XX ст. – крыніцы для вывучэння духоўнай культуры татараў на Беларусі: аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук: 07.00.09 / А.І. Цітавец; ІГ НАН Беларусі. – Мінск, 2009. – 23 с.

## 286 ЧАЙКА НАТАЛЛЯ УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Эліптычныя канструкцыі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковыя кіраўнікі:*** Бурак Л.І., д.філал.н.; Шуба П.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 03.11.1998; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Наркевіч А.І., д.філал.н.; Бандарэнка Т.П., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Прааналізаваць граматычную і семантычную структуру эліптычных сказаў, іх камунікатыўныя і стылістычныя функцыі ў творах мастацкай літаратуры.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 129 с., асноўны тэкст займае 107 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 216 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Праблема эліпсіса ў мовазнаўстве: гісторыя вывучэння праблемы эліпсіса, аб'ём паняццяў эліпсіс і эліптычнасць. 2. Структура эліптычных сказаў: граматычная арганізацыя эліптычных сказаў, семантычная арганізацыя эліптычных сказаў. 3. Асаблівасці функцыянавання эліптычных канструкцый у мове мастацкай літаратуры: эліптычныя канструкцыі як сродак актуальнага члянення; стылістычныя функцыі эліптычных канструкцый у паэтычных творах; стылістычныя функцыі эліптычных канструкцый у аўтарскім апавяданні; эліптычныя канструкцыі ў сістэме сінтаксічных функцыянальна-семантычных палёў.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вывучана граматычная і семантычная структура эліптычных сказаў, асаблівасці іх функцыянавання; прааналізаваны спосабы выражэння мадальнасці і тэмпаральнасці ў эліптычных сказах, выяўлена колькасць кампанентаў семантычнай структуры; удакладнена класіфікацыя эліптычных сказаў паводле іх семантыкі з улікам кампанентаў семантычнай структуры; вызначана колькасць саставаў эліптычнага сказа, яго мінімальная схема і магчымасці яе пашырэння з дапамогай актантаў і сірканстантаў; праведзена даследаванне камунікатыўных функцый эліптычных сказаў і выяўлена роля эліпсіса ў актуальным чляненні паведамлення; зроблены аналіз стылістычных функцый эліптычных канструкцый у мастацкай прозе і драматургіі, выяўлена роля эліпсіса як стылістычнай фігуры метрыка-рытмічнай арганізацыі верша.

***Крыніца інфармацыі:*** Чайка, Н.У. Эліптычныя канструкцыі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.У. Чайка; БДУ. – Мінск, 1998. – 21 с.

## 287 ЧАЙКОВА СВЯТЛАНА ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Антрапанімія пражскіх выданняў Скарыны.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 02.03.2001; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.; Шур В.В., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Даследаванне антрапонімаў у мове пражскіх выданняў Біблііі з улікам выяўленых беларускіх формаў імён, якія ўжываў Скарына.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 111 с., асноўны тэкст займае 95 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 102 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Асабовыя імёны ў выданнях Скарыны: лексіка-тэматычная класіфікацыя асабовых найменняў; міфалагічныя імёны; рэканструяваныя па прыналежных назвах імёны; веравызнальныя антрапонімы; вытокі ўласных асабовых імён; унутрыструктурныя тыпы імён. 2. Анамастычныя працэсы: аманімія анамастычных адзінак; утварэнне аднакаранёвых родавых формаў; апелятывацыя ўласных асабовых найменняў; моўнае вар'іраванне антрапонімаў. 3. Лёс асабовых імён ва ўсходнеславянскіх мовах: месца антрапонімаў у скарынаўскі і пасляскарынаўскі час (XVI – XX стст.); адаптацыя і ўжывальнасць імён у сучаснай беларускай мове; функцыянаванне асабовых найменняў у сучаснай рускай мове; функцыянаванне антрапонімаў ва ўкраінскай мове.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Раскрыта паходжанне семантыкі асабовых найменняў; прааналізаваны ўнутрыструктурныя тыпы антрапонімаў; устаноўлены анамастычныя працэсы ў сістэме імён; вывучаны вынікі адаптацыі хрысціянскіх імён і іх ужывальнасць у сучаснай беларускай мове; ахарактарызаваны лёс асабовых найменняў у сучасных рускай і ўкраінскай мовах; устаноўлена роля Ф.Скарыны ва ўзбагачэнні ўсходнеславянскай антрапаніміі.

***Крыніца інфармацыі:*** Чайкова, С.В. Антрапанімія пражскіх выданняў Скарыны: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.В. Чайкова; ГДУ. – Гомель, 2001. – 20 с.

## 288 ЧАРАПОВІЧ ГАННА ВІКТАРАЎНА

***Тэма:*** Развіццё беларускай мовы ў асвятленні перыядычнага друку 40-х – 60-х гадоў XX ст.: станаўленне нормаў.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Запрудскі С.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 01.12.2009; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Старычонак В.Д., д.філал.н; Савіцкая І.І., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Устанавіць асаблівасці грамадскага абмеркавання праблем станаўлення нормаў беларускай мовы ў перыядычным друку 40-х – 60-х гадоў ХХ ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 141 с., асноўны тэкст займае 116 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 249 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Грамадскія дыскусіі аб мове як аб'ект лінгвістыкі: адлюстраванне ў грамадскіх дыскусіях моўнай рэфлексіі; пытанне пра «моўныя ідэалогіі»; палітычныя пытанні і нацыянальная ідэнтычнасць у метамоўным дыскурсе; дыскусіі як праяўленне свядомага ўздзеяння на мову; значэнне дыскусій для гісторыі і гістарыяграфіі мовы; дыскусіі па праблемах беларускай мовы 1940-х – 1960-х гадоў у асвятленні беларускай лінгвістыкі і замежных беларусістаў. 2. Праблемы фарміравання беларускай літаратурнай мовы ў асвятленні перыядычнага друку 1940-х – 1960-х гадоў: дыскусіі першага пасляваеннага дзесяцігоддзя; дыскусіі другой паловы 1950-х – 1960-х гадоў 3. Абмеркаванне пытанняў культуры мовы ў перыядычных выданнях 1940-х – 1960-х гадоў: праблемы чысціні маўлення на старонках друку; правільнасць маўлення ў асвятленні перыёдыкі. 4. Правапісная тэматыка на старонках перыядычнага друку 1940-х – 1960-х гадоў: правапісная дыскусія другой паловы 1940-х гадоў; грамадскае абмеркаванне «Праекта змен і ўдакладненняў беларускага правапісу» ў 1951 – 1952 гадах; пытанні правапісу ў перыядычных выданнях канца 1950-х – 1960-х гадоў.

У дысертацыі 2 дадаткі (7 с.): «Паказальнік удзельнікаў дыскусій», «Паказальнік разгледжаных лексічных і граматычных з'яў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследаваны асаблівасці грамадскага абмеркавання праблем станаўлення нормаў беларускай мовы ў перыядычным друку 1940-х – 1960-х гадоў: вызначаны перыядычныя выданні, якія надавалі значную ўвагу абмеркаванню моўных праблем, акрэслены сацыяльна-прафесійны склад удзельнікаў дыскусій; выяўлены лінгвістычныя напрамкі, моўныя ўзроўні, крыніцы развіцця мовы і канкрэтныя моўныя з'явы, вакол якіх канцэнтраваліся дыскусіі; устаноўлены навукова-ідэалагічныя прыярытэты і погляды на развіццё мовы з боку розных груп удзельнікаў грамадскіх дыскусій; выяўлены характар працякання канкрэтных дыскусій у залежнасці ад грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне, стаўлення да перыядычных друкаваных органаў, а таксама ідэалагічных і навуковых арыентацый, ідэнтычнасцей і схільнасцей канкрэтных груп удзельнікаў абмеркавання і іх прадстаўнікоў; акрэслены асаблівасці асвятлення пасляваенных моўных праблем у адносінах да лінгвістычных і грамадскіх прыярытэтаў 1920-х – 1930-х гадоў; ахарактарызавана значэнне грамадскага абмеркавання праблем беларускай мовы 1940-х – 1960-х гадоў для фарміравання сучасных літаратурных нормаў беларускай мовы.

***Крыніца інфармацыі:*** Чараповіч, Г.В. Развіццё беларускай мовы ў асвятленні перыядычнага друку 40-х – 60-х гадоў ХХ ст.: станаўленне норм: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Г.В. Чараповіч; БДУ. – Мінск, 2009. – 24 с.

## 289 ЧАРНАБРОЎКІНА НАТАЛЛЯ УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Аказіянальныя словы ў складзе лексічных сродкаў сучаснай беларускай паэзіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лазоўскі У.М., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 19.01.1999; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Анічэнка У.В., д.філал.н.; Лукашанец А.А., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Выявіць і растлумачыць лексіка-семантычныя асаблівасці аказіянальных слоў у мове твораў сучаснай беларускай паэзіі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 126 с., асноўны тэкст займае 98 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 172 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Агляд літаратуры па тэме даследавання. 2. Лексіка-семантычныя групы аказіянальных слоў. 3. Сінанімізацыя аказіяналізмаў. 4. Антанімізацыя аказіянальных слоў.

У дысертацыі 1 дадатак (7 с.) – «Алфавітны ўказальнік выкарыстаных прыкладаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Даследавана лексічнае значэнне аказіянальных слоў і шляхі яго фарміравання; праведзена класіфікацыя аказіянальных слоў па лексіка-семантычных і тэматычных групах; выяўлены сінанімічныя рады і антанімічныя пары аказіянальных лексем; вызначана роля аказіянальных слоў у мастацкім кантэксце.

***Крыніца інфармацыі:*** Чарнаброўкіна, Н.У. Аказіянальныя словы ў складзе лексічных сродкаў сучаснай беларускай паэзіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.У. Чарнаброўкіна; БДУ. – Мінск, 1998. – 17 с.

## 290 ЧАХОЎСКІ ГЕОРГІЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ

***Тэма:*** Палітычны дыскурс у Беларусі: кагнітыўны і рытарычны аспекты (на матэрыяле палітычных тэкстаў 1920-х – 1930-х гадоў).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Сямешка, Л.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.03.2003; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Гіруцкі А.А., д.філал.н.; Арцямёнак Г.А., к.філал.н.; ІМ НАН Беларусі.

***Мэта:*** Прааналізаваць прыроду беларускага палітычнага дыскурсу 1920-х – 1930-х гадоў і асаблівасці яго генеравання ў шырокім кагнітыўна-рытарычным кантэксце для вызначэння і вытлумачэння прыёмаў і матываў маўленчага ўздзеяння ў дыскурсе праз вытлумачэнне прычын уздзеяння і матывацыі выкарыстання гэтых прыёмаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 132 с., асноўны тэкст займае 100 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 219 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Зыходныя паняцці і прынцыпы кагнітыўнага аналізу тэкстаўтварэння: мадэлі генеравання маўлення і тэксту; прырода палітычнага тэксту і этапы яго ўтварэння. 2. Кагнітыўна-рытарычныя характарыстыкі палітычнага дыскурсу 1920-х – 1930-х гадоў у Беларусі: апазіцыя «нацыяналізм – інтэрнацыяналізм»; апазіцыя «калектывізм – індывідуалізм». 3. Рытарычныя асаблівасці дыскурсу, абумоўленыя чыннікам ідэі «Іншага»: энкратычная рыторыка; акратычная рыторыка.

У дысертацыі 2 дадаткі (18 с.): «Тэрміналагічны слоўнік» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з зоны намінацыі і зоны семантычнай інфармацыі; часта прыводзіцца этымалагічная інфармацыя і ўказваюцца сінонімы да рэестравых адзінак), «Спіс прааналізаваных тэкстаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Абагульнены прынцыпы кагнітыўнага аналізу тэкстаўтварэння і ўдакладнены асноўныя паняцці, якія выкарыстоўваюцца ў сучаснай гуманітарыстыцы ў дачыненні да лінгвістычнага аналізу дыскурсу (апазіцыі ідэй, фрэймы, слоты, сцэнарыі, рытарычная сістэма); прасочаны працэс генерыравання палітычнага дыскурсу ад зыходных структур да рытарычнага забеспячэння тэксту; рэканструяваны ўнутраны свет свядомасці моўнай асобы праз выяўленне тых складнікаў структур свядомасці, якія маюць адпаведныя тэкставыя карэляты.

***Крыніца інфармацыі:*** Чахоўскі, Г.К. Палітычны дыскурс у Беларусі: кагнітыўны і рытарычны аспекты (на матэрыяле палітычных тэкстаў 1920-х – 1930-х гадоў): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Г.К. Чахоўскі; БДУ. – Мінск, 2003. – 23 с.

## 291 ЧУМАК ЛЮДМИЛА НИКОЛАЕВНА

***Тема:*** Лингвокультурологическая характеристика синтаксических систем русского и белорусского языков.

***Ученая степень, специальность:*** д.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра прикладной лингвистики.

***Дата защиты, совет по защите:*** 13.02.1998; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Всеволодова М.В., д.филол.н.; Михневич А.Е., д.филол.н.; Конюшкевич М.И., д.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** Разработка основ нового теоретического направления в языкознании: сопоставительно-культурологического синтаксиса близкородственных языков.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 199 с., основной текст занимает 186 с. Список использованной литературы – 176 наименований.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Соотношение синтаксиса и культуры. 1.1. Лингвокультурологическая характеристика русского и белорусского языков. 1.1.1. Лингвокультурные типы языков. 1.1.2. Национальный менталитет и языковая личность. 1.1.3. Языковая личность тоталитарной эпохи. 1.2. Роль синтаксиса в языковой картине мира. 1.2.1. Центральная роль синтаксиса в антропологических лингвистических исследованиях. 1.2.2. Специфика отражения национальной картины мира на синтаксическом уровне. 1.2.3. Предмет исследования сопоставительно-культурологического синтаксиса. 1.3. Влияние экстралингвистических факторов на функционирование и развитие синтаксиса современных восточнославянских языков. 1.3.1. Способы взаимосвязи и взаимовлияния языка и культуры, языка и общества на современном этапе. 1.3.2. Соотношение социальной и национально-культурной парадигм языка. 1.3.3. Реализация социокультурного компонента в семантике и структуре синтаксической единицы. 1.4. Способы и особенности реализации культурного компонента значения на синтаксическом уровне. 1.4.1. Способы представления фоновых знаний в синтаксисе. 1.4.2. Роль культурного компонента в семантической структуре высказывания. 1.4.3. К понятию социокультурной сочетаемости слов. 1.4.4. О фразеологизации в синтаксисе. 1.5. Методика лингвокультурологического анализа синтаксиса. 1.5.1. Формирование лингвокультурологической методики исследования. 1.5.2. Методы выявления национально-культурной семантики на синтаксическом уровне языка. 1.5.3. Методика контрастивно-культурологического описания синтаксиса близкородственных языков. 1.6. Актуальные культурологические тенденции и роль синтаксиса в их реализации. 1.6.1. Синтаксические конструкции как компоненты лингвокультурологического поля. 1.6.2. Способы отражения в языке актуальных культурологических тенденций современности (1992 – 1997 годы). 2. Реализация культурного компонента значения синтаксических единиц в системе языка. 2.1. Типы синтаксем с национально-культурной семантикой в русском и белорусском языках. 2.1.1. Критерии выявления фоновых синтаксем. 2.1.2. Синтаксемы со значением лица. 2.1.3. Синтаксемы с социально маркированным значением. 2.1.4. Синтаксемы с коннотативным значением. 2.2. Типы глаголов-предикатов с национально-культурной семантикой в русском и белорусском языках. 2.2.1. Критерии выявления фоновых глаголов-предикатов. 2.2.2. Специфика категоризации объекта как отражение национальной картины мира и национального менталитета. 2.3. Предложение в аспекте лингвокультурологии. 2.3.1. Понятие о предложениях-лингвокультуремах. 2.3.2. Односоставные определенно-личные и обобщенно-личные предложения как типологические структуры восточнославянского национального мышления.

2.3.3. Отрицательные биноминативные конструкции паремиологического типа в русском и белорусском языках. 2.3.4. Безличные предложения и каузативные конструкции в концепции этносинтаксиса А.Вежбицкой. 2.3.5. Экспрессивные синтаксические конструкции в культурологическом аспекте. 2.3.6. Категория лица как форма мышления национальной языковой личности и особенности ее ункционирования в русском и белорусском языках. 2.4. О национально-культурной традиции в текстообразовании. 2.4.1. Текст как единица языка и речи. 2.4.2. Критерии контрастивно-культурологического анализа текстов. 2.4.3. Перевод как способ выявления этнокультурного своеобразия языка. 3. Реализация культурного компонента значения синтаксических единиц в речи. 3.1. Словосочетание как продукт компрессии фоновой информации. 3.1.1. Новые типы атрибутивных словосочетаний в современных восточнославянских языках. 3.1.2. Механизмы формирования фоновых словосочетаний. 3.1.3. Субстантивные тенденции в синтаксическом строе современных восточнославянских языков. 3.1.4. К интерпретации лакун в лингвокультурологии. 3.2. Ключевые выражения эпохи – паспортизация времени культуры. 3.2.1. Социально-типичные выражения как идеологемы общественного сознания. 3.2.2. Проблемы «новояза» в русском и белорусском языках. 3.3. Прецедентные тексты русской и белорусской культуры. 3.3.1. Способы функционирования в языке прецедентных текстов культуры. 3.3.2. Приемы синтаксической трансформации прецедентных высказываний. 3.3.3. Межкультурная валентность прецедентных текстов русской и белорусской культуры.

***Научное значение исследования:*** Теоретически обоснована и практически разработана новая область контрастивной лингвистики – сопоставительно-культурологический синтаксис, предметом исследования которого является национально-культурная специфика передачи информации, присущая семантике и структуре синтаксических единиц белорусского и русского языков. Выявлены национально-культурные особенности мировосприятия через систему конструкций, обозначающих особый характер связи между субъектом-лицом и объектом-лицом и указывающих на изначальное внимание к лицу-объекту в синтаксической системе белорусского языка в отличие от русского, что формирует специфическую модель предложения и стереотипы порождения текста в русском и белорусском языках. Установлены способы реализации культурного компонента значения, присущего синтаксическим единицам в речи, через фоновые словосочетания, ключевые выражения и прецедентные тексты, указывающие на определенные модели восприятия действительности и представляющие собой штампы и стереотипы речевого мышления, которые формируются под воздействием национально-культурной идеологии. Разработана методика выявления национально-культурной информации на уровне синтаксиса путем синтеза приемов контрастивной лингвистики и культурологии.

***Источник информации:*** Чумак, Л.Н. Лингвокультурологическая характеристика синтаксических систем русского и белорусского языков: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Л.Н. Чумак; БГУ. – Минск, 1997. – 34 с.; Чумак, Л.Н. Синтаксис русского и белорусского языков в аспекте культурологии / Л.Н. Чумак. – Минск: Изд-во БГУ, 1997. – 196 с.

## 292 ШАБОВІЧ МІКАЛАЙ ВІКТАРАВІЧ

***Тэма:*** Аказіянальныя словы ў беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гадоў ХХ ст.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Яўневіч М.С., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 08.10.2004; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Рагаўцоў В.І., д.філал.н.; Шумчык Ф.С., к.філал.н.; БДУ.

***Мэта:*** Даследаванне аказіянальных слоў у беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гадоў ХХ ст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 152 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 260 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Праблемы даследавання: аказіяналізм і патэнцыяльнае слова; да пытання назвы аўтарскіх наватвораў; функцыянальная аднаразовасць аказіянальных слоў; маўленчая прыналежнасць як прымета аказіяналізмаў; крытэрыі вылучэння аказіянальных слоў. 2. Аказіянальныя назоўнікі: назоўнікі, утвораныя суфіксальным спосабам; назоўнікі, утвораныя нульсуфіксальным спосабам; назоўнікі, утвораныя прэфіксальным, прэфіксальна-суфіксальным і прэфіксальна-нульсуфіксальным спосабамі; назоўнікі, утвораныя спосабам чыстага складання, складана-суфіксальным і складана-нульсуфіксальным спосабамі. 3. Аказіянальныя прыметнікі: прыметнікі, утвораныя суфіксальным, прэфіксальным і прэфіксальна-суфіксальным спосабамі; прыметнікі, утвораныя спосабам чыстага складання; прыметнікі, утвораныя складана-суфіксальным і складана-нульсуфіксальным спосабамі. 4. Аказіянальныя дзеясловы: дзеясловы, утвораныя суфіксальным спосабам; дзеясловы, утвораныя прэфіксальным і прэфіксальна-суфіксальным спосабамі; дзеясловы, утвораныя постфіксальным, суфіксальна-постфіксальным, прэфіксальна-суфіксальна-постфіксальным спосабамі і шляхам складання. 5. Аказіянальныя прыслоўі і словы катэгорыі стану.

У дысертацыі 1 дадатак (35 с.) – «Індэкс аўтарскіх наватвораў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены ў беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гадоў ХХ ст. аўтарскія наватворы і праведзена іх класіфікацыя; вызначаны

дэрывацыйныя мадэлі, па якіх яны ўтвораны, а таксама іх прадуктыўнасць; акцэнтавана ўвага на лексемы, створаныя з адхіленнем ад моўных тыпаў або аказіянальна; устаноўлена суадноснасць аўтарскіх наватвораў з асновамі розных часцін мовы; названы шляхі актуалізацыі дэрывацыйнай структуры аказіяналізмаў; высветлены асноўныя прычыны ўзнікнення аказіянальных слоў у беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гадоў; ахарактарызавана ўжыванне аўтарскіх наватвораў у мастацкім тэксце і прасочаны далейшы лёс створаных слоў.

***Крыніца інфармацыі:*** Шабовіч, М.В. Аказіянальныя словы ў беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гадоў XX ст.: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / М.В. Шабовіч; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 20 с.

## 293 ШАБУЛДАЕВА НАТАЛЬЯ ИВАНОВНА

***Тема:*** Названия хлеба в русском и белорусском языках (генетический аспект).

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.02 – русский язык; 10.02.01 – белорусский язык.

***Научный руководитель:*** Козлова Р.М., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ГГУ, кафедра русского, общего и славянского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 27.02.2004; К 02.12.03, ГГУ.

***Оппоненты:*** Мощенская Л.Г., д.филол.н.; Кунцевич Л.П., к.филол.н.; ВГУ.

***Цель:*** Исследование названий хлеба в русском и белорусском языках в плане их ареала, хронологии, словообразовательной и семантической структуры.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 128 с., основной текст занимает 108 с. Список использованной литературы – 202 наименования.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Обзор литературы по теме и выбор направления исследования. 2. Изложение общей концепции и основных методов исследования. 3. Родовые названия хлеба: названия с корнем **xlěb-*. 4. Видовые названия хлеба: названия хлеба по исходному продукту; названия хлеба по названию добавок; названия хлеба по способу приготовления; названия хлеба по способу обработки теста; названия хлеба по форме изделия.

В диссертации 3 приложения (3 с.): «Семантика слова *хлеб* в славянских языках», «Варианты праформ с корнями **box-* / **bux-* в славянских языках», «Варианты праформ с корнями **gyb-* / **gъb-* в славянских языках».

***Научное значение исследования:*** Установлены семантические модели формирования названий хлеба в русском и белорусском языках; выявлены этимологические и словообразовательные связи каждого из рассматриваемых названий; установлена география (ареал) каждого из анализируемых названий; выявлены иносказательные соответствия для русских и белорусских названий хлеба, восстановлена хронология единиц исследования; определен праславянский пласт

наименований, проведена реконструкция исходных форм для каждого из праславянских наименований.

***Источник информации:*** Шабулдаева, Н.И. Названия хлеба в русском и белорусском языках (генетический аспект): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02; 10.02.01 / Н.И. Шабулдаева; ГГУ. – Гомель, 2004. – 22 с.

## 294 ШАКУН НАДЗЕЯ СЦЯПАНАЎНА

***Тэма:*** Кірыла-мяфодзіеўская традыцыя на Тураўшчыне (да праблемы лакальных тыпаў старажытнаславянскай мовы).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.03 – славянскія мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Цыхун Г.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 21.04.2005; Д 02.01.24, БДУ.

***Апаненты:*** Яновіч А.І., д.філал.н.; Будзько І.У., к.філал.н.; ГрДУ.

***Мэта:*** Выявіць спецыфіку бытавання рукапісных рэлігійных помнікаў, створаных у кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі на тэрыторыі тураўскага этна-культурнага арэалу, інакш кажучы – вызначыць асаблівасці лакальнай мадыфікацыі старажытнаславянскай мовы на тураўскіх землях.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 106 с., асноўны тэкст займае 92 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 128 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Турава-пінскія евангеллі: Тураўскія лісткі евангельскіх чытанняў; Пінскае евангелле XIV ст.; другое тураўскае евангелле. 2. Гамілетыка Тураўшчыны («Казанні» Кірылы Тураўскага): агульная характарыстыка (датаванне, лакалізацыя), крыніцы, выданні, ступень даследаванасці; моўныя асаблівасці «Казанняў» Кірылы Тураўскага. 3. Перакладная патрыстыка на Тураўшчыне (тураўскі спіс «Сачыненняў» Дыянісія Арэапагіта): ступень даследаванасці; пытанні лакалізацыі і датавання; асаблівасці моўнай сістэмы «Сачыненняў» Дыянісія Арэапагіта. 4. Агіяграфія Тураўшчыны: «Жыціе» Кірылы Тураўскага; «Слова пра Марціна мніха тураўскага».

У дысертацыі 1 дадатак (5 с.) – «Узоры выбраных тэкстаў».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Прааналізаваны тэксты, створаныя ў рэчышчы кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі ў тураўскім этна-культурным арэале, на радмет выяўлення лакальных моўных рыс; вызначаны шляхі пранікнення лакальных моўных рыс у кірыла-мяфодзіеўскія помнікі на Тураўшчыне.

***Крыніца інфармацыі:*** Шакун, Н.С. Кірыла-мяфодзіеўская традыцыя на Тураўшчыне (да праблемы лакальных тыпаў старажытнаславянскай мовы): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.03 / Н.С. Шакун; БДУ. – Мінск, 2005. – 16 с.

## 295 ШАЎЧЭНКА МІХАІЛ МІКАЛАЕВІЧ

***Тэма:*** Канфесіянальная лексіка ў гаворках Мазырскага Палесся.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 30.11.2001; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Іўчанкаў В.І., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Лексіка-семантычны аналіз канфесіянальнай лексікі мовы жыхароў Мазырскага Палесся.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 121 с., асноўны тэкст займае 101 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 135 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Назвы асоб у адносінах да рэлігіі: намінацыі прадстаўнікоў звышнатуральных сіл; назвы асоб рэлігійнай сферы. 2. Назвы рэлігійных кніг, рытуальных і богаслужэбных прадметаў: назвы рэлігійных кніг; канфесіянальная рытуальная тэрміналогія і назвы прадметаў богаслужэння. 3. Назвы асноўных рэлігійных прысвяткаў і свят.

У дысертацыі 1 дадатак (13 с.) – «Рэестр даследаваных намінацый».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлена і сістэматызавана па тэматычных групах рэлігійная лексіка ў народных гаворках Мазырскага Палесся; вызначана семантыка і сінаніміка канфесійнай лексікі ў сістэме тэматычных аб'яднанняў, ахарактарызавана семантычная структура канфесіяналізмаў у беларускай дыялектнай і літаратурнай мове; высветлена ступень прадуктыўнасці даследаванай лексікі ў беларускай мове; прасочана геаграфія пашырэння канфесіяналізмаў за межамі даследаванага рэгіёна; акрэслена пашыранасць канфесіяналізмаў у рэлігійнай друкаванай літаратуры XX ст.

***Крыніца інфармацыі:*** Шаўчэнка, М.М. Канфесіянальная лексіка ў гаворках Мазырскага Палесся: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / М.М. Шаўчэнка; ГДУ. – Гомель, 2001. – 20 с.

## 296 ШАХАБ ВОЛЬГА ВАСІЛЕЎНА

***Тэма:*** Развіццё маўленчых здольнасцей вучняў у працэсе фарміравання паняцця аб сладаназалежным сказе.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання (беларуская мова).

***Навуковы кіраўнік:*** Протчанка В.У., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя выкладання беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.02.2000; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Шуба П.П., д.філал.н.; Саўко У.П., к.пед.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Стварэнне методыкі выкладання сінтаксісу складаназалежнага сказа на аснове функцыянальна-сістэмнага матывацыйна-мэтавага падыходу, неабходнага для стымулявання маўленчай дзейнасці школьнікаў, накіраванай на ўспрыманне, разуменне, пабудову, прадуцыраванне вусных і пісьмовых тэкстаў розных стыляў, жанраў і тыпаў.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 166 с., асноўны тэкст займае 108 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 257 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Развіццё маўленчых здольнасцей вучняў як педагагічная праблема: пастаноўка праблемы, выкладанне беларускай мовы ў аспекце патрабаванняў гуманістычнай парадыгмы адукацыі; школьны курс сінтаксісу ў сістэме развіцця маўленчых здольнасцей вучняў; лінгвадыдактычныя асновы методыкі развіцця маўленчых здольнасцей школьнікаў пры засваенні складаназалежнага сказа. 2. Аналіз і асэнсаванне вопыту вывучэння складаназалежнага сказа: асэнсаванне вопыту работы настаўнікаў у аспекце праблемы даследавання; праграма і падручнік па беларускай мове ў аспекце праблемы даследавання. 3. Методыка эксперыментальна-вопытнага навучання сінтаксісу складаназалежнага сказа: сутнасць методыкі эксперыментальна-вопытнага навучання (асноўныя прынцыпы, канцэптуальныя падыходы; эксперыментальна-вопытнае навучанне (арганізацыя, структурныя кампаненты, методыка забеспячэння працэсу); праверка эфектыўнасці эксперыментальна-вопытнай методыкі.

У дысертацыі 6 дадаткаў (42 с.): «Узоры твораў-мініяцюр», «Прыкладнае паўрочнае планаванне для IX класа па тэме *Сладаназалежны сказ*», «Узоры ўрокаў па тэме *Складаназалежны сказ*», «Табліцы па тэме *Складаназалежны сказ*», «Практыкаванні, скіраваныя на асэнсаванне месца складаназалежнага сказа ў структуры тэксту», «Кантрольныя заданні да алімпіяды (першы і другі этапы)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначана месца і роля сінтаксісу ў сістэме развіцця маўленчых здольнасцей вучняў; канкрэтызавана сутнасць і змест паняцця *маўленчыя здольнасці вучняў* у адносінах да школьнага курса роднай мовы; выяўлены дыдактыка-метадычныя ўменні, неабходныя для развіцця маўленчых здольнасцей вучняў у ходзе фарміравання паняцця аб складаназалежным сказе на ўсіх этапах і ступенях навучання; ахарактарызаваны вопыт выкладання сінтаксісу складаназалежнага сказа ў аспекце праблемы даследавання; акрэслены метады інтэрактывізацыі маўленчай дзейнасці школьнікаў у навучальным працэсе; распрацавана методыка эксперыментальна-вопытнага навучання сінтаксісу складаназалежнага сказа, накіраваная на развіццё маўленчых здольнасцей у ходзе фарміравання паняцця аб складаназалежным сказе.

***Крыніца інфармацыі:*** Шахаб, В.В. Развіццё маўленчых здольнасцей вучняў у працэсе фарміравання паняцця аб складаназалежным сказе: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 13.00.02 / В.В. Шахаб; БДУ. – Мінск, 2000. – 20 с.

## 297 ШВЕДАВА ЗОЯ УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Аданамастычнае словаўтварэнне ў мове старабеларускіх актаў XVI – XVIII стст.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.02.2003; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Мезенка Г.М., д.філал.н.; Янушкевіч С.А., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Правесці словаўтваральны і лексіка-семантычны аналіз аданамастычных дэрыватаў, вызначыць важнейшыя асаблівасці і заканамернасці працэсу аданамастычнага словаўтварэння на храналагічных зрэзах XVI – XVIII стст.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 136 с., асноўны тэкст займае 97 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 177 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Адантрапонімныя прыметнікі: словаўтваральная структура; семантычная характарыстыка суфіксальных прыметнікаў. 2. Адтапонімныя дэрываты: ад'ектонімы (словаўтваральная структура, семантычная характарыстыка ад'ектонімаў); катайконімы (спосабы намінацыі ў катайканіміі, семантычная характарыстыка сінтаксічных канструкцый у катайканіміі).

У дысертацыі 1 дадатак (22 с.): «Слоўнік адтапонімных дэрыватаў» (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі – тапонім з указаннем у дужках тыпу тапоніма, адпаведнай адміністрацыйнай адзінкі – зоны дэрывацыі, зоны пашпартызацыі).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены словаўтваральны і лексіка-семантычны аналіз аданамастычных дэрыватаў, выяўленых у «Актах, издаваемых Виленскою Археографической комиссиею»; даследаваны словаўтваральныя тыпы і мадэлі аданамастычных дэрыватаў; апісаны спосабы словаўтварэння ў катайканіміі, паказана іх прадуктыўнасць і прасочаны найбольш характэрныя рысы спосабаў аданамастычнай дэрывацыі на працягу XVI – XVIII стст.; складзены слоўнік адтапонімных утварэнняў.

***Крыніца інфармацыі:*** Шведава, З.У. Аданамастычнае словаўтварэнне ў мове старабеларускіх актаў XVI – XVIII стст.: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / З.У. Шведава; ГДУ. – Гомель, 2003. – 22 с.

## 298 ШИРОКОВА МАРИНА АНАТОЛЬЕВНА

***Тема:*** Концептуально-лингвистический анализ произведений Ф.М. Достоевского и их переводов на белорусский язык.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.01 – белорусский язык; 10.02.02 – русский язык.

***Научный руководитель:*** Прохорова С.М., д.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** БГУ, кафедра прикладной лингвистики.

***Дата защиты, совет по защите:*** 26.10.2001; Д 02.01.11, БГУ.

***Оппоненты:*** Стариченок В.Д., д.филол.н.; Ивченков В.И., к.филол.н.; ИЯ НАН Беларуси.

***Цель:*** В зеркале фрагментов картин мира русского и белорусского языков представить доказательные интерпретации произведений Ф.М. Достоевского «Бедные люди», «Белые ночи» и «Ползунков» на основании концептуального анализа их оригиналов и переводов; выявить текст белорусской культуры.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 153 с., основной текст занимает 112 с. Список использованной литературы – 408 наименований.

Результаты исследования отражены в 3 главах. 1. Основные принципы концептуального анализа художественного текста: антропоцентрический подход к исследованию языка и метод концептуального анализа; актуальные проблемы современного достоевсковедения; перевод и языковые картины мира. 2. Доминантные концепты Ф.М. Достоевского в зеркале их белорусских переводов: концепт *бедные люди*; концепт *мечтатель*; образ шута у Ф.М. Достоевского (рассказ «Ползунков»). 3. Текст белорусской культуры в произведениях Ф.М. Достоевского: белорусский текст в романе Достоевского «Преступление и наказание»; белорусский текст в романе Достоевского «Бесы».

В диссертации 5 приложений (15 с.): «Концепт *бедные люди* в зеркале Homo ludens», «Данные ассоциативного эксперимента на слово-стимул *тоска*, «Сигналы вертикального контекста на рассказ В.О. Одоевского *Живой мертвец* в романе Ф.М. Достоевского *Бедные люди*, «Структура концептов *бедные люди* и *мечтатель*», «Текст белорусской культуры в творчестве Ф.М. Достоевского».

***Научное значение исследования:*** На материале произведений Ф.М. Достоевского и их переводов на белорусский язык рассмотрены доминантные концепты; показано приращение и актуализация смыслов индивидуально-авторских концептов на интертекстуальном уровне, в «диалоге» с произведениями В.Ф. Одоевского, Н.В. Гоголя, И.С. Тургенева; исследован текст белорусской культуры в названных произведениях Ф.М. Достоевского, а также в романах «Преступление и наказание», «Бесы»; доказана неслучайность «белорусского текста» в ранних произведениях автора.

***Источник информации:*** Широкова, М.А. Концептуально-лингвистический анализ произведений Ф.М. Достоевского и их переводов на белорусский язык: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01; 10.02.02 / М.А. Широкова; БГУ. – Минск, 2001. – 21 с.

## 299 ШКІЛЁНАК ВОЛЬГА ЯЎГЕНАЎНА

***Тэма:*** Развіццё маўлення вучняў VI класа пры вывучэнні дзеяслова.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Навуковы кіраўнік:*** Мурына Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра рыторыкі і методыкі выкладання мовы і літаратуры.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 20.12.2001; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Прыгодзіч М.Р., д.філал.н.; Анціпава М.Б., к.пед.н; ВДУ.

***Мэта:*** Распрацаваць на аснове аналізу лінгвістычнай, метадычнай, псіхалагічнай, педагагічнай літаратуры, а таксама вынікаў канстатуючага эксперыменту навукова абгрунтаваную методыку развіцця маўлення вучняў VI класа пры вывучэнні дзеяслова, накіраваную на глыбокае асэнсаванне школьнікамі граматычных з'яў, засваенне нормаў беларускай літаратурнай мовы, развіццё граматычнага ладу мовы, узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё звязнага маўлення.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 113 с., асноўны тэкст займае 92 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 160 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Лінгвадыдактычныя і псіхалагічныя асновы развіцця маўлення школьнікаў пры вывучэнні дзеяслова: умовы фарміравання моўнай асобы вучня; асноўныя напрамкі развіцця маўлення вучняў пры вывучэнні марфалогіі; функцыянальныя магчымасці граматычных катэгорый дзеяслова; рэалізацыя дыдактычных прынцыпаў пераемнасці і перспектыўнасці як умова эфектыўнасці работы над моўным і маўленчым развіццём вучняў пры вывучэнні дзеяслова. 2. Лінгваметадычнае забеспячэнне развіцця маўлення школьнікаў пры вывучэнні дзеяслова: аналіз праграм і падручнікаў беларускай мовы для II – VI класаў; задачы і вынікі канстатуючага эксперыменту; метадычная сістэма маўленчага развіцця вучняў VI класа пры вывучэнні дзеяслова. 3. Методыка навучання дзеяслову ў VI класе: задачы навучальнага эксперыменту; вывучэнне граматычных катэгорый дзеяслова ў функцыянальным аспекце; развіццё звязнага маўлення школьнікаў VI класа пры вывучэнні дзеяслова; вынікі вопытна-эксперыментальнай работы (кантрольны эксперымент).

У дысертацыі 6 дадаткаў (10 с.): «Пераказ тэксту (канстатуючы эксперымент)», «Эксперыментальныя матэрыялы для работы па развіцці маўлення вучняў пры вывучэнні дзеясловаў», «Заданні для праверкі ведаў граматычнага матэрыялу», «Заданні на выяўленне ўменняў карыстацца атрыманымі ведамі, узроўню валодання моўнымі нормамі», «Заданні на выяўленне валодання марфалагічнымі нормамі ў маўленні», «Пераказ тэксту (кантралюючы эксперымент)».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Навукова абгрунтавана неабходнасць вывучэння дзеяслова ў функцыянальна-стылістычным аспекце; высветлены асноўныя кірункі дзейнасці па развіцці маўлення школьнікаў пры вывучэнні дзеяслова (авалоданне нормамі беларускай літаратурнай мовы і развіццё граматычнага ладу мовы, узбагачэнне слоўніка, развіццё звязнага маўлення вучняў); вызначаны агульнадыдактычныя прынцыпы, на аснове якіх ажыццяўляецца работа па развіцці маўлення пры вывучэнні дзеяслова; распрацавана методыка вывучэння дзеяслова ў трох напрамках на аснове выкарыстання прынцыпаў пераемнасці і перспектыўнасці, прапанавана сістэма практыкаванняў аналітычнага, сінтэтычнага, творчага характару, скіраваных на развіццё маўлення вучняў.

***Крыніца інфармацыі:*** Шкілёнак, В.Я. Развіццё маўлення вучняў VI класа пры вывучэнні дзеяслова: аўтарэф. дыс. … канд. пед. навук: 13.00.02 / В.Я. Шкілёнак; БДУ. – Мінск, 2001. – 16 с.

## 300 ШУБАДЗЁРАВА АЛА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Каламбур у мове беларускай драматургіі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Рагаўцоў В.І., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МагДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.11.1998; К 02.12.03, ГДУ.

***Апаненты:*** Наркевіч А.І., д.філал.н.; Ляшчынская В.А., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Лінгвістычнае апісанне каламбура як сродку гумару, сатыры, іроніі ў мове беларускай драматургіі.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 110 с., асноўны тэкст займае 99 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 101 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Каламбур як прадмет лінгвістычнага даследавання: агляд літаратуры; каламбур (праблемныя пытанні). 2. Тыпы каламбураў і спосабы іх утварэння: лексічныя каламбуры; фразеалагічныя каламбуры; сінтаксічныя каламбуры; каламбуры камбінаванай будовы. 3. Асаблівасці ўжывання каламбураў (храналагічны аспект): XVI – XVIII стст.; XIX ст.; першая палова XX ст.; другая палова XX ст.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Удакладнены асноўныя прыметы і азначэнне каламбура; тэарэтычна абгрунтаваны прынцыпы вывучэння розных тыпаў каламбураў; прааналізаваны спосабы і прыёмы ўтварэння каламбураў; паказана адметнасць ужывання каламбураў у творах беларускіх драматургаў; акрэслены стылістычныя функцыі каламбура ў мастацкім творы.

***Крыніца інфармацыі:*** Шубадзёрава, А.М. Каламбур у мове беларускай драматургіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Шубадзёрава; ГДУ. – Гомель, 1998. – 20 с.

## 301 ШУМЧЫК ФРАНЦ СТАНІСЛАВАВІЧ

***Тэма:*** Вобразныя сродкі мовы ў мастацкіх творах В. Адамчыка (параўнанне і метафара: структура, лексіка, ужыванне).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Булыка А.М., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра беларускай мовы і методыкі яе выкладання.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 25.06.1999; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Выгонная Л.Ц., д.філал.н.; Іўчанкаў В.І., к.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Вывучыць, прааналізаваць і апісаць структуру, лексіку, а таксама асаблівасці ўжывання параўнанняў і метафар.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 136 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 167 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Марфолага-структурныя і лексічныя асаблівасці выражэння параўнанняў і метафар: марфолага-структурнае выражэнне параўнанняў; марфолага-структурнае выражэнне метафар; лексічны склад параўнанняў і метафар. 2. Параўнанне як сродак мастацкай выразнасці: дзеяслоўныя параўнанні; прыметнікавыя параўнанні; прыслоўныя параўнанні; назоўнікавыя параўнанні. 3. Метафара як сродак мастацкай выразнасці: дзеяслоўныя метафары; назоўнікавыя метафары; увасабленне.

У дысертацыі 2 дадаткі (15 с.) – «Параўнанне: скразное ўжыванне лексем», «Метафара: скразное ўжыванне лексем».

***Навуковае значэнне даследавання:*** На матэрыяле мастацкіх твораў В. Адамчыка ахарактарызавана марфолага-структурнае выражэнне тропаў; разгледжана сістэма параўнанняў і метафар, акрэслены асноўныя лексіка-семантычныя групы слоў, выкарыстаныя для выражэння аб'ектаў тропаў; выяўлена сістэма скразнога ўжывання лексем пры функцыянаванні параўнанняў і метафар; прааналізаваны дзеяслоўныя, прыметнікавыя, прыслоўныя і назоўнікавыя параўнанні, вызначаны характэрныя асаблівасці іх функцыянавання; апісана сістэма метафар, даследаваны асаблівасці дзеяслоўных і назоўнікавых метафар, а таксама ўвасабленняў як асобага віду метафары; прасочаны асаблівасці ўжывання метафар паводле распаўсюджанасці; праведзены статыстычны аналіз выкарыстання тропаў у моўнай сістэме аўтара.

***Крыніца інфармацыі:*** Шумчык, Ф.С. Вобразныя сродкі мовы ў мастацкіх творах В. Адамчыка (параўнанне і метафара: структура, лексіка, ужыванне) аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ф.С. Шумчык; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 1999. – 20 с.

## 302 ШУР ВАСІЛЬ ВАСІЛЬЕВІЧ

***Тэма:*** Анамастычная лексіка ў мове беларускай мастацкай літаратуры.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МазДПУ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 23.01.2004; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Булыка А.М., д.філал.н.; Мезенка Г.М., д.філал.н.; Сянкевіч В.І., д.філал.н.; ГДУ.

***Мэта:*** Даследаванне асаблівасцей анамастычных адзінак у мастацкім тэксце.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 209 с., асноўны тэкст займае 191 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 268 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Агульная характарыстыка онімаў у мастацкім тэксце. 2. Лексіка-стылістычная характарыстыка онімаў у творах мастацкай літаратуры. 2.1. Асабовыя ўласныя імёны ў творах беларускай мастацкай літаратуры. 2.2. Мянушкі ў творах беларускай мастацкай літаратуры. 2.3. Прозвішчы ў творах беларускай мастацкай літаратуры. 2.4. Тапанімічныя назвы ў творах беларускай мастацкай літаратуры. 3. Онімы як тэкстаўтваральныя і стылёваўтваральныя кампаненты сістэмы мастацка-выяўленчых сродкаў мовы пісьменнікаў. 3.1. Онімы-загалоўкі ў мастацкіх тэкстах пісьменнікаў. 3.2. Онімы-сімвалы ў творах беларускай мастацкай літаратуры. 3.3. Онімы як сродкі стварэння экспрэсіўнасці і каламбураў у творах беларускіх пісьменнікаў. 3.4. Эпітэты-прыдаткі пры онімах і іх экспрэсіўныя функцыі ў творах мастацкай літаратуры. 3.5. Варыянтнасць онімаў як мастацкі прыём у творах беларускай мастацкай літаратуры. 3.6. Паказчыкі і актуалізатары канатацыйных значэнняў онімаў у творах беларускай мастацкай літаратуры. 3.7. З'явы апелятывацыі і анімізацыі ў творах беларускай мастацкай літаратуры. 3.8. Этымалагізацыя онімаў як мастацкі прыём у творах беларускай мастацкай літаратуры. 3.9. Спосабы ўвядзення анамастычнай лексікі ў мастацкі тэкст.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Тэарэтычна абгрунтаваны заканамернасці семантыка-прагматычнай трансфармацыі і стылістычнай мадыфікацыі анамастычнай лексікі ў працэсе мастацкай творчасці і створана тэорыя функцыянавання ўласнага імя ў мастацкім тэксце. Паказана роля ўласных назваў у мове беларускай мастацкай літаратуры як тэкстаўтваральных, энцыклапедычных, канатацыйных і маўленчых сродкаў. Выяўлены і сістэматызаваны корпус анамастычных назваў у творах мастацкай літаратуры (больш за 10 тысяч онімаў з 350 твораў беларускіх пісьменнікаў). Вылучаны з'явы апелятывізацыі, анімізацыі і энтымалагізацыі онімаў для стварэння разнастайных канатацый (нейтральна-апісальных, зніжана побытавых, прастамоўна-камічных і гумарыстычных, узвышана-лірычных і паэтычных). Установлены тыпы анамастычных назваў (асабовыя ўласныя імёны,

прозвішчы, мянушкі, тапанамічныя назвы і г.д.), характэрныя для розных жанраў мастацкіх твораў, і спосабы іх увядзення ў тэкст (паўторнае выкарыстанне раней ужытага асабовага імя ў новым творы, літаратурныя алюзіі, ужыванне онімаў у розных варыянтах, выкарыстанне адпаведнай ці неадпаведнай унутранай формы онімаў для характарыстыкі знешняга выгляду ці паводзін персанажа і г.д.), вызначана іх спецыфіка ў мове асобных твораў мастацкай літаратуры.

***Крыніца інфармацыі:*** Шур, В.В. Анамастычная лексіка ў мове беларускай мастацкай літаратуры: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.В. Шур; БДУ. – Мінск, 2003. – 40 с.; Шур, В.В. Анамастычная лексіка ў беларускай мастацкай літаратуры / В.В. Шур. – Мінск: Тэхнапрынт, 2002. – 226 с.

## 303 ШЫМАНСКАЯ ВОЛЬГА ЮР'ЕЎНА

***Тэма:*** Метафарычная рэпрэзентацыя псіхалагічнай сферы чалавека ў беларускай і англійскай мовах (на матэрыяле субстантываў).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.20 – параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства.

***Навуковы кіраўнік:*** Старычонак В.Д., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДПУ, кафедра рускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 17.11.2009; К 02.14.04, ГрДУ.

***Апаненты:*** Ухванава І.Ф., д.філал.н.; Кураш С.Б., к.філал.н.; ВДУ.

***Мэта:*** Вызначыць тыпалагічна агульнае і спецыфічнае ў метафарычнай рэпрэзентацыі псіхалагічнай сферы чалавека ў беларускай і англійскай мовах.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 293 с., асноўны тэкст займае 107 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 225 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Метафары, якія рэпрэзентуюць псіхалагічную сферу чалавека, як аб'ект даследавання: месца метафары ў сістэме мовы; структураванне метафарычнага поля псіхалогіі чалавека; асаблівасці супастаўляльнага аналізу метафар. 2. Метафарычнае мадэліраванне псіхалагічнай сферы чалавека ў беларускай і англійскай мовах: метафарычная мадэль «Прырода»; метафарычная мадэль «Прадмет»; метафарычная мадэль «Чалавек»; метафарычная мадэль «Працэсы і адносіны». 3. Шляхі пашырэння метафарычнага поля псіхалогіі чалавека; спецыфіка ўзнікнення новых метафар; аўтарская трансфармацыя моўных метафар; патэнцыяльныя моўныя метафары.

У дысертацыі 1 дадатак (168 с.) – «Двухмоўны слоўнік метафар псіхалагічнай сферы чалавека», які адлюстроўвае субстантыўныя сродкі рэпрэзентацыі псіхалагічнай сферы чалавека ў беларускай і англійскай мовах (поўны слоўнікавы артыкул складаецца з наступных інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны семантызацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны функцыянальна-стылістычнай інфармацыі, зоны варыянтаў, зоны ілюстрацый).

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзена класіфікацыя беларускіх і англійскіх метафар, якія рэпрэзентуюць псіхалагічную сферу чалавека, паводле крыніцы матывацыі і вылучаны на базе класіфікацыі асноўныя метафарычныя мадэлі псіхалогіі чалавека, а таксама тыпы і віды метафарычных пераносаў, дадзена іх квантытатыўная і квалітатыўная характарыстыка; выяўлена агульнае і спецыфічнае ў спосабах метафарычнай рэпрэзентацыі псіхалагічнай сферы чалавека ў межах мадэлей, тыпаў і відаў метафарычнага пераносу, размежаваны выпадкі намінацыі і характарызацыі псіхалагічных з'яў; вызначаны тыпы семантычных адносін паміж беларускімі і англійскімі метафарамі з адпаведным першасным значэннем, апісаны адносіны эквівалентнасці і несупадзення сэнсавага аб'ёму беларускіх і англійскіх метафар з улікам спецыфікі кожнай мовы; акрэслены шляхі пашырэння метафарычнага поля псіхалогіі чалавека ў беларускай і англійскай мовах на матэрыяле патэнцыяльных моўных метафар; адлюстравана семантыка, асаблівасці спалучальнасці, а таксама сінанімічныя і эквівалентныя суадносіны метафар, якія рэпрэзентуюць псіхалагічную сферу чалавека, у двухмоўным слоўніку.

***Крыніца інфармацыі:*** Шыманская, В.Ю. Метафарычная рэпрэзентацыя псіхалагічнай сферы чалавека ў беларускай і англійскай мовах (на матэрыяле субстантываў): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.20 / В.Ю. Шыманская; ГрДУ. – Гродна, 2009. – 21 с.

## 304 ШЭМЕТ ТАЦЦЯНА ЯЎГЕНЬЕЎНА

***Тэма:*** Структурныя тыпы беларускіх складаназалежных сказаў ускладненай будовы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Падлужны А.І., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМ НАН Беларусі, аддзел сучаснай беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 28.12.2007; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Міхневіч А.Я., д.філал.н.; Бурак І.Л., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Выявіць спецыфіку структурнай (фармальна-граматычнай) арганізацыі складаназалежных сказаў ускладненай будовы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 137 с., асноўны тэкст займае 114 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 177 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Складаназалежныя сказы ўскладненай будовы: пытанні тэорыі і гісторыі даследавання: з гісторыі станаўлення тэорыі складаназалежнага сказа; праблемы тэрміналогіі і класіфікацыі складаназалежных сказаў ускладненай будовы. 2. Фармальна-граматычная характарыстыка складаназалежных сказаў ускладненай будовы

з паслядоўным падпарадкаваннем: паняцце паслядоўнага падпарадкавання; залежнасць даданага I ступені ад галоўнага сказа ў складаназалежных сказах ускладненай будовы з паслядоўным падпарадкаваннем; парадак размяшчэння галоўнага і даданых сказаў у складаназалежных сказах ускладненай будовы з паслядоўным падпарадкаваннем (колькасць даданых сказаў у канструкцыях гэтага тыпу). 3. Фармальна-граматычная характарыстыка складаназалежных сказаў ускладненай будовы з сузалежным падпарадкаваннем: паняцце сузалежнага падпарадкавання; складаназалежныя сказы ўскладненай будовы з сузалежным аднародным падпарадкаваннем; складаназалежныя сказы ўскладненай будовы з сузалежным неаднародным падпарадкаваннем; складаназалежныя сказы ўскладненай будовы з сузалежным разнародным падпарадкаваннем. 4. Фармальна-граматычная характарыстыка складаназалежных сказаў ускладненай будовы са змешаным падпарадкаваннем: паняцце змешанага падпарадкавання; размеркаванне даданых сказаў па ступенях падпарадкавання ў канструкцыях са змешаным падпарадкаваннем прасцейшай будовы (адзін галоўны, тры даданыя сказы); колькасць даданых сказаў у складаназалежных сказах ускладненай будовы са змешаным падпарадкаваннем.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Выяўлены асаблівасці фармальна-граматычнай арганізацыі складаназалежных сказаў ускладненай будовы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове; прааналізаваны характар сувязі галоўнага і даданых сказаў пры паслядоўным, сузалежным, змешаным падпарадкаванні і ўдакладнена класіфікацыя складаназалежных сказаў ускладненай будовы з сузалежным падпарадкаваннем; змадэляваны структурныя схемы сказаў з паслядоўным, сузалежным аднародным і сузалежным неаднародным падпарадкаваннем і суаднесены распрацаваныя структурныя схемы з рэальнымі сінтаксічнымі структурамі; выяўлены прадуктыўныя і непрадуктыўныя структурныя схемы; вызначаны ўплыў лінгвістычных і экстралінгвістычных фактараў на магчымасці пашырэння тэарэтычна распрацаваных структурных схем шляхам далучэння даданых сказаў; даследаваны асаблівасці камбінавання структурных схем у межах сузалежнага разнароднага і змешанага падпарадкавання.

***Крыніца інфармацыі:*** Шэмет, Т.Я. Структурныя тыпы беларускіх складаназалежных сказаў ускладненай будовы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.Я. Шэмет; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2007. – 20 с.

## 305 ЮНАШ МАРЫНА УЛАДЗІМІРАЎНА

***Тэма:*** Саматычныя фразеалагізмы ў мастацкім маўленні: семантычны і функцыянальна-стылістычны аспекты (на матэрыяле беларускай драматургіі).

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.
***Навуковы кіраўнік:*** Красней В.П., к.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** БДУ, кафедра гісторыі беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.01.2006; Д 02.01.11, БДУ.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Садоўская А.Л., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Выяўленне асаблівасцей функцыянавання саматычных фразеалагізмаў у мове беларускай драматургіі.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 137 с., асноўны тэкст займае 106 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 158 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. З гісторыі даследавання саматычных фразеалагізмаў: саматычная фразеалогія і асноўныя напрамкі яе даследавання; даследаванне саматычных фразеалагізмаў беларускай мовы. 2. Семантычная характарыстыка саматычных фразеалагізмаў: саматычныя лексемы і іх фразеаўтваральная характарыстыка; семантыка-тэматычныя групы саматычных фразеалагізмаў; мнагазначнасць саматычных фразеалагізмаў; варыянтнасць саматычных фразеалагізмаў; сінанімія саматычных фразеалагізмаў; антанімія саматычных фразеалагізмаў. 3. Стылістычная характарыстыка саматычных фразеалагізмаў: стылістычныя функцыі ўзуальных саматычных фразеалагізмаў; тыпы і прыёмы пераўтварэння саматычных фразеалагізмаў.

У дысертацыі 1 дадатак (8 с.) – «Індэкс».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны склад саматычных лексем і іх фразеўтваральныя магчымасці; разгледжаны семантыка-тэматычныя групы і сістэмныя семантычныя з'явы саматычных фразеалагізмаў (мнагазначнасць, варыянтнасць, сінанімія, антанімія); раскрыты стылістычныя функцыі ўзуальных саматычных фразеалагізмаў у рэпліках персанажаў і аўтарскіх рэмарках; ахарактарызаваны тыпы і прыёмы пераўтварэння саматычных фразеалагізмаў; выяўлены асаблівасці выкарыстання тыпаў і прыёмаў пераўтварэння саматычных фразеалагізмаў рознымі беларускімі пісьменнікамі.

***Крыніца інфармацыі:*** Юнаш, М.У. Саматычныя фразеалагізмы ў мастацкім маўленні: семантычны і функцыянальна-стылістычны аспекты (на матэрыяле беларускай драматургіі): аўтарэф. дыс… канд. філал. навук: 10.02.01 / М.У. Юнаш; БДУ. – Мінск, 2005. – 21 с.

## 306 ЮРЧЕНКО ИРИНА АНАТОЛЬЕВНА

***Тема:*** Общее и национально-специфическое в адъективных устойчивых сравнениях славянских, балтийских, германских языков.

***Ученая степень, специальность:*** к.филол.н.: 10.02.20 – сравнительно-историческое, типологическое и сопоставительное языкознание.

***Научный руководитель:*** Зиньков А.Д., к.филол.н.

***Учреждение, в котором подготовлена диссертация:*** ВГУ, кафедра общего и русского языкознания.

***Дата защиты, совет по защите:*** 17.03.2009; К 02.14.04, ГрГУ.

***Оппоненты:*** Кожинова А.А., д.филол.н.; Бетеня Е.П., к.филол.н.; БГПУ.

***Цель:*** Выявление особенностей структуры, семантики и образности адъективных устойчивых сравнений в русском, белорусском, чешском, болгарском, хорватском, латышском, английском и шведском языках и установление универсального и национально-культурного в них.

***Объем и структура диссертации:*** Объем диссертации – 235 с., основной текст занимает 117 с. Список использованной литературы – 212 наименований.

Результаты исследования отражены в 4 главах. 1. Адъективные устойчивые сравнения как составная часть фразеологического фонда языков: проблема идентификации адъективных устойчивых сравнений; вариативность адъективных устойчивых сравнений и другие их характеристики. 2. Межъязыковые структурно-семантические соответствия адъективных устойчивых сравнений: модель семантической структуры адъективных устойчивых сравнений; грамматическая структура и морфологический состав компонентов; типы структурно-семантических соответствий адъективных устойчивых сравнений русского и других славянских, балтийских, германских языков. 3. Межъязыковые связи компаративной фразеологии: принципы объединения структурно-семантических соответствий адъективных устойчивых сравнений в ареалы; картографическая, лингвоквантитативная, фразеоквантитативная и лингвогенетическая классификация ареалов. 4. Образная основа адъективных устойчивых сравнений: универсальное и национальное во фразеологии; образность фразеологии; общее и национально-специфическое в образных основах устойчивых сравнений русского и других славянских, балтийских и германских языков.

В диссертации 4 приложения, оформленных отдельной книгой (98 с.): «Структурно-семантические соответствия адъективных устойчивых сравнений русского, белорусского, чешского, болгарского, хорватского, латышского, английского, шведского языков», «Тематические группы адъективных устойчивых сравнений русского, белорусского, чешского, болгарского, хорватского, латышского, английского, шведского языков», «Карты ареалов распространения структурно-семантических соответствий адъективных устойчивых сравнений русского, белорусского, чешского, болгарского, хорватского, латышского, английского, шведского языков», «Безэквивалентные адъективные устойчивые сравнения русского языка».

***Научное значение исследования:*** Выявлены особенности структуры, семантики и образности адъективных устойчивых сравнений в русском, белорусском, чешском, болгарском, хорватском, латышском, английском и шведском языках и установлены универсальное и национально-культурное в них; представлены особенности устойчивых сравнений исследуемых языков с точки зрения грамма-

тической структуры и структурно-семантической характеристики; установлены и проанализированы структурно-семантические соответствия адъективных устойчивых сравнений исследуемых языков; выявлены и описаны основные идеографические группы адъективных устойчивых сравнений исследуемых языков; выявлены общие и национально-специфические образные основы адъективных устойчивых сравнений исследуемых языков.

***Источник информации:*** Юрченко, И.А. Общее и национально-специфическое в адъективных устойчивых сравнениях славянских, балтийских, германских языков: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / И.А. Юрченко; ГрГУ. – Гродно. 2009. – 28 с.

## 307 ЮШКЕВІЧ ВОЛЬГА СЯРГЕЕЎНА

***Тэма:*** Суфіксоіды ў сістэме сродкаў беларускага словаўтварэння: статус і функцыянальная характарыстыка.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лукашанец А.А., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел беларуска-рускіх моўных і літаратурных сувязей.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 15.10.2010; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.; Бадзевіч З.І., к.філал.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Вызначыць статус марфем пераходнага тыпу і асаблівасці іх функцыянавання ў сістэме словаўтварэння, паказаць спецыфіку вытворных з суфіксоіднымі кампанентамі славянскага і іншамоўнага паходжання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 207 с., асноўны тэкст займае 114 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 146 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 2 раздзелах. 1. Афіксоіды як асобыя адзінкі словаўтварэння: гісторыя вывучэння афіксоідаў, дыферэнцыйныя прыметы афіксоідаў; тэрміналагічнае азначэнне марфем пераходнага тыпу; сутнасць і статус афіксоіднага спосабу словаўтварэння; колькасны склад афіксоідаў; класіфікацыя суфіксоідаў. 2. Тыпы суфіксоідных вытворных: вытворныя з суфіксоіднымі кампанентамі славянскага паходжання; вытворныя з суфіксоіднымі кампанентамі іншамоўнага паходжання.

У дысертацыі 4 дадаткі (78 с.): «Індэкс вытворных з кампанентамі славянскага і іншамоўнага паходжання», «Словы, з якімі суадносяцца кампаненты славянскага і іншамоўнага паходжання», «Ступень «афіксоіднасці» кампанентаў славянскага і іншамоўнага паходжання», «Кампаненты, якія не з'яўляюцца суфіксоідамі».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Вызначаны дыферэнцыйныя прыметы суфіксоідаў як спецыфічных адзінак словаўтварэння; устаноўлены корпус суфіксоідаў у сістэме словаўтваральных сродкаў сучаснай беларускай мовы; распрацаваны параметры класіфікацыі суфіксоідаў; праведзена сістэмная кла-

сіфікацыя вытворных з суфіксоіднымі кампанентамі славянскага і іншамоўнага паходжання ў сучаснай беларускай мове з улікам лексіка-семантычных, граматычных і словаўтваральных характарыстык; вызначаны асаблівасці функцыянавання суфіксоідаў у сучаснай беларускай мове.

***Крыніца інфармацыі:*** Юшкевіч, В.С. Суфіксоіды ў сістэме сродкаў беларускага словаўтварэння: статус і функцыянальная характарыстыка: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / В.С. Юшкевіч; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2010. – 21 с.

## 308 ЯКУБА СВЯТЛАНА МІХАЙЛАЎНА

***Тэма:*** Лінгваметадычныя асновы вывучэння словаўтварэння на ўроках беларускай мовы ў V – VI класах школ Беларусі.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.пед.н.: 13.00.02 – методыка выкладання беларускай мовы.

***Навуковы кіраўнік:*** Мурына Л.А., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** МДПІ, кафедра беларускага мовазнаўства.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 24.01.1992; К 113.16.04, МДПІ.

***Апаненты:*** Шакун Л.М., д.філал.н.; Вернікоўская А.У., к.пед.н; БрДПІ.

***Мэта:*** На аснове праведзенага аналізу лінгвістычнай літаратуры па праблеме словаўтварэння, метадычнай і псіхолага-педагагічнай літаратуры, а таксама дадзеных канстатуючага эксперыменту стварыць навукова абгрунтаваную методыку, якая забяспечыць засваенне вучнямі V – VI класаў тэарэтычных звестак па словаўтварэнні, фарміраванне ўменняў і навыкаў правільнага ўтварэння і напісання слоў, узбагачэнне слоўнікавага запасу школьнікаў, навучанне правільнаму выкарыстанню слоў той ці іншай марфемнай структуры ў вусным і пісьмовым маўленні.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 229 с., асноўны тэкст займае 210 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 181 найменне.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Тэорыя і практыка вывучэння словаўтварэння беларускай мовы ў V – VI класах сярэдніх школ: тэарэтычныя асновы вывучэння беларускага словаўтварэння ў школе; узровень практычнага валодання словаўтварэннем беларускай мовы вучнямі V – VI класаў. 2. Методыка вывучэння саставу слова і словаўтварэння ў V класе: задачы навучальнага эксперыменту ў V класе; роля асэнсавання словаўтваральных паняццяў ва ўзбагачэнні слоўніка вучняў. 3. Методыка вывучэння словаўтварэння ў VI класе: задачы навучальнага эксперыменту ў VI класе; вывучэнне словаўтваральных паняццяў на аснове мадэліравання; авалоданне вучнямі словаўтваральнымі тыпамі (мадэлямі) пры вывучэнні часцін мовы; фарміраванне ўменняў і навыкаў словаўтваральнага аналізу ў вучняў VI класа; праверка эфектыўнасці эксперыментальнай методыкі.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Распрацаваны лінгваметадычныя асновы авалодання словаўтваральнай сістэмай беларускай мовы вучнямі V – VI класаў; даказана, што ўсведамленне школьнікамі слова адбываецца праз асэнсаванне значэнняў марфем і залежыць ад ведаў і разумення асноўных законаў словаўтварэння; вызначаны прадуктыўныя словаўтваральныя тыпы слоў розных часцін мовы, вывучэнне якіх дазваляе школьнікам усвядоміць і засвоіць большую колькасць слоў, што садзейнічае ўзбагачэнню слоўнікавага запасу вучняў, развіццю іх маўлення; устаноўлена, што ад словаўтваральных уменняў і навыкаў залежаць уменні і навыкі вучняў на лексічным, марфалагічным і арфаграфічным узроўнях.

***Крыніца інфармацыі:*** Якуба, С.М. Лингвометодические основы изучения словообразования на уроках белорусского языка в V – VI классах школ Белорусии: автореф. дис. … канд. пед. наук / С.М. Якуба; МГПИ. – Минск, 1991. – 20 с.

## 309 ЯКУШАВА АЛЕНА МІКАЛАЕЎНА

***Тэма:*** Словаспалучальны патэнцыял мастацкага тэксту: лексіка-семантычны аспект.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лемцюгова В.П., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ІМЛ НАН Беларусі, аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 27.05.2011; Д 01.43.01, ІМЛ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Ляшчынская В.А., д.філал.н.; Гаўрош Н.В., к.філал.н.; МагДУ.

***Мэта:*** Вызначыць словаспалучальны патэнцыял мастацкага тэксту ў лексіка-семантычным аспекце на матэрыяле аповесцей Івана Шамякіна і Івана Пташнікава.

***Аб’ём і структура дысертацыі:*** Аб’ём дысертацыі – 144 с., асноўны тэкст займае 110 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 140 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 3 раздзелах. 1. Тэарэтычныя асновы спалучальнасці моўных адзінак у лексіка-семантычным аспекце: спалучальнасць слоў як аб’ект семантыкі мастацкага тэксту; мадэль лексіка-семантычнага поля спалучальнасці слоў; сутнасць тэрмінаў *дыстрыбуцыя* і *спалучальнасць*; узаемасувязь лексічнай спалучальнасці і семантыкі слова; тыпы спалучальнасці; структурная мадэль словаспалучэння. 2. Лексіка-семантычнае поле «Чалавек»: мікраполе «Найменні пачуццяў чалавека»; мікраполе «Найменні рыс характару»; мікраполе «Найменні частак цела чалавека». 3. Лексіка-семантычнае поле «Прырода»: мікраполе «Найменні флоры»; мікраполе «Найменні фаўны»; мікраполе «Найменні прыродных з’яў»; мікраполе «Тэмпаральныя найменні».

У дысертацыі 1 дадатак (21 с.) – «Атрыбутыўныя словаспалучэнні ў мастацкіх аповесцях І. Шамякіна і І. Пташнікава».

***Навуковае значэнне даследавання:*** Праведзены комплексны аналіз атрыбутыўнай спалучальнасці ў мове твораў І. Шамякіна і І. Пташнікава ў лексіка-

семантычным аспекце; паказаны характар узаемаадносін паміж лексічнай спалучальнасцю і семантыкай слова ў кантэксце мастацкага твора; вывучаны лінгвістычныя і экстралінгвістычныя фактары, якія ўплываюць на працэс фарміравання словаспалучэнняў; выяўлены асноўныя тыпы спалучальнасці слоў; ахарактарызаваны індывідуальна-аўтарскія асаблівасці атрыбутыўных словаспалучэнняў у мове мастацкіх аповесцей І. Шамякіна і І. Пташнікава.

***Крыніца інфармацыі:*** Якушава, А.М. Словаспалучальны патэнцыял мастацкага тэксту: лексіка-семантычны аспект: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Якушава; ІМЛ НАН Беларусі. – Мінск, 2011. – 23 с.

## 310 ЯКШУК ЛЮДМІЛА МЕЧЫСЛАВАЎНА

***Тэма:*** Назоўнікавыя фразеалагізмы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** к.філал.н.: 10.02.01 – беларуская мова.

***Навуковы кіраўнік:*** Лепешаў І.Я., д.філал.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** ГрДУ, кафедра беларускай мовы.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 10.11.2006; Д 01.43.01, ІМ НАН Беларусі.

***Апаненты:*** Коваль У.І., д.філал.н.; Берднік С.К., к.філал.н.; БрДУ.

***Мэта:*** Сістэмны аналіз назоўнікавых фразеалагізмаў паводле іх семантычных, этымалагічных, марфалагічных і сінтаксічных уласцівасцей.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 133 с., асноўны тэкст займае 109 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 173 найменні.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 4 раздзелах. 1. Семантычная характарыстыка назоўнікавых фразеалагізмаў: фразеалагічнае значэнне і яго кампаненты; мнагазначнасць назоўнікавых фразеалагізмаў; варыянтнасць назоўнікавых фразеалагізмаў; сінанімічнасць назоўнікавых фразеалагізмаў; антанімічнасць назоўнікавых фразеалагізмаў; фразеалагічна-семантычныя групы назоўнікавых фразеалагізмаў. 2. Марфалагічная характарыстыка назоўнікавых фразеалагізмаў: катэгорыя роду назоўнікавых фразеалагізмаў; катэгорыя ліку назоўнікавых фразеалагізмаў; катэгорыя склону назоўнікавых фразеалагізмаў. 3. Сінтаксічная характарыстыка назоўнікавых фразеалагізмаў: структура назоўнікавых фразеалагізмаў; спалучальнасць фразеалагізмаў са словамі кантэксту; сінтаксічная роля назоўнікавых фразеалагізмаў. 4. Этымалагічная характарыстыка назоўнікавых фразеалагізмаў: спосабы ўтварэння назоўнікавых фразеалагізмаў; класіфікацыя назоўнікавых фразеалагізмаў паводле паходжання.

***Навуковае значэнне даследавання:*** Комплексна даследаваны назоўнікавыя фразеалагізмы ў семантычным, марфалагічным, сінтаксічным і этымалагічным плане; прааналізаваны састаўныя часткі семантычнай парадыгмы назоўнікавых фразеалагізмаў; вылучаны фразеалагічна-семантычныя групы назоўнікавых выразаў, абгрунтаваны падставы іх вылучэння; разгледжана спецыфіка марфа-

лагічных катэгорый назоўнікавых фразеалагізмаў; выдзелены і даследаваны тып сінтаксічна абумоўленага значэння фразеалагізмаў; выяўлены недакладнасці ў падачы назоўнікавых фразеалагізмаў у слоўніках, пададзены этымалогіі 26 выразаў, не этымалагізаваных да гэтага ў беларускай даведачнай літаратуры.

***Крыніца інфармацыі:*** Якшук, Л.М. Назоўнікавыя фразеалагізмы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.М. Якшук; ІМ НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – 22 с.

## 311 ЯЛЕНСКІ МІКАЛАЙ ГЕОРГІЕВІЧ

***Тэма:*** Лінгваметадычная парадыгма асобасна арыентаванага навучання беларускай мове ў пачатковых класах агульнаадукацыйнай школы.

***Вучоная ступень, спецыяльнасць:*** д.пед.н.: 13.00.02 – тэорыя і методыка навучання і выхавання (беларуская мова).

***Навуковы кансультант:*** Протчанка В.У., д.пед.н.

***Установа, у якой падрыхтавана дысертацыя:*** НІА, лабараторыя тэорыі і методыкі навучання ў пачатковых класах.

***Дата абароны, савет па абароне:*** 15.10.2003; Д 02.01.21, БДУ.

***Апаненты:*** Канюшкевіч М.І., д.філал.н.; Нікалаенка Г.І., д.пед.н; Казімірская І.І., д.пед.н.; БДПУ.

***Мэта:*** Распрацоўка лінгваметадычнай парадыгмы асобасна арыентаванага навучання беларускай мове ў пачатковых класах школ з рускай мовай выкладання.

***Аб'ём і структура дысертацыі:*** Аб'ём дысертацыі – 605 с., асноўны тэкст займае 198 с. Спіс выкарыстанай літаратуры – 246 найменняў.

Вынікі даследавання адлюстраваны ў 5 раздзелах. 1. Метадалагічныя асновы асобасна арыентаванага навучання беларускай мове малодшых школьнікаў. 1.1. Сучасныя адукацыйныя парадыгмы: сутнасныя характарыстыкі. 1.2. Канцэпт *моўнае ядро асобы вучня*: структура і змест. 1.3. Заканамернасці засваення малодшымі школьнікамі беларускай мовы як другой. 1.4. Асобасна арыентаванае навучанне беларускай мове з пазіцыі педагагічнай антрапалогіі. 2. Навуковае асэнсаванне асобаснага падыходу ў працэсе станаўлення і развіцця моўнай адукацыі на Беларусі, рускай і замежнай лінгваметодыкі. 2.1. Рэтраспектыўны аналіз навучання беларускай мове ў кантэксце даследавання. 2.2. Асобасна арыентаваны падыход у методыцы рускай мовы і замежнай лінгвадыдактыцы. 3. Лінгваметадычная мадэль асобасна арыентаванага навучання беларускай мове ў пачатковых класах школ з рускай мовай выкладання. 3.1. Мова – сродак навучання, выхавання і развіцця асобы вучня. 3.2. Мэта і асобасна арыентаваны змест навучання беларускай мове. 3.3. Прынцыпы асобасна арыентаванага навучання мове ў пачатковай школе. 3.4. Арганізацыя вучэбнай дзейнасці малодшых школьнікаў. 3.5. Інтэграваны курс беларускай мовы і чытання для пачатковых

